


# БЕЛАРУСКІ РЭЗЫСТАНС

ЧАСОПІС НАЙНОЎШАЙ ГІСТОРЫІ

**№ 1(16)/2015**

Заснаваны ў 2004 г.
у Менску.

**Галоўны рэдактар:**
Сяргей Ёрш.
**Намесьнік галоўнага рэдактара:**
Андрэй Барткевіч.




ЗЬМЕСТ

*Сяргей ЁРШ*

# ПРА СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЦА МІХАСЯ КЛЮЧАНОВІЧА

У часы незалежнай Беларусі былі вернутыя зь нябыту сотні імёнаў беларускіх патрыётаў, аднак яшчэ больш чакаюць сваёй чаргі. Сярод іх ёсьць асобы неардынарныя, таленавітыя, актыўныя ў грамадзкай і палітычнай дзейнасьці. На Піншчыне прыкметны сьлед у 1920-я — пачатку 1930-х гадоў пакінуў Міхась Ключановіч. Былы слуцкі паўстанец, паэт, публіцыст, філосаф. Чалавек з трагічным лёсам. Нядаўна ўдалося зьдзейсьніць шэраг публікацый пра гэтага беларускага дзеяча.[1] У гэтым нумары "БР" зьмяшчаем найбольш поўны тэкст, у якім сабраныя ўсе зьвесткі, вядомыя на сёньняшні дзень пра Міхася Ключановіча.



***Міхась Ключановіч. Фота — "Брама"***

На асобу гэтага беларускага дзеяча зьвярнуў увагу, чытаючы артыкулы-успаміны Сяргея Сіняка (Хмары) ў таронцкім "Беларускім голасе". Апісваючы сваю дзейнасьць у Пінску ў канцы 1920-х, ён неаднаразова згадвае Ключановіча. У прыватнасьці, у адным з варыянтаў сваёй біяграфіі Сяргей Хмара піша, як у 1929 годзе стаў кіраўніком павятовага сакратарыяту пасольскага клюба "Змаганьне" ў Пінску ды разьвіў на Палесьсі актыўную арганізацыйную дзейнасьць:

*"Падгатаваў разам з Ключановічам настаўніцкія кадры й будынак пад беларускую гімназію ў Пінску, але ўлады ліцэнзіі не далі. Таксама не далі дазволу на беларускі часопіс, які меў выходзіць афіцыяльна пад рэдакцыяй Ключановіча, а яго самога потым выдалі[лі] з Польшчы як уцекача-случчака ў Гданьск".[2]*

Памятаючы, што С. Хмара называў Ключановіча слуцкім паўстанцам, зьвярнуўся да вядомага зборніка дакумэнтаў,

прысьвечанага падзеям на Случчыне ў 1920-м.[3] Аднак там пра Ключановіча няма нават згадкі. Пашанцавала сустрэць яго кароткую біяграму ў кнізе гісторыка Ніны Стужынскай.[4] Там чытаем: "**Ключановіч Міхась**, шараговы Брыгады. Паходзіў з м. Старобін. Вучыўся ў вайсковай школе Лодзі".[5] Побач зь ім згадваецца яшчэ адзін шараговы Брыгады: "Ключановіч Трыфан".[6]

Верагодна, Ключановіч быў у ліку тых 40 юнакоў, якіх у канцы 1920-га году з Слуцкай брыгады прывёз у Беларускую вайсковую камісію ў Лодзь ротмістр Міраповіч. Усе яны мелі скончаную Слуцкую беларускую гімназію. Іх запісалі ў школу падхарунжых у Лодзі.[7]

Стужынская дапускае, што гэтыя хлопцы атрымалі "баявое хрышчэнне" ў баях супраць бальшавікоў.[8] Вядома, што са Старобіна, акрамя Міхася, у школе былі яшчэ Юліян Жаўрыд (пляменнік дзеяча БНР Паўла Жаўрыда) і Іван Карафа-Корбут.

У пачатку 1921 года Міхась Ключановіч з групай іншых маладых беларусаў, паехаў вучыцца далей, у вайсковую афіцэрскую школу ў Быдгашчы. Аднак у траўні адтуль сышоў. Некаторыя з хлопцаў нелегальна вярталіся ў родныя месцы, на савецкі бок мяжы, некаторыя заставаліся ў Польшчы.[9] У ліку апошніх і быў Міхась Ключановіч.

Ён пераехаў бліжэй да мяжы і сваёй роднай Старобіншчыны — у Пінск. Аднак перад гэтым жыў на Лунінеччыне.

***

Яшчэ ў 2004-м годзе дасьледчык Аляксандар Ільін апублікаваў артыкул пра пінскі рускі літаратурна-мастацкі гурток "Шалаш паэтаў".[10] Як высьвятляецца, у яго ўваходзіў згаданы намі Міхась Ключановіч. Ільін называе яго "самай загадкавай асобай" з ліку сябраў гуртка (паэтаў, мастакоў, журналістаў, музыкаў). Падае ён і яго біяграму, складзеную польскай паліцыяй.

З гэтага дакумэнта вынікае, што Міхал Ключановіч, сын Васіля і Вольгі, нарадзіўся 20 лістапада 1901 году ў Старобіне. Праваслаўны, беларус, "замежнік з нявысьветленым грамадзянствам". На пачатак 1930-х ён быў нежанаты. "У 1920 годзе служыў у антыбальшавіцкіх беларускіх аддзелах, а пасьля заканчэньня польска-савецкай вайны пасяліўся ў Пузічах у Лунінецкім павеце. У 1922 годзе як падазраваны ў антыдзяржаўнай дзейнасьці быў выселены з Лунінецкага павету і пасяліўся ў Пінску...", — гаворыцца ў даведцы паліцыі.[11] А. Ільін мяркуе, што М. Ключановіч "служыў шараговым у арміі генэрала Станіслава Булак-Балаховіча". Аднак,

як мы ўжо ведаем, гэта не адпавядае сапраўднасьці — Ключановіч быў слуцкім паўстанцам, а пасьля апынуўся ў польскай вайсковай школе. Што да знаходжаньня пад Лунінцом ды наступнай высылкі адтуль, Ільін слушна выказвае гіпотэзу, што М. Ключановіч мог мець дачыненьне да беларускай паўстанцкай арганізацыі "Зялёны Дуб", якая там мела свой штаб.

У Пінску Міхал Ключановіч спачатку працаваў касірам, біліцёрам у кінатэатры "Казіно". Аднак ужо праз некалькі месяцаў ён стварыў грамадзкую рускую бібліятэку, а пры ёй — кнігарню. Польская паліцыя называла яго "рэлігійным фанатыкам са спецыфічнай верай". Нібыта, Ключановіч быў перакананы, што "закліканы да выкананьня "вялікага месіянства" падзеньня бальшавіцкага ладу ў Расеі з дапамогай сусьветнага саюза братоў-хрысьціян". У 1925-1929 гадах Міхал Ключановіч актыўна супрацоўнічаў з беларускім нацыянальным рухам. А. Ільін піша, што ў той час Ключановіч быў "духоўным лідарам мясцовага беларускага руху". Спачатку ён удзельнічаў у арганізацыі суполак Беларускай сялянска-работніцкай грамады, пінскай філіі Беларускага каапэратыўнага банка, а пасьля дапамагаў С. Сіняку ў працы філіі "Змаганьня". Польская паліцыя сьведчыла, што ў 1928-1929 гг. Ключановіч сумяшчаў працу ў рускім і беларускім рухах, а пасьля ліквідацыі "Змаганьня" "цалкам разарваў дачыненьні з беларускім рухам і пачаў русіфікатарскую дзейнасьць". Ужо ў 1930-м падчас выбараў у пінскі гарадскі савет ён актыўна агітаваў на карысьць сьпісу *"Русские люди"*.[12]

У сваю чаргу Сіняк (Хмара) ўспамінаў, што з удзелам Ключановіча спрабаваў стварыць беларускую газэту ў Пінску. І Міхась Ключановіч "ахвяруе на гэта ўвесь свой заробак з уласнай публічнай польска-расейска-беларускай бібліятэкі". Але гэты праект не ўдалося рэалізаваць.[13]

"Увогуле існуе мноства прыкладаў дзіўных сувязяў рускіх манархістаў і дзеячоў беларускага руху ў 2-й Рэчы Паспалітай. А гэта патрабуе дадатковых дасьледаваньняў і асэнсаваньня", — піша Аляксандар Ільін. Галоўны прыклад — супрацоўніцтва "Зялёнага Дуба" і манархічнага "Брацтва Рускай Праўды". Тут былі і фінансавыя, і "больш глыбокія прычыны".[14] Ад сябе дадамо: выхаваньне большасьці беларускіх дзеячоў у рускіх навучальных установах, іх знаходжаньне пад уплывам рускай культуры (нямала дзеячоў працягвалі гаварыць па-руску), у Першую сусьветную вайну яны ваявалі ў складзе рускай арміі. Да таго ж слабасьць, недастатковая распрацаванасьць ідэалягічных падставаў бела-

рускага руху і г. д.

Выпадак Міхала Ключановіча быў асаблівы. Ён сапраўды станавіўся праваслаўным “рэлігійным фанатыкам”. Аднадумцаў ён знаходзіў сярод дзеячоў рускага нацыянальнага руху на Палесьсі. Той жа беларускі дзеяч Сяргей Сіняк (Хмара) быў далёкі ад ідэяў Ключановіча (а вось з мастаком і філосафам Язэпам Драздовічам яны знайшлі агульную мову). Бібліятэка ў Пінску становіцца “цэнтрам для актывістаў-рускіх”. У верасьні 1930-га М. Ключановіч з маладых рускіх манархістаў спрабаваў стварыць “Духоўнае хрысьціянскае брацтва”, але польскія ўлады не легалізавалі арганізацыю. Ён удзельнічаў у выданьні рускіх газэт у Пінску: *“Под небом Полесья”* (у 1931-1932 гг.)[15], *“Пинский голос”* (друкаваўся ў іх), прадастаўляў памяшканьне бібліятэкі пад рэдакцыю. Паводле зьвестак польскай паліцыі, “перад усеагульным перапісам насельніцтва вёў агітацыю сярод мясцовага насельніцтва за дэкляраваньне рускай мовы як роднай”.[16]

***



Нягледзячы на гэты нечаканы паварот у яго біяграфіі, пра Міхася Ключановіча памяталі знаёмыя з ліку беларускіх дзеячоў, якія па вайне апынуліся на Захадзе (і не адзін толькі Сяргей Сіняк). У адным з выданьняў пра рэпрэсаваных беларусаў чытаем:

*“Ключаноўскі Міхал — паэта, публіцысты, зб[орнік] “Золак Хрыстоў”; 1939 — арыштаваны, высланы ў Казахстан, сьлед гіне”.[17]*

Няхай не зьдзіўляе пададзены варыянт прозьвішча — недакладнасьцяў і памылак у кніжцы хапала. Высьвятляецца, што Ключановіч быў ня толькі публіцыстам, але і паэтам ды меў выдадзены зборнік вершаў! Пра гэтую кнігу згадвае пісьменьнік і публіцыст Юрка Віцьбіч:

*“Пінск здаўна зьяўляецца сталіцай беларускага Палесься, на*

*якое таксама здаўна і дагэтуль прэтэндуюць тры народы — Палякі, Расейцы і Ўкраінцы. Аднак на свае дамаганьні яны заўсёды атрымлівалі адпаведны адказ ад беларускага Пінска. Спробы Палякоў давесьці, што — “палешуцы — шчэп польскі” (паляшукі — польскае галінаваньне), скончыліся масавым уваходам паляшукоў у Беларускую Грамаду... Расейцы паспрабавалі выкарыстаць свой улюблены палітычны козыр — веравызнавальны, але* ***рэхам гэтага зьявіўся напісаны і выдадзены пінчуком Міхасём Ключановічам зборнік беларускіх праваслаўных паэзіяў “Золак Хрыстоў”.****[18]*




Толькі нядаўна ўдалося высьветліць, што насамрэч кніга вершаў Ключановіча мела назву “**Хрыстовы Золак**”. Яна выйшла ў 1927 годзе ў Вільні ў друкарні імя Ф. Скарыны (на вокладцы чамусьці пазначаны 1923 год). Аўтар схаваўся пад псэўданімам “**Міхаіл**”. Асобнік гэтага рэдкага выданьня захаваўся ў зборах Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Вясной 1924 году Ключановіч даслаў першы варыянт рукапісу свайго зборніка “Хрыстовы Золак” у віленскую беларускую газэту “Kryniсa”. Тры вершы з’явіліся на яе старонках, а 8 лістапада 1924-га рэдакцыя паведаміла: “Памагчы выдаць “Хр. Золак” “Крыніца” ня зможа”.

Тады Міхась Ключановіч сабраў грошы і надрукаваў кнігу праз тры гады, без належнай рэдактуры, без адбору лепшых твораў сярод шматлікіх слабых. Рэлігійныя пошукі, перажываньні, філасофскія разважаньні выліваліся ў недасканалыя, але шчырыя вершы. Газэта “Беларуская крыніца” (21 кастрычніка 1927 г.), згадваючы пра выхад кнігі, дыпляматычна адзначыла, што “сэнс гэтых вершаў даволі нявыразны”.

На 64-х старонках кнігі “Хрыстовы Золак” змешчаныя пераваж-



**Wyjšaŭ z druku** zbornik wieršaŭ Michaiła pad nazowam „Chrystowy zołak". Niedachwat času i miesca nie pazwalaje nam na padrabiazny razhlad wartaści zbornika. Možam tolki koratka zaciemić, što sens hetych wieršaŭ dawoli niawyrazny.

на беларускамоўныя творы, але ёсьць і больш за дзясятак рускамоўных вершаў — пераважна любоўнай лірыкі. Відаць, гэта быў яшчэ адзін фактар (а не толькі слабы ўзровень вершаў), чаму кнігу "Міхаіла" праігнаравала тагачасная беларуская літаратурная крытыка.

Дарэчы, па вершах Ключановіча можна часткова прасачыць яго жыцьцёвы шлях: пад кожным зь іх ёсць дата і месца напісаньня. Высьвятляецца, што паэзіяй ён захапіўся яшчэ ў 1919 годзе, калі жыў у Старобіне. Пісаў вершы ў афіцэрскай школе ў Быдгашчы, у складзе аддзела "Зялёнага Дуба" на Лунінеччыне, але найбольш — у Пінску. Адзін з твораў прысьвечаны слуцкаму паўстанцу Юліяну Жаўрыду, які памёр у чэрвені 1924-га. Іншым вершам ён праважае земляка Яўхіма Грынька, які летам 1923 году ідзе ў савецкую Беларусь ваяваць супраць бальшавікоў. Сам "Міхаіл" часта падкрэсьлівае, што ён праціўнік вайны, што шукае іншыя шляхі для перамогі праўды і справядлівасьці.

Кніга гэтая не была адзіным выданьнем твораў Міхася Ключановіча. Паводле дадзеных польскай паліцыі, ў 1920-я гады ім былі



U CHUTARY.

Cichaja nočka spuściłaś, —
Zorki na niebie mihciać;
Z nieba adna pakaciłaś,
Druhija čaroŭna harać.

Świecić i miesiac rahaty —
Cieni ad drewaŭ widać,
Wid tak pryhožy, bahaty:
Cichija cieni lažać.

Klučanowič.

N C A Nr 14

WIASNA.

Zima razlaciełaś, bo sonca pryhreła;
Pryroda paŭstała, žyćciom zakipieła.
Piajuć ptuški pieśni, wiasielać usio; —
A šparkaja zieleń tut robić swajo:
Pakryła ziamlu, na drewach zasieła,
Wiasnowymi kraskami ŭsiudy paśpieła.
Dyk sonca piače, paśla doždzyk prachodzić
I čystaja zieleń wiasnoj pachnie—hodzić.

WOSIEŃ.

Tut zieleń žaŭcieje, ziamlu pakrywaje,
Tam z nieba daždžowaja chmara źwisaje.
Imhlić drobny doždžyk u hetaj pare,
Dyj robicca mokra užo na dware.
Woś soniejka świecić daloka ad nas, —
My hrejemsia žadna apošni ŭžo raz.
I wyje miacielica, śnieham zanosić,
Ziamlu ŭ biel prybiraje, zimu da nas prosić.

K—č

KRYNICA.

Krynica z ziamli wyciakaje,
Pa kapli sačycca,
Raŭčuk swoj u rečku ŭliwaje,
Kab z moram złučycca.
Oś hetak ja wieru swaju
Ad Boha pryjmaŭ...
Z Chrystowaj lubowiaj źliju,
Jak Boh zahadaŭ.
U raŭčuku wada ciače,
Pakul jaje tam prybywaje;
A lud ščaśliwa ŭwieś žywie,
Pakul-až praŭdy ŭ im chapaje.

KRYNICA

SUSIEDU.

Susiedzie, ty dužy, ty bješsia z bratami,
J mianie prymušaješ na bojku krywawu.
Susiedzie, choć moža j pajdu ja, časami,
Z taboju, ale wajawać — dyk za sprawu
Čužuju, čužuju istocie majej
Nia budu, nia budu nikoli z taboju:
Lublu, jak ciabie, ja ŭsich roŭna ludziej —
Dyk bić ich nia budzieš majeju rukoju.

K—č.

Беларуская Зарні

Якубу Коласу

То ня сонца ўзыходзіць вясною
Страхануці прыроду ад сну,
То ня сонца і летняй парою
Асьвяціла ўсю Старану,—
Гэта сын засіяў мне сабою,
Распаліў мне сэрца жыцьцём,
Гэта сын запяяў мне душою,
Абдарыў Маці ўсю пачуцьцём.

Ключанов

Klučanowiču ŭ Pinsku: 200,000 mk. atrymali. Dziakujem. „Krynicu" pasyłajem.

***Некалькі вершаў Міхась Ключановіч апублікаваў у віленскіх беларускіх газэтах "Крыніца" і "Беларуская зарніца".***

выдадзеныя “некалькі брашураў на рускай і беларускай мовах туманнага зьместу”, у іх ён разглядаў рэлігійна-маральныя, грамадзкія тэмы. Адна зь іх мела назву“*По скользкой дорожке*” (Пінск, 1928), у ёй былі адлюстраваныя духоўныя пошукі праваслаўнай інтэлігенцыі, зьмешчаная паэма “Сон”.[19]

***

Паводле згаданай “Кнігі ахвяраў бальшавізму”, Міхась Ключановіч (“Ключаноўскі”) быў арыштаваны ў 1939 годзе і высланы ў Казахстан. Гэта такая ж недакладнасьць, як і сьцьверджаньне С. Сіняка (Хмары) пра высылку Ключановіча польскімі ўладамі ў Данцыг. Насамрэч, яго выслалі ў... СССР.

Аляксандар Ільін выявіў і апублікаваў дакумэнт пра выезд Міхася Ключановіча ў СССР. Рашэнне пра высяленьне з Польшчы 4 сакавіка 1933 году прыняло пінскае староства. Выканаць яго Ключановіч мусіў неадкладна, і 6 сакавіка ён ужо перасёк польска-савецкую мяжу. А да таго на Міхася Ключановіча, як на асобу без грамадзянства, наклалі грашовы штраф. Ён пратэставаў, пісаў скаргі Язэпу Пілсудзкаму, міністру ўнутраных спраў і нават дэлегату Лігі Нацый. Верагодна, яго і сапраўды збіраліся выслаць у Данцыг, аднак Міхась Ключановіч запатрабаваў, каб яго адправілі ў СССР. Сваю бібліятэку ён прадаў пінскаму рускаму дзеячу Васілю Каратышэўскаму. Дарэчы, няма зьвестак, каб дзеячы рускага нацыянальнага руху абаранялі Ключановіча. Магчыма, яны і самі адчувалі сябе няпэўна, бо ў 1935-м той жа Каратышэўскі вымушаны быў выехаць з Пінска.[20]

***

Пра далейшы лёс Міхася Ключановіча Аляксандар Ільін напісаў коратка: “загінуў у сталінскіх лягерах”.[21] Нам удалося выявіць шэраг фактаў пра яго знаходжаньне ў СССР. Напрыклад, у аўтабіяграфічным творы беларускага пісьменьніка-эмігранта Уладзімера Сядуры “Тэстамэнт” адзін з галоўных герояў — **Васіль Ключановіч** з Пінска і ўвосень 1933 году ён сядзеў у менскай гарадзкой турме!

“*Васілю Ключановічу, нядаўняму перабежчыку з Заходняй Беларусі, адкуль ён уцёк дзеля перасьледу палякаў за беларускую культурна-асьветную працу сваёй бібліятэкі ў Пінску, чалавеку з асаблівай замілаванасьцяй да кніжак, прыходзілася асабліва цяжка,* — піша Ул. Сядура. — *Удзень яго ганялі, як і ўсіх, на працу*

*— рабіў у кравецкай майстэрні. Натрудзіўшы рукі за цэлы дзень страчэньня рукавоў якойсьці рабочай вопраткі, ён бадай што напалову жывым вяртаўся ў камэру пад вечар. Не прымаючы ўдзелу ў пустых гаворках, ён адразу прымаўся стоячы чытаць".*[22]

Далей Сядура дадае новых дэталяў: "*...Ключановічавы размовы аб польскім тэроры ў Пінску, дзе слова беларускага не кажы — адразу жандары па першаму паказу скрозь раскіданых шпікоў хапаюць і кідаюць у кутузку. Ключановічу, як стваральніку беларуска-рускае бібліятэкі, пагражаў арышт і вязьніца. Прыйшлося яму ўцякаць у Савецкую Беларусь. Спадзяваўся, што там будзе воля й прастора для беларускае культурна-асьветніцкай дзейнасьці. Але як толькі ступіў на мяжу запаветнай зямлі, адразу ДПУ запраторыла яго ў свае сутарэньні, прышывала нечуванае злачынства — шпіёнскую ролю на карысьць Польшчы, ягонага найзьлейшага ворага, — а затым дала пяць гадоў ссылкі ў далёкую Сярэднюю Азію. Так заместа бацькаўшчыны мусіць небарака трапіць на чужыну, аб якой ні думаў ні сьніў".*[23]

Дадзеныя "Васіля Ключановіча" супадаюць з дадзенымі Міхася Ключановіча. Да таго ж, Сядура ўдакладняе, што Ключановіч быў высланы ў Казахстан, што быў ён вельмі рэлігійны чалавек.

Як бачым, Сядура прадстаўляе Ключановіча як стваральніка "беларуска-рускае бібліятэкі", прыхільніка "беларускае культурна-асьветніцкай дзейнасьці". Дык можа ён не разрываў сувязі з беларускім рухам, насуперак сьцьверджаньню рапарта польскай паліцыі? Магчыма, разрыў датычыў толькі палітычнай дзейнасьці, бо Міхась Ключановіч працягваў выпісваць беларускія газэты і ў 1930-я гады. У пачатку 1932-га ён ахвяраваў Беларускаму музэю імя І. Луцкевіча ў Вільні 18 манет, за што яму праз друк выказвалася падзяка.[24]

У 1931-м Ключановіч паўдзельнічаў у дыскусіі ў часопісе "Шлях моладзі" наконт таго, якім правапісам яго выдаваць — "гражданкай" ці лацінкай. Ён пісаў: "Шлях моладзі" друкуйце тымі літэрамі, якімі напісаны арыгінал. Гэта будзе прыемна і аўтару і чытачу, дзеля каторага пісаў аўтар. Гражданка мае большае права на карыстаньне, чым лацінка. Калі хто захоча вясьці якую небудзь прапаганду паміж беларусаў, дык заўсёды альбо пераважна будзе карыстацца гражданкай. Лацінка і надалей будзе служыць для каталікоў. Культура чалавека, а гэтак сама і народу залежыць не ад гражданкі ці лацінкі, але ад духу таго, што друкуецца".[25]

Дасьледчык Арсень Ліс згадвае "**Ключановіча з-пад Бара-**

**навіч**” у ліку заходнебеларускіх пісьменьнікаў-пачаткоўцаў, якія ўцяклі ў БССР і спаткалі там трагічны лёс.[26] А ў матэрыялах Віленскага беларускага фонда (у рукапісным фондзе № 21 Бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук) ёсьць чатыры справы “М. В. Ключановіча” — аповесьць “Паляшучка”, “іншыя творы, лісты”.[27] Матэрыялы гэтыя адносяцца да 1930-1932 гадоў, калі ён яшчэ жыў у Заходняй Беларусі. Верагодна, дасылаў іх для друку ў нейкае віленскае беларускае выданьне. Пакінем гэтыя творы будучым дасьледчыкам-літаратуразнаўцам.

***

Высьвятляецца, што сьляды заходнебеларускага дзеяча і паэта захаваліся ва ўспамінах вязьняў ГУЛАГу. У лісьце да жонкі з Нарыльска нехта **Мікалай Супруненка** 19 сьнежня **1946 году** згадваў свайго знаёмага “польскага эмігранта” паэта Ключановіча. У той час той таксама адбываў зьняволеньне ў Нарыльску. Са слоў Ключановіча, Супруненка піша, што на допытах “*следователь выдергивал* [паэту] *пышную бороду по одному волоску*”.[28]

Дзякуючы гэтай кароткай інфармацыі М. Супруненкі, у базе рэпрэсаваных зьявілася і кароткая нататка пра Ключановіча:

**КЛЮЧАНОВІЧ**. Паэт, польскі эмігрант. Арыштаваны. Падчас допытаў сьледчы па валаску выдзёргваў яму бараду. Тэрмін адбываў у Нарыльску.

[Крыніцы]: *О времени, о Норильске, о себе..., кн. 2, М. 2002, с. 156, (б).*

*Супруненко Н., Где будет мое место в об-ве? Есть ли оно?, Заполярная правда, 29.03.1990.[29]*

Такім чынам, апошняя згадка пра Міхася Ключановіча адносіцца да 1946 году. Ці выжыў ён у савецкіх канцлягерах, пакуль невядома. Спробы адшукаць сваякоў паэта сярод Ключановічаў, якія цяпер жывуць у Старобіне, не далі выніку.

Варта таксама згадаць, што ў базе рэпрэсаваных ёсць згадкі пра некалькіх Ключановічаў, якія могуць быць сваякамі герою нашага дасьледаваньня. 1 красавіка 1946 году былі асуджаныя двое жыхароў Старобіна, “*члены семьи изменника Родины*” **Уладзімір Віктаравіч Ключановіч**, 1935 г. н. (11-гадовы!) і **Соф’я Віктараўна Ключановіч**, 1931 г. н. Яны атрымалі па 5 гадоў высылкі ў Краснаярскі край Расеі. Ключановічаў у 1996-м рэабілітавала пракуратура Мінскай вобласьці.[30]

Ёсьць у базе і нехта **Нікіфар Хведаравіч Ключаноўскі (Ключановіч)**, 1891 г. н., беларус, ураджэнец Старобіна, які жыў на хутары Мазуршчына ў Старобінскім раёне. Яго арыштавалі савецкія карныя ворганы ў верасьні 1937-га. За “антысавецкую агітацыю” і “шкодніцтва” камісія НКВД СССР і пракурора СССР асудзіла яго на расстрэл, які быў выкананы 22 студзеня 1938 году. Месцам пахаваньня пазначаны Слуцк. У 1963-м Нікіфара Ключаноўскага (Ключановіча) рэабілітавала судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага суда БССР.[31]

[1] Ёрш С. “Дзе я цяпер увесь душой” // Літаратура і мастацтва, 2014, № 46 (4795), 21 лістапада, б. 14; Ёрш С. Міхась Ключановіч — слуцкі паўстанец, філосаф і паэт // Czasopis (Беласток), 2015, № 1, студзень, б. 34-37.
[2] Хмара С. Кароткія даныя аб сабе //Запісы, 1999, № 24; http://kamunikat.fontel.net/www/czasopisy/binim/24/24_chmara.htm
[3] Слуцкі збройны чын 1920 г. у дакумэнтах і ўспамінах. — Мінск, 2006.
[4] Стужынская Н. Беларусь мяцежная. З гісторыі антысавецкага ўзброенага супраціву. 20-ыя гады XX стагоддзя. — Вільня, 2000.
[5] Тамсама, б. 149.
[6] Тамсама.
[7] Беларусь мяцежная, б. 40-41.
[8] Стужынская Н. Случчакі // ЛіМ, 1993, 29 студзеня.
[9] Беларусь мяцежная, б. 44
[10] Ильин А. “Шалаш поэтов” // Брама, 2004, № 1(22); http://brama.brestregion.com/nomer22/artic21.shtml
[11] Тамсама.
[12] Тамсама.
[13] С. П. [Сяргей Хмара] Піншчына // Беларускі голас (Вільня), 1943, № 8, 26 лютага.
[14] Сушко В. Як атаманы Дзяргач і Хмара прадавалі латышам квітанцыю за 500 долараў // Беларускі Рэзыстанс, 2013, № 1(14), б. 172-174.
[15] Urzędowy wykaz czasopism wydawanych w Rzeczypospolitej Polskiej; dodatek miesięczny do Urzędowego wykazu druków (Warszawa), 1931, № 11, 30 лістапада, б. 62; 1932, № 10, 31 кастрычніка, б. 70.
[16] Брама, 2004, № 1(22); http://brama.brestregion.com/nomer22/artic21.shtml
[17] Кніга ахвяраў бальшавізму. Цярністы шлях беларускае культуры. Кн. 1. —Выданьне Саюзу беларускіх журналістых: На чужыне, 1950, б. 13.
[18] Віцьбіч Ю. Плыве з-пад Сьвятое гары Нёман. Мастацкі нарыс. Частка I. — Мюнхен: Выдавецтва “Бацькаўшчына”, 1956, б. 59;
[19] Брама, 2004, № 1(22); http://brama.brestregion.com/nomer22/artic21.shtml
[20] Тамсама.

[21] Тамсама.
[22] Сядура Ўл. Тэстамэнт // Эквівалент: Зборнік эміграцыйнай гістарычнай прозы / Укл. Л. Юрэвіч. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2005; http://zbsb.org/lib/index.php?option=com_alblib&view=article&id=360#6
[23] Тамсама.
[24] Хроніка // Беларускі звон, 1932, 22 студзеня, № 3(28), б. 3.
[25] Адказы і ўвагі... // Шлях моладзі, 1931, № 4(27), красавік, б. 9-10.
[26] Ліс А. На разломе эпохі (штрыхі да партрэта Максіма Танка) // Тэрмапілы, 2002, № 6; http://kamunikat.fontel.net/www/czasopisy/termapily/06/06_lis.htm
[27] Ліс А. Матэрыялы Віленскага беларускага фонда // Вяртанне-6. — Мінск: "Беларускі фонд культуры", 1999, б. 116; http://kamunikat.fontel.net/pdf/albaruthenica/kasztounasci.pdf
[28] Супруненко Н: "Похоже, что вы живете на свободе не лучше, чем я в лагере" // http://www.memorial.krsk.ru/memuar/kasabova/08/16.htm
[29] Мартиролог // http://www.memorial.krsk.ru/martirol/Kl.htm
[30] Жертвы политического террора в СССР // http://lists.memo.ru/d16/f258.htm
[31] Тамсама.

# ВЕРШЫ МІХАСЯ КЛЮЧАНОВІЧА

*Зьмяшчаем некалькі вершаў паэта, якія былі апублікаваныя ў 1927 годзе ў яго зборніку.*

### У родным краі

Вось за намі ўжо чужына
Гдзе таміліс мы душой,
Цёмна, быццам дамавіна,
Сьцежкай там ідуць крывой.

У родны край вярнуліс мы,
Нас сустрэлі пахі краю...
Жыта, красак і травы, —
Ў краі родным аддыхаем.

Мыюць родныя нас воды,
Птушкі песьні нам пяюць,
Забываем пра няўзгоды,



Бо ў спакою дні ідуць.
*Лунінщчына.*
*Кіішча, Ленінскай вол.*
*1 чэрвеня 1921 г.*

**Я**

Я радзіўся, каб жыць,
Я жыву, каб памерці...
Ды аружжам каб быць,
Божых ворагаў сьцерці.

Сам кіруе Бог мною,
Сваю волю дае.
Гаспадар над душою;
Куды трэба Ён шле.
*Пужычы, 4 сьнежня 1921 г.*

**Да маці**

Ня плач маці,
Ня плач маці,
Па сынку сваім!
Не пайшоў ён
Прападаці
Ды ў бары глухім.
А пайшоў ён,
Родна маці,
Праўданьку шукаць.
Ня плач маці,
Ня плач маці,
Годзі шкадаваць!
Дый знайшоў сын
Праўду тую
Ў сэрцайку сваім.
Ня плач маці,
Ня плач маці,
Па сынку такім!
*Пужычы, 1 студзеня 1922 г.*

### Жабрак

Ня імкнуся да багацьця,
Грошы не каплю ніколі, —
А імкнуся ўсё да шчасьця,
Каб здабыць мне духа волю.

Добра чую зык душы —
Сэрца радасьцю сьмяецца:
На прасторы, не ў глушы,
Воля духа з целам б’ецца.

Й хоць жыву я жабраком,
Хоць бадзяюсь з хаты ў хату —
Усё ж імкнуся за Хрыстом
У гасподу, Ім багату.
*Старобін — Пінск, 1920-1923 г.*

### Надзейцесь, браты!

Надзейцесь, браты, ды гатуйцесь сустрэць
Жадану свабоду!
Не доўга ўжо нам асталося цярпець
Чужую прыгоду.

Вось выйшлі анёлы вятры затрымаць
І сонца прагляне!
А там — Бог Хрыста дасць сьвятую пячаць:
І крыўды ня стане!
*Пінск, 17 сакавіка 1923 г.*

### Толькі я...

Стогнуць людзі, плачуць людзі,
Людзі-Беларусы,
Аж пакуль ім шчасьце будзе
Разарваць прымусы.

Толькі песьні-скаргі льюцца
Гэтаю парою;
Людзі-Беларусы б’юцца
З крыўдаю ліхою.

Шчыра хочуць пасяліцца
Між усіх народаў,
Разам з імі весяліцца
Уласнаю дагодай.

Толькі я не хачу быці
Роўнапраўным з катам,
Іхняй цемнатою жыці,
Не быць Праўдзе братам.
*Пінск, 22 чэрвеня 1923 г.*

**Надпіс на помніку**

Помнік у сэрцах ты нашых паставіў,
З шчырым надпісам на вякі вякоў:
“Радасьць таму, хто жыцьцём сваім славіў
Вечную Праўду на шчасьце людзёў!”
*Пінск, 5 ліпеня 1923 г.*

# ЗНОЎ ПРА “ЛЖЭПАРТЫЗАНСКІЯ” АТРАДЫ

На працягу 2015-га афіцыйныя беларускія СМІ неаднаразова ўздымалі тэму дзейнасьці падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. “ілжэпартызанскіх” атрадаў. “БР” асьвятляў гэтую тэму ў 2011 годзе.[1] І ў параўнаньні з публікацыяй Канстанціна Самсонава, Дзяніса Крывіцкага[2], новыя артыкулы/праграмы практычна нічога новага не адкрываюць.

Спынімся на дакумэнтальным фільме “Лжэпартызаны. Па легендзе Абвера”, які быў паказаны тэлеканалам АНТ у красавіку 2015-га.[3] Сцэнар да яго напісала журналіст Анжаліка Сяўко. У фільме распавядаецца пра “лжэпартызанскі” атрад “Свабодныя”, які дзейнічаў на Віцебшчыне ў 1943 г., ды пра яшчэ адзін выпадак у Баранавіцкай вобласьці. Абодва вядомыя дасьледчыкам, асьветленыя ў навуковай і навукова-папулярнай літаратуры. Праўда, аўтары фільма сьцьвярджаюць, што “гэта адна з малавядомых старонак вайны... адкрытых матэрыялаў па тэме практычна няма”. Экспэртамі выступалі гісторыкі Аляксей Літвін, Мікалай Сьмірноў, Сьвятаслаў Кулінок. Той жа Літвін адзначыў, што на пачатку нямецкай акупацыі ў лясах былі самыя розныя партызанскія атрады, у тым ліку і тыя, што “п’янствавалі, рабавалі”. Былі і “розныя нацыяналістычныя банды”. І толькі пазьней савецкае кіраўніцтва змагло ўзяць партызанскі рух пад свой кантроль, гаворыць у фільме гісторык.

Было заяўлена, што ў Беларусі за тры гады нямецкай акупацыі існавалі 10-12 “ілжэпартызанскіх” атрадаў і групаў. Дарэчы, столькі ж іх было на акупаванай немцамі тэрыторыі Расеі і Украіны. Здаецца, і ўсё, што можна адзначыць пасьля прагляду фільма.

Згаданы С. Кулінок у кастрычніку 2015-га зьмясьціў аж у трох нумарах “*Белорусской военной газеты*” артыкул “Ілжэпартызаны”.[4] Зноў жа факты прыводзяцца вядомыя, але ёсьць і выключэньні. Напрыклад, пра “зялёную групу” 25-гадовага **С. Кукраша**, якая з пачатку кастрычніка 1943 г. дзейнічала на тэрыторыі Мінскай вобласьці. Савецкія партызаны сьцьвярджалі, што яна рабавала мірных жыхароў.[5] К. Самсонаў згадваў пра гісторыю “буйнога агента гэстапа” **Мікалая Пігулеўскага**, які меў заданьне ў 1943 г. стварыць “ілжэпартызанскі” атрад пад Слуцкам, але быў захоплены савецкімі партызанамі і перапраўлены праз лінію фронту ў Маскву.[6] Сьвятаслаў Кулінок дадае колькі невядомых фактаў. Высьвятляецца, што Пігулеўскі даў паказаньні, паводле якіх нямецкімі срэцслужбамі былі створаныя “перасыльныя пункты па

засылцы ў ложныя партызанскія атрады агентаў гэстапа, якія афіцыйна скончылі шпіёнскія школы, і добраахвотнікаў уласаўскай арміі". Узьнікае толькі пытаньне, навошта было іх "засылаць", калі атрады і так былі пад іх кантролем? Ці не былі?

"Перасыльныя пункты" знаходзіліся на тэрыторыі саўгаса ў 12 км ад Менску па Смаленскай шашы, у Бабруйску, дзе камандзірам быў капітан Яфімаў. У Слуцку кадры для "лжэпартызанскіх" атрадаў падбіраліся агентурай гэстапа, удзельнікамі "ягдкаманды" Пыжыкавым, Макарам, Радзівонавым, Мерным. Яшчэ адзін "перасыльны пункт" знаходзіўся на поўнач ад Узды. Менавіта там была "база для арганізацыі ўяўных партызанскіх атрадаў".

Кулінок прыводзіць чатыры задачы "лжэпартызанскіх" атрадаў, праўдападобна, агучаныя Мікалаем Пігулеўскім: вядзеньне барацьбы з партызанскім рухам шляхам кампрамэнтацыі партызанскіх атрадаў перад насельніцтвам (рабунак, гвалт, марадзёрства і г. д.); у выпадку прасоўваньня нямецкіх войскаў вясной-летам 1943 году ўглыб Савецкага Саюзу лжэпартызанскі атрад павінен прыняць у свае шэрагі пад выглядам масавых уцёкаў у партызаны добраахвотнікаў-адзінцоў і групы, з задачай рабіць раптоўныя напады на партызанскія атрады з мэтай іх зьнішчэньня; на выпадак адступленьня нямецкіх войскаў ілжэпартызаны павінны стаць зборачным пунктам завэрбаваных гэстапа асобаў для захаваньня асноўных кадраў, якія плянуецца выкарыстаць у якасьці выведнікаў і дывэрсантаў у савецкім тыле; для канспірацыі атрад мусіць весьці нязначныя баявыя дзеяньні, а асноўныя кадры агентаў гэстапа падчас знаходжаньня ў партызанскім атрадзе, павінны заваёўваць давер з тым, каб быць у глыбокай канспірацыі".[7]

Таксама нямецкія спэцслужбы практыкавалі высылку ў партызанскія раёны "дывэрсійна-тэрарыстычных групаў" з 10-15 чалавек і "адзінцоў-тэрарыстаў". Звычайна гэта былі пераапранутыя ў партызанскую вопратку паліцыянты і жандармы (на складах у Менску спэцыяльна захоўвалася чырвонаармейскае і партызанскае абмундзіраваньне). Яны мусілі весьці выведку і рабіць засады на дробныя групы партызанаў.

Мусім адзначыць, што вывучэньне дзейнасьці "лжэпартызанскіх" атрадаў у Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. ідзе вельмі павольна. Дагэтуль не зьявілася грунтоўнага дасьледаваньня на гэтую тэму.

**Аляксандар Будрэвіч**

[1] Самсонаў К. Да пытаньня дзейнасьці ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. ''ілжэпартызанскіх'' атрадаў // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10), б. 33-43.

[2] Крывіцкі Д. Дыскрэдытацыя партызанскага руху ў Беларусі германскімі

спецслужбамі: лжэпартызанскія атрады // Весці БДПУ, 2006, Серыя 2. № 4(50), б. 43-46.
[3] Лжепартизаны. По легенде Абвера. Телеканал ОНТ, программа “Обратный отсчет”. 2015, 20 красавіка, 18.20-19.00. Рэжысёр-пастаноўшчык — Уладзімер Луцкі, аўтарка сцэнару — Анжаліка Сяўко.
[4] Кулинок С. Лжепартизаны // Белорусская военная газета, 2015, № 194, 14 кастрычніка; № 195, 15 кастрычніка; № 196, 16 кастрычніка.
[5] Белорусская военная газета, 2015, № 194, 14 кастрычніка.
[6] Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(10), б. 38.
[7] Белорусская военная газета, 2015, № 196, 16 кастрычніка.

# ШУКЕЛОЙЦЬ: ГАДЛЕЎСКІ ЎЗНАЧАЛЬВАЎ ЦЭЛЫ РУХ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

19 ліпеня 2015 году 100-я ўгодкі з дня нараджэньня адзначаў беларускі дзеяч Антон Шукелойць, які жыве ў ЗША. Ён зьяўляецца найстарэйшым удзельнікам беларускага нацыянальнага антынацысцкага Супраціву (быў сябрам Беларускай Незалежніцкай Партыі). На жаль, Шукелойць так і не напісаў успаміны. Была жменька публікацый у друку, была кніга-гутарка Зянона Пазьняка. Але няма ягонага тэксту, прысьвечанага выключна Супраціву. На тое могуць быць свае прычыны.



Тут прыводзім цытату з відэаінтэрв’ю Антона Шукелойця, якое было запісанае ў траўні 2015-га.[1]

Шукелойць: “Гадлеўскі [падчас нямецкай акупацыі Беларусі ў 1941-1942 гг.] ўзначальваў цэлы рух за незалежнасьць. А другой асобай пасьля яго быў Саковіч. Саковіч якраз яго запрасіў, Гадлеўскага, каб ён узначаліў усё. Так што ўсё [беларускае нацыянальнае антынацысцкае] падпольле гэта, усё належыла да Гадлеўскага”.

Заява гэтая цікавая і важная. Шкада, што інтэрв’ю рабіў сьвятар

Леанід Акаловіч, які не ва ўсіх пытаньнях арыентаваўся, а Супрацію яго ўвогуле не зацікавіў. Высьветлілася, што “75 пытаньняў” былі падрыхтаваныя дасьледчыкам Анатолем Валахановічам, а Акаловіч іх толькі агучыў.[2]

Тэма беларускага антынацысцкага падпольля, якое ачольваў ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі, рана ці позна стане аб’ектам дасьледаваньня афіцыйнай навукі ў Беларусі. Яна патрапіць у СМІ, выкліча гарачыя спрэчкі. Вынікам жа мусіць стаць прызнаньне беларускай дзяржавай існаваньня Супраціву і ролі ў ім Гадлеўскага, ушанаваньне памяці беларускіх падпольшчыкаў, якія паляглі ў барацьбе супраць акупантаў.

**Канстанцін Самсонаў**

[1] https://www.youtube.com/watch?v=zShqCdJL4T4
[2] Валахановіч А. Узлёты і падзенні Вільгельма Кубэ: яго бачанне будучыні Беларусі. — Мінск, 2014, б. 270.

# ПРА КРЫМІНАЛЬНУЮ СПРАВУ ПАЎЛА АЛЕКСЮКА ПАЧАТКУ 1930-Х ГАДОЎ



Павал Аляксюк быў вядомым беларускім дзеячом прапольскай (“палёнафільскай”) арыентацыі ў 1920-я гады. Нарадзіўся ён у 1892 годзе, у беларускім руху — ад пачатку Першай сусьветнай вайны, удзельнічаў у 1-м Усебеларускім зьезьдзе 1917 году. У 1919-1920 гг. быў кіраўніком створанай з дазволу польскіх уладаў Беларускай вайсковай камісіі. Восеньню 1920 году ён узяў самы актыўны ўдзел у палескім паходзе генэрал-маёра Станіслава Булак-Балаховіча. Аляксюк быў кіраўніком Беларускага палітыч-

нага камітэту, а пасьля і створанага ў Мазыры “беларускага ўраду” (праіснаваў ён лічаныя дні, паколькі балахоўцы пачалі адступаць на захад).[1] У першай палове 1920-х Павал Аляксюк быў актыўны ў беларускім “палянафільскім” лягеры, ачольваў арганізацыю “Беларуская краёвая сувязь”. Але пасьля паступова адыйшоў ад палітыкі, уладкаваўся ў Наваградку, працаваў адвакатам. Нейкі час кіраваў Навагрудзкай павятовай управай Таварыства беларускай школы.[2] Звычайна, у яго біяграмах пішуць “далейшы лёс невядомы”, але пасьля скандальнай гісторыі 1931 году.

Як пісала віленская газэта “Беларускі звон”, “Аляксюк, як ведама, зрабіў на “полёнафільстве” добры інтэрас і разжыўся, пабудаваў сабе ў Наваградку дом, завёў багатыя мэблі і г. д.”.[3] Дом знаходзіўся ў Агародным завулку. Восеню 1931 году выбухнуў скандал. А 2-й гадзіне ночы 22 верасьня ў доме Алексюка пачаўся пажар. Агонь пашкодзіў сьцены, столь, хатнюю маёмасьць. Пажар патушыла пажарная ахова. Аднак 23 верасьня а 10-й раніцы дом зноў загарэўся. На гэты раз цалкам згарэў дах, частка столі. Пажарныя патушылі і гэтае ўзгараньне. Справай занялася паліцыя. Высьветлілася, што дом Паўла Алексюка быў застрахаваны на 40 тысяч злотых, а мэбля ў ім — на больш чым 50 тысяч. З-за рамонту, які праходзіў перад пажарам, рэчы былі перанесеныя ў адну частку дома. Якраз у дзень здарэньня паміж рабочымі, якія займаліся рамонтам, і Алексюком узьніклі непаразуменьні. “Няма сумненьняў, што дом быў падпалены. Але хто яго падпаліў?”, — задавалася пытаньнем мясцовая газэта.[4]

Справа пажару дома адваката Алексюка атрымалася гучнай, пра яе гаварылі мясцовыя жыхары, пісалі віленскія беларускія і польскія газэты. А “Kurjer Nowogródzki” называў яе “сэнсацыйнай”. Першы разгляд у судзе плянаваўся на 14 кастрычніка 1931 году.[5] Сьледзтва схілялася да таго, што ўласьнік дома сам яго падпаліў, каб атрымаць суму страхоўкі. Каб Аляксюк ня ўцёк, яго пасадзілі пад арышт.[6] За кратамі прабыў ён тыдзень-два. За гэты час адвакацкая арганізацыя ў Навагрудку пасьпела заявіць, што “Павал Аляксюк адвакатам не з’яўляецца, да адвакацкай карпарацыі не належыць і ніколі не належыў”.[7] Відаць, і сапраўды ён не належыў да “карпарацыі”, але тое, што адвакатам (“судовым абаронцам”) працаваў — гэта факт.

Суддзя акруговага суду Жатнеркевіч разгледзеў справу Паўла Алексюка, атрыманую ад пракурора, і пастанавіў выпусьціць яго з турмы.[8] Газэта “Беларускі звон” праз некалькі тыдняў з энтузіязмам паведамляла, што Аляксюк сядзіць “у вастрозе за самую

звычайную ўгалоўшчыну".[9] А ён ужо даўно быў на волі. Дзесьці праз два тыдні акругова суд "завесіў" Алексюка — пазбавіў яго права займацца адвакацкай практыкай, паколькі ў яго адносінах расьсьледавалася крымінальная справа.[10]



— Zagadkowy pożar na za... ku Ogrodowym. Dnia 22 bm., o g... nie 2-ej w nocy w domu mec. Pawła A... siuka wewnątrz mieszkania powstał po... wskutek którego opaliła się ściana, część... fitu oraz sprzęty domowe. Dzięki natych... stowej akcji ratunkowej miejsc. straży po... nej, pożar został zlokalizowany. Nazaju... t. j. w dn. 23 bm. w dzień, o godzinie... znów pojawił się ogień w tym domu. T... razem spłonął doszczętnie dach, część s... tu i tylko dzięki akcji ratunkowej straży... żarnej, pożar ugaszono.

Na temat tego pożaru krążą po mie... najrozmaitsze domysły. Dom był ubezpie... ny na samę 40,000 zł., zaś meble na s...

— Zawieszenie w czynnościach. Zgromadzenie ogólne Sądu Okręgowego w Nowogródku uchwałę swoją zawiesiło w czynnościach obrońcę sądowego Pawła Aleksiuka ze względu na toczące się

— Sprawa mec. Aleksiuka. Krążą pogłoski, że sensacyjna sprawa mec. Aleksiuka ma się odbyć już w dn. 14 b. m.

Sprawa ta na terenie Nowogródka budzi olbrzymie zainteresowanie.

— P. Aleksiuk nie jest adwokatem. W... z notatką o pożarze domu p. Alek... Nowogródku, Koło Adwokackie w... ku, komunikuje, że p. Paweł Alek... okatem nie jest, do korporacji ad...

...owogródzka

– Zakończenie sprawy p. Pawła ...siuka. W dniu 9 stycznia b.r. po... ne wydziały Sądu Okręgowego w ...ogródku wobec prawomocnego u... zenai śledztwa przeciwko p. Paw... i Aleksiukowi z oskarżenia go o ...palenie własnego domu, przyjmu... pod uwagę motywy tej decyzji wy... ...jącej całkowicie osobę p. Alek...

× P. Aleksiuk zwolniony z więzienia. — Budząca ogólne zaciekawienie w sferach miasta sprawa podpalenia domu P. Aleksiuka b.ądziła w labiryntach różnorodnych podejrzeń. Większość opinji wypowiadała się w kierunku posądzającym właściciela o podpalenie własnego domu, celem uzyskania sumy ubezpieczeniowej.

Przeprowadzone zapiski dochodzenia pierwiastkowego przez policję zdawały się skierowywać wszelkie podejrzenia względem osoby Aleksiuka. Prowadzący śledztwo w trybie postępowania doraźnego sędzia śledczy zastosował względem podejrzanego jako środek zapobiegawczy bezwzględny areszt.

Przed kilkoma dniami prokurator Sądu Okręgowego przekazał akta sprawy powyższej na tryb postępowania zwyczajnego, celem dania dalszego urzędowania prezesowi...

KURJER NOWOGRÓDZKI

***Публікацыі ў "Навагрудзкім кур'еры" пра справу Паўла Алексюка.***

Само расьсьледаваньне ішло марудна. У сярэдзіне сьнежня 1931-га паведамлялася, што ў падпале па-ранейшаму падазраецца Аляксюк і што расьсьледаваньне ўжо набліжаецца да канца.[11] Нарэшце 9 студзеня 1932 году на паседжаньні акруговага суду была агучаная пастанова, паводле якой з Паўла Алексюка былі зьнятыя ўсе падазрэньні ў падпале, яго аднавілі ў правах, як адваката.[12]

Такім чынам, Аляксюк быў цалкам апраўданы, журналісты, прысутныя на працэсе — расчараваныя. Відаць, такое рашэньне суду шмат для каго стала нечаканасьцю. Толькі не для Паўла Алексюка. Магчыма, ён здолеў заручыцца падтрымкай нейкіх уплывовых асобаў, якія памяталі пра ягоныя заслугі перад польскай дзяржавай.

Аляксюк вярнуўся да свайго ранейшага жыцьця. У канцы студзеня 1932-га ён удзельнічаў у паседжаньні гарадзкой рады ў Наваградку[13] (ён быў яе чальцом з 1920-х гадоў).

**Сяргей Ёрш**

[1] Пра палескі паход, яго падрыхтоўку і ўдзел Паўла Алексюка гл. наступную публікацыю: [Ядвігін Ш.] На абарону Бацькаўшчыны // Беларускі Рэзыстанс, 2013, № 1(14), б. 125-159.

[2] Кароткі нарыс беларускага пытаньня // Архэ, 2007, № 11, б. 134.
[3] А за ім — Аляксюк! // Беларускі звон, 1931, № 21, 5 кастрычніка.
[4] Zagadkowy pożar na zaulku Ogrodowym // Kurjer Nowogródzki, 1931, № 6, 24 верасня.
[5] Sprawa mec. Aleksiuka // Kurjer Nowogródzki, 1931. № 13, 2 кастрычніка.
[6] Ol. P. Aleksiuk zwolniony z więzienia // Kurjer Nowogródzki, 1931, № 22, 12 кастрычніка.
[7] P. Aleksiuk nie jest adwokatem // Kurjer Nowogródzki, № 15, 4 кастрычніка.
[8] Kurjer Nowogródzki, 1931, № 22, 12 кастрычніка.
[9] Аб т. зв. "полёнофільстве" і беларуска-польскіх адносінах // Беларускі звон, 1931, № 22, 30 кастрычніка.
[10] Ol. Zawieszenie w czynnościach // Kurjer Nowogródzki, 1931, № 37, 30 кастрычніка.
[11] Sprawa podpalenia domu p. Aleksiuka // Kurjer Nowogródzki, 1931, № 75, 15 снежня.
[12] Ol. Zakończenie sprawy p. Pawła Aleksiuka // Kurjer Nowogródzki, 1932, № 11, 15 студзеня.
[13] Z czwartkowego posiedzenia Rady Miejskiej // Kurjer Nowogródzki, 1932, № 24(110), 30 студзеня. На гэтым нумары памылкова стаіць № 23.

# СТАЛІ ВЯДОМЫЯ ІМЯ І ПРОЗЬВІШЧА БЕЛАРУСКАГА ПАДПОЛЬШЧЫКА, ПАЭТА ЯНКІ ПАЛОННАГА



***Адзіны вядомы нам здымак Янкі Палоннага быў зьмешчаны ў часопісе "Запісы БІНІМ" (1999, № 23). Дзякуем НГ і ЛЮ за дасланае фота***

У 2015 годзе нарэшце ўдалося ўстанавіць асобу ўдзельніка пасьляваеннага беларускага антысавецкага Супраціву, паэта, вядомага як Янка Палонны. Адбылося гэта, дзякуючы кнізе "Духу магутныя чары...: Ларыса Геніюш ва ўспамінах, лістах, архіўных матэрыялах" (Мінск: Лімарыус, 2015. Укладальнік — Міхась Скобла). У ёй зьмешчаны ліст Юліяна Сергіевіча да Ларысы Геніюш ад 25 сьнежня 1963 году. У ім ёсьць такія радкі: "Пра Палоннага (**Іларыёна Алексіевіча**) нічога не ўдалося даведацца, бо адрасу яго не маю. Помню толькі, што яго вёска завецца Асташына — недзе на Навааградчыне, мусіць, каля Любчы" (б. 256-257).

Такім чынам паэт Янка Палонны — гэта Іларыён Алексіевіч. Наўрад ці

Юліян Сергіевіч мог памыліцца. Падчас Другой сусьветнай вайны ён працаваў у Беларускім камітэце самапомачы ў Бэрліне і ведаў Палоннага асабіста. Асташына — вёска ў Навагрудзскім раёне, цэнтр сельсавета. Магчыма, там засталіся сваякі Алексіевіча.

"БР" пісала раней пра Янку Палоннага.[1] Як вядома, дзесьці ў пачатку 1944 году ён зьехаў з Бэрліну ў Беларусь і лёс яго застаўся невядомы.

***СЁ***

[1] Ёрш С., Катавіцкая А. Паэта Янку Палоннага шукала савецкая дзяржбясьпека // Беларускі Рэзыстанс, 2007, № 1(4), б. 139-141.

# НОВАЕ ПРА ДЭСАНТЫ З-ЗА "ЖАЛЕЗНАЙ ЗАСЛОНЫ" Ў ПАЧАТКУ 1950-Х ГАДОЎ

У апошнім нумары часопіса "*Милиция Беларуси*" за 2015 год зьявіліся дзьве публікацыі дасьледчыка Андрэя Цісецкага, прысьвечаныя барацьбе міліцыі, дзяржбясьпекі і ўнутраных войскаў з "ляснымі братамі" і дывэрсантамі, закінутымі з Захаду.[1] Грунтуюцца яны на ўспамінах ветэранаў ды зьмяшчаюць шэраг раней невядомых фактаў.

Фёдар Супрановіч, які зь лета 1950 году служыў радыстам ва Ўпраўленьні 2-Н МГБ БССР, якое займалася барацьбой супраць антысавецкага падпольля і партызанскага руху, згадвае пра ліквідацыю шэрагу груп і атрадаў. Ня будзем тут іх пералічваць, тым больш, што некаторыя прозьвішчы/мянушкі варта спраўдзіць — памяць у ветэрана магла іх і сказіць. Больш цікавыя яго ўспаміны пра ўдзел у затрыманьні "амэрыканскіх шпіёнаў".

"Цікавы... лёс майго былога начальніка па Ўпраўленьню 2-Н палкоўніка М. В. Сапелкіна, — успамінае Супрановіч. — Падчас знаходжаньня ў камандзіроўцы старшым аператыўнай групы па злове амэрыканскага шпіёна, закінутага на тэрыторыю БССР пасьля згаданай групы "налібоцкіх дэсантнікаў" [Вострыкава], ён аказаўся вінаваты ў тым, што затрыманы, знаходзячыся ў невялікім цагляным хляве, уначы зьдзейсьніў самагубства, з разьбегу

ўдарыўшыся галавой аб цагляную кладку сьцяны. М. В. Сапелкіна за недагляд звольнілі з ворганаў, адправіўшы на пенсію, хаця ён быў самым маладым палкоўнікам-чэкістам у Беларусі".[2]

А. Цісецкі мае рацыю, калі піша, што загінулы дэсантнік мог быць загадкавым амэрыканскім агентам "Зорыным", пра якога згадваецца ў кнізе "Щит и меч Отечества".[3] Там нічога ня пішацца пра яго лёс і гэта зразумела — кніга прысьвечаная толькі пасьпяховым аперацыям. Тую ж контрразьведвальную аперацыю "Ракета" абсалютна незаслужана аўтары кнігі ставяць ў адзін шэраг з такімі вядомымі аперацыямі савецкіх спецслужбаў, як "Трэст" ці "Беразіно".[4] Бо яна насамрэч не дала ніякіх значных вынікаў. А пасьля гібелі "Зорына" (магчыма, ён змог падаць нейкі знак на Захад) ЦРУ магло пераканацца, што група Вострыкава працуе пад кантролем МГБ. Звальненьне Сапелкіна пацьвярджае версію пра правал "Ракеты" (праўда, радыёгульня яшчэ працягвалася, амэрыканцы, відаць, падыгрывалі чэкістам, адцягваючы іх сілы і рэсурсы).




***Апэратыўная група МГБ на заходнебеларускім Палесьсі, 1952 г. Здымак з часопіса "Милиция Беларуси".***

Цікавыя і ўспаміны палкоўніка міліцыі ў адстаўцы Івана Амельчанкі. Дарэчы, першай пра яго напісала газэта "СБ. Беларусь сегодня".[5] Працытую тую публікацыю: "У 1951 годзе Амельчанку адпраўляюць у Баранавічы змагацца з дывэрсантамі... Чакалі залётных шпіёнаў у палях і балотах часам па паўтара месяца: "Аднойчы на золку ў поле зроку зьявіўся самалёт, 5 чалавек спусьціліся на парашутах. Мы іх акружылі, далі каманду здавацца, але яны адказалі агнём і паспрабавалі ўцячы. У выніку аперацыі забілі траіх, а двое здаліся ў палон".

Андрэй Цісецкі зрабіў добрую справу — падрабязна распытаў ветэрана пра той эпізод "лясной вайны". У 1951 годзе Амельчанка быў афіцэрам стралковага батальёну аператыўнага падначаленьня МГБ СССР, які дысьлякаваўся ў Баранавічах. Восеньню таго ж

года камандаваньне падразьдзяленьня было выклікана на сустрэчу з міністрам дзяржбясьпекі БССР. На ёй была паведамлена сакрэтная інфармацыя: крыніцы савецкай разьведкі на Захадзе даведаліся пра заплянаваны дэсант у Налібоцкай пушчы, каля Любчы (у 75 км ад Баранавічаў). Чэкісты ведалі дакладнае месца і арганізавалі засаду. Дакладная дата дэсанту была невядомая, да таго ж ён неаднаразова пераносіўся. У выніку палова байцоў батальёну жылі ў лесе “каля паўгода”. Цікавае апісаньне канспірацыі, як яны там маскаваліся, як ім дастаўлялася ежа і г. д.

Атрымліваецца, што падразьдзяленьне Івана Амельчанкі знаходзілася ў пушчы ўсю зіму 1951-1952 гг. Калі ён не памыляецца і дэсант сапраўды адбыўся праз шэсьць месяцаў, то гэта ўжо быў пачатак вясны 1952-га.

“Нарэшце надышоў час “ікс”, — успамінае ветэран. — У вячэрнім небе зьявілася пяць купалоў парашутаў. Дэсантнікі прызямліліся вельмі кучна, і, да нязручнасьці “прымаючага боку”, адбылося гэта на лініі агню, паміж двума ручнымі кулямётамі, ва ўнутраным кальцы ачапленьня (у артыкуле памылкова напісана “дэсанту” — ВС), што перашкаджала кулямётчыкам эфектыўна весьці агонь у боесутыкненьні.

На зямлі апынулася пяць моцных, добра ўзброеных хлопцаў у цывільным адзеньні. У аднаго зь іх быў чэшскі кулямёт ZB-26/30, у астатніх — нямецкія “шмайсеры”. На вокрык “Здавайцеся, вы акружаныя, супраціў бессэнсоўны!” — па салдатах быў адкрыты шчыльны агонь, шпіёны паспрабавалі ўцячы. У выніку гэтага бою быў забіты дэсантнік-кулямётчык, загінулі яшчэ двое зь іх ліку. Дваіх удалося ўзяць жывымі. У “прымаючага боку” стратаў не было”.[6]

Іван Амельчанка згадвае, што загінулы кулямётчык быў камандзірам групы, капітанам, фінам паводле нацыянальнасьці. Астатнія былі — беларусы, ураджэнцы Пінскага і Іўеўскага раёнаў. Спачатку затрыманыя “паводзілі сябе дзёрзка, на пытаньні адказваць не хацелі”, а пасьля загаварылі. Паводле іх слоў, заданьнем групы была перадысьлякацыя на Урал і збор зьвестак пра ўранавыя шахты. Хлопцы, нібыта, былі былымі СБМаўцамі. На Захадзе працавалі ў шахтах. Амэрыканцы завэрбавалі іх “шляхам шантажу” і праз “мэтады фізычнага ўзьдзеяньня”, казалі хлопцы. Яны прайшлі ўзмоцненую падрыхтоўку.

Як бачым, толькі з адным нумары ведамаснага часопіса зьявіліся адразу дзьве публікацыі, якія не зусім ўпісваюцца ў афіцыйную версію барацьбы МГБ БССР з заходнімі спецслужбамі. Апублікава-

нае пацьверджаньне, што акрамя дэсантаў Янкі Філістовіча і групы Вострыкава былі і іншыя дэсанты, пра якія маўчаць аўтары той жа кнігі “Шит и меч Отечества”. Верагодна, гэтыя справы дагэтуль засакрэчаныя.

***Васіль Сушко***

[1] Тисецкий А. В белорусских лесах (1950-е). Из воспоминаний бывшего радиста МГБ БССР // Милиция Беларуси, 2015, № 6(60), сьнежань, б. 26-31; Тисецкий А. Лесная война Ивана Омельченко // Тамсама, б. 32-35.
[2] В белорусских лесах (1950-е). Из воспоминаний бывшего радиста МГБ БССР, б. 31.
[3] Щит и меч Отечества. — Мінск, 2006, б. 196-197.
[4] Тамсама, б. 200.
[5] Фронтовые дороги полковника Омельченко // СБ. Беларусь сегодня, 2015, № 148, 6 жніўня.
[6] Лесная война Ивана Омельченко, б. 34-35.

# БЕЛАРУСКІ ЧАСОПІС “ВАЙСКОВЫ”, 1921 ГОД. ПЕРАДРУК

Працягваем передрук беларускага часопіса “Wajskowy” (“Вайсковы”). Ён выдаваўся ў 1921 годзе ў Коўне (Каўнасе) Аляксандрам Ружанцовым. Раней на бачынах “БР” з’явіліся першыя чатыры нумары выдання (2013, № 1(14), б. 50-91; 2014, № 1(15), б. 25-39), якія захоўваюцца ў Літоўскай нацыянальнай бібліятэцы ў Вільні. У гэтай кніжцы мы змяшчаем № 5 ад ліпеня 1921 году. У адрозненне ад папярэдніх нумароў, ён выдадзены на кірыліцы і не мае ілюстрацый.


«KARYS» - «WOJSKOWY»

ВАЙСКОВЫ

Двутыднёвік для беларусаў-ваякаў Літвы.

Выданьне Вайскова-Навуковага Аддзелу Міністэрства Абароны Краю.

5 Nr. Коўна 16 ліпеня 1921 г.

15 ліпеня 1921
Коўна.

З гэтага нумару пачаты намі з 1 травеня (gegužes) бягучага году “Wajskowy” будзе друкавацца выключна “гражданкай”.

“KARYS” — “WOJSKOWY”

# ВАЙСКОВЫ

Двутыднёвік для беларусаў-ваякаў Літвы.

Выданьне Вайскова-Навуковага Аддзелу Міністэрства Абароны Краю.

Коўна. № 5. 16 ліпеня 1921 г.

*****************************************************************

15 ліпеня 1921
Коўна.

З гэтага нумару пачаты намі з 1 травеня (gegužes) бягучага году “Wajskowy” будзе друкавацца выключна “**гражданкай**”.

Мэты нашае часопісі застаюцца тыя самыя, што і раней. Зноў падкрэсьліваем, што беларуская вайсковая часопісь можа істнаваць толькі тады, калі самі беларусы-вoi будуць яе чытаць і падтрымліваць яе.

Рэдакцыя лічыць патрэбным зьвярнуць у часопісі больш увагі на пашырэньне вайсковага аддзелу, бо да гэтага часу ў нас беларусаў зусім мала зроблена ў гэтай краіне, калі не лічыць апрацаваньня і выданьня Б. В. К. (Беларускай Вайсковай Камісіяй) некалькіх статутаў за кардонам Літвы ды першых спробаў ужываньня бацькаўскай мовы ў ваяўніцтве, зробленых у нашых Беларускім баталіоне, Беларускіх Асобных Кампаніях і Беларускім Асобным баталіоне і ў выхадзіўшай летась вайсковай беларускай часопісі на Дзьвінскім фронцы “Варта Бацькаўшчыны”, на Літве.

Трэба, надта трэба шмат папрацаваць у гэтым кірунку, каб хутчэй завялась у нас свая уласная вайсковая тэрміналёгія, каб брак яе не прымушаў нас у ваяўніцтве карыстацца чужымі для нас — беларусаў-ваякаў маскоўскай ці польскай мовамі, быццам у нас сваёй мовы і зусім німа.

Бачыны “Вайсковага” шырака адчынены дзеля працы ў гэтай важнай, але толькі троху пачатай галіне агульна-беларускае справы.

Літва, Латвія, Эсція, Суомія даўна ўжо здалелі выпрацаваць у сваіх мовах рад статутаў; вельмі карысную дзеля беларусаў працу распачала ў гэтым сэнсі Б. В. К., але праца яе спынілась, яна зліквідавана польскай уладай.

Гр. М. К. у 22-гім н-ры “Нашае Думкі” сьведчыць тое, што яе выданьні пакуль што захаваны “пад спудам” у Лодзі...

Сучасныя абставіны такія, што ва ўсім сьвеце толькі на Літве захавалася жменя беларусаў-ваякаў, што маюць яшчэ права і гонар называцца беларусамі, што маюць яшчэ шчасьце служыць у сваіх нацыянальных частках са сваёй камандай, мовай, звычаямі, сярод сваіх жа сябраў беларусаў.

На Беларусі Заходнай беларус мусіць перарабіцца пад час службы на паляка, бо тамака нацыянальных часткаў пакуль німа, як німа і Б. В. К., што стаяла на чале беларускіх фармаваньняў.

У Савецкай Беларусі і ў да гэтага часу ня прылучаных да яе спрадвеку белар[ускіх] зямлёх Смаленскага, Амсьціслаўскага і Віцебскага князёўстваў наш рэкрут, як і ў часы царызму, мусіць ехаць служыць у чырвоных часьцёх недзе за Уралам ці на Каўказе.

Не будзем чакаць падмогі звонку, яна не прыдзе.

Трэба вясьці самім жывую, гарачую працу, трэба самім рашуча

стаць на шлях правядзеньня **беларушчыны** ва ўсе куткі службы і жыцьця. Сьпераду ў нас яшчэ столькі цяжкай, але цікавай і захопліваючэй кожнага сьвядомага беларуса працы **абеларушчэньня ваяўніцтва**.

Пэўна, ёсьць у нас каманды ў роднай мове, пэўна, ня вітаюць ужо беларусы друг друга ў час службы памаскоўску, пэўна перапіска вядзецца на дзяржаўнай, або нашай роднай мове, але гэтага яшчэ мала.

Трэба ж даць магчымасьць беларусам-вайсковым чытаць і чуць самыя грунтоўныя асновы са статутаў — але іх трэба перакласьці на родную нашую мову і трэба прыняць адзіную вайсковую тэрміналёгію, але яе трэба выпрацаваць пры ўчасьці знаўцаў мовы; трэба **скрозь** карыстацца **толькі** сваёй мовай!

Ці ж шмат зроблена ў абшары асьветы (гл. даклад п[а]р[у]чн[іка] Маёрава ў № 4 “Wajskowaha”)? Не! Але аб гэтым у другі раз.

Як бачым — працы шмат!..

Дні лятуць за днямі, з іх складаюцца тыдні, месяцы, гады...

Да працы ж браты-беларусы-вайсковыя!

**У нашым беларускім наступе на ваяўніцтва, з цьвёрдым намерам заўладаць ім і на яго вышынях узьнясьці беларускія сьцягі, мы павінны памагчы друг другу, зрабіўшы:**

**АДЗІНЫ ФРОНТ.**

Аб мусе, аб “ударнасьці” гэткай працы няма чаго казаць. Трэба карыстацца перадышкамі, цяпер адна з іх!

Ачніся ж, цар-волат пакутнай зямлі,
Пакажы на ўвесь сьвет сваю сілу;
За чужых беларусы пад кулі ішлі,
За чужых сабе рылі магілы!...*

**АР** [Аляксандар Ружанцоў]

**З верша Зьмітрака Бядулі “Беларускі ваяка” (1920). — “БР”.*

****************************************************************

**Будка 175**

Усьцяж узгоркаў дзьве сталёвых зьмейкі,
Упоперак іх крэсьляць шпалаў рэйкі,
Па бакох высокія стаўпы...

Пераезд. Рагаткі тры са дроту,
Па сьцянах сьляды шрапнэляў шроту,
То сьляды мінуўшай барацьбы...

Ой, калісьці тут зьвінелі пшчолы,
Жвава кулямёт гурчэў вясёлы,
Нішчылась ваяцкая сям'я...

А цяпер навокал сьпее збожжа,
Ля крыніцы чырванее рожа*,
Бо крывёй напоена зямля...

3 ліпеня 1921 **Алесь Смаленец**
Дольныя Шанцы

**Ружа. — "БР".*

### Увагі, датычныя мэтадаў навучаньня

Беспасрэднае навучаньне рэкрутаў у значнай меры належыць да падафіцэра-інструктара. Ён праходзіць з кожным жаўнерам навуку асобна, растлумачыўшы яе спачатку ўсяму аддзелу. Інструктар не павінен выпушчаць з сваіх рук рэкрута да тэй пары, пакуль ён добра не зразумее прынцыпаў данага вучэньня; тады толькі рэкрут пераходзіць пад нагляд даданага інструктару ў помач старшага жаўнера і ўжо толькі для спрытнасьці ў спаўняньні даннага руху, або тэмпу, або пазбаўленьня сябе ад якой-небудзь памылкі ўспамагальнымі вучэньнямі. Інструктар не павінен затрымлівацца на звычайным папраўленьні дрэннага спаўненьня, але павінен паказаць і выясьніць рэкруту памылку, паказаць рэзультаты яе ў адносінах да далейшай часьці данага вучэньня. Інструктар павінен паказаць сам, або праз старшага жаўнера, як трэба спаўняць рух, і дагэтуль яго паўтараць з рэкрутам, пакуль ён не дасягне правільнае формы.

Дзеля гэтага інструктар павінен мець кніжку для запісваньня ўсіх важнейшых памылак, зробленых знахадзячыміся ў яго навучаньні рэкрутамі.

Гэтакім парадкам ён будзе мець магчымасьць кантраляваць поступы, а таксама мець добры пагляд над вышкаленьнем свайго аддзелу. Усе тлумачэньні трэба падаваць звязна і зразумела, паказваючы іх наглядна.

Ніколі нельга пачынаць вучэньне без папярэдняга праканаеньня ў тым, ці растлумачанае ім вучэньне зразумелі як патрэб[н]а жаўнеры. Трэба зьвяртаць увагу на працу старшых жаўнераў, г[эта] з[начыць] спаўняюць яны, як трэба, прыказы інструктараў і ці адпаведны іх адносіны да рэкрутаў.

**Б. ЗАВАДЗКІ**

паручнік
"Інстр[уктар] пях[оты]" ч. I.

*****************************************************************

**ВАЙНА**
**Стратэгічна-палітычны нарыс**
/пераклад з украінскай/

Вайна ёсьць справа дужа сур'ёзная і небязпечная, дык праз тое пачынаць яе не абдумаўшы і ня даўшы сабе справаздачы з таго, чаго бажаеш* ёй дасягнуці і чаго ў самой вайне ёсьць найменш прэступна. Ось жа зважаючы на гэта, мы і мусім ведаць, што вайна ёсьць ня што іншае, як працяг палітычных адносін між дзяржавамі, але іншымі спосабамі, больш рэальнымі, больш давадзячымі, ці тое ўзбраенай сілай, якою ёсьць войска. Зважаючы на такую меру дзяржава павінна апроч усяго іншага мець плян вайны, які мусіць аб'еднаць ўсе вайсковыя дзеяньні, каторы йдзе да апошняе мэты, у каторым зьліваюцца ўсе мэты прыватныя. З гэтага выходзе, што вайсковую сілу дзяржавы можна разглядаць як спосаб, да якога яна прыходзе ў сваіх міжнарадовых адносінах, калі іншых праканаеньняў яе не чуюць. Калі мы зьвярнемся да сьветавой вайсковай гісторыі, дык пабачым дужа шмат прыкладаў выпадкаў ужываньня вайсковай сілы дзяржавай. Часам яна ўжывалась дзеля заўладаньня чужымі землямі, часам для абароны сваёй, часам для ўзмацненьня свайго голасу на міжнарадовых перагаворах, але толькі як пагроза. Наагул выпадкаў можна налічыць дужа шмат, але гэта бескарысна, бо ўсе гэтыя факты не памогуць нам устанавіць абы якую сістэму дзеля ўжываньня ўзбраёнай сілы на службе палітыкі дзяржавы. Ясна толькі адно, што ўмелае або няўмелае, сваечаскае або безрэзультатнае карыстаньне вайсковай сілай будзе

залежаць толькі ад творчасці тэй дзяржавы, якой дана права гэтай сілай карыстацца. Міжнародавае права рабіло некаторыя крокі ўрэгуляваньня, хоць з фармальнага боку ўжываньня вайсковай сілы, але яго законы маюць сілу толькі ў адным выпадку, калі гэта пажытачна, хіба ў крайнім разе не дужа шкодзіць. Пры сучасным жа становішчы можна сьмела лічыць, што міжнарадовага права німа, **ёсьць сіла**, і ў каго яна больш, на таго баку і права.

**Хочаш. — “БР”.*

Але да ўсяго гэтага трэба дадаць, што вайсковая сіла мусіць быць запраўды пераканаўчым довадам у руках дзяржаўных палітыкаў, у праціўным — яна не аплачываець тых выдач, што на яе выдаюцца і ёсьць толькі непатрэбны цяжар дзяржавы.

Гісторыя вайны кажэ, што можна не жадаць вайны, але датуль, пакуль істнуюць народы і нацыі, патрэбна заўсёды быць прыгатаваным да яе, каб не прымусілі ваяваць. Пэўна, што ў данным выпадку ды яшчэ для аднаго чалавека немагчыма разглянуць усе пытаньні, злучаныя з найлепшай арганізацыяй войска і вайной. Тым больш, што ў гэтай справе даўно істнуе вялізарная літэратура.

Праз гэнае мы зьвярнем увагу толькі на некатарыя найпаважнейшыя стораны гэтага пытаньня, расшырыўшы працу дзяржавы і вышэйшых яе камандзер[аў].

(працяг у 6 н-ры)

**Полтавець-Остряніца**
палкоўнік

***************************************************************

Памяці лятуноў
Капутоўскага і Вацэтіса
(+ 15.VI.1921 ў Коўні)

Больш не палятуць, як саколы ў нябёсы,
Згары не убачаць родныя мяжы,
Згінулі чароўныя аэра-калёсы,
На магілках сьвежых аэра-крыжы...

Коўна — АС [Алесь Смаленец]

*****************************************************************

## СУСЬВЕТНАЯ ВАЙНА
ў беларускай краснай пісьменнасьці
(працяг, гл. 4 Nr “Wajskowaha”)



Гэта трывога што раз усё змацняецца ў народзе, аж у канцы наступае перадапошні мамэнт „перад бурай”:

„Грамадзяцца цёмны хмары,
Грозяць сьвету страшнай карай;
Ня супыніць ужо бітваў
Ні ўздыханьня, ні малітвы.
Сталі ўсюды ўсімі трэсьці,
Неспакойства поўны весьці,
Што забыўшы людзі ўвагі
На крывавы пойдуць сьцягі
Меч ўздымае брат на брата
Стане брату брат горш ката...
Зуб-за зуб, за вока — вока...
Як і сказана ў прарокаў.
Усё свой к гэтаму шлях знача,
Што так будзе — не іначай,
Бо шукаць ужо праўды нечым,
Толькі порахам да мечам.

. . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Так усе горшы ад граніцаў
Ад далёкіх сьлых імчыцца;
Што раз болей менш надзеі,
Што віхор гразу разьвее.
Чуткі йдуць, плывуць журбою
Родны краю, над табою,
Ты ж ня гніся ў завіруху:
Вокам бач і вухам слухай.
Хто за славу выйдзе з славай —
Тык ня зможа бой крывавы;
Хто за праўду праўдай стане —
Тых сустрэне зьмілаваньне.”



Апошні мамэнт аднак ня доўга казаў чакаць на сябе і настаў хутчэй, чымся яго чакалі:

„Напрарачыў, наваражыў
Бядзі сабе кволы чалавек, —
Крывавых бур ня збыў, ня зжыў.
Заломаў не парваў, ня сьсек.
Ад самагубнасьцей дзікіх,
Ад трупа — значаных дарог
Не пастрымалі сэрц людзкіх
Ні права іхняе, ні Бог.
Ударыў гром, завыў пажар,
Скліканьць трубы на паход;
Ідзе край на край, на цара — цар,
Народ падняўся на народ.
Скрозь сьвету йдзе аружны склік
Паставіць сілу працi сіл;
Жадае сьвет, як сьвет вялік
Даўна варожаных магіл.
Устань, хто жыў, устань, хто дуж,
Нясьці аружжа, ў бітвы йсьці,
Кінь матку сын, кінь жонку муж,
І хату кінь у забыцьці.
Устань! Устань тачыць штыкі
Знамёны шоўкавы сьвяньціць
Яшчэ жыве закон такі —
За сьмерці сьмерцямі плаціць.

Адважна ў бой рыхтуйся, брат,
Баяцца нечага крыві —
Твой прэдак выліў яе шмат,
Ты памяць прэдкаў аджыві.
Каня буланага сядлай,
У стрэльбу крэпка ўбі набой
І блаславіўшы бацькаў край,
Едзь па загаду ў грозны бой.
Як дасьцігнеш чужацкіх гонь,
Патопчаш ворагаву рунь —
Ты матку-бацькаўшчыну ўспамнь.
І ў бок кінь вокам сваіх пунь.
А чалавечае на цэль
Жыцьцё узяўшы на працяг
У грудзі сьвенчаныя стрэль,
Адно ня сцэль ў крыж на грудзях.
Адважна ў бой... Вайна вайну
Спладзіла, хай жа бітва йдзе
За шчасьце лепшага вясну,
За волю вольнай грамадзе.
Аб долі роднай стараны
Нам сьведчыць не адзін курган,
Дзе дрэмлюць слаўныя сыны,
А страж дзяржыць ноч ды туман.
(„Склік”)

На гэты склік пашлі і сыны Беларусі разам з іншымі народамі толькі ціха, з вялікай жальбаю, праводзілі іх сем’і, ціха праводзілі думкамі братоў браты, закінутыя доляю ў далекую чыжыну:

“Браце мой любы!.. Ідзеш на вайну?...
Кліча агульны прыказ...
Кінеш радзімую ты старану,
Кінеш сямейку і нас!
Можа, не ўбачымся болі з табой —
Бог яго ведае, брат!
Як праканацішся ў долі сьляпой;

Пусьце? — Не пусьце назад?
Сорам і ганьба для сьвету вайна,
Як ня мяркуй, ні судзі;
З боскіх законаў сьмяецца яна...
Мусіш, аднак жа... Ідзі!
Йдзі, ня трывожся: маленькіх тваіх
Будзем карміць, даглядаць,
Ў разе ж... дай Бог, каб вярнуўся да іх..
Будзем, як ты гадаваць.
Гэтак... І ўсё, што хацеў я сказаць.
Пэўне ўсё... Пачакай!
— Нам пастарайся адтуль напісаць,
З думкі сваіх не спушчай.
Потым... Пасунуцца ў бітву палкі —
— Ты баязьлівым не будзь:
Сьмелага сэрца не раняць штыкі,
Кулі яго не праб’юць.
Будзе праціўнік пабіты ляжаць, —
Ты пашкадуй яго, брат!
Раны завяжаш, паможаш устаць, —
І ён чалавек і салдат.
Брат, у далёкай сваей старане
Мае ён дзетак, сям’ю...
Помста ці хцівасьць цябе як турне,
Ўспомні сямейку сваю.
Старасьці, цноце не помні ураз,
Гэтым сумленьня ня плям.
Быў чалавекам ты, браце, у нас,
Будзь чалавекам і там.
Мы у Вялікага будзем прасіць,
Ты каб вярнуўся здароў...
Н-ну! — разьвітаемся... Сэрца баліць...
Дай жа абнімемся ўзноў!
([Алесь Гарун] “ПРАВОДЗІНЫ”)

Гэткую праводную песьню, адходзячым на вайну сваім братом, пяе Алесь Гарун, загнаны царскім прыказам у далёкую Сыбір...

З нарысу “БЕЛАРУСЬ У ПЕСЬНЯХ”. **Я. Фарботко**

*****************************************************************

**ЖАЎНЕРСКІЯ ГУТАРКІ**

V. Войска

“...Ад чужынцаў барані
Волю нашае зямлі...”
З песьні.

Войска — гэта нязвычайна вялікая сям’я.

Поўк — тожа сям’я, так сама як і кампанія тажа сям’я.

Ты і твае таварышы складаеце аднае агульную сям’ю, у якую ўходзяць так сама і усе вашыя начальнікі, адылі ў адносінах да іх, вы ня мусіце запамінаць, што яны — вашыя начальнікі, на падобнасьць уселякае сям’і, дзе малодшыя заўсёды слухмяныя старэйшым.

Самая невялічкая сям’я бяз старэйшага быццам бяз галавы: зараз разрынецца; тым больш вялізнае войска ня можа істнаваць бяз старэйшых, бяз начальнікаў.

Не раўнуй сваё становішча да становішча начальнікаў. Старэйшы ў сям’і заўсёды мае большыя правы і пераважнасьць.

Начальнікі, перш чым занялі свае пасады, так жа як і ты, спаўнялі тое, што загадваюць спаўняць цяпер табе і, калі табе здаецца, што варункі іхняга жыцьця лягчэй за твае, дык ня забывайся таго, што ты правядзеш у жаўнерцы толькі 2 гады ў пяхоце ці 3 гады ў адумысловых часьцёх, яны ж мусяць служыць па 10-15 гадоў, а то і ўсё сваё жыцьцё.

Успамяні ж і тое, што ахвіцэр ня толькі твой начальнік, але і твой кіраўнік, друг і таварыш па зброі.

Ужо толькі як начальніку ты мусіш аказваць яму бяз’умоўную слухмянасьць і пашану, без якіх, так сама як і без дысцыпліны немагчыма істнаваньне войска.

Але ахвіцэр дзеля цябе ня толькі начальнік, ён жа і друг, старэйшы брат, бацька! Апрача слухмянасьці а пашаны, акажы яму яшчэ в е р у.

У войске могуць спаткацца дрэнныя людзі, праз гэта абірай сабе добрых таварышаў. Благіх жа ня вынікай, але старайся сваім прыкладам адсунуць іх ад зла. Калі ў цябе ў сям’і благі брат, Ты ня будзеш чурацца яго, але пастараешся накіраваць на пэўную жыцьцявую сьцежку.

Сьцярыжыся ўсякіх [с]пакусаў. Памятуй: усякая [с]пакуса — вораг твой. Асабліва вынікай гарэлкі — яна можа зусім апанаваць табой і пацягнуць цябе на злачынства напроціў ваяцкае дісцыпліны, грамадзкага абавязку і жаўнерскага гонару.

Унікай лярваў*, ад іх можаш атрымаць пранцы ці якую іншую дрэнную хваробу і згубіць сябе на ўсё жыцьцё.

**Тут: прастытутак. — “БР”.*

Ніколі ня будзь пужлівым. Гардзіся сваей службай і старайся зрабіць добры ўплыў на іншых.

Ня думай, што перарабіць жаўнераў на доб[р]ага чалавека абавязак толькі ахвіцэра: ты так сама мусіш старацца прынясьці па магчымасьці карысьць сваім таварышам, а таму будзь завіднікам а грубіянам.

Старайся аказваць невялікія паслугі, якія жаўнеры мусяць аказываць адзін другому, роўна браты ў сям’і: — моцныя — кволым, сьвядомыя — несьвядомым.

Калі абы-хто з тваіх таварышаў пападзе ў бяду — выкажы яму сваё спачуцьцё, дапаможы чым можна; калі ён захварэў — наведайся да яго.

Калі ты будзеш рабіць гэтак[,] у цябе назаўсёды застануцца добрыя ўспаміны аб тваім пабыце ў вялікай вайсковай сям’і, а з таварышаў тваіх ты здабудзеш сабе шмат сябраў на ўсё жыцьце.

Але выжэй за ўсё ты мусіш заўсёды ставіць Бацькаўшчыну.

(працяг будзе) **Алесь Смаленец**

*******************************************************************

У статуце толькі парадкі, але часоў і здарэньняў німа. Праз гэта трэба разважаньне мець. Многія чыняць без разважаньня, трымаючыся статуту, як сьляпы сьцяны.

Імператар ПЁТРА I

Маршыраваць па 40 лье на дзень, біцца і потым супачываць.

Імператар НАПОЛЕОН I

Помні вайну...

Адмірал Макараў

Божа, даруй нам, што мы ня можам ісьці па Твайму шляху мучаніцтва, а станем заўтра да крывавае барацьбы.

Піліп Фор

*******************************************************************

## ДРУГІЯ УГОДКІ

20 чэрвеня 1919 г. 1-ая Б[еларуская] А[собная] Кампанія выйшла з Коўны да фронту.

*Дарагім таварышам-былым суменаслужачым.*

Знаёмы сьцяг бела-чырвона-белы
Юрліва ўецца ў вышыні.
Яны ідуць і крок іх моцны, сьмелы,
Яны адвагаю поўны…

Ўжо два гады, як у баёх працуюць
Народу беларускага сыны,
Ўжо два гады, як жыцьце ахвяруюць
Для краю роднага яны…

Іх шмат лягло за Бацькаўшчыны долю,
Жыцьцё аддаў, спакойна сьпяць у зямлі.
Змагаючы варожую няволю,
Хто жыў яшчэ — па шляху іх пашлі.

Цяжкі ваш шлях: прашкоды, нізадачы,
Як быццам, хто сумысна там расьціць…
Дай, Божа, сіл, здароўя і удачы…
Хай цар цароў ваякаў блаславіць.
20 чэрвеня 1921 г. Алесь Смаленец
д. Шанцы

### + Казьмер Патаковіч, ш[э]р[эн]г[овы] 1БАК

(памяці дарагога таварыша)

Два гады назад, 8 ліпеня 1919 г. каля д. Нов. Грюнвальд вайсковыя беларусы Літвы прынясьлі першую ахвяру богу вайны: забіты быў варожай куляй шэрэнговы 1БАК Казьмер Патаковіч.

З самага пачатку фармаваньня беларускіх часткаў у Коўні (з 27 лютага 1919) малады Патаковіч, з ковенскіх беларусаў-каталікоў зьявіўся да Ковенскага БВС і распачаў службу ў Б-й кампаніі 1 п. Б. Г. п.* Жаўнер ён быў добры, слухмяны, жвавы а выканаўчы. Прад боям 8 ліпеня, апошнім дзеля П[атаковіч]а, ён браў удзел у абароне ад маскоўцаў "вазёрнае дзялянкі" і ў разьведках.

**Верагодна, маецца на ўвазе Беларускі Горадзенскі полк. — “БР”.*

У мяккай ложы спіць ён на вясковых могілках в. Шпулі...

“Сьпі, калега, у мяккай ложы
Заўтра ўбачымся, быць можа...
Сьпі, калега, у тым грабе
Сьніцца БЕЛАРУСЬ табе!”

Дружыновы

*******************************************************************

**Гістарычная літоўска-беларуская кроніка за ліпень**

1569 г. — 1. Люблінская палітычная вунія.

1882 г. — 8. [Н]арадзіўся у Меншчыне вялікі беларускі паэта Янка Купала (Ян Дамінікавіч Л у ц э в і ч).

+ 1915 г. — 13. У баёх пад г. Коўнай забіты малады і надта здольны публіцыста і белетрыста з “Нашае Нівы” Лявон Гмырак (М. Бабровіч) родам з дв. Пархвенава Вялейскага павету. Паэта Ясакар так памінае яго ў “Задушках”:

“Лявон Гмырак, з душой магутнай,
Любіў бяз мер свой край пакутны.
Сасонка Віленшчыны Сумнай,
Дзіця Вяльлі, ракі задумнай.

Хацеў разсеяць ён туман,
Хацеў ён волі для сялян.
Святлейшых, лепшых, шчасных дзён
Жадаў для брата свайго ён.

А лёс вайны шалёнай, дзікай,
Што абхапіў увесь сьвет вялікі,
У вір крывавы, вір чырвоны
Уцягнуў бязлітасна Лявона.

І на крывавых тых палёх
У бітвах ковенскіх ён лёг.
Цяпер у магіле брацкай сьпіць,
Аб родным краю толькі сьніць...”

1410 г. — 15. “Таго же лета бысть побоіще каралю Ягайлу Олгірдовічю нареченному Владіславу і велікому князю Літоўскаму Вітовту Кестутьевічу с немцы, с прусы, в землі іх Прусской меж городы Дубровна і Острода, Кемендера і Кундура побіша і всю сілу іх немецкую одолеша і грады іх немецкія поімаша, токмо трі грады не вдавшася каралю і Вітовту”.

Як бачым з кавалку т. зв. Ніканаўскае летапісі ў гэты дзень адбылась вялікая бойка між памяненымі гарадамі (панямецку пад Грынвальдом, або Таннэбергам).

Ужо здаўна немцы хацелі захапіць Польш[ч]у, Літву, Беларусь і Украіну.

Дык вось у гэты памятны дзень войска Каралеўства Польскага і Вялікага Князьства Літоўска-Рускага (“Русь” — гэта Беларусь і Украіна, так іх называлі раней) спаткаліся с крыжакамі.

Крыжакі мелі да 85000 дасканальна вымуштраванага войска з вялікім лікам гарматаў, з боку хаўрусьнікаў была каля 50000 палякаў, 50000 беларусаў а ўкраінцаў, 8000 літоўцаў і жмудзінаў і да 40000 татар.*

**Насамрэч, войска Тэўтонскага ордэну пад Грунвальдам налічвала ўтрая менш — каля 27 тысяч чалавек, войска саюзнікаў амаль у чатыры разы менш — каля 39 тысяч. — “БР”.*

Беларусы выставілі харугвы (поўкі) Амсьціслаўскі Князя Лугвенія Альгердавіча, 1, 2 і 3 Смаленскія Князя Юра Лугвеньевіча, Бярэсьцейскі, Віцебскі, Городзенскі, Дрогічынскі, Лідзкі, Мельнікскі, Новагорадокскі, Пінскі, Полацкі і сьвят. Юр’я Перамоганосца;

Украінцы: — Кіеўскі, Кременскі, Галіцкі, Люблінскі, Львоўскі, Перамысьльскі, 1, 2 і 3 Падольскія і Новагорад-Северскі Князя Жыгмонта Дзімітравіча Карыбута;

Літоўцы: — Ковенскі, Меднікскі, Віленскі, Трокскі, Вылкавыскі...

Як працекаў бой — мала ведама, бо ўсё перакручана, добра вядома толькі тое, што ворагі змагаліся з вялікай упорчывасьцю і адвагай.

Мора крыві пралілося ў гэты дзень. Больш 40000 немцаў пакрылі сваімі целамі зямлю.

Польскі гісторык Ян Длугош гэтак піша аб адвазе нашых слаўных дзядоў-смаленцаў: “у гэтай бойцы рыцарства смаленскае пры сваіх трох харугвах упорчыва змагалась і не падалось на адход. У аднэй з харугваў большасьць рыцараў пала пад мячамі, а сьцяг яе быў зьбіты, два іншыя біліся, як належа супраўдным рыцарам, выйшлі перамогшымі і злучыліся з палякамі. Гэтыя тры харугвы ў войске Александра Вітольда пакрылі сябе славай.

Перамога славянаў над немцамі была поўная, магутнасьць крыжакоў дала шчэрбу першую і досьць моцную...

**А[лесь] С[маленец]**

*****************************************************************

**Беларускія аддзелы Літоўскага войска за ліпень 1919 г.**

К 1 ліпеня БВС-Коўна, 1-ая БАК — на баявой дзялянцы Дарожка-Буракішкі (усх. станцыі Абэлі); 2-ая БАК — Коўна; БШ* — на Вілкімірскам фронці.

**БВС — Беларуская вайсковая служба, БАК — Беларуская асобная кампанія, БШ — верагодна, беларускі швадрон. — "БР".*

1. Аб гадз. 16-й на суседнім з 1 БАК вучастцы 3-й кампаніі МАБ (Марыямп. Асоб. Б-ону) маскоўцы наляцелі на польныя варты і троху пацясьнілі іх. 15 беларусаў пад правады[р]ствам ст. кул. п.-АББ Апанаса Шульца дапамаглі таварышам заняць ранейшае становішча.

2. Прад ф[р]онтам к-іі* зроблена ўзмацнёная ўзьведка** пад правадырствам прапаршчыка Сатыго.

**Кампаніі. — "БР".*

***Разьведка. — "БР".*

3. Маскоўцы зноў напалі на варты 3 к-іі МАБ, на падмогу зноў хадзілі 12 беларусаў з ст. п.-ахв. Хведарам Шарковым на чале. Шаркоў і Шульц прадстаўлены да награды вордэнам.

7.Уся к-ія сайшлася ў в. Кальнішкі, рыхтаваліся да наступу на маскоўцаў.

8. Усё літоўскае войска рушылось на маскоўцаў. З пазаранку беларусы завязалі бойку з ворагам каля дв. Аннэнгоф. Пачаўшаяся чуць золак бойка цягнулась аж да змроку з межкамі; маскалі падаліся перш да в. Разматка[,] а потым, выбітыя і з тамтэйшых акопаў — да лесу і ст. Елоўка.

9-12.* Беларусы біліся пад хв.** Таннэнфэльд, дв. Н. Грюнвальд, в. Дубоўка і 12-га сумесна з іншымі літоўскімі часьцямі вярнуліся на сваю папярэднюю дзялянку. (адход трапіўся праз тое, што маскалі зайшлі у тыл літоўскаму і латышскаму вайскам, працерабіўшы іх фронт якраз на спалучэньні абодвух войскаў).

**Баі 7-12 ліпеня будуць апісаны падрабязна у артыкуле "Беларусы ў ліпеньскім наступе 1919 г. пад Дзьвінскам" у чарговых NN-х.*

***Хвальваркам, фальваркам. — "БР".*

За час бойкаў к-ія згубіла забітымі ш[э]р[эн]г[ов]ых Патаковіча і Левановіча*, раненымі ст. п.-а. Карсака, кл-м-а** Валковіча і ш[э]р[эн]г[ов]ых Дубіцкага, Войнюша, Звіцэвіча і Петралайтіса; загінулі бяз весьці шэрэнговыя Рыбакоў і Мазуркевіч. З бою вынясены літоўскі кулямёт, паслуга якога была перабіта. За гэтыя

баі прэдстаўлены да награды крыжамі “Už Tėvynę” (За Айчыну) штабс-капітан Ружанцаў, прапаршчык Сатыго, ст. п[ад]ахв[іцэр]ы Шаркоў, Шульц, рахоўскі, мал. п[ад]ахв[іцэр]ы Дамброўскі і Кундзікаў, наводчыкі кулямётаў Канвайтіс і Сакалоў, ш[э]р[эн]г[ов]ыя Бараноўскі і Барыла, клмч-ы Шэрвайтіс і Валковіч.

**Гл. аб яго сьмерці “Wajskowy” № 4, бач. 2 — “Жаўнерская адвага”.*

***Кулямётчыка? — “БР”.*

12. Прыехаў да фронту і прыняў кампанію, якой камандавалі часова з 1 па 10 — шт.-к. Ружанцаў, і з 11 па 12 пдпр. Бумажнікаў, новы камандзер палкоўнік Міхалоўскі (Уладзімір).

13. Нашыя узьведчыкі разагналі маскоўскую узьведку каля в. Саманце і схапілі да палону каня.

16. Забралі да палону 5 чырвонаармейцаў з бронецягніку.

17, 18, 21. Былі стрэляніны з чырвонымі маскоўцамі і латышамі каля в.в. Бароўка, Саманце, Стramілішкі.

22. Узвод беларусаў зрабіў узьведку на в. Паберже, пасьля стрэляніны з маскоўцамі адыйшоў.

23. Нашыя узьведчыкі вытурылі чырвоных з в. Саманце.

28. Неспадзявана завязалась пылкая справа на заставе кампаніі. Да 80 чырвоных латышоў пры 4 кулямётах навалілісь на в. Шапэлі, дзе была застава 1 БАК (12 стралкоў пры кулямёце). Пасьля гадзіннай моцнай з абодвух бакоў стрэляніны застава адагнала латышоў пры братэрскай дапамозе суседняе заставы 1 к-іі МАБ. Нашыя страты: 2 кулямётчыка раненые, у маскоўцаў: 1 забіты і 3 раненые. Адзначыліся адвагай старшыня Кардаш, мал. п.-ахв. Кундзікаў і кул. наводчык Канвайтіс. Кардаш прэдстаўлены да награды крыжам “Už Tėvynę”.

1920 г.

БАК займала дзялянку па дэмаркрысы з палякамі ад Кшчава да Кіркальe (каля м. Ежэрэны). Пяць дзён была ціха, а потым абставіны зьмяніліся.

Задрыжэла зямля ад грукату гарматаў, і як нейкі татарскі загон, паняслась за ўцекаючымі палякамі, пляндруючы здурэўшага ворага, чырвоная конніца Гая. У сувязі з гэтым усё літоўскае войска пачала крок за крокам пасоўвацца да сваіх кардонаў.

7-га беларусы пайшлі ўпярод і перасяклі чыгунковую калею Дзьвінск — Вільня.

Беларуская узьведка бачыла ўжо бяз концу прахадзіўшыя ў бок Вільні швадроны і соткі чырвоных з іх яскравымі чырвонымі

сьцягамі і напісамі “На Варшаву!”, “Даешь Варшаву?” і г. п.

Стрэляніны з маскоўцамі ня была, ужо ведалі аб блізкім міры, а 14-га атрымалі ахвіцыяльную вестку аб тым.

Рух наперад працягаўся. Пасьля заняцьця 14-га — дв. Шэнбэрг, 15 — в. Гімзы і трохдзеннага адпачынку ў апошняй, кампанія 19 ліпеня ў гарачы летні дзень убачыла, нарэшці, “вялікія вазёры” па літоўска-маскоўскаму кардону і ўзайшла ў в. Крывасельцы на берагу аднаго з вазёраў, якраз Снуды.

Працаваўшыя да гэтага часу ў Лацьвіі беларусы ўступілі цяпер на родную ім зямлю, на зямлю Літоўскай Беларусі, спаткаўшы пры гэтым з боку жыхароў Браслаўшчыны спачуцьцё і радасьць.

Кампанія атрымала дзеля кардоннай службы дзялянку па маскоўскаму і лацьвійскаму кардонам ад в. Струста аж да дв. Якубова (каля 50 кіламэтраў па фронту).

Надыйшло доўга чаканае часовае сьцішэньне.

**А. Ружанцаў**
Майор В[ойска] Л[ітоўскага]

*****************************************************************

**КНІГАПІСЬ**

НОВАЯ ЧАСОПІСЬ. Як паведамляе “Jednaść” сям’я віленскіх беларускіх часопісяў у хуткім часе мусіць павялічыцца яшчэ аднэю пад назовай “РОДНАЯ СТРАХА”.

ПА ЛІТОЎСКІМ ЧАСОПІСЯМ. У “Švietimo Darbas” (Асьветная Праца) праф. Буга падае потамолёгію, разглядае этымалёгічна рэчныя і водныя урочышчы літоўскіх і беларускіх зямель. Кс. д-р Пурыцкі (міністэр закардонных спраў) у сваёй дісэртацыі дае агляд архіўных дакумэнтаў і граматаў, яшчэ зусім не кранутых дзеля беларускай гісторыі. Здаўна прыхільны да беларусаў Якштас адводзіць у “DRAUGIJA” (ТАВАРЫСТВА) шмат мейсца дзеля крытычнага агляду новых беларускіх выданьняў.

ПРАЦА ВІЛЕНСКІХ БЕЛАРУСАЎ. Як піша “Наша Думка”, беларускія Школьная Рада і Выдавецкае Таварыства шырака друкуюць беларускія кнігі для сярэдніх школ. Наўперад будуць надрукаваны кнігі матэматычныя.

НОВЫЯ КНІГІ. Выйшла з друку “L. Hareckaja. Rodny kraj”, бач. 96, кошт 70 мар[ак] польск[іх]. Кніга назначана для беларускіх пачатковых школ, у якіх вучаць лацінкай.

“Bohdan Żyranik. Zarys literatury białoruskiej”. Wydawnictwa związku zbliżenia narodów odrodzonych. Warszawa, 1921. Цэна 20 мр. 40 бач. — Цікавы кароценькі нарыс гісторыі нашае літэратуры, зроблены бесстароньне. Пераклад вершаў-кшталтаў з беларускай на польскую мову дужа добрае, яны захоўваюць усю сваю вабнасьць і безпасрэднасьць. Кніжачка прачтецца з карысьцю і цікавасьцю усякім палякам і можа дасьць абы-каму пэўны пагляд на беларусаў. У гэтым вялікая заслуга аўтара.

“Вольная Літва” зьмяшчае рад артыкулаў, пасьвячоных беларускай справе (як “Беларусы і жыды”, “Недараваныя моўчкі” і інш.) і друкуе вершы вялікага нашага паэты Янкі Купалы ў цудоўным тлумачэньні маскоўскага паэты Валерыя Брюсова.

“Полк. Полтавець-Остряніця. ВІЙНА. Стратегічно-політичний нарис. Зальцведель. 1921. 24 бач. Цікавая, цямліва выкладзеная тэма. Пераклад даемо пачынаючы з 5Nr-у.

“TĖVYNĖS GYNĖJAS” — 20 Nr ад 30.VI. — Па мастацтву малюнкаў кожны новы N-r пераважывае папярэднія. Шмат вершаў. Вельмі прыемныя ўражаньні пакідае гэтая старэйшая ў асобных літоўскіх частках вайсковая часопісь. Немала працы кладзе рэдактару “TG” віршыла Віткоўскі на свае выданьне, гэтак цяпер[нечытэльна].

******************************************************************

## Беларуская хроніка

КУЛЬТУРНА-АСЬВЕТНЫЯ УСТАНОВЫ. У Горадні адчыняецца зачыненая зімой беларуская гімназія. У Люцыні (Латгалія) адкрылася філія к[ультурна]- [асьветнага] таварыства “Бацькаўшчына” (цэнтр у Рызе). У Вільні адкрыты 2,5 месячныя беларускія вучыцельскія курсы. (Бел. Прэс-Бюро ў Коўні).

ПАЎСТАНЬНІ беларускага сялянства, моладзі запаліваюцца то ў адным, то ў другім павеце Беларусі, як савецкай, так і акупаванай палякамі і маскоўцамі. Люта супакаіваюць паўстанцаў, шмат крыві цячэ, дарагой чалавечай крыві. Б. П. Б. ў К.

ПРАТЭСТ. Городзенскія беларускія арганізацыі агаласілі пратэст проціў “устаноўленай” польскай уладаю “Вышэйшае Беларускае Рады”. Б. П. Б. ў К.

БЕЛАРУСЬ І СЬВ. АЙЦЕЦ. Урад Бел. Нар. Рэспублікі прэдставіў Сьв. Папежу Рымскаму просьбу, каб была спынена полёнызацыя Беларусі пры дапамозе ксяндзоў і аб тым каб у Беларускіх касьцелах навучаньне катэхізму, казаньні і дадатковая служба адбываліся

пабеларуску. Б. П. Б. ў К.

АДОЗВА. Беларускі нацыянальны хаўрус зьвярнуўся да лігі народаў і дзяржаў усяго сьвету з адозвай у сувязі з паўстанчэскім рухом на Беларусі, дзе просіць прызнаць паўстанцаў за вольнасьць і незалежнасьць Беларусі ваюючэй стараной і абараніць мірных беларускіх грамадзян, асабліва жонак і дзяцей. Б. П. Б. ў К.

АРЫШТ БЕЛАРУСКАГА ДЗЕЯЧА. Па паведамленьню “Jednaści” ў Барунах па загаду пракуратуры арыштаваны кс. ПЯТРОЎСКІ, якога абвінавачываюць у проціўпольскай праце і пашырэньні Беларускасьці. Летась улетку ён быў арыштаваны маскоўцамі.

НЕЗАЛЕЖНАЯ УКРАІНА. Чарговая канфэрэнцыя старшынь міністраў заходных дзяржаў у адносінах да Украіны адкіне ідэю адзінай Расеі і прызнае Украіну незалежнай ад Маскоўшчыны дзяржавай.

*******************************************************************

ВАЙСКОВЫ СЛОЎНІК.
(ПРАЦЯГ, ГЛ. 4 Nr. Wajskowana).

| ПАЛІТОЎСКУ: | ПАМАСКОЎСКУ: | ПАБЕЛАРУСКУ: |
|---|---|---|
| galutinis atsiskaitymas | ОКОНЧАТЕЛЬНЫЙ ОТЧЕТ | ЗАКАНЧАНЫ ПАДРАХУНАК |
| garbei šaudyti | САЛЮТАЦИОННАЯ СТРЕЛЬБА | СТРАЛЯНЬНЕ ДЛЯ ГОНАРУ, ЦІ УШАНАВАЛЬНАЕ СТРАЛЯНЬНЕ |
| gardelis | ПЕРЕГОРОДКА | ПЕРАБОРКА, АДГАРОДКА |
| gaunamasis popieris | ВХОДЯЩАЯ БУМАГА | УВАХОДЗЯЧАЯ ПАПЕРА |
| geležtė | КЛИНОК | ШТЫЛЕТ |
| ginklu meisteris | ОРУЖЕЙНЫЙ МАСТЕР | МАЙСТРА ЗБОЕВЫ, ЦІ БРОНЕВЫ |

| | | |
|---|---|---|
| gniuzumas | СЖИМАЕМОСТЬ | СЬЦІСКАЕМАСЬЦЬ |
| grandiklis | СКРЕБНИЦА | СКРЭБЛА |
| grandinė | ЦЕПЬ (СТРЕЛКОВАЯ) | ЛАНЦУГ |
| grandiniai slidinėjimui stabdyti | ЦЕПИ ПРОТИВ СКОЛЬЖЕНИЯ (АУТО) | ЛАНЦУГІ ПРОЦІЎ КОЎЗКАСЬЦІ |
| grandis | ЗВЕНО | ЛАНЦУЖОК |
| grąža | ОСТАТОК, СДАЧА | РЭШТА |
| greita, greitis | СКОРОСТЬ | ХУТКАСЬЦЬ, ШЫБКАСЬЦЬ, ШПАРКАСЬЦЬ |
| greta | РЯД | РАД (ў выданьнях БВК: „РОТА“) |
| gretų dvejinimas ir rikiavimas | ВЗДВАИВАНИЕ К ВЫСТРАИВАНИЕ РЯДОВ | ЎЗДВАЕНЬНЕ І І ВЫБУДАВАНЬНЕ РАДОЎ |
| griežtai | РЕШИТЕЛЬНО | РАШУЧА |
| grobuonis, grobikas | ГРАБИТЕЛЬ, ХИЩНИК | ДРАПЕЖНІК, РАБАЎНІК |
| grūdeklis, grūstuvas | ШОМПОЛ, ТОЛКАЧ | ПХАЧ |
| grūdyti, kietinti | ЗАКАЛИВАТЬ | ГАРТАВАЦЬ |
| grumtynės, imtynės | БОРЬБА, ПОЕДИНОК | БАРАЦЬБА, ПРАДЗІНАК |
| grusdyti | ТОЛКАТЬ | ПХАЦЬ, ШТУРХАЦЬ |
| grusdėti, gruzti | ТЛИТЬСЯ | ПАРАХНЕЦЬ |
| guba | РУЖЬЯ В КОЗЛАХ | СТРЭЛЬБАВЫЯ КАЗЛЫ |
| gulom | ЛЕЖА | ЛЕЖАЧЫ |
| gurguolė | ОБОЗ | АБОЗ |
| gylys | ЖАЛО | ДЖГАЛА |
| gynimas | ЗАЩИТА | АБАРОНА |

******************************************************************

**ПАЧТОВАЯ СКРЫНКА**

С. — Часопісь пасылаемо заказнымі бандэролямі, як атрымаеце — напішыце.

ЦЁМНАМУ. — Крытыкаваць лягчэй чымсь пісаць. Цікава, што Вы беларускую мову (літэрацкую) лічыце за “польскую”. Пакіньце, паночку, так як Вы пішаце — дык гэта не пабеларуску, але памаскоўску з “асобнасьцямі” маскоўскай мовы, аджа літар: ѣ, и і г. д. Больш лепш чытайце нашых кніг, тады мусяць адчыніцца вашыя духоўныя вочы. Будзьце ж, нарэшці, беларусам, але ня “тоже-бѣлоруссомъ”.

Аддзелу Друку М-ва Жыдоўскіх спраў. Пасылаем па 1 экз. з гэтага Nr-у.

МІХАЛУ. — Дзякуй за артыкулы і малюнкі, пайдуць у 6 Nr-у.

ЛЯСУНУ. — Вершы захавалі да зімы для... апалу. Больш трэба чытаць. Карыстайцеся слоўнікамі М. і Г. Гарэцкіх.




Вайскова-Навуковы Аддзел Міністэрства Абароны Краю — выдавец.

Маёр Ружанцаў, сп[аўняючы] аб[авязкі] рэдактара.

(Працяг у наступным нумары)

# “25 САКАВІКА” — ВЫДАНЬНЕ МАЛАДЫХ БЕЛАРУСКІХ ПАТРЫЁТАЎ

Гісторыя беларускага нацыянальнага маладзёжнага руху ў міжваеннай Заходняй Беларусі дагэтуль маладасьледаваная. А




дзейнасьць некаторых палітычных групаў зусім заставалася па-за ўвагай гісторыкаў. “БР” ужо распавядаў пра спробу стварэньня ў Вільні ў пачатку 1939 году канспірацыйнага “**Саюзу Актыўнай Барацьбы**”.* Але яшчэ да яго сярод беларускіх студэнтаў у Вільні зьявілася група “маладых адраджэнцаў”. Яны выдавалі часопіс “**25 Сакавіка**” (у 1936-1939 гг.), на яго старонках заклікалі да аб’яднаньня нацыянальныя сілы, фармавалі новую ідэалёгію, адначасова выступалі супраць фашызму і камунізму.** У гэтай кніжцы “БР” мы перадрукоўваем першы нумар “25 Сакавіка”.

**Ёрш С. “Саюз актыўнай барацьбы” — папярэднік Беларускай Незалежніцкай Партыі? // Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 2 (13), б. 22-25.*

***Больш падрабязна гл.: Ёрш С. Маладыя адраджэнцы з “25 Сакавіка” // Arche, 10/02/2014; http://www.arche.by/by/page/science/17355 ; Пагарэлы А. “За новы тып беларуса”: часопіс “25 сакавіка” (1936 — 1939 гг.) на фоне эпохі // Архэ, 2014, № 7-8(128-129), ліпень-жнівень, б. 120-194.*

# 25 САКАВІКА

Часапіс Беларускіх Студэнтаў

**1936 г., № 1, лістапад.**

## Ад рэдакцыі і беларускага студэнцтва

Распачынаючы новы школьны* год, беларускае студэнцтва рашыла адначасна пачаць актыўную працу на ніве свае Бацькаўшчыны. З поглядам у сьвятыя ідэалы нядалёкае мінуўшчыны

25 сакавіка, хоча верна служыць свайму Народу. 25 сакавік, як сынтэза ўсіх натугаў Народу, астаўся пуцяводнай зоркай найлепшых сыноў Айчыны. Абнімаючы вялікую спадчыну старэйшага грамадзянства, якое ня шчадзіла ахвяр для справы адраджэньня, беларускае студэнцтва падымае вышэй народны белчырвонабелы сьцяг, кідае лозунг консолідацыі усіх беларускіх сіл да змаганьня за свае правы і народную чэсьць.

**Маецца на ўвазе навучальны год. — БР.*

Але побач адраджэнскае думкі, гуртуючай у беларускім Народзе, побач змаганьня за сваю Бацькаўшчыну, сілы Народу выкарысталі нашыя ворагі да чужога нам змаганьня за чужацкія нам інтэрэсы. Вялікі рэзэрвуар потэнцыяльнае сілы Народу знаходзіцца пад гіпнозаю комуністычнага Усходу і фашыстаўскага Захаду.

Заданьнем беларускага студэнцтва будзе вырваць і выкінуць проч быльлё падшэптаў чырвонае і чорнае інтрыгі з нутра Беларускага Народу, адкінуць усякую гніль нявольніцкае псыхозы і ўзгадаваць **новы тып беларуса, які сам сваімі сіламі збудуе Беларусь**.

Проціўдзеючы марксоўскай і фашыстоўскай ідэолёгіі, як чужацкім і варожым концэпцыям імпэрыялізму, беларускае студэнцтва прызнае за прынцып свайго дзеяньня хрысьціянскую ідэолёгію поўнае дэмократыі, у якой няма слабых і сільных, перамагаючых і пераможаных, багатых і бедных, але ёсьць Беларус роўны і вольны.

Выдаючы новы часапіс, беларускае студэнцтва, краса, надзея і будучыня беларускае нацыі, мае на мэце згуртаваць новыя кадры маладых, поўных энтузіязму і нацыянальна сілы павадыроў свайго Народу, што з самаахвярнасьцю ды ўпорам у імя роднага Беларускага Народу аддадуць усе свае маладыя сілы на аўтар Бацькаўшчыны за Яе лепшую будучыню.

“25 Сакавік”, як орган гэнага студэнцтва, на сваіх старонках будзе крысталізаваць імкненьне беларускае адраджэнскае думкі ў галіне культуры, навукі, мастац-



Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

25 Сакавіка

Časapis Biełaruskich Studentaŭ.

№ 1. LISTAPAD. 1936 h.

Ad redakcyi i biełaruskaha studenctva.

Razpačynajučy novy školny hod, biełaruskaje studenctva rašyła adnačasna pačać aktyŭnuju pracu na nivie svaje Baćkaŭščyny. Z pohladam ŭ śviatyja ideały niadalokaje minuŭščyny 25 sakavika, choča vierna słužyć svajmu Narodu. 25 sakavik, jak synteza usich natuhaŭ Narodu, astaŭsia puciavodnaj zorkaj najlepšych synoŭ Ajčyny. Abnimajučy vialikuju spadčynu starejšaha hramadzianstva, jakoje nia ščadziła achviar dla spravy adradžeńnia, biełaruskaje studenctva padymaje vyžej narodny biełčyrvonabieły ściah, kidaje lozunh konsolidacyi usich biełaruskich sił da zmahańnia za svaje pravy i narodnuju česć.

Ale pobač adradženskaje dumki, nurtujučaj u biełaruskim Narodzie, pobač zmahańnia za svaju Baćkaŭščynu, siły Narodu vykarystali našyja vorahi da čužoha nam zmahańnia za čužackija nam interesy. Vialiki rezervuar potencyjalnaje siły Narodu znachodzicca pad hipnozaju komunistyčnahu Uschodu i fašystaŭskaha Zachadu.

Zadańniem biełaruskaha studenctva budzie vyrvać i vykinuć proč byllo padšeptaŭ čyrvonaje i čornaje intryhi z nutra Biełaruskaha Narodu, adkinuć usiakuju hnil niavolnickaje psychozy i uzhadavać **novy typ biełarusa, jaki sam swaimi siłami zbuduje Biełaruś.**

Prociŭdziejučy marksoŭskaj i fašystoŭskaj ideolohii, jak čužackim i varožym koncepcyjam imperyjalizmu, biełaruskaje studenctva, pryznaje za pryncyp svajho dziejańnia

тва, будзе сынтэзаю маладога беларускага пакаленьня.

Да цяжкае, але ўдзячнае працы на полі нацыянальна-адраджэнскім, на полі культурным заклікаем увесь студэнцкі маладняк. Ut omnes unum sint.*

**Гэта ўсё можа быць (лат.). — БР.*

**З нагоды пачатку акадэмічнага году!**

Надышоў новы акадэмічны год. З прычынаў нам усім добра ведамых ня шматлікае колькасна беларускае студэнцтва вярнулася з пад саломяных стрэхаў, з прывольных родных гоняў у Вільню — каб з новай энэргіяй, з бадзёрасьцю, з добраю вераю ў лепшую будучыню чэрпаць з крыніцы навукі штораз то новыя яе здабычы.

Разпачынаем крапатлівую, будзённа-шэрую працу над пашыраньнем свайго інтэлектуальнага кругавіду, над папаўняньнем здабыткаў у галіне навукі з папярэдніх гадоў. Гэта ёсьць наш абавязак перад самым сабой.

Ці толькі гэтым аднак павінна выпаўніцца сфэра зацікаўленьня кожнага слухача Almae Matris наагул, а студэнта беларуса перадусім? Ці толькі выклады і практычныя заняткі павінны заабсарбаваць ягоную ўвагу і здольнасьці, быць цэнтральнай восяй яго заінтэрасаваньня? З цэлай поўнасьцю магу твердзіць што не! Гэтага станоўча замала ад студэнта беларуса ў параўнаньні да абавязкаў, якія на яго накладае само жыцьцё!

На кожным беларускім студэнце спачывае вялікі, а адначасна і прыемны абавязак ахвяраваньня сябе, сваёй веды і здольнасьцяў беларускім сялянскім гушчам, з якімі кожны з нас так цесна зьвязаны, крывёю і потам якіх маем магчымасьць у часы цяжкага нацыянальнага і соцыяльнага пакрыўджаньня здабываць так цэннае аружжа, якім ёсьць веда ў барацьбе за свае і свайго Народу правы.

Кожны сумленны шчыры беларус з таго часу, калі пераступіць муры унівэрсытэту, павінен усьведаміць сабе факт моральнае адказнасьці перад сваім Народам, перад Бацькаўшчынай за назоў інтэлігэнта, за тое, што рэпрэзэнтуе яго ў вачах іншых папрыяцельску ці а “priori”* варожа настаўленых да нас суседзяў.

**Ад пачатку.*

Мусім вывезацца з гэтага паважнага заданьня бяз закіду, з пачуцьцем тае важнае адказнасьці, якую ўзялося на сябе з хвілінай упісаньня свайго прозьвішча ў унівэрсытэцкі альбом.

Толькі выканаўшы гэта ў адносінах да свайго Народу зможам кожнаму сьмела глянуць у вочы — быць у парадку перад сваім уласным сумленьнем. А гэтага патрапім даканаць толькі тады, калі не парвём праз вонкавую зьмену штодзеннага жыцьця цеснай, прыроднай сувязі з народнымі масамі — а наадварот будзем гэтую сувязь штораз то больш і больш зацесьніваць.

Калі патрапім даць ім ідэолёгію ў поўнасьці адказываючую дабру нацыі і цяперашнім вымогам часу, калі-што найважнейшае, духова не памром, не згубім нацыянальнага аблічча — а будзем узмацняцца, пашыраць нацыянальную сьведамасьць, падымаць нацыянальную гордасьць у сябе і тварыць яе ў сваіх братох.

Трэ' выкінуць закаранелую з прычынаў анормальных варункаў жыцьця на працягу цэлае гісторыі нашага Народу, створаную і пашыраную праз нашых ворагаў псыхозу нейкае ніжшасьці — фактычна псэўдоніжшчасьці!

Бо і сапраўды ці Народ, які на працягу цэлых стагодзьдзяў столькі перайшоў розных пэрыпэтыяў і паміма тасаваньня ўсіх магчымых пад сонцам мэтадаў моральнага і фізычнага нішчэньня ня загінуў — а наадварот паўстаў, заявіў перад усім сьветам актам 25 сакавіка 1918 году, што ён жыве — можа быць, горшым ад іншых?

Ці Народ, які даў чалавецтву Скарыну, слаўны беларускі статут (літоўскі), Купалу, Коласа і цэлую плеяду іншых выдатных людзей можа быць ніжэйшым ад іншых? Адказ ясны і просты, што не!

У сувязі з гэтым усе беларусы наагул — а студэнты передусім павінны быць гордымі з таго, што прыродна належаць да Беларускае Сям'і, што рэпрэзэнтуюць Яе перад студэнцтвам іншых народаў. Студэнты беларусы павінны далажыць усе сілы да таго, каб беларускі Народ з агідаю адкінуў прыгонную спадчыну, каб у будучыні ня паўтараліся тыя ці іншыя яе праявы.

Калі гэта студэнты ўсьведамяць сабе добра і будуць праводзіць у жыцьцё, тады Беларус "ня будзе прасіцца ў сваёй уласнай хаце ў куточку пераначаваць" — (Калосьсе № 4 1936).

Трэба ведаць, што не *расы Гугсы** ці іншыя здраднікі кіруюць жыцьцём, маюць давер у сваіх і пашану чужых! — Не!

**Раса Гугс — эфіопскі князь, які ў 1930-х падтрымаў італьянскіх агрэсараў. — БР.*

Жыцьцё пераходзіць над імі да парадку дня, свае ненавідзяць, чужыя пагарджаюць — сумленьне загрызае і адзіным выхадам астаецца ім пайсьці сьледам першага Юды. <u>На такі шлях кожны беларускі студэнт павінен глядзець з агідаю, хаця б у пэрспэктыве быў лёгкі хлеб і іншыя артыкулы цяперашняга жыцьця.</u>

Не прорагатыва лёгкага хлеба, не аказыя цёплага месца ў моцных цяперашняга сьвету, павінны быць фактарам жыцьця студэнта Беларуса.

Дабро нацыі, культурнае і нацыянальнае яе паднясеньне, палепшаньне матэр'яльнага быту — вось дэвізы ў праводжэньні якіх у жыцьцё павінны праходзіць маладыя гады кожнага Беларуса слухача У. С. Б.

Прабываючы на студыях мусім прырыхтавацца да конкрэтнае народна-грамадзкае працы, да працы над палепшаньнем долі нашага Народу. Каб гэтую працу належна выканаць, павінны самі вырабляцца пад грамадзкім поглядам.

А дзе лепш можам вырабіцца пад гэтым поглядам, здысцыплінавацца — набраць рутыны — калі не ў арганізацыях і то арганізацыях сваіх, беларускіх.

Не эндэцкія, не санацыйныя "мысьлі моцарствовэ"* з аднаго [боку], "Легіёну маладых" з другога боку, не "Саюз Польскай Дэмакратычнай Моладзі" і "Саюз "Незалежнай Сацыялістычнай Моладзі", кідаючыя сумныя псэўдобратнія клічы — а ў сутнасьці справы, б'ючыя на асыміляцыю, на пашыраньне польшчыны на г. званых "Крэсах Усходніх" — павінны зьяўляцца полям працы для беларускага студэнцтва, а толькі цьвёрда абапёртая на грунце нацыянальным, зьвязаная са сваім Народам, свая ўласная арганізацыя, павінна злучыць нас усіх у адну вялікую сям'ю для працы над сабой і для дабра Бацькаўшчыны.

*Імпэрыялістычныя думкі.*

**Ш**.

**За новы тып Беларуса**

"Народ позбаўляны традыцыі, адданы на ласку расейскага прыстава і земскага начальніка, суседзтва ўсемагутнага польскага памешчыка, безнадзейная пустата і цемната навокала "казённая вінная лавка" і час ад часу праваслаўныя "крестные ходы" і каталіцкія працэсіі — гэта фон беларускі — піша Бужанскі ў № 4 "Калосься". Так, трэба прызнаць, што шмат ёсьць тут рацыі. Пачатак беларускага адраджэньня фармаваўся ў асаблівых варунках залежнасьці і закулісовасьці.

Цяжкія абставіны чужацкіх і варожых дзейнікаў стараліся затушаваць культ нашае слаўнае мінуўшчыны. Шматлікія гады нявolі нашага Народу одбілі сваё клеймо на ягонай душы, прывучылі насіць цяжкое ярмо нявольніка бяз большае тугі да сонца свабоды.

Пераможныя абставіны царскага рэжыму, прыгон панскае політыкі ўзгадавалі спэцыфічную псыхіку Беларуса: сэрвілізм і духоваю мляўкасьць. Адсутнасьць вышэйшых уздымаў да волі і свабоды давялі ў пэўнай меры да пэсымізму і бязверра. Места нацыянальнае амбіцыі і народнае чэсьці займае прыземнае поўзаньне шматлікіх адзінак нашага Народу. Паўстае ў іх крызыс нацыянальнае і палітычнае думкі. Многія Беларусы знайшліся ўжо на бяздарожжы між дзьвяма дыямэтральна проціўлежнымі "праўдамі", дзьвяма концэпцыямі і ня ведаюць, што рабіць. Згубілі яны вялікі ідэал, згубілі сваё нацыянальнае беларускае "я", а ўбачыўшы чужых багоў, пакланіліся ім.

Дзеля гэтага стаіць перад намі справа зарганізаваньня гэтага хаосу, у якім жывём, стварэньня новага ладу, у каторым усе сілы Беларускага Народу маглі б скрысталізавацца ня ўходзячы з сабою ў канфлікт і проціўдзейнасьць да аднэй вялікае справы адраджэньня. Справа гэта першараднае вагі і меры... Стаўляць нам прыдзецца апор цяжкім перашкодам у імя вялікіх ідэалаў, шмат натужыць сіл і энэргіі, каб выкараніць усю брыду нявольніцкага ўзгадаваньня і матэрыялістычнага бязвер[р]а. Народ ужо ў сваей аграмаднай часцы, у гістарычным паходзе, дайшоў да гэткага стану, у каторым мучыцца, цярпіць, у каторым жыць ня можа даўжэй — існуючая ў ім вялікая потэнцыяльная сіла чакае на лозунг бязадкладнае перабудовы... **Сілы гэныя трэ' разбудзіць, узмацаваць, сарганізаваць і даць ім разгон і кірунак.**

Заданьне гэтае ляжыць перад беларускім студэнцтвам.

Але беларускае студэнцтва, імкнучыся да вялікага чыну ўзгадаваньня свайго Народу, павінна пачаць ад самога сябе. "Sauton Gnothi" — "nose te ipsum"* гаварылі старыя Грэкі і Рымляне. Пазнай сябе, сваю вартасьць і адказнасьць перад Народам, пазнай шлях і сродкі, якімі падыдзяш да ягонае душы як змагар, а ня здраднік. Вось першая перабудова старое будыніны хістаючагася матэрыялізму, першая фаза поступу да зьдзейсьненьня ідэалу 25 сакавіка.

**Спазнай самога сябе.*

Ёсьць у псыхіцы чалавека нутраныя, божыя, "сьвятыя іскры" — часта прыгашаныя і закрытыя, тлеюць аднак у кожнай чалавечай істоце — іх можна знайсьці, разкрасаць і разпаліць. Банкрутуе матэрыялістычная веда, а вонкавым знакам гэтага зьяўляюцца нутраныя і міжнародныя падзеі. Сучасная пэдагогіка і іншыя галіны веды пераходзяць у нашых часах важныя зьмены, шукаюць новых дарог і спосабаў да ўзгадаваньня лепшага чалавека, каторы пératворыць суадносіны чалавека да чалавека і групы да групы і падмацуе грунт лепшае будучыні. Але ці ж гэта магчыма ў часы

маральнага заняпаду моністычнае думкі*, спадаючай па пахілай плошчы сучаснай дэкадэнцыі?

**Манізм — філасофскае вучэньне, паводле якога віды быцьця, якія падаюцца рознымі, у выніку зводзяцца да адзініга пачатку. — БР.*

Так, гэта ня суд, калі чалавек абапрэцца на моцнай моральнай базе хрысьціянскага сьветапагляду, з каторага дэдукцыйна выснуе прынцыпы свайго штодзеннага дзеяньня. Так як абапёршыся на эмпірызьме і сціслай навуцы пазнаў ды акелзаў* бязмежныя сілы віхроў і кіпячую ваду ракі упрог у машыны сваіх інтэрэсаў — спэктральная аналіза адсланіла яму тайніцу зорак, прамяні Рэнтгена** — нутро фізычных цел, падобна абапёршыся на базе хрысьціянскае ідэолёгіі Беларусь зможа паставіць будынак свайго асабістага і нацыянальнага індывідуалізму, пазнаць сваю істотную вартасьць і сваю народную годнасьць.

**Авалодаў. — БР.*

***Вільгельм Конрад Рэнтген (1845 — 1923) — знакаміты нямецкі фізік, вынаходнік прамянёў, названых у яго гонар, ляўрэат Нобелеўскай прэміі. — БР.*

Пануючы матэрыялізм давёў ужо людзей да згубы і бойні. Ці ж далей будзем сябе разбураць, абапёршыся на ягоныя згубныя прынцыпы? Індывідуальны і нацыянальны заняпад чакаюць неадкладна на направу. Радыкальная направа беларускага жыцьця павінна пачацца ад самога карня і абняць поўнае рамы яго дзеяньня. Беларуская сучаснасьць — гэта бязупыннае змаганьне з усімі выпладамі матэрыялізму і марксоўскага монізму, гэта змаганьне духа і матэрыі, гэта кузьня беларускае будучыні. І як у полымі агня чысьціцца ўсякі шляхотны мэтал, так у народным змаганьні павінен ачысьціцца дух Народу ад усякае ілжы сучаснага матэрыялізму.

Да гэнага змаганьня паўстае **Новы тып Беларуса** вольны ад сэрвілізму і нацыянальнае дэкадэнцыі, загледжаны ў сьвятыя ідэалы 25 сакавіка. Гэты новы тып беларуса будзем гадаваць у сваіх сэрцах і тварыць яго ў аграмадных гушчах Народу.

**М. П.**

## ВОЛЬНАЯ ТРЫБУНА

**Савецкае опіум-стаханаўшчына**

У № 6 “Беларускага Фронту” быў зьмешчаны артыкул п[ад] загал[оўкам] “Стаханаўшчына” з нагоды гадаўшчыны гэнага руху. Артыкул гэты выклікаў на студэнцкім грунце гарачую дыскусію. Між

іншым некатарыя са студэнтаў закідалі, што памянёны артыкул ёсьць аднабокі, суб'ектыўны і тэндэнцыйны, што стаханаўшчына — гэта рух адольны, іманэнтны*, незалежны ад загадаў адміністрацыйнае ўлады. Дзеля вялікага заінтэрасаваньня гэтай вельмі актуальнай праблемаю хацеў бы крытычна кінуць некалькі сказаў у шырэйшым маштабе, каб успакоіць узбураныя "інтэлекты".

**Той, які знаходзіцца ўнутры (лат.).*

Кінуўшы лёзунг сусьветнае рэвалюцыі бальшавікі з лагеру Троцкага, усімі сіламі імкнуліся да рэвалюцыйнага "*всеобщего*" пажару.

На гэткую "імпрэзу" шмат трэ' было натужыцца расейскаму народу, перайсьці ўсю гэгэнну перамены старога ладу, шмат трэба было ахвяр у людзях і народным багацьці. Але на ўсё ёсьць спосаб. Здэмаралізованаму, аслаблянаму і зьніштожанаму работніку кідаецца новы кліч: **усіленая барацьба за новы бязклясавы лад за народнае совецкае будаўніцтва ў працягу пяці гадоў.** Творыцца слаўная пяцілетка. Усе сілы ўпрэжаны да аднэй вялікае машыны 150 мільённага народу працавалі крывава пад загад чырвонага дыктатара "прэмудрага" Сталіна.

"Пяцілеткі мелі быць дражджамі, на каторых разчын хаотычнае рэвалюцыі меў вырасьці на хлеб сапраўднае рэвалюцыі па форме і зьмесьце бязклясовага грамадзянства".

Але "прэмудрый" спосаб не асягнуў свае мэты. Голад работніка ёсьць гэткі сам[ы] і ў капіталістычным страі, як і ў камуністычным. Можа толькі быць ахвярнасьць пасунена да энтуз'язму, гледзячы на аканчальную мэту, можа толькі няўстрыманая воля паддзержываць ад зьніштажэньня цела, але ніколі вышэйшы загад. Раздуваны камуністычнай прэсай сярод работнікаў энтуз'язм, "геройскія" прыклады працы ўдарнікаў трывалі вельмі коратка — тэмпа* веры ў вызвольную перамогу пяцілеткі з путаў буржуазнага строю як мэтаду прыбліжаючага соцыяльнага ідэалу — памалу гасла.

**Час (лат.). — БР.*

Трэба тады было **новага опіум, магутнейшае дозы наркотыку, каб вынішчанага работніка ўзбудзіць да новае эксплёатацыі.** Ударнік гэта быў найчасьцей студэнт, сябра комсамолу, які сапраўды з самаахвярасьцю кідаўся ў кіпячы вір жыцьця, каб прыкладам сваім пацягнуць рабочыя масы. Гэта быў свайго роду "Sturm und Drang"* новага твору, новага будаўніцтва.

**Бура і націск (ням.). — БР.*

Ударніцтва ня палепшыла эканамічнага дабрабыту пролетар'яту, а наадварот вяло да аканчальнага злому. Ня давала также яшчэ

максымальных магчымасьцяў прадукцыі савецкага работніка.

Перасталі тады насылаць на раёны — дзеля здопінгаваньня ў прадукцыі — лётныя батальёны ўдарнікаў, гэта ўжо ня мела скутку, выдумалі іншы, больш інтэнсыўны спосаб: эксплёатацыю чалавечых мускалаў праз вышэйшую стаўку, нагароду і тытул стаханаўца.

Пачаткавым пунктам гэнага руху быў чын шахцёра вуглякопа Аляксея Стаханава ў Данецкім басэйне, які дня 31 жніўня а 23-й гадзіне вечара апусьціўся ў нутро капальні і дзякуючы надчалавечай натузе выламаў да гадзіны 5-й раніцы наступнага дня 102 тоны вугля. Гэта дало пачатак новым рэкордам. Шахцёр Акінаў у “заводзе” “Кэталенск” у працягу аднэй зьмены дастаў 110 тон жалезнае руды. Вуглякоп Баріссаў у Кузьніцку выламаў за 6 гадзін працы 990 тон вугля!

Сяньня савецкая прэса і савецкае радыё хваліцца, што няма ў С. С. С. Р. ніводнага работніка, каторы б ня збольшыў у трое прадуктыўнасьці свае працы; падаюць нат прыклады “цудаў” работніцкае эксплёатацыі ў працягу аднэй зьмены і цэлага дня. Плата за так гаротную працу паднесяна такжа з 200-300 да 600-800 рублёў. І тут ляжыць **primus motor*** усілянае эксплёатацыі рабочых рук: вышэйшая стаўка платы, новае паліто, нікелёванае ложка і назоў стаханаўскага ўдарніка.

**Першасны рухавік (лат.). — БР.*

Савецкія арыстократы, баронячы стаханаўшчыны, паклікаюцца на спонтанічнасьць гэнага руху, не прымушанай волі работніка адміністрацыйным настаўнікам!

Але і ў капіталістычнай дзяржаве ня сьвішча бізун над галавамі працуючага пролетар’яту, **а замаскаваны, эксплёатацыйны дзейнік абапёрты на псыхіцы чалавека, ссе з яго апошнюю спрацаваную кроў.** Падобную мэту маем у пастановах маладога комсамолу. Зацемім тут за францускай газэтай “Lu” важнейшыя пункты гэных пастановаў.

“Рух стаханаўцаў ёсьць рухам работнікаў і работніц, каторы стаўляе сабе за мэту перайсьці сучасныя тэхнічныя нормы, перайсьці прадбачваньне выдайнасьці “заводаў” перусьцігнуць цяпер прадбачаныя пляны прадукцыі”.

“Трэба, каб інтэнсыўнасьць працы і яе эксплёатацыя ў нас выперадзіла найбольш перадавыя капіталістычныя дзяржавы”.

Вось падставовыя і баявыя заданьні савецкае буржуазіі. Спосабы і мэтады заўсёды знойдуцца.

Пролетар’ят савецкі быў змучаны ўсіляным рытмам пяцілеткі

ня толькі псыхічна, але і матэрыяльна. Сталінаўскі кліч падвыжкі платы побач тытулаў і гонараў у “стен газетке”, нягледзячы на меру фізычнае натугі захапіў замучаныя масы. Міраж поўнага жалудка падняў энтуз’язм падаючых масава ўдарнікаў і заэлектрызаваў лепшаю будучыню.

Самыя саветы да гэтага прызнаюцца. **“Стаханаўшчына была прадусім радыкальнай паправай матэрыяльнае сытуацыі работніка”.**

Гэта “радыкальная” паправа жыцьця і ёсьць **леітмотівам** “геройскае” працы на карысьць дзяржаўнага капіталу. Тут і корань стаханаўскага руху.

Ці ж гэта сапраўды штосьці новае? Ці рожніцца гэнае эксплёатацыя савецкага работніка ад тайлёрызму* найбуйнейшага капіталістычнага краю? Але ж гэта ўсё ведама ў найбольш лібэральную пару 19-га стагодзьдзя. Энтуз’язм для рэкордаў, культ цыфраў — **гэта матыў найбуйнейшага капіталізму.** Форд імпануючага што мінуту пушчаў у сьвет аўтамабіль, ня гледзячы на калецтвы работнікаў і выністажэньне чалавечых сіл. Таксама хваляцца і саветы, калі сталінградзкая фабрыка трактараў “Дзержынскі” выпушчае што 2 ½ мін. адзін трактар. Далажыць трэба, што стаханаўшчына ёсьць яшчэ вышэйшай катэгорыяй тайлёрызму.

**Тэйларызм — адна з тэорый упраўленьня, мэтай якой было павышэньне эканамічнай эфектыўнасьці працы. Яе заснавальнік — амэрыканец Фрэдэрык Уінслоў Тэйлар (1856 — 1915). — БР.*

<u>Спонтанічны стаханаўскі рух ёсьць выкарыстаны як мэтад эксплёатацыі савецкага работніка да новага капіталістычнага будаўніцтва на ўсёй тэрыторыі СССР.</u> Нагонка маральнага, а нат’ фізычнага (праціўнік стаханаўскага мэтаду выкідаецца на брук бязрабоцьця) да найбольшае натугі работніка, асалоджаная формай вышэйшае стаўкі, **гэта капіталістычная** форма выдушваньня апошніх сіл і магчымасьцяў работніка ня гледзячы на вялікую крыўду ністожанага работніка, <u>гэта праблема, з якой пачаў змагацца соцыялізм.</u>

<u>Супэракорд стаханаўшчыны, як выплад матэр’ялістычнага, бяздушнага капіталізму, ёсьць найчарнейшай рэакцыяй для рабочае клясы.</u>

Супэракорд працы і падвыжка платы — гэта паглыбляньне клясавае няроўнасьці і ненавісьці, пачатак новае барацьбы з чырвонай буржуазіяй. Ясная рэч, што ўзровень жыцьця чырвонага камісара, стаханаўскага ўдарніка і апошняга работніка ёсьць гэткі сам[ы], як у капіталістычнай дзяржаве між дырэктарам, фабрыкантам і

чорнарабочым, каторы ёсьць праз двух першых няміласэрна эксплёатаваны. Няроўнасьць даходаў, няроўнасьць ступені жыцьця нават паводле Маркса прычыняецца да клясавай барацьбы і да яе паўстаньня.

Савецкая думка, абапёрта на перасланках дыялектычнага матэр'ялізму, у тэй ці іншай форме вядзе ў практыцы да негацыі поўнага чалавечага жыцьця, да негацыі соцыяльнае справедлівасьці і роўнасьці — творачы дасель нязнаную гіперкапіталістычную дзяржаву.

**ВАЦЛАЎ ПАПУЦЭВІЧ**

**Пісьмо ў рэдакцыю**

Усе мы, беларусы, чакаем з няцерплівасьцю часапісу акадаміцкага, аб каторым ужо выразна чуваць, што мае выйсьці: у нас на віленскім беларускім грунце нічога не ўкрыецца, што хто думае рабіць. Таксама ходзяць чутк[і], што гэты часапіс мае апірацца на хрысціянскім светапаглядзе і групаваць каля сябе аднадумцаў як гэта ёсьць у іншых народаў. Даведаўшыся аб гэтым, я шчыра ўсьцешыўся, што гэта ўжо робіцца, аб гэтым, ня раз я, а не толькі я, але многа хто думаў у сэрцы сваім, а таму да закладчыкаў гэтага часапісу пішу тут некалькі слоў пад развагу.

Прадусім зварочываю ўвагу на адозву Стасілы, дзе гаворыцца:

"Калі-ж быў абвешчаны акт незалежнасьці Беларусі?! У дзень Зьвеставаньня — Благавешчаньня засьвяціла сонца незалежнасьці над Беларус[ьс]ю: у гэты дзень 25 сакавіка абвешчана была Вольная і Незалежная Беларусь.

Як у дзень Зьвеставаньня злучыўся непадзельна Бог з натурай чалавечай у Хрысьце, так у гэты дзень 25 сакавіка Ідэал Незалежнасьці непадзельна злучыўся з беларускім народам.

Правід Божы праз гэта нам паказаў, што толькі тады наш народ зьдзейсьніць свой ідэал — 25 сакавіка, калі пойдзе дарогай Хрыстовай. Як Хрыстос перамог сваіх ворагаў праз самаахвяру іваскрос да шчасьлівага вечнага жыцьця, так і наш народ неўхільна і самаахвярна апіраючыся на падвалінах констытуцыі Хрыста — праўды, любові і справядлівасьці пераможа сваіх ворагаў і васкросьне да шчасьлівай будучыні.

Ідэя хрысьціянская злучыўшыся з ідэяй незалежніцка-народнай, так як злучана душа з целам, так як злучана ў Хрысьце боства з чалавекам, ёсьць вуглавым каменям цэлай будовы нашай незалежнай Бацькаўшчыны. Жыцьцё нам паказывае, што ворагамі

нашай Незалежнасьці, уяўленай у дзень 25 сакавіка, ёсьць якраз ворагі Хрыста: хто ёсьць ворагам Хрыста, той становіцца ў рады ворагаў незалежнай Беларусі. Ці-ж ня ворагі Хрыста не пазволілі і цяпер не пазваляюць паўстаць Беларусі?! Хрыстос бароніць нагай незалежнасьці: праўдзівы хрысьціянін, якой-бы не быў народнасьці, ня будзе прасьледаваць і вынарадаўліваць* нас. Хрыстос кажа нам самым любіць свой народ і не выракацца яго, а хто-бы выракся свайго народу, быў-бы ня варт Хрыста, ня быў-бы сапраўдным хрысьціянінам, бо і Хрыстос любіў свой народ".

**Верагодна, маецца на ўвазе "пазбаўляць дзяржаўнасьці".*

У гэтых словах выразна высказана ідэолёгія беларуса патрыёта і хрысьціяніна.

Хацеў бы таксама пры гэтай нагодзе звярнуць увагу на мэтады працы гэтай групы студэнтаў.

Сапраўднае стопрацэнтнае хрысьціянства мае [с]толькі хараства, што кожны шляхотны чалавек, а прадусім малады ня можа яго не прыняць, трэба толькі гэта хараство, практычнасьць і неабходнасьць хрысціянскага светапагляду ў жыцьці ці асабістым, ці грамадзкім, паказаць у цэлай поўнаце. Паводле мяне гэты часопіс павінен сваю ідэолёгію высказываць пазытыўна бяз нападак на кагоколечы, а нават да сваіх праціўнікаў падыходзіць з любоўю і беларускаю спагадлівасьцю. І так многа маем грызьні, трэба ўрэшце ачысьціць атмасфэру беларускага жыцьця, тым больш, што як чуў, гэта група студэнтаў мае праводзіць адраджэньне не толькі нацыянальнае, але і маральна-духовае, апіраючыся на праўдзе, любові і справядлівасьці хрысьціянскай і імкнецца да стварэньня новага тыпу беларуса гордага самым сабою і сваею нацыею. Гэта вельмі патрэбна для нас, Народ наш прайшоў многа зьдзеку і паняверкі, і гэта ад'емна адбілася на ягонай псыхіцы. Нам хацелі угаварыць, што мы нічога не вартыя, а так ня ёсьць, мы народ здольны і вытрывалы, выдалі многа вялікіх людзей для сваіх суседзяў. Прыйшоў ужо час працаваць і для самых сябе.

Належна ацаніў наш гэніяльны Адам Міцкевіч, кажучы, што беларускі народ найвыжай стаіць духова між усіх славянскіх народаў (глядзі J. Kallenbach, Tovjanizm na tle historycznem, Kraków, 1936 r. str. 87).

Вось толькі пакуль што — жадаю посьпеху ў вашай вялікай справе.

**С. К.**

### За поўнае адраджэньне — алкаголь наш вораг

Узяўся раз чорт, чытаем у народнае прыказцы, за беднага ся-

ляніна, каб яго да граху нагаварыць. Дык прыйшоў адзін раз да яго і гаворыць: чакая сябе бліская сьмерць. Але дарую жыцьцё, калі зробіш адну з трох рэчаў: або заб'еш бацьку, або зняславіш сястру, або будзеш піць водку. Бяз астаноўкі адкінуў сялянін дзьве першыя прапазыкі — пачаў піць водку дый дзіваваўся толькі, што так лёгка змог ад сьмерці выкупіцца. Дык піў "наўдалую".

Занядоўга аднак упіўшыся зрабіў і дзьве першыя: забіў бацьку і зняславіў сястру.

Што ж такое алкаголь, інакш спіртовы напітак, так разпаўсюджаны сярод людзей? Алкаголь, у разведзянай форме водка, піва, віно — гэта звычайны наркотык, як кокаіна, морфіна, простакажучы — атрута. Чалавек вытварыў і тасаваў алкагольныя напіткі ў далёкае мінуўшчыне свае гісторыі, успомнім толькі, што ўжо зналі Эгіпцыяны на 2000 лет прад Хрыстом, а ў старым тэстамэнце добра ведамы ёсьць факт п'янага Ноя.

Праз даўгі час алкаголь ня быў даступны ў чыстай форме для шырэйшага грамадзянства. Калі аднак паўстаў спосаб прадукцыі водкі з жыта і іншых спажыўчых артыкулаў — алкагалізацыя хутка пачала шырыцца ўва[ў]сім сьвеце.

Ад гэтага часу людзі выцягнулі рукі да свайго найстрашнейшага, але скрытага ворага. І ніякая вайна і памор больш ня выгубілі людзей як гэны "вясельнік сумных і гаротных". Статыстыка падае, што ў расейска-японскай вайне 1905 г. згінула 113.000 расейцаў і 85.000 японцаў, водка ў тым жа часе адабрала жыцьцё 500.000 людзям.

Аблічаюць далей, што ў сусьветнай вайне 1914 г. ад 1 жніўня да 11 лістапада 1918 г. згінула 12,996,571 чалавек, гэта знача на дзень гінула больш чым 8 тысяч людзей.

Аднак усё гэта ёсьць малалічнае, як даказываюць вучоныя, у параўнаньні да страт, якія зрабіў і робіць алкаголь адзінкам, сем'ям і народам.

А людзі п'юць. П'юць старыя і моладзь, мужчыны і жанчыны, а йшчэ горш — п'юць дзеці. Статыстыка даказвае, што ў пачаткавых школах 60 прац[энтаў] дзяцей піло водку. Здарваліся і гэткія факты, што дзеці ў школу прыходзілі п'яныя, а нат' з бутэлькаю ў кішані.

(Далей будзе)

**ГОРВАЦ**

***

### Ідэолёгія і нацыяналізм

Кожная ідэолёгія і выплываючая з яе праграма павінна быць

консэквэнтная і лёгічная. Бяз гэтага не можна праводзіць у жыцьцё праграмы. Гэта ёсьць канечны фармальны бок. Але і матэр'яльная частка ідэолёгіі і праграмы павінна быць аснована на сапраўдных базах справядлівасьці і слушнасьці. Справядлівасьць і слушнасьць так нацыянальную, як індывідуальную ўсебакова можа здзейсьніць толькі тая ідэолёгія і тая праграма, катора[я] за сваю базу і фундамэнт бярэ само жыцьцё народнае і грамадзкае ў працэсе ягонага "fieri"* і на вымогах і асновах волі Народу творыць такі лад палітычны і грамадзкі, якога сам Народ хоча. Не пакідаючы ўсякіх "паперных" рэцэптаў і сумнымі псэўдоклічамі не паняволіваючы душы Народу. Не бізун супроць бізуна і тэрор на места тэрору, але грамадзкая справядлівасьць і індывідуальная вольнасьць — вось вымогі сучаснага жыцьця — гэта так жа постуляты дэмократыі і хрысьціянскае ідэолёгіі. Дэмократыя і Хрысьцьянізм, праціўныя гэта словы ў вуснах усіх ворагаў поўнае справядлівасьці і індывідуальнае свабоды, найчарнейшыя словы рэакцыі сапраўдных рэакцыянераў: чырвонага і чорнага фашызму, ворагаў беларускага Народу. Мы аднак за дэмакратыю і хрысьціянства, бо ідзём у барацьбу за правы Народу, за ягоную індывідуальную і нацыянальную гордасьць і свабоду. Для нас нацыяналізм не ёсьць ідэолёгіяй як для хатніх фашыстаў, якія на асновах раздутага "нацыяналізму" хацелі б будаваць фікцыю гітлероўскага расізму. Нацыяналізм для нас гэта найвышэйшая любоў Бацькаўшчыны гэта патрыётызм поўны дынамічнае сілы да тотальнае ды незалежнае дзяржавы.

**Быць (лат.).*

Прызнаючы ідэолёгію хрысьціянскае дэмократыі і прызнаючыся да хрысьціянства не азначае гэта, што мы з падзякаю маем прымаць хрысьціянства у інтэрпрэтацыі першага лепшага парабка капіталістычнага, каторы называе сябе арцыхрысьціянінам. Для нас хрысьціянства ня ёсьць сосам і палітурай, дзе можна было б затушаваць інтарэсы працуючага беларускага Народу. Дэмократыя і хрысьціянізм [—] гэта ідэалістычны соцыялізм і поўны актывізацыі патрыётызм[,] які свайго ня дасьць, чужога ня хоча!

І мыляецца тут Акінчыц* у сваіх "вывадах" аб нацыяналізме (глядзі "Новы Шлях", № 6, 1936 г.), паказаўшы грубую ігноранцыю хрысьціянскага светапагляду, калі з "геройствам" кідае сумныя фразэры на ўсё тое[,] што ня ёсьць з лягеру нацаў. Не, пане Акінчыц, рабіць "бомбы" быццам з "гукам і трэскам" ня выпадае ў беларускім Народзе. Трэ' ісьці ў Народ і браць яго за сэрца, за душу і разумна накіроўваць на правільны беларускі шлях, а не апотэазаваць канцлера Гітлера, "на якога, быццам, чакаюць усе нацыянальна

сведамыя украінцы, беларусы, грузіны і іншыя народы" (гл. "Новы Шлях", № 6, стр. 6).

**Фабіян Акінчыц (1886 —1943) — лідар беларускіх нацыянал-сацыялістаў. Забіты ў Менску ў 1943 годзе.*

Але каб зблізыцца да Народу[,] не трэ' кідаць хлусьні[,] "што людзі прасякнутыя эвангельскім сьветапаглядам" бяздольныя ў адпоры чужога фашызму[,] дый што "прынцыповыя лёзунгі беларускага нацыянальнага адраджэньня (гэта зн[ачыць] нацсоцаў* [—] рэд.) трэба залічыць да звычайных праяваў нацыянальнай мляўкасьці, каторая агнойвае грунт для розных інтэрнацыяналаў" (глядзі тамака).

**Нацыянал-сацыялістаў — БР.*

Памыліўся тут моцна аўтар. Якраз людзі прасякнутыя "эвангельскім сьветапаглядам" зьяўляюцца хіба большымі ад аўтара патрыётамі і нідзе ніхто не знайдзе ў хрысьціянскай навуцы, каб "мляўка" выступаць у абароне сваіх інтэрэсаў[,] тым больш нацыянальных. Наадварот у абароне загрожаных правоў і жыцьця людзі няўхільна стаялі і стаяць у ва ўсіх народаў за свае правы[,] не шкадуючы найбольшае самаахвярнасьці і нат' жыцьця. Таксама толькі хрысьціянства дае найбольшы адпор варожаму марксоўскаму інтэрнацыяналу, які разьядае кансалідацыю беларукіх сіл і які зьяўляецца антыхрысьціянскі.

Кідаць шумныя фразэсы з ахварбоўкай нацыяналізму ў барацьбе з усімі ворагамі беларускага Народу — гэта, на наш пагляд, будаваць гмах на пяску.

Дык больш об'ектывізму думаньня ў адносінах да ідэолёгіі, катора пераможна ідзе да свайго жыцьцёвага быту[,] не гледзячы на ўсе перашкоды чырвонага і чорнага фашызмаў.

**"ВАЦ"**

***

## ХРОНІКА

**З студэнцкага жыцьця.** З пачаткам новага школьнага году Беларускі Студэнцкі Саюз У. С. Б. ў Вільні ўзнавіў дзейную культурнаадраджэнскую працу. Дня 17. X. сёл[ета] Б. С. С. ладзіў інаўгурацыйны вечар у салі Б. І. Г. і К.* Вечар зыйшоў вельмі паважна і настраёва. Урачыстасьць пачаў прамовай старшыня Б. С. С. кал[ега] М[ікола] Шчорс, які ў моцных і пераконываючых

словах заклікаў студэнцкую сям'ю да належнага выпаўненьня сваіх абавязкаў адносна сябе і свае Бацькаўшчыны, да самаахвярнай працы на карысьць свайго Народу. Пасьля кал[ега] П[іліп] Засім гаварыў да вартасьці Беларускага Народу, яго потэнцыяльнай выжшасьці ад іншых славянскіх народаў, падчыркнуў адначасна пэўную псыхозу духовай мляўкасьці і бязверра нашага сяляніна і інтэлігэнта, выраслую ў гістарычным працэсе цяжкіх абставін палітычнай і гаспадарчай перамогі царскага і панскага прыгону і на канец — аб патрэбе змаганьня з гэтымі заганамі. Далей дэклямавалі творы беларускіх паэтаў кал[егі] Сухая А., др. Малецкі, П. Засім і поэт Танк. На заканчэньне пяяў вельмі ўдала беларускі хор пад батутаю грам[адзяніна] Р. Шырмы.

**Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры — грамадзкая арганізацыя з цэнтрам у Вільні. — БР.*

На вечары, апрача беларускага студэнцтва, прадстаўнікаў бел[арускіх] арганізацыяў і прэсы, былі так жа прадстаўнікі братніх саюзаў: Украінцы і Літоўцы.

18.X. адбылася першая зборка Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы пры У. С. Б., на якой поэт Танк прачытаў свае дасюль недрукаваныя творы. Пасьля адбылася дыскусыя над літэратурнай вартасьцю прачытаных твораў.

24.X. сёл[ета] а гад[зіне] 21 адбылася ў Б.С.С. таварыская запазнуўчая гарбатка для сяброў і сымпатыкаў Б.С.С. Вечарына складалася з двух частак: гарбаткі, у час якой акалічнасцёвыя прамовы мелі старшыня Б.С.С., мгр. Хвораст, П. Засім, аўторэцытаваў гуморыстычныя вершы паэт Танк. Хор грам. Р. Шырмы дапоўніў гэтую частку. У другой час[т]цы адбыліся беларускія народныя скокі.

25.X. у Т-ве Беларусаведы пры У. С. Б. чытаў рэфэрат кс. В. Гадлеўскі на тэму "Аб жаролах да гісторыі Беларусі". Прысутных студэнтаў і сымпатыкаў было больш 30 асоб.

31.X. адбыўся ў Б,С,С, дыскусыйны вечар на тэму: "Аб г. зв. камплексах ніжшасьці ў Беларусаў". Рэфэраваў кал[ега] Каліцкі Л. Дыскусія мела характар дынамічны між дзьвяма групамі студэнтаў і кончылася магутным клічам кал[егі] старшыні на чэсьць свае Бацькаўшчыны.

9.XI. сёл[ета] Б.С.С. наладзіў шахматны турней падгатаваўчы да міжсаюзнага беларуска-ўкраінска-літоўскага шахматнага турнею.

**Беларуска-украінскі суботнік** 8.XI. сёл[ета] адбудзецца ў салі Украінскага Саюзу.

**Прыплыў новых сяброў у Б.С.С.** З пачаткам сёлетняга акадэмічнага году ў Беларускі Студэнцкі Саюз паступіла шмат новых сяброў.

**Беларуска-украінскае зьбліжэньне.** Ужо ў канцы мінулага акадэмічнага году саюзы студэнтаў: беларускі і ўкраінскі навязалі між сабой цясьнейшы кантакт. Апынуўшыся ў менш больш у аднолькавых абставінах сучаснага палітычнага жыцьця, абедзьве арганізацыі студэнцкае моладзі: так беларусы, як і ўкраінцы зразумелі, што толькі зьбліжэньне і супрацоўніцтва гэтых дзьвёх арганізацыяў выйдзе на карысьць Беларускага і Укранскага Народаў. Беларускае студэнцтва вітае студэнтаў украінцаў пры супольнай нацыянальна-адраджэнскай працы, памятуючы вялікую супольную мінуўшчыну!

З нагоды гэтага зьбліжэньня адбудзецца цыкль рэфэратаў беларускіх у ўкраінскім саюзе з галіны гісторыі вызваленчае думкі, а ў Б.С.С. ладзяць украінцы рэфэраты з свайго жыцьця. У першую чаргу дня 8.XI. сёл[ета] Ул[адзімер] Дэцык* прачытае ў Б.С.С. рэфэрат на тэму "Развой палітычнае думкі сярод украінскага Народу", а кал[ега] М[ікола] Шчорс 15.XI. на тэму "Беларусы ў домаганьні роднае школы" ў украінцаў.

**Больш пра яго гл.: Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 2(13), б. 24-25.*

Апрача гэтага прадстаўнікі беларускае студэнцкае моладзі бралі ўчасьце ў украінскім нацыянальным сьвяце дня 1.XI. 1936 г., з нагоды якога ў царкве сьв. Міколы ў Вільні а гадз. 19 адбылася паніхіда ў чэсьць памёршых у абароне Львова, а пасьля ўрачыстая акадэмія ў памешка[нь]ні Украінскага Саюзу.

***

**Грамадзяне Беларусы!**

Беларускае Студэнцтва пачало ўжо крапатлівую адраджэнскую працу з поўным энтузіязмам і вераю ў лепшую будучыню на ніве Нашае Бацькаўшчыны. Сілы маладых павінны злучыцца з натугай усяго Беларускага Народу. Дык хто з чым можа хай ідзе на сустрэчу маладым барацьбітам: добрым сэрцам, супрацоўніцтвам і грашовай ахвярай на выдавецкі фонд "25 САКАВІКА".

**Рэдакцыя і адміністрацыя**

***

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Сьв.-Яна 12—1.

**Рэдактар-Выдавец В. Папуцэвіч.**

*Друкарня "Central" Wielka 52.*

# ЛІСТОЎКА АРГАНІЗАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАЎ. 1941 ГОД

2 сакавіка 2015 году блогер burk001 апублікаваў цікавы дакумэнт — лістоўку, якая падпісаная "Арганізацыяй беларускіх нацыяналістаў".[1] Яна захоўваецца ў аддзеле рэдкіх кніг навуковай бібліятэкі Львоўскага нацыянальнага ўнівэрсытэту імя І. Франко (яе адшукаў спадар Уладзімір Мароз). Даты на дакумэнце няма, але ён знайшоўся ў складзе калекцыі лістовак, якія адносяцца да 1941 году. Таму з вялікай верагоднасьцю можна сьцьвярджаць, што лістоўка была выпушчаная менавіта ў тым годзе. Перад тым, як прааналізаваць дакумэнт, зьмесьцім яго тэкст:

**Б Е Л А Р У С Ы !**
**Сяляне, работнікі, інтэлігенцыя, чырвонаармейцы, Беларуская моладзь!**

Настаў час здзейснення нашых адвечных лятуценняў. У цэлым сьваці падаюць старыя парадкі, старыя сыстэмы, у якіх мы былі на самым дне ў путах нацыянальнай і сацыяльнай няволі. Жыццездатныя народы сілаю здабываюць сабе правы на жыццё.

Полымя вайны ахоплівае цэлы сьвет і не памінае маскоўскай цюрмы народаў — СССР. Ідзе хвіля, на якую чакалі дзесяткі беларускіх пакаленняў, хвіля разплаты з ворагам за ўсе крыуды і здзекі! Цэлы Народ зразумеў, што маскоўска-жыдоускі бальшавізм, прынёс нам страшную няволю і вызыск што толькі апіраючись на сваіх нацыянальных сілах праз нацыянальную рэвалюцыю, зможам зліквідаваць маскоўскі імпэрыялізм і здабыць поўную свабоду. На землях Беларускага Народу не мае права валадать крыважадны бальшавік і карміцца хлебам з зямлі залітай потам беларускага Селяніна ; не мае права пракляты вораг-жыд выдаваць загады беларускаму Работніку і грабіць яго заробак у свою кішаню; не мае права беларускі Інтелігент быць змушаным прапагаваць чужую яму маскоўскую культуру і служыць ёй; не мае права жаўнер-беларус ісьці бараніць сваёй грудздзю інтересы сядзячага бязпечна ззаду спекулянта-жыда і сучаснага буржуя-бальшевіка.

Гэта пабачыў і зразумеў Беларускі Народ — вызваленча-нацы-

янальная ідэя сталася для яго ідэяй Жыцця!

Здабыць сваю незалежную Дзяржаву, пабудаваць яе на сваіх правах : зямля Беларуская — Беларускаму селяніну, фабрыка Беларуская — Беларускаму работніку ; Беларуская армія б'ецца толькі за Беларусь ; у Беларускіх урядах толькі Беларусы, вытвар працы Беларускіх рук — спажывае толькі Беларус! На апошнюю барацьбу сабраць ўсе сілы Народу і ў рэвалюцыйным змаганні убурыць абліты кроўю хорам бальшавіцкай імперыі, а на яе развалінах пабудаваць **Незалежную Слаўную Беларусь**!

Далоў жыдоўска-бальшавіцкую "культуру" — мы маемо сваю акрытую 1000-гадовай славай!!!

Далоў акупантаў!!!

Знамі ўсе паняволеныя Масквою народы — з намі украінскія рэвалюцыонэры, з намі народы Каўказу, Туркестану, Сыбіру і ўсей Азыі. З намі барацьбіты Літвы, Латвіі, Эстоніі. Нас мільёны — мы сільныя, бо з намі баявы запал і вера ў перамогу нашай справы!!!

**БЕЛАРУСКІ НАРОДЗЕ! Як адзін ставайма змагацца за волю, за владу, за нашае лепшае жыцце!**

**БЕЛАРУСЫ! Пад ударам нямецкай арміі — савецкая армія застала разбіта на вольных прасторах Беларусі ставайце ўсе да будовы Дзяржавы Беларускага Народу і арганізуйце сваю міліцыю, беражыце Народную маемасць перад бальшавіцкімі правакатарамі і іншымі ворагамі. Арганізуйце сельскія і гарадзкія Самаурады.**

**Хай жыве Волная БЕЛАРУСЬ!**

**Свабода паняволеным Масквою Народам!**

АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАУ.

Паводле зьместу лістоўку можна аднесьці да ліпеня-жніўня 1941 году, калі значная частка Беларусі была ўжо занятая нямецкімі войскамі, але на тым жа ўсходнім Палесьсі яшчэ заставаліся савецкія войскі. Галоўнае пытаньне: хто яе выдаў? Подпіс "Арганізацыя беларускіх нацыяналістаў" яшчэ ня значыць, што лістоўка сапраўды была выпушчаная гэтай структурай. "БР" раней пісаў пра АБН.[2] Калі коратка, дык у 1940-1941 гг. гэта была нелегальная/паўлегальная арганізацыя з цэнтрам у Варшаве. Кіраваў ёй ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. Аднак напярэдадні нямецка-савецкай вайны гэты праект адыйшоў на другі плян (магчыма, з-за раскансьпіраваньня нямецкімі спэцслужбамі). Гадлеўскі з маладымі паплечнікамі займаўся стварэньнем паўлегальнага "Беларускага нацыянальнага фронту",

нелегальнай "Беларускай незалежніцкай партыі", а таксама "Беларускага нацыянальнага цэнтру" ("ценявога ўраду"). Відаць, і сапраўды АБН "атрымаў у спадчыну" яе ўдзельнік Янка Станкевіч і пачаў яе наноў арганізоўваць, як нелегальную структуру, у другой палове 1941-га ў Менску.

20764

**БЕЛАРУСЫ!**

**Сяляне, работнікі, інтэліґенцыя, чырвоноармейцы, Беларуская моладзь!**

Настаў час здзейснення нашых адвечных лятуценняў. У цэлым сьваці падаюць старыя парадкі, старыя сыстэмы, у якіх мы былі на самым дне ў путах нацыянальнай і сацыяльнай няволі. Жыццездатныя народы сілаю здабываюць сабе правы на жыццё.

Полымя вайны ахоплівае цэлы сьвет і не памінае маскоўскай цюрмы народаў — СССР. Ідзе хвіля, на якую чакалі дзесяткі беларускіх пакаленняў, хвіля разплаты з ворагам за ўсе крыуды і здзекі! Цэлы Народ зразумеў, што маскоўска-жыдоускі бальшавізм, прынёс нам страшную няволю і вызыск што толькі апіраючись на сваіх нацыянальных сілах праз нацыянальную рэвалюцыю, зможам зліквідаваць маскоўскі імпэрыялізм і здабыць поўную свабоду. На землях Беларускага Народу не мае права валадать крыважадны бальшавік і карміцца хлебам з зямлі залітай потам беларускага Селяніна; не мае права пракляты вораг-жыд выдаваць загады беларускаму Работніку і грабіць яго заробак у свою кішаню; не мае права беларускі Інтелігент быць змушаным прапагаваць чужую яму маскоўскую культуру і служыць ёй; не мае права жаўнер-беларус ісьці бараніць сваей груддзю інтэресы сядзячага бязпечна ззаду спекулянта-жыда і сучаснага буржуя-бальшевіка.

Гэта пабачыў і зразумеў Беларускі Народ — вызваленча-нацыянальная ідэя сталася для яго ідеяй Жыцця!

Здабыць сваю незалежную Дзяржаву, пабудаваць яе на сваіх правах: зямля Беларуская — Беларускаму селяніну, фабрыка Беларуская — Беларускаму работніку; Беларуская армія б'ецца толькі за Беларусь; у Беларускіх урядах толькі Беларусы, вытвар працы Беларускіх рук — спажывае толькі Беларус! На апошнюю барацьбу сабраць ўсе сілы Народу і ў рэвалюцыйным змаганні збурыць абліты кроўю хорам бальшавіцкай імперыі, а на яе развалінах пабудаваць Незалежную Слаўную Беларусь!

Далоў жыдоўска-бальшавіцкую „культуру" — мы маемо сваю акрытую 1000-гадовай славай!!!

Далоў акупантаў!!!

Знамі ўсе паняволеныя Масквою народы — з намі украінскія рэвалюцыонэры, з намі народы Каўказу, Туркестану, Сыбіру і ўсей Азыі. З намі барацьбіты Літвы, Латвіі, Эстоніі. Нас мільёны — мы сільныя, бо з намі баявы запал і вера ў перамогу нашай справы!!!

**БЕЛАРУСКІ НАРОДЗЕ! Як адзін ставайма змагацца за волю, за владу, за нашае лепшае жыцце!**

**БЕЛАРУСЫ! Над ударам нямецкай арміі — савецкая армія застала разбіта на вольных прасторах Беларусі ставайце ўсе да будовы Дзяржавы Беларускага Народу і арганізуйце сваю міліцыю, беражыце Народную маемасць перад бальшавіцкімі правакатарамі і іншымі ворагамі. Арганізуйце сельскія і гарадзкія Самаурады.**

**Хай жыве Волная БЕЛАРУСЬ!**

**Свабода паняволеным Масквою Народам!**

*АРГАНІЗАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ НАЦЫЯНАЛІСТАУ.*



Відавочна, што дзеячы ўзроўню В. Гадлеўскага, Я. Станкевіча, М. Шчорса, М. Шкялёнка не маглі быць аўтарамі гэтай малапісьменнай улёткі. Ды яшчэ прасякнутай антыжыдоўскімі выказваньнямі. Дарэчы, ва ўлётках абедзьвюх АУН лета 1941 году адзіная згадка пра жыдоў у адмоўным сэнсе прысутнічае ў звароце кіраўніцтва арганізацыі А. Мельніка да ўкраінскай моладзі.[3] Нават у другім нумары "Бюлетэня Беларускай незалежніцкай партыі" (выйшаў верагодна ў пачатку 1943 г.) ў некаторых артыкулах прысутнічаюць антыжыдоўскія выказваньні, адказнасьць за якія нясуць некаторыя яго выдаўцы.[4] Магчыма, што непасрэднае дачыненьне да выданьня лістоўкі маюць нейкія актывісты АБН (але не кіраўнікі), альбо проста беларускія нацыяналісты, якім неяк трэба было падпісаць адозву.

Былы супрацоўнік абверу і беларускі камандас успамінаў на бачынах "БР", што летам 1941 г. на Палесьсі сярод насельніцтва спачатку распаўсюджваліся нямецкія ўлёткі і плякаты. Адначасова зьявіліся аддрукаваныя 3-я ўстаўныя граматы БНР, якія распаўсюджваў беларускі партызанскі атрад Якуба Харэўскага. Беларускія ўлёткі зьявіліся ў канцы жніўня 1941 г., спачатку іх прывезьлі зь Менску, але пра зьмест нічога невядома. Пазьней лістоўкі друкавалі самі беларускія актывісты (у Пінску і Берасьці), якія дзейнічалі ў палескіх раёнах. У іх яны пісалі, што трэба змагацца з бальшавікамі на баку Нямеччыны, якая дапаможа адбудаваць беларускую дзяржаву.[5] Якраз адзін з гэтых "палескіх" друкаў і можа аказацца лістоўкай "АБН". Мясцовыя актывісты, як і беларусы-камандасы абвера, не мелі беларускай адукацыі, адсюль і безьліч памылак у

літаратурнай мове. Іх магло стаць больш падчас набору ў друкарні. Заклікі ў лістоўцы ствараць “сваю міліцыю” і “самаўрады” летам 1941-га былі актуальныя якраз для Палесься, дзе было мала нямецкіх войскаў, а буйную антыбальшавіцкую аперацыю праводзілі беларускія і ўкраінскія (бульбаўцы) атрады. Яны вызвалілі значную тэрыторыю і на нейкі час адчулі сябе гаспадарамі на сваёй зямлі (пакуль не зьявілася нямецкая адміністрацыя).

Афіцыйныя нямецкія прапагандысцкія матэрыялы на беларускай мове летам 1941-га выдаваліся ў Кёнігзбергу. Нам вядомыя часопіс “Перамога” і ўлётка “Штурмовая гармата ўрэзваецца ў савецкі танк”.[6] Аднак рабіліся яны даволі прафесійна і на літаратурнай беларускай мове. Малаверагодна, каб гэты выдавецкі цэнтр выпусціў вядомую нам лістоўку. Да таго ж, там усё рабілася толькі з санкцыі нямецкага кіраўніцтва. Наўрад ці немцы ў перыяд перамогаў на ўсходнім фронце захацелі б “гуляць” у “АБН”.

Лістоўку тэарэтычна маглі надрукаваць у Варшаве. Ёсьць зьвесткі, што група беларускіх дзеячоў з групы Гадлеўскага ў канцы лета — у пачатку восені 1941-га, выкарыстоўваючы сувязі ў праваслаўных колах, выдала там улётку, прысьвечаную падзеям у Беларусі ў першыя месяцы нямецкай акупацыі.[7] Аднак зноў жа цяжка паверыць, каб яны надрукавалі антыжыдоўскую ўлётку ды з шматлікімі памылкамі.

Ёсьць малая верагоднасьць, што лістоўку беларусам маглі дапамагчы надрукаваць дзеячы з АУН (бандэраўцы). Як сьведчыў апошні камандзір УПА Васіль Кук, яшчэ ў 1940 годзе было супрацоўніцтва аунаўцаў зь нейкай беларускай нелегальнай арганізацыяй у Варшаве і для яе яны друкавалі нейкія ўлёткі.[8] Але летам 1941-га падзеі разьвіваліся так імкліва, што сувязі паміж беларускімі і ўкраінскімі актывістамі часова маглі перарывацца. Ды й не было ва ўкраінцаў беларускіх шрыфтоў (таго ж “ў”). Але яны былі ў друкарнях у Берасьці і Пінску.

Як жа лістоўка, якая невядомая ў Беларусі, апынулася ў Львове? Ёсьць цікавае сьведчаньне Язэпа Сажыча, які летам 1941 году знаходзіўся ў гэтым украінскім горадзе. У той час з Беларусі да беларускіх студэнтаў (а іх у Львове было нямала) прысылалі “заклікі і ўлёткі, каб вярталіся дадому й памагалі будаваць беларускую адміністрацыю пад нямецкай акупацыяй”.[9] Магчыма, адна зь іх і захавалася.

**Андрэй Турук**

[1] Арганізацыя беларускіх нацыяналістаў (АБН) // 2015, 2 сакавіка; http://

burk001.livejournal.com/60195.html
[2] Ёрш С. Нечаканы паварот у справе Арганізацыі беларускіх нацыяналістаў // Беларускі Рэзыстанс, 2009, № 2(7), б. 111-115.
[3] ОУН в 1941 році. Документи. В 2-х ч. Ч. 1. — Київ: Інститут історії України НАН України, 2006, б. 311.
[4] Ёрш С. Падпольны беларускі друк падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гадоў // Беларускі Рэзыстанс, 2005, № 1(2), б. 61-62.
[5] Камбатант: Байцы Харэўскага нашывалі на вопратку бел-чырвона-белыя сьцяжкі [інтэрвію] // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 2(11), б. 141.
[6] Турук А. Беларускія адозвы і ўлёткі 1941 году // Беларускі Рэзыстанс, 2012, № 2(13), б. 27-33.
[7] Тамсама, б. 33.
[8] В. Кук: Я вёў перамовы з прадстаўнікамі беларускай нелегальнай арганізацыі // Беларускі Рэзыстанс, 2006, № 1(3), б. 73-74.
[9] Сажыч Я. Мілітарызацыя Наваградчыны ў часе нямецкае акупацыі 1941-1944 // Юрэвіч Л. Жыцьцё пад агнём. Партрэт беларускага военачальніка і палітычнага дзеяча Барыса Рагулі на фоне яго эпохі. — Менск, 1999, б. 233.

# ЛІТВІН НАЗЫВАЕ АНТЫСАВЕЦКІЯ ПАРТЫЗАНСКІЯ АТРАДЫ “БАНДГРУПАМІ”

*Литвин А. Война после освобождения. События 1945 года на территории Беларуси в документах внутренних войск НКВД СССР // Беларуская думка, 2015, № 2, люты, б. 59-67.*



ГІСТОРЫЯ 59

Война после освобождения

События 1945 года на территории Беларуси в документах внутренних войск НКВД СССР

Чем дальше от нас события Великой Отечественной войны, тем явственнее видится подвиг, совершенный народами бывшего Советского Союза в деле разгрома гитлеровской Германии и ее сателлитов. Однако боевые действия проходили не только на фронте, война продолжалась и в глубоком тылу, на освобожденной советскими войсками территории Беларуси, Украины и Прибалтики.

Алексей ЛИТВИН

К началу освобождения Беларуси и особенно к началу проведения операции «Багратион» благодаря активной деятельности всех видов советской разведки, в том

подчинялось Главному управлению внутренних войск НКВД СССР (ГУВВ НКВД СССР) *[1, л. 235]*.

Управление имело следующую структу-

Вядомы беларускі гісторык, ці не найлепшы спецыяліст па калябарацыі ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі 1941-1944 гг. Аляксей Літвін у апошнія гады зьвяртаецца і да тэмы паваеннага антысавецкага супраціўленьня. Праўда, у гэтых публікацыях ён фактычна выступае на баку савецкіх сілавых структураў, якія змагаліся супраць партызанаў і падпольшчыкаў.* Не зьяўляецца выключэньнем і ягоны артыкул, які быў апублікаваны ў афіцыйным часопісе “Беларуская думка”.

Літвін вельмі падрабязна апісвае структуру ўнутраных войскаў НКВД, якія ў Беларусі ваявалі супраць “лясных братоў”. Ён зьвяртае ўвагу на той факт, што яшчэ падчас нямецкай акупацыі ўсе віды савецкай разьведкі сабралі шматлікую інфармацыю пра “контррэвалюцыйнае нацыяналістычнае” падпольле, у тым ліку і беларускае. Таму савецкія сілавыя структуры добра ўсьведамлялі, што іх чакае ўзброенае супраціўленьне. 30 красавіка 1944 году ў Гомелі было сфармаванае Ўпраўленьне ўнутраных войскаў НКВД СССР Беларускай вайсковай акругі. Яно дыспанавала трыма дывізіямі і адным палком (з ліпеня 1944 году ўпраўленьне знаходзілася ў Менску і праіснавала да чэрвеня 1946-га, калі было расфармаванае).

---

**Напрыклад, А. Літвін зьяўляецца адным з аўтараў кніг “Внутренние войска МВД Республики Беларусь: история и современность” (Минск: ФУАинформ, 2006, 303 б.), “Память: Внутренние войска МВД Республики Беларусь: историко-документальная хроника” (Минск: ФУАинформ, 2008, 448 б.),*

Аднак да канца 1944-га антысавецкае супраціўленьне разграміць не ўдалося. Таму ў 1945-м барацьба працягнулася.

А. Літвін прыводзіць лічбы, што на 1 студзеня 1945 году ў шасьці заходніх абласьцях БССР дзейнічалі 82 “бандгрупы” (менавіта такой тэрміналёгіяй карыстаецца гісторык) агульнай колькасьцю 2385 удзельнікаў. Супраць іх кінулі амаль 21 тысячу байцоў унутраных войскаў. У заходніх абласьцях выстаўляліся гарнізоны: у 86 — батальённага складу, у 179 — ротнага. За 1945 год былі праведзеныя 2609 чэкісцка-вайсковых апэрацый, 13 зь іх былі буйныя, ахоплівалі 2-3 вобласьці.

Тут варта адзначыць, што да лічбаў савецкіх карных органаў трэба ставіцца асьцярожна. Ня ўсе партызанскія аддзелы дзейнічалі, частка не праяўляла ніякай актыўнасьці, толькі перахоўвалася, а значыць маглі і не патрапіць у статыстыку. Тое самае і з колькасьцю ўдзельнікаў. Па адных аддзелах чэкісты мелі падрабязную інфармацыю, па іншых — прыблізную. Да таго ж у зімовыя месяцы нямала “лясных братоў” нелегальна жылі ў населеных пунктах. Вось і атрымліваецца, што ў рэальнасьці ў пачатку 1945-га антысавецкі супраціў быў больш шматлікі. Ну а па выніках года чэкісты сьведчылі ўжо пра 189 ліквідаваных “бандгрупаў”.

Значная частка дакумэнтаў, прыкладаў аперацый, праведзеных унутранымі войскамі, супрацоўнікамі дзяржбясьпекі, зьмешчаная ў публікацыі А. Літвіна, добра вядомая дасьледчыкам. Але ёсьць і раней невядомыя факты. Напрыклад, 25 сакавіка 1945 году “невядомы бандыт” правёў сход жыхароў вёскі Гелекава Клецкага раёну Баранавіцкай вобласьці. Ён заклікаў людзей не выконваць дзяржаўныя пастаўкі. Дата наводзіць на думку, што мерапрыемства магло быць прымеркаванае да ўгодкаў абвяшчэньня дзяржаўнай незалежнасьці БНР, а яго арганізатар — беларускі нацыяналіст.

Аляксей Літвін прыводзіць статыстыку, паводле якой толькі ў 1945-м унутраныя войскі НКВД страцілі ў баях з антысаветчыкамі ў Беларусі 71 чалавека забітымі і 102 параненымі. Небаявыя страты склалі 23 забітымі і 52 параненымі. У той год у раёнах “аператыўна-баявых дзеяньняў” унутраных войскаў Беларускай вайсковай акругі было зафіксавана 189 “бандпраяваў”, 3 дывэрсійныя акты, 13 падпалаў і 41 абрабаваньне, загінулі 138, параненыя 25 чалавек “савецкага і партыйнага актыву, вайскоўцаў унутраных войскаў і мясцовага насельніцтва”.

Гісторык падкрэсьлівае, што барацьба з антысавецкім падпольлем у БССР працягвалася да сярэдзіны 1950-х гадоў.

**Барыс Самсонік**

# ЗНОЎ ПРА “ЧОРНАГА КАТА”

*Валаханович И. “Черный кот” и его предводители. Провал попыток создания антисоветского белорусского повстанческого движения // Беларуская думка, 2015, № 2, б. 94-102.*

“БР” неаднаразова рэагаваў на падобныя публікацыі, выкрываючы супярэчнасьці ў афіцыйных версіях, іх фальш. Пасьля некалькіх гадоў адносната зацішша зьявілася новая публікацыя на тэму “Чорнага ката”. На наш погляд, яна выкліканая зьяўленьнем аб’ектыўнай інфармацыі на яго тэму на бачынах аднаго з афіцыйных выданьняў.* Журналісты актыўна карыстаюцца рэсурсамі інтэрнэту, бяруць адтуль інфармацыю і не асабліва зважаюць на тое, што яна супярэчыць пазыцыі беларускай спецслужбы. Раней было рэагаваньне на публікацыі ў “Нашай ніве”, “ДСП. Для служебного пользования”, у “Белгазеце”. Як бачым, контрпрапаганда працуе слабавата, паколькі праз пэўны час даводзіцца паўтараць байкі пра тое, што “Чорнага Ката” ніколі не было, што Міхала Вітушку забілі баю ў студзені 1945-га і г. д.



94 ГІСТОРЫЯ

# «Черный кот» и его предводители

## Провал попыток создания антисоветск
## белорусского повстанческого движени

**С середины 1990-х годов начали формироваться, по сути, новые направления в белорусско исторической науке по исследованию проблем образования и деятельности на территории во время Второй мировой войны и в послевоенный период, вплоть до середины 1950-х год антисоветских подпольных структур. Увидели свет ряд основательных научных работ, бази объективном анализе разноплановых архивных источников. Но, вместе с тем, появились и основанные в большей степени на реанимировании псевдоисторических мифов, рожденны политическими структурами белорусских эмигрантов.**

Игорь ВАЛАХАНОВИЧ, кандидат исторических наук

В изданном в 1999 году справочнике «Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944–1965» содержатся статьи Сергея Ёрша о деятельности на территории Беларуси в послевоенный период «Беларускай вы-

собственно и носил название «Ч а также литовский, латышский, украинский. Подпольная структ тывала несколько тысяч участ тивно боролась с советской влас

Што ж на гэты раз прапанаваў чытачу Ігар Валахановіч, былы супрацоўнік Цэнтральнага архіву КДБ РБ, а цяпер начальнік кафедры Інстытута нацыянальнай бяспекі? Ён коратка пераказаў зьмест нашага артыкула пра “Чорнага Ката” з даведніка “Антысавецкія рухі”, які выйшаў у 1999 годзе, г. зн. 16 гадоў таму. Пасьля яго было шмат новых публікацый, якія грунтаваліся на новых матэрыялах. Галоўная зь іх — кніга “Беларускі Супраціў”, якая выйшла ў Львове ў 2006 г. Аднак пра яе Валахановіч нават ня згадвае. На жаль, ён яе ня бачыў, але знайшоў інфармацыю зь яе пра таго ж Аўгена Жыхара ў Вікіпедыі. Там, дарэчы, невядома

адкуль зьявілася інфармацыя, што партызаны Жыхара сыходзілі на Захад праз Польшчу, хаця мы пісалі пра сыход праз Латвію і далей — морам.

Затое пачынаецца аповед пра спецыяльны батальён “Дальвіц” і яго дэсанты. Выкладаецца інфармацыя, якая добра нам вядомая па манаграфіі Валахановіча. Адзіны новы дадатак, што з дэсантам у сярэдзіне лістапада 1944-га мусіў ляцець Барыс Рагуля, але “па нявысьветленых да канца абставінах ён не выляцеў”. Валахановіч паведамляе, што “існуе версія, што Б. Рагуля проста струсіў”.

Зноў паўтараецца непраўдзівая версія пра “гібель” Міхала Вітушкі ў студзені 1945-га. Праўда, Ігар Валахановіч, у адрозьненьне ад ранейшых публікацый, адзначае: “Разам з тым С. Ёрш версію гібелі М. Вітушкі адхіляе”. Што дэсантаваўся замест яго іншы чалавек, які “выдаваў сябе за іншага”, а Вітушка зьявіўся ў Беларусі пазьней. Ён таксама згадвае версію, што Міхал Вітушка пасьля перабраўся на Захад, але піша, што памёр ён там у 1990-я, а не ў 2006 годзе.

І. Валахановіч перакананы, што “ўзброеныя антысавецкія падпольныя фармаваньні беларускіх нацыяналістаў”, якія дзейнічалі ў паваенны час, не могуць быць атаясамлены з “Чорным Катом” у нашай версіі. І таму, што “насілі лакальны характар як па колькасьці ўдзельнікаў, так і па тэрыторыі дзейнасьці”. І ў пацьверджаньне гэтаму згадвае толькі пра атрад Івана Раманчука (“Ястраба”), пералічваючы зноў толькі некалькі чалавек, нібыта гэта была групка. А як жа палескія беларускія атрады “Сыча”? А беларускія партызанскія атрады “Гаевіча” на Віцебшчыне? А беларускія атрады ў раёне Белавежскай пушчы? Яны ўсе ўваходзілі ў структуру беларускага Супраціву (арганізацыя “Чорны Кот”). А як жа замах на міністра ўнутраных спраў Бельчанку, які правялі восеньню 1946-га ў Менску беларускія дыверсанты?

На жаль, у справе “Чорнага Ката”, паваеннага беларускага Супраціву па-ранейшаму існуюць дзьве рэальнасьці. У першай, якую можна толькі ўмоўна назваць афіцыйнай, паколькі яе як такой няма, беларускі Супраціў быў кволы, яго ўдзельнікаў хутка пералавілі, толькі за некаторымі давялося паляваць даўжэйшы час. Ніякага “Чорнага Ката” не было, хіба існаваў толькі на паперы. Усё, кропка. У другой рэальнасьці гаворка ідзе пра маштабны стыхійны антысавецкі рух у 1944-1945 гг., калі на нелегальным становішчы знаходзілася больш за 100 тысяч мужчын. У далейшым гэты рух то затухаў, то зноў разгараўся, але колькасьць удзельнікаў ужо была значна меншай. Акрамя таго, існавала нелегальная беларуская

арганізацыя “Чорны Кот”, якая пры дапамозе нямецкіх спецслужбаў падрыхтавала людзей, сетку бункероў са зброяй, боепрыпасамі, радыёстанцыямі, прадуктамі і г. д. Яна пад кіраўніцтвам Міхала Вітушкі дзейнічала яшчэ і ў 1950-я, але спецыялізавалася на дыверсіях, выведцы, прапагандзе. З другой паловы 1940-х яе падтрымлівалі заходнія спецслужбы. У выніку, барацьбу з “Чорным Катом” МГБ/КГБ разглядалі, як барацьбу з нелегальнай сеткай амэрыканскай выведкі. І дакумэнты па гэтых апэрацыях дагэтуль засакрэчаныя.

У публікацыі ў “Беларускай думцы” Валахановіч паўтарае вядомую інфармацыю пра два дэсанты з-за жалезнай заслоны, зьвязаныя з Радай БНР. Ён адзначае, што назва “Чорны Кот” “не фігуравала ў заданьнях Рады БНР ні І. Філістовічу, ні групе Ц. Вострыкава — Г. Касьцюка”. Нібыта, гэта мусіць сьведчыць, што “Чорны Кот” — выдумка і нават Рада БНР у яго ня верыла. Аднак раім Ігару Валахановічу азнаёміцца хаця б з апошняй кнігай дасьледчыка Лявона Юрэвіча, у якой ён піша пра таемныя кантакты Рады БНР з беларускім Супрацівам на Бацькаўшчыне.** Праўда, кіраўнікі Рады БНР ня мелі выхадаў на кіраўніцтва арганізацыі М. Вітушкі (у адрозьненьне ад некаторых дзеячоў БЦР), таму і не маглі даць дэсантнікам канкрэтных наводак (а некаторыя асобы, якія маглі дапамагчы, былі ўжо арыштаваныя). Амэрыканскія спецслужбы бераглі сетку “Чорнага Ката”, як вельмі каштоўную, і таксама не выводзілі на яе. Да таго ж, яны былі зацікаўленыя ў заснаваньні новых галінаў Супраціву, якія б дзейнічалі аўтаномна.

Здаецца, у будучыні некаторыя дасьледчыкі трапяць у непрыемную сытуацыю, калі акажацца, што іх папярэднія публікацыі скажалі рэчаіснасьць. Бо акажацца, што “Чорны Кот” “не басня — праўда”, што яго дзейнасьць будуць вывучаць у Інстытуце нацыянальнай бясьпекі, у тым самым, дзе зараз працуе Валахановіч.

Варта адзначыць, што публікацыя ў “Беларускай думцы” была праілюстраваная дакумэнтамі і здымкамі, некаторыя зь якіх надрукаваныя ўпершыню.

**Сяргей Ёрш**

**У “Белорусской военной газеце” зьявіўся артыкул пра “Чорнага Ката” // Беларускі Рэзыстанс, 2014, № 1(15), б. 149-150.*

***Юрэвіч Л. Эмігрант Францыск Скарына, ці апалогія. — Мінск: Кнігазбор, 2015, б. 331-334.*



***Зброя партызанаў Івана Раманчука. Фота: Беларуская думка.***

***Дакумэнт дэсантніка “Дальвіца” Авеніра Філіповіча. Фота: Беларуская думка.***

***Дакумэнт маёра Яна Гелды, камандзіра “Дальвіца”.***

# ВЫЙШЛА КНІГА ПРА ГІСТОРЫЮ БЕЛАРУСКАЙ ЦЭНТРАЛЬНАЙ РАДЫ

*Гардзіенка А. Беларуская Цэнтральная Рада (БЦР): стварэнне — дзейнасць — заняпад (1943 — 1995). — Мінск: Кнігазбор, 2016. — 480 с.*

Нумар “БР” за 2015 год ужо быў падрыхтаваны, калі ў студзені 2016-га выйшла кніга пра Беларускую Цэнтральную Раду. Падзея важная, таму вырашылі не адкладваць рэцэнзію на наступны нумар.




Зьяўлення першага сур’ёзнага дасьледаваньня на тэму БЦР давялося чакаць так доўга! У адрозненьне ад працы Аляксея Салаўёва*, абмежаванай перыядам 1943-1944 гг., манаграфія Алега Гардзіенкі ахоплівае дзейнасьць Рады ад яе стварэньня да “ціхай сьмерці”. Калі Салаўёў меў доступ да архіваў КДБ, дык Гардзіенка здолеў дабрацца да архіваў БЦР у ЗША.

А. Гардзіенка прарабіў значны аб’ём працы — працаваў з дакумэнтамі ў архівах, вывучаў успаміны, публікацыі ў перыядычным друку. У выніку, атрымалася неблагая кніга. Па структуры яна вельмі нагадвае працы Н. Гардзіенкі і Л. Юрэвіча пра Раду БНР. Праўда, ім для асьвятленьня яе дзейнасьці спатрэбіліся тры тамы, а Гардзіенка ўклаўся ў адзін. Тым ня менш, на наш погляд, тэкст перагружаны шматлікімі і часам неапраўдана вялікімі цытатамі з успамінаў, сьведчаньняў розных людзей. Яшчэ можна было б зразумець, каб гаворка ішла пра невядомыя ці малавядомыя мэмуары, але ж нярэдка гэта цытаты з кніг, якія выйшлі ў Менску ў апошнія гады.

Не хапае ў кнізе А. Гардзіенкі грунтоўнага, шматбаковага аналізу тых фактаў, падзеяў, дакумэнтаў. Ён акуратна ўсё сабраў пад адну вокладку, але атрымалася неяк малацікава для масавага чытача. І

**Соловьев А. Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах. — Минск, 1995.*

хоць заяўлена, што гэта “навукова-папулярнае выданьне”, можна сьмела яго называць “навуковым”.

У кнізе зьмешчаныя дакумэнты пра дзейнасьць БЦР, але чамусьці не падаюцца спасылкі на крыніцы, адкуль яны былі ўзятыя. Аўтар неаднаразова цытуе нейкі таямнічы “Зборнік дакумэнтаў БЦР” у 2-х частках, копію машынапісу якога мае, але не тлумачыць, адкуль ён паходзіць і што сабой уяўляе. Зь нейкай прычыны гэты дакумэнт не патрапіў у сьпіс выкарыстаных матэрыялаў.

Ёсьць прыкрыя памылкі ў біяграмах. Адна зь іх — пра самагубства ў 1965-м у ЗША Уладзімера Лазарэвіча (б. 434) — пайшла з нашай кнігі “Вяртаньне БНП”. Яна была выпраўленая ў кнізе “Дэсант у няпэўнасьць” (на абедзьве спасылаецца Гардзіенка, але выпраўленьня не заўважыў). Насамрэч, тады загінуў іншы беларускі дзяяч — Уладзімер Лазар, а Лазарэвіч памёр у 1980-я гады.

Бяда многіх падобных выданьняў у тым, што пры асьвятленьні дзейнасьці легальных структураў падчас нямецкай акупацыі ніяк не адлюстраваны ўплыў на яе беларускіх нелегальных структураў. Магчыма, ён быў невялікі, аднак, ігнаруючы яго, дасьледчык не стварае поўнай карціны тагачасных падзеяў. Падобная зьява прысутнічае і ў апісаньні паваеннай дзейнасьці БЦР. Акрамя рэпрэзентацыі на Захадзе беларускага нацыянальна-вызвольнага руху, стварэньня канкурэнцыі Радзе БНР, Беларуская Цэнтральная Рада мела важную мэту — падтрыманьне сувязі з беларускім антысавецкім падпольлем і партызанскім рухам у Беларусі і ў Польшчы. У гэтай справе Радаславам Астроўскім, Людвікам Галубовічам (Зарэчным) ствараліся даклады, справаздачы, якія падаваліся ў пэўныя заходнія службы. На жаль, пра гэта ў кнізе Алега Гардзіенкі мы нічога ня знойдзем. Ёсьць толькі згадка пра спробу стварэньня ў ЗША вясной 1952 году беларускім афіцэрам Аляксандрам Буглаем “асобнай парашутнай брыгады” (б. 252).

Пішучы пра лёс БЦР, дзейнасьць якой была скончаная са сьмерцю Міхася Зуя, яе апошняга прэзыдэнта, Гардзіенка не згадаў публікацыю, якая цалкам прысьвечаная гэтаму пытаньню.* А згадаць варта было б, паколькі той артыкул выклікаў пэўны рэзананс сярод апошніх дзеячоў БЦР.

Аднак, не зважаючы на згаданыя хібы, кніга — важная цаглінка ў справе вывучэньня і пэрыяду нямецкай акупацыі Беларусі, і гісторыі беларускай эміграцыі.

**СЁ**

**Ёрш С. Незайздросны лёс БЦР // Наша ніва, 2003, 16 траўня, № 18.*

# ЯКІЯ ПАДЗЕІ З БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ АДЗНАЧАЮЦЦА І ЎШАНОЎВАЮЦЦА Ў ЧАСЫ НЕЗАЛЕЖНАЙ БЕЛАРУСІ?

Галоўным сьвятам для беларускіх патрыётаў у часы савецкай акупацыі было **25 Сакавіка**, угодкі прыняцьця ў 1918 годзе ў Менску Радай БНР 3-й устаўной граматы. Яна абвяшчала дзяржаўную незалежнасьць Беларусі. БНР тады адваяваць не ўдалося, суседзі парвалі краіну на часткі, але ідэя жыла, яе намагалася рэалізаваць кожнае наступнае пакаленьне беларусаў. У часы незалежнай Беларусі **Дзень Волі** ня стаў дзяржаўным сьвятам. Улада пакінула яго апазыцыйным сілам, якія штогод ладзяць сьвяткаваньне ў Менску і ў рэгіёнах. У выніку, сьвята ўспрымаецца чыноўнікамі і сілавікамі, як апазыцыйнае, а большасьць грамадзтва практычна нічога пра яго ня ведае. І ўсё ж трэба адзначыць, што ў апошняе дзесяцігодзьдзе назіраецца больш прыхільнае стаўленьне афіцыйнай ідэалёгіі, гістарыяграфіі да БНР. Але не больш за тое. Адзіны раз прадстаўнік улады выступаў на сьвяткаваньні Дня Волі ў Менску ў 1993 годзе — старшыня прэзідыюму Вярхоўнага Савету Станіслаў Шушкевіч (там жа прысутнічаў і старшыня Рады БНР Язэп Сажыч. Гл.: Грыц С. “Мы гэта сьвята будзем адзначаць кожны год...” // Народная газета, 1993, 27 сакавіка).

Другой па значэньні датай, якая адзначаецца нацыянальнымі сіламі, зьяўляюцца **Дзяды**. У Менску з канца 1980-х ладзяцца жалобныя шэсьці ў Курапаты, ва ўрочышча, дзе знаходзяцца масавыя пахаваньні ахвяраў савецкага генацыду 1930-х гадоў. Улады, хоць і прызнаюць гэта, нічога ня робяць, каб на належным узроўні ўшанаваць памяць дзясяткаў тысяч чалавек, расстраляных сталінскімі катамі (ды нават нічога ня робіцца, каб спыніць вандалізм у Курапатах). Пра рэпрэсіі, пра карнікаў, якія іх рэалізоўвалі ў цяперашняй Беларусі на афіцыйным узроўні гаварыць не прынята. Калі раней Дзяды адзначаліся сумесна рознымі палітычнымі сіламі, дык у 2000-я КХП-БНФ (партыя Зянона Пазьняка) пачала ладзіць асобныя акцыі — шэсьці і мітынгі ў Курапатах, а таксама і ў Лошыцы, дзе таксама пахаваныя ахвяры савецкага генацыду. На Дзяды акцыі рознага фармату праходзяць і ў рэгіёнах.

У другой палове 1990-х і ў пачатку 2000-х, калі апазыцыйныя сілы яшчэ былі значнай сілай, у іх хапала рэсурсаў на адзначэньне ўгодкаў прыняцьця Вярхоўным Саветам БССР **27 ліпеня** 1990 году

Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі. Падобныя дакумэнты тады прымалі ўсе саюзныя рэспублікі, рэальных наступстваў яны ня мелі (выключна, дэкларацыя). Больш важная для беларусаў дата — 25 жніўня 1991 году, калі пад ціскам Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР яго пракамуністычная большасьць прагаласавала за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі (дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце атрымала статус канстытуцыйнага закону). Гэта быў важны крок да сапраўднага суверэнітэту (і ён стаў рэальнасьцю ў сьнежні 1991-га пасьля пагадненьня ў Віскулях аб скасаваньні СССР). Аднак, калі паўстала пытаньне, у які дзень Рэспубліка Беларусь будзе сьвяткаваць свой Дзень незалежнасьці, парлямэнт абраў 27 ліпеня, тэхнічную дату, якая не выклікае ў беларусаў ніякіх эмоцый і перажываньняў. Сьвяткаваўся Дзень незалежнасьці на афіцыйным узроўні неяк сьціпла, без размаху, прапагандавалася дата слаба, адпаведна і людзі да яе адносіліся неадназначна.

На рэферэндуме 1996 году, праведзенага з ініцыятывы Аляксандра Лукашэнкі, было прынятае пытаньне аб сьвяткаваньні Дня незалежнасьці Рэспублікі Беларусь 3 ліпеня, у дзень вызваленьня Менску ад нацыстаў у 1944 годзе. З 1997 году менавіта ў гэты дзень і адбываюцца сьвяточныя мерапрыемствы. З часам яны набывалі ўсё большы размах, праводзіліся вайсковыя парады, дата актыўна прапагандавалася праз электронныя СМІ, у школах. У выніку, большасьць беларусаў дату 3 ліпеня ведаюць, хаця не ўсе скажуць, чаму абраная менавіта яна. Нацыянальныя (апазыцыйныя) сілы яшчэ колькі гадоў працягвалі адзначаць шэсьцямі і мітынгамі ў Менску 27 ліпеня, і некаторыя акцыі былі даволі масавымі. З часам сілаў і рэсурсаў станавілася ўсё менш, і гэтую дату на вуліцах адзначаць перасталі.

Яшчэ адна дата з гісторыі Беларусі XX стагодзьдзя, якая дагэтуль адзначаецца беларускімі патрыётамі — гэта **Дзень Герояў**. 27 лістапада 1920 году Слуцкая брыгада стральцоў БНР распачала баявыя дзеяньні супраць Чырвонай Арміі. Слуцкае паўстаньне ці Слуцкі Збройны Чын працягваўся месяц і стаў важным сьведчаньнем змаганьня беларусаў за дзяржаўную незалежнасьць. Днём Герояў гэтую дату пачалі называць беларускія эмігранты пасьля Другой сусьветнай вайны. У пачатку 1990-х гэтая назва прыжылася ў Беларусі, дзе з 1992-га ў канцы лістапада пачалі праводзіцца акцыі — шэсьці, мітынгі, паездкі па месцах баёў случчакоў. Арганізоўваў іх на Случчыне БНФ “Адраджэньне”. У некаторых мястэчках, як у Грозаве, былі ўсталяваныя крыжы ў памяць пра герояў 1920 году. У цяперашні час акцыі асобна пра-

водзяць Партыя БНФ і КХП-БНФ. Улады ставяцца да Дня Герояў асцярожна, а ў шэрагу выпадкаў — варожа. У электронных СМІ ў апошнія гады зьявіліся дакумэнтальныя фільмы, сюжэты, у якіх аб'ектыўна паказаная гісторыя Слуцкага Збройнага Чыну. Аднак жыхары Слуцка, Грозава, Семежава, Вызны (Чырвонай Слабады) па-ранейшаму вельмі мала ведаюць пра тыя падзеі. Да таго ж насельніцтва ў гэтым рэгіёне істотна зьмянілася — савецкія ўлады рэпрэсавалі вельмі многіх, а сюды прысылалі людзей з усходняй Беларусі ці з Расеі.




svaboda.org

Дзень Герояў, у адрозьненьне ад Дня Волі ці Дзядоў, адзначаецца выключна лакальна — на Случчыне і ў сумежных раёнах.

У 1990-я ў Менску адбываліся вулічныя акцыі на ўгодкі **Грунвальдскай бітвы** 15 ліпеня 1410 году, калі войскі ВКЛ і Кароны польскай разграмілі войска Тэўтонскага ордэну. Зноў жа яны арганізоўваліся не дзяржавай, а нацыянальнымі сіламі, інтэлігенцыяй. Аднак з часам і гэтай даце сталі надаваць усё менш і менш увагі. Выключэньне складае хіба Горадня, дзе ўсе гады незалежнасьці мясцовая моладзь, актывісты традыцыйна зьбіраюцца 15 ліпеня каля Каложскай царквы (там усталяваны памятны знак "Пагоня на Грунвальд"). Сьвяткаваньне праходзіць пад бел-чырвона-белым сьцягам.

Нярэдка адзначэньне ўгодкаў Грунвальда адбываецца ў форме рыцарскіх турніраў. У Дудутках пад Менскам праводзіцца традыцыйны фэст "Наш Грунвальд" з удзелам гістарычных клюбаў з Беларусі і з замежжа. Беларусы ўдзельнічаюць у рэканструкцыях


photounion.by

і на месцы бітвы. У 2010 годзе, на 600-я ўгодкі Грунвальду, урачыстыя мерапрыемствы прайшлі ў розных гарадах краіны. У Магілёве імпрэзу ў гарадзкой Ратушы арганізавалі ТБМ і аддзел ідэалягічнай працы гарвыканкаму. У Віцебску ў Еўрапейскім клубе Рух “За Свабоду” правёў вечарыну. У Наваградку ў Доме-музеі Адама Міцкевіча правялі выставу “Успамін пра Грунвальд...”. У яе адкрыцьці паўдзельнічаў міністр культуры Павал Латушка.

У 2011-м у Ваўкавыску каля гістарычнага музея імя Баграціёна быў усталяваны памятны знак Грунвальду. Грошы на яго мясцовыя жыхары сабралі падчас аднаго з суботнікаў.

Здаецца, што Грунвальд — гэта тая дата, да якой павінны прыхільна ставіцца ўлады. Аднак вялікай актыўнасьці ў адзначэньні ўгодкаў бітвы чыноўнікі і беларускія сілавікі не праяўляюць. Варта ў гэтай справе браць прыклад з нашых суседзяў — палякаў і летувісаў. На наш погляд, патэнцыял у Грунвальда значны, гэтая дата аб’ядноўвае, а не падзяляе беларусаў. Спрыяе гэтаму і тое, што падзея далёкая, і тое, што нашы продкі ваявалі супраць ворагаў з Захаду, а не з Усходу.

Зусім іншая сытуацыя з **Днём беларускай вайсковай славы**. 8 верасьня 1514 году войскі ВКЛ на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім разграмілі значна большае маскоўскае войска, якое ўварвалася ў межы нашай краіны. Адзначаць гэтую дату беларускія патрыёты пачалі яшчэ ў апошнія гады існаваньня СССР. У часы незалежнай Беларусі на Крапівенскім полі пад Воршай пачаў ладзіцца традыцыйны фэст бардаўскай песьні. У пачатку 1990-х угодкі бітвы пад Воршай сьвяткаваліся і ў Менску. Найбольш запамінальнае 8 верасьня 1992 году, калі на плошчы Незалежнасьці БНФ “Адраджэньне” і Беларускае згуртаваньне вайскоўцаў арганізавалі прысягу на вернасьць Беларусі. У той акцыі ўзялі ўдзел тысячы

людзей. У 2000-я гады сьвяткаваньне Дня беларускай вайсковай славы адбываецца ўжо ў значна меншым маштабе. І нават у такой сытуацыі ўлады чынілі перашкоды правядзеньню фэсту пад Воршай, былі затрыманьні людзей.

Афіцыйная пазыцыя: сьвята ідэалягічна шкоднае, паколькі з Расеяй існуе "саюзная дзяржава", яна аказвае эканамічную падтрымку беларускай дзяржаве. Таму пра колішнюю перамогу беларусаў над маскавітамі лепш ня згадваць.

Згаданыя даты — асноўныя, якія адзначаюць нацыянальныя сілы. Але ёсьць і дзясяткі іншых, якія адзначаюцца ў пэўных рэгіёнах, раёнах, гарадах.




У лютым на дзень нараджэньня нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і ЗША **Тадэвуша Касьцюшкі** з усёй краіны прыяжджаюць людзі ў **Мерачоўшчыну** каля Косава, дзе існуе музэй у яго адноўленай сядзібе. Асабліва шырока адзначаліся 1996-м 250-я ўгодкі з дня нараджэньня Касьцюшкі. Зь Менску прыяжджала прадстаўнічая дэлегацыя на чале з Зянонам Пазьняком (Сьвята на радзіме Касьцюшкі // Пагоня, 1996, № 9, 1-7 сакавіка).

У **Горадні** на тыя ж Дзяды ўскладаюць кветкі да помнікаў Элізе Ажэшцы, Янку Купалу, да мэмарыяльнай дошкі загінулым паўстанцам 1863 году ля будынку чыгуначнага вакзалу. А пра памятны знак каля Каложы мы ўжо згадвалі. А вось крыж, які быў усталяваны ў 2000-м на месцы зьнішчанай бальшавікамі Фары Вітаўта, улады ліквідавалі (Астраўцоў С. Часовае зьнікненьне // Наша ніва, 2000,

№ 49, 4 сьнежня).

У **Магілёве** нерэгулярна адзначаюцца **ўгодкі антымаскоўскага паўстаньня** ў горадзе ў 1661 годзе. Падчас вайны Рэчы Паспалітай з Маскоўскай дзяржавай жыхары Магілёва ўзьнялі паўстаньне і “выразалі ўвесь варожы гарнізон (паводле розных падлікаў ад 1 да 7 тыс. чалавек)”. Раніцай 1 лютага 2001 году ў розных месцах Магілёва ў гонар паўстанцаў былі вывешаныя бела-чырвона-белыя сьцягі (Мельянцоў Д. Памяць пра разьню // Наша ніва, 2001, 12 лютага, № 7).

У траўні 2007-га мастак Алесь Пушкін арганізаваў каля мястэчка Бобр у **Крупскім раёне** ўшанаваньне памяці камандзіра беларускага антыбальшавіцкага партызанскага атрада **Юркі Моніча** (ён дзейнічаў да 1924 г., калі загінуў). На сасьне быў усталяваны шасьціканцовы крыж з подпісам “Юрка Моніч. 1890 — 1924. Змагару за Беларусь”. “Наша ніва” адзначала: “У цырымоніі ўзялі ўдзел мясцовыя жыхары, а таксама артысты і грамадзкія дзеячы з сталіцы” (Ушанавалі памяць случчака // Наша ніва, 2007, 1 чэрвеня, № 20). Зьбіраліся беларускія патрыёты на месцы гібелі Моніча і ў наступныя гады.

На **Зэльвеншчыне** галоўнае месца паломніцтва беларускіх патрыётаў — гэта дом, дзе жыла **Ларыса Геніюш**, славутая паэтка, дзяячка БНР, а таксама магіла яе і мужа, Янкі Геніюша. У жніўні, на



svaboda.org

дзень народзінаў Геніюш, у Зэльву зьяжджаюцца людзі з Менску, Горадні, Слоніма, Баранавічаў, Ліды, іншых гарадоў. Яны наведваюць і помнік паэтцы, усталяваны каля Свята-Троіцкай царквы ў 2003 годзе (ахвяраваньні зьбіраліся ў Беларусі і ў ЗША). Мясцовыя ўлады на гэтага традыцыйнага мерапрыемства ставяцца непрыхільна. Так, не быў дадзены дазвол на ўсталяваньне памятнай дошкі на хату, дзе жыла Ларыса Геніюш.

У **Сьвіслачы** ёсьць помнікі паўстанцкім камандзірам Кастусю Каліноўскаму і Рамуальду Траўгуту. У канцы кастрычніка адбываецца "Сьвіслацкі фэст" — у гарадок прыяжджаюць беларускія патрыёты з Горадні і Гарадзеншчыны, зь Берасьцейшчыны, зь Менску. Яны наведваюць і магілу брата Каліноўскага Віктара, якую ў 1990-я ўдалося адшукаць на сьвіслацкіх могілках і аднавіць. Яшчэ адно месца паломніцтва — вёска Якушоўка, дзе на месцы былой сядзібы Каліноўскіх усталяваны крыж. Станіслаў Суднік пісаў пра сьвяткаваньне 1997-га: "Менская, гарадзенская і лідзкая моладзь прыняла прысягу на вернасьць Беларусі... 15 кастрычніка была адроджана памяць пра Віктара Каліноўскага, сьцьверджана памяць пра Кастуся Каліноўскага, і зацьверджана вера ў будучыню Беларусі" (Суднік С. Кветкі для Віктара Каліноўскага // Пагоня, 1997, № 61, 28 кастрычніка).

Чамусьці сьвяткаваньне ў Сьвіслачы (а яно праходзіць пад бел-чырвона-белымі сьцягамі) моцна раздражняе мясцовыя ўлады. У мінулыя гады ўлады чынілі перашкоды актывістам, затрымлівалі аўтобусы з людзьмі, затрымлівалі і штрафавалі ўдзельнікаў ушанаваньня. Акцыі традыцыйна здымаюць на відэа людзі ў цывільным. Тым не менш, "Сьвіслацкі фэст" застаецца традыцыйным мерапрыемствам рэспубліканскага маштабу.

На **Слонімшчыне** стала традыцыяй ушаноўваць памяць героя антымаскоўскага паўстаньня 1830-1831 гг. Міхала Валовіча, які акупантамі быў пакараны сьмерцю. На могілках у вёсцы Парэчча была створаная сімвалічная магіла Валовіча, усталяваны помнік, на якім пералічаныя і прозьвішчы




novychas.by

12 яго паплечнікаў. Каля яго і збіраюцца слонімскія актывісты на Дзень Волі, на дзень народзінаў камандзіра беларускіх паўстанцаў. Часам на гэтыя мерапрыемствы прыяюць госьці зь Менску ці з Горадні.

У **Лідзе** на Дзень Волі актывісты наведваюць на старых праваслаўных могілках магілы дзеячоў беларускага нацыянальнага антынацысцкага Супраціўленьня Юльяна Саковіча і Леаніда Маракова. У 1943-м іх застрэлілі ў Васілішках польскія тэрарысты. У **Воранаве** наведваюць магілу генэрала Кіпрыяна Кандратовіча, міністра БНР (Дзень Волі на Лідчыне // Наша слова, 2012, № 13, 28 сакавіка). У 1990-я ў Лідзе ўлады змагаліся з крыжом, які зьяўляўся на месцы пахаваньня героя вызвольнага паўстаньня 1863 году ксяндза Адама Фалькоўскага (яго расстралялі расейскія акупанты). Нягледзячы на тое, што магіла знаходзіцца “ў глухім кутку гарадскога парка”, крыж, усталяваны патрыётамі, неаднаразова зьнішчаўся (Ці пакінуць на магіле крыж? // Пагоня, 1998, № 52, 14 ліпеня). З 1995 году ў памяць паўстанцаў 1863 году ва ўрочышчы “Крыжы” на Лідчыне, каля памятных крыжоў, праводзіцца традыцыйная імша. Таксама наведваецца магіла ўдзельніцы паўстаньня Валерыі Цехановіч на лідзкіх каталіцкіх могілках (Грынкевіч Я. У памяць паўстанцаў 1863 года // Наша слова, 2004, № 29, 28 ліпеня).

У **Берасьці** мясцовыя актывісты наведваюць магілы жаўнераў войска генэрала Ст. Булак-Балаховіча на Вайсковых могілках. Таксама ўдалося адшукаць на Трышынскім пагосьце магілу дзеяча БНР Адама Трыпуса. Там быў усталяваны новы помнік. І цяпер магілу Трыпуса арганізавана наведваюць на Дзень Волі, на Дзяды (Дзень Волі ў Берасьці // Наша слова, 2012, № 13, 28 сакавіка).

На **Пружаншчыне** ў 1933 годзе польскімі ўладамі быў усталяваны на ўскрайку Ружанскай пушчы каля вёскі Ласасіна помнік 40 загінулым паўстанцам 1863 году. Савецкія ўлады яго зьнішчылі. У 1989 годзе мясцовыя актывісты помнік аднавілі, але ў 1997-1998 гг. яго адмыслова расстралялі з верталёта(!). У 2000 годзе актывісты ТБМ зноў аднавілі помнік паўстанцам (Машкала І. Шляхам свабоды // Голас Пружаны, 2000, № 5, 29 верасьня — 5 кастрычніка; Крукоўскі Ул. Двойчы расстраляныя. Адноўлены помнік паўстанцам Шчаснага // Наша ніва, 2000, № 42, 16 кастрычніка).

На **Гарадоччыне** каля вёскі Фралова (Віцебская вобласьць) у 2007 годзе быў усталяваны Крыж Памяці. У 1918-м у тых месцах адбылося антыбальшавіцкае паўстаньне, якое задушылі карныя бальшавіцкія атрады. Мясцовыя актывісты змаглі вызначыць, у якім месцы былі расстраляныя паўстанцы.

У горадзе **Старыя Дарогі** Менскай вобласьці месцам паломніцтва актывістаў найперш зь Менску быў музэй выяўленчага мастацтва, заснаваны Анатолем Белым. Аршанскія актывісты наладжвалі акцыі памяці ў мясцовых Курапатах — на Кабылянскай гары каля вёскі Андрэеўшчына (Суднік С. У Аршанскіх Курапатах // Пагоня, 1996, № 24, 14-20 чэрвеня).

У лістападзе 2006-га ў вёсцы Выня **Капыльскага раёну** быў усталяваны сьціплы Памятны знак ахвярам сталінскіх рэпрсій, мясцовым жыхарам (Лісоўскі С. Памяць пра рэпрэсіі — гэта патрэбнасць чалавечага сумлення і сумлення нацыі // Наша слова, 2006, № 49, 6 сьнежня).

На Дзяды 1992 году каля вёскі Касуты **Вялейскага раёну** быў установулены памятны знак — высокая драўляная брама ў выглядзе спалучаных праваслаўнага і каталіцкага крыжоў. У чэрвені 1941-га НКВДысты расстралялі там палітычных вязьняў вялейскай турмы (Чарняўскі М. Паўстагоддзя забыцця і маўчання // Літаратура і мастацтва, 1992, 3 студзеня).

У памяць пра ахвяраў іншай падобнай трагедыі чэрвеня 1941-га — пад **Чэрвенем** каля Менску (там таксама энкавэдысты расстралялі палітвязьняў) — там праводзіліся акцыі. У іх удзельнічалі летувісы і палякі, паколькі і яны былі ў калёне сьмерці. Значную частку ўдзельнікаў шляху складалі былыя палітвязьні, але гэтыя людзі адыходзяць. Таму ня дзіўна, што ў апошнія гады ўжо не чуваць, каб угодкі трагедыі пад Чэрвенем адзначаліся.

У 1993 годзе ў **Маладзечне** ўстанавілі помнік “Пакутнікам за волю і незалежнасць Беларусі”. У далейшым яго пераносілі на іншае месца — перашкаджаў нейкаму будаўніцтву і чыноўнікі дазволілі.

У верасьні 2009 году ва ўрочышчы Чырвоны Беражок на Вялейшчыне быў усталяваны крыж у памяць героя беларускага антысавецкага Супраціву **Расьціслава Лапіцкага**, які быў там расстраляны ў 1950 годзе. Спачатку там быў усталяваны валун з надпісам пра расстралянага змагара за незалежнасьць Беларусі, але ўлады яго адтуль вывезьлі. Той жа восеньню 2009-га каля згаданага крыжа актывісты паставілі яшчэ два — “Ахвярам рэпрэсіяў ад грамадзкасьці Смаргоні” і “Героям Беларусі”. Але ўсе яны неўзабаве былі зьнішчаныя, арганізатараў установкі пакаралі штрафамі.

Баранавіцкія актывісты зьдзяйсьняюць паездкі на месца **бітвы пад Палонкай** 1660 году (там войскі ВКЛ і Кароны польскай разграмілі маскоўскае войска) і на месца бітвы паўстанцаў з расейцамі

**пад Мілавідамі** 1863 году (Равяка Р. Угодкі бітвы пад Палонкаю // Наша ніва, 2005, № 26, 15 ліпеня).

У красавіку 2008-га ў вёсцы Дражна **Старадарожскага раёну** быў усталяваны мэмарыяльны крыж у памяць вяскоўцаў, забітых у 1943 годзе савецкімі партызанамі. Улады крыж адтуль прыбралі, а журналіст Віктар Хурсік, аўтар кнігі пра трагедыю ў Дражне і ініцыятар устанаўленьня крыжа, трапіў пад адміністрацыйны арышт. Улады не дапускаюць найменшых спробаў падарваць міф пра “рэспубліку-партызанку” і вельмі рэзка на іх рэагуюць.

У 1990-я гады былі спробы сьвяткаваньня 23 лютага ўгодкаў стварэньня ў 1944-м Беларускай краёвай абароны. Але гэта быў хутчэй пратэст супраць савецкага сьвята 23 лютага, якое захавалася ў Беларусі пад назвай Дзень абаронцаў Айчыны.

У тыя ж 1990-я былі спробы сьвяткаваньня і іншых датаў, угодкаў бітваў. Напрыклад, у 1995-м плянавалася адзначыць угодкі “ідэалягічна правільнай” Кулікоўскай бітвы, але мінскія ўлады не далі дазволу (Альгярдовіч К. Чаму лукашэнкаўскія ўлады забаранілі сьвяткаваць 615-я ўгодкі Кулікоўскай бітвы? // Пагоня, 1995, № 37, 6-12 кастрычніка).

Гэта толькі першая спроба прааналізаваць, што ж адзначылі і працягваюць адзначаць нацыянальныя сілы ад 1991 году. Безумоўна, гэты агляд ня поўны, магчыма, было ўпушчана нешта істотнае. Аднак асноўныя даты тут былі згаданыя. На падставе выкладзенага можна ўявіць, наколькі значныя высілкі прыкладалі і прыкладаюць беларускія патрыёты для таго, каб жыла памяць пра нашых продкаў, пра нашых папярэднікаў. І робіцца гэта незалежна ад дзяржавы, якая ўсё яшчэ не стала беларускай па духу.

**Мікалай Шыбіцкі**

*Кастусь Рамановіч*

# ЗА ВОЛЮ БЕЛАРУСІ

## УСПАМІНЫ ПРА СЯБЕ І СВАІХ СЯБРОЎ




Увазе чытачоў "БР" прапануюцца ўспаміны беларускага патрыёта Кастуся (Канстанціна Яўхімавіча) Рамановіча (1927 — 2005). Дзесяць гадоў таму высілкамі нашага выдавецтва яны выходзілі маленькім накладам,* урывак з іх зьяўляўся на старонках першага нумару часопіса.** Свае ўспаміны Рамановіч пісаў найперш для сваёй сям'і — каб нашчадкі ведалі і памяталі, за што ён змагаўся, праз што прайшоў. У кнігу ўвайшоў іх скарочаны варыянт. Паколькі тое выданьне ўжо вялікая рэдкасьць, а ў інтэрнэце яго няма, мы палічылі неабходным зрабіць другую публікацыю ўспамінаў.

Кастусь Рамановіч браў удзел у паваенным беларускім нацыянальным антысавецкім Супраціве. Ён уваходзіў у кіраўніцтва кансьпірацыйнай арганізацыі "Саюз Вызваленьня Беларусі" (1946-1947 гг.), меў псэўданім "Сокал". А перад гэтым ён толькі вярнуўся з савецкіх кацлягераў, дзе адбываў невялікі тэрмін за ўдзел у Саюзе беларускай моладзі. У 1947 годзе быў чарговы арышт і шматгадовае зьняволеньне. Але выпрабаваньні лёсу не зламалі Рамановіча, толькі загартавалі яго. Ён быў актыўны ў нацыянальным жыцьці незалежнай Беларусі, уваходзіў у грамадзкую арганізацыю "Ветэраны Адраджэньня", друкаваў успаміны ў друку.

Гэта быў сьмелы, сумленны, рашучы, энэргічны, моцны духова чалавек. Сапраўдны змагар за вызваленьне Беларусі.

**Рамановіч К. За волю Беларусі. Успаміны пра сябе і сваіх сяброў. — Слонім-Менск: Беларускі Рэзыстанс, 2005. — 116 б.*

***Рамановіч К. Варшанская перамога // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1, б. 80-84.*

**Прадстаўнік дзяржавы Беларусь**

Я нарадзіўся 1 студзеня 1927 году ў вёсцы Лозкі Навагрӓдзкага раёну Гарадзенскай вобласьці ў беднай беларускай сям'і. Адукацыю пачаў у 1934 годзе ў польскай школе. У той час у Польшчы не было беларускіх школаў, а ў польскіх беларускую мову і літаратуру не выкладалі. Нават на пераменках паміж урокамі нам забаранялі размаўляць па-беларуску. А я, як і мае бацькі, ведаў толькі родную мову.



Неяк з сябрамі прыдумалі гульню, у якой кожны хлапчук прадстаўляў нейкую дзяржаву. Так сталася, што я заўсёды быў прадстаўніком дзяржавы Беларусь. Мая цётка па бацьку Аляксандра Аляшкевіч, настаўніца пачатковай школы пры “першых” саветах, неяк сказала: “Дык Беларусі, як дзяржавы, ніколі не было”. Памятаю, што я ёй адказаў: “Не было — дык будзе!”. Гісторыі Беларусі, як і беларускай літаратуры, безумоўна, мы тады ня ведалі.

1 верасьня 1939 году Нямеччына напала на Польшчу — пачалася Другая сусьветная вайна. Падзеі разьвіваліся імкліва. 17 верасьня ў Заходнюю Беларусь увайшла Чырвоная Армія, каб “вызваляць беларусаў з-пад ярма панскай Польшчы”. Памятаю, зь якой радасьцю вяскоўцы сустракалі “вызваліцеляў”, з кветкамі, крыкамі “ура!”, падкідвалі ўгору шапкі каля спэцыяльна наладжанай брамы ў вёсцы Шчорсы над Нёманам. Нашую мясцовасьць чырвонаармейцы занялі без адзінага стрэлу. Польскія ўрадоўцы паўцякалі, а хто зь іх, мясцовых, ня ўцёк, тых пасьля катаваньняў расстралялі ў Шчорсаўскім парку. Уцяклі і польскія настаўнікі. Замест іх з усходу прыслалі савецкіх настаўнікаў, а таксама савецкіх кіраўнікоў.

У 1939 годзе я перайшоў у 6 клясу сямігадовай польскай школы ў вёсцы Лозкі. Але пры саветах мяне з аднаклясьнікамі з 6-й клясы адсадзілі назад, у 5-ю клясу. Хто быў у 7-й клясе, таго таксама адсадзілі ў 5-ю, бо ніхто з нас ня ўмеў ні чытаць, ні пісаць, ні гаварыць па-расейску.

Зіма з 1939 на 1940 год была ў нас вельмі суровая, павымярзалі ўсе сады. Па такой сьцюжы на санях праз нашую вёску вывозілі на ўсход пад канвоем сем'і польскіх асаднікаў. Везьлі і старых, і малых. Памятаю, што мне іх было шкада. Асаднікаў, заслужаных вэтэранаў польскага войска, калісьці надзялялі зямлёй на "крэсах усходніх", яны будавалі заможныя сядзібы хутарскога тыпу, жылі значна багацей за беларускіх сялянаў. Цяпер жа зь іх пачалося раскулачваньне. Амаль усю маёмасьць яны пакідалі на месцы, ня маючы магчымасьці забраць з сабою.

На тых сялянаў, хто меў каня і сані, савецкія ўлады накладалі плян вывазу лесу з Налібоцкай пушчы да Нёману, на сплаў. Вывязеш плян — накладаюць другі, і так бязконца. Памятаю, як мой бацька скардзіўся ў хаце на такую непасільную бясплатную працу. На сялянаў накладалі і непамерныя падаткі. Выплаціш адныя — накладаюць другія. Такім чынам новыя ўлады дамагаліся дабраахвотнага ўступленьня заходніх беларусаў у калгасы. На зьмену польскаму ярму прыйшло яшчэ горшае ярмо савецкае. Але ў нашай мясцовасьці "першыя саветы" не пасьпелі арганізаваць калгасы — перашкодзіла вайна зь немцамі.

**Беларуская школа**

22 чэрвеня 1941 году Нямеччына напала на Савецкі Саюз. Першыя нямецкія жаўнеры ўвайшлі ў нашую вёску без адзінага стрэлу. Яны сядзелі на матацыклах з закасанымі рукавамі мундзіраў. Другіх "вызваліцеляў" нашыя сяляне сустракалі ня так шыкоўна, як першых — бяз брамы. Памятаю, як я разглядаў спражку на рамяні нямецкага жаўнера, дзе было напісана "Got mit uns" ("Бог з намі").

Доўга яшчэ ішлі на ўсход савецкія жаўнеры. Некаторыя басанож, апранутыя напалову ў цывільнае (вайсковую форму мянялі на сялянскую вопратку). Іншы раз яны ішлі разам з былымі вязьнямі савецкіх канцлягераў. "Першыя саветы" за два гады свайго панаваньня ў Заходняй Беларусі пасьпелі арганізаваць нямала канцлягераў, вязьні якіх будавалі аэрадромы. Мясцовыя жыхары кармілі акружэнцаў, чым маглі, прымалі ў свае сем'і, хавалі ад немцаў. Мае бацькі таксама ўзялі да сябе аднаго салдаціка. Усім гаварылі, што гэта наш сваяк. Жыў ён у нас доўга, а як паправіўся, пайшоў далей на ўсход, дадому. Савецкае войска на дарогах пакінула шмат markt розных тэхнікі. Памятаю, як мы, падлеткі, здымалі з машынаў розныя дэталі, напрыклад, бліскучыя ручкі з дзьверцаў і прыносілі іх дадому. Мой бацька за гэта вельмі сварыўся на мяне.

Дарослыя ж здымалі з машынаў колы. З шынаў і камэраў рабілі абутак, прыгаворваючы: “Дзякуй Сталіну-грузіну, што абуў нас у рэзіну”. На ўсход пайшлі і раней прысланыя з усходу савецкія чыноўнікі, а зь імі і прысланыя савецкія настаўнікі.

За адукацыю давялося ўзяцца самім мясцовым беларусам, тутэйшай, ня вынішчанай беларускай інтэлігэнцыі. У асноўным, гэта былі выпускнікі беларускіх гімназіяў зь Вільні і Наваградка. Арганізаваліся кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы, адчыніліся беларускія школы. Немцы ў адукацыю ня ўмешваліся.

У 1941/1942 навучальным годзе я вучыўся ў 7-й клясе школы ў Лозках. Усе прадметы выкладаліся выключна на беларускай мове. Замежнай мовай была нямецкая. Расейскай мовы і літаратуры зусім не было. У сёмай клясе беларускай народнай школы (так яна тады называлася) выкладалі наступныя прадметы: 1. Беларуская мова і літаратура, 2. Нямецкая мова, 3. Матэматыка, 4. Фізыка і хімія, 5. Прыродазнаўства, 6. Гэаграфія, 7. Гісторыя, 8. Ручная праца, 9. Рысаваньне, 10. Сьпеў, 11. Фізычнае ўзгадаваньне (аднаўляю іх з дапамогай пасьведчаньня, якое захавалася).

Кіраўніком школы і маім клясным апякуном быў Мікола Клімец, які прывіў мне любоў да матэматыкі. Беларускую мову і літаратуру выкладала маладая настаўніца Галіна Бузук.* Гэта яна заклала ў маю юнацкую душу плённае зерне беларускага патрыятызму, якое трапіла ў спрыяльную глебу. Галіна была амаль равесьніцай перарослых вучняў 7-й клясы. Яна здолела заахвоціць нас вывучыць напамяць амаль усю паэму Якуба Коласа “Новая зямля”, якая прывіла мне яшчэ большую любоў да нашай пяшчотнай, мілагучнай, лагоднай, ласкавай, роднай беларускай мовы. Галіна дапамагла нам палюбіць беларускую літаратуру, пазнаёміла з выдатнымі беларускімі пісьменьнікамі, паэтамі і іх творамі. З захапленьнем школьнікі сьпявалі беларускія лірычныя і патрыятычныя песьні. Бузук арганізавала драматычны гурток, ставіліся беларускія п’есы. Я ўдзельнічаў у хоры і драматычным гуртку. З канцэртам мы езьдзілі ў раённы гарадок Любча, куды нас коньмі вазілі бацькі. Пасьля вайны мая настаўніца Галіна Бузук загінула ў сталінскім ГУЛАГу.

**Бузук Галіна нарадзілася ў 1924 годзе ў вёсцы Бор у цяперашнім Наваградзкім раёне. Беларуская паэтка. Была “культурным рэфэрэнтам” СБМ пры кіраўнічым штабе арганізацыі, рэдагавала часопіс “Служба юначак”. Летам 1944 г. выехала ў Нямеччыну, апекавалася беларускімі дзяўчатамі ў працоўных лагерах. Арыштаваная савецкімі спецслужбамі верагодна ў 1945*

*г., была асуджаная. Загінула ці памерла ў савецкіх канцлягерах. — Заўвага “БР”.*

На нашай зямлі ішла жорсткая, зьнішчальная вайна. Яна нікога не шкадавала, але ж і не магла спыніць жыцьцё — людзі сеялі жыта, нараджалі і вучылі дзяцей. Вучыліся і мы, сялянскія дзеці. Як жа нялёгка нам было вучыцца! Не хапала падручнікаў — была адна кніжка на ўсю клясу. Таму пісалі канспэкты. Не было паперы, не было сшыткаў, пісалі грыфэлямі на нейкіх спэцыяльных дашчэчках, якія пасьля выцыралі анучкай, як на школьнай дошцы, і зноў пісалі...

Я пешшу хадзіў у Карэлічы. Залазіў у разбураны бомбай архіў, які знаходзіўся ў падвале нейкага дома, выбіраў прыгодную паперу ды рабіў зь яе сшытак. Пісаў у ім паміж радкоў напісанага альбо надрукаванага тэксту, спачатку алоўкам, потым выціраў аловак і яшчэ раз пісаў самаробным чарнілам. Урокі я рабіў на печы пры газоўцы альбо лучыне. Ды яшчэ ж ноччу трэба было ў гумне цэпам малаціць жыта, каб мець свой хлеб, а восеньню — капаць бульбу. Вясною, як толькі зазелянее ў полі маладая траўка, раненька трэба весьці на павадку кароўку пасьвіць, каб мець сваё малако. Гадзіньнікаў не было. Босымі нагамі памераю свой цень — час карову гнаць дамоў, каб не спазьніцца ў школу. За ўсё гэта меў узнагароду — асалоду ведаў, якія давалі нам нашыя настаўнікі.

**У Наваградку**

Пасьля заканчэньня 7-й клясы Беларускай народнай школы ў вёсцы Лозкі, у верасьні 1942 году я паступіў на I курс Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі. Так вясковы хлапчук Косьця Рамановіч апынуўся ў Наваградку. Я адчуваў сябе самым шчасьлівым юнаком у сьвеце. Маладое сэрца сьпявала, захліналася ад прыемных, радасных уражаньняў. Тут усё было прасякнута беларускім духам. Усе прадметы, як і ў Лозках, выкладаліся выключна на беларускай мове. Гутаркі, літаратурныя, гістарычныя суполкі, размовы-развагі аб тым, якой быць Беларусі пасьля вайны...

Пад кіраўніцтвам настаўнікаў былі арганізаваныя розныя гурткі: мастацкі, драматычны, літаратурны, гістарычны і другія. Часта арганізоўваліся вечарыны, на якіх сьпявалі беларускія народныя і патрыятычныя песьні, пашырана знаёмілі зь беларускай літаратурай, зь беларускімі пісьменьнікамі і паэтамі, чыталіся лекцыі па сапраўднай гісторыі Беларусі, пра ўзьнікненьне старадаўняй гістарычнай беларускай нацыянальнай сымболікі — герб “Пагоня” і бел-чырвона-белы сьцяг, сьпявалі беларускі гімн “Мы выйдзем

шчыльнымі радамі”.

Настаўніцкая сэмінарыя разьмяшчалася каля заходняга падножжа высокай Замкавай гары, на якой узвышаліся авеяныя векавой сівізной рэшткі велічнага абарончага замку старажытнай сталіцы Беларусі — Наваградку, дзе ў XIII стагодзьдзі (каля 1270 году) ўзьнікла старадаўняя Крывіцкая Пагоня — герб Беларусі. Разуменьне прысутнасьці ў такім слаўным месцы надавала нашым гарачым юнацкім сэрцам яшчэ больш гонару за нашую родную Беларусь, умацоўвала беларускі дух.

Самым актыўным нашым выхавацелем, закладчыкам беларускага патрыятызму быў настаўнік, малады таленавіты арганізатар, шчыры беларус, сапраўдны патрыёт Беларусі, палымяны прамоўца Барыс Рагуля.* Ён быў роўна на 7 гадоў старэйшы за мяне. Барыс Рагуля актыўна арганізоўваў розныя гурткі, спартыўныя мерапрыемствы, вечарыны. На адной зь вечарынаў Рагуля кіраваў танцамі (ён сам быў выдатным танцорам). Танцаваць я навучыўся на таку свайго гумна, “пад язык”, і са снапом саломы, але ў горадзе не адважваўся пайсьці танцаваць. Памятаю, Барыс заўважыў у куточку мяне, сарамлівага вясковага хлапчука, падыйшоў, узяў за руку, падвёў да дзяўчыны і пусьціў нас у вір танцаў. Пад кіраўніцтвам Барыса партнёршы па танцах мяняліся. І вось пасьля чарговага “кола”, я атрымаў магчымасьць, першую ў жыцьці, патанцаваць зь дзяўчынай Анюткай, якую сардэчна кахаў (першае маё каханьне). З усімі танцаваў нармалёва, а зь ёю ад хваляваньня — ня мог, чырванеў, як рак, то на адну нагу ёй наступаў, то на другую... Але Барысу я за той учынак і сёньня ўдзячны.

*Рагуля Барыс (1920 —2005), беларускі палітычны і вайсковы дзяяч. Ураджэнец в. Турэц цяперашняга Карэліцкага раёну. Летам 1941 г. на пачатку нямецка-савецкай вайны вызваліўся з савецкай турмы, неўзабаве далучыўся да беларускага нацыянальнага руху. Быў сябрам ЦК Беларускай незалежніцкай партыі, псэўданім “Менскі”. У 1943-1944 гг. камандаваў “Наваградзкім эскадронам” (паліцыйным фармаваньнем, якое было ўкамплектаванае беларусамі). З лета 1944-га — на эміграцыі. Уваходзіў у Раду БНР, быў намесьнікам старшыні, удзельнічаў у засылцы беларускіх дэсантнікаў за “жалезную заслону”. З пачатку 1950-х жыў у Канадзе, зрабіў пасьпяховую кар’еру лекара.*

Я быў някепскім спартоўцам. Браў першыя месцы ў бегу на кароткія дыстанцыі, напрыклад, на 100 мэтраў, і ня толькі па сэмінарыі, але і па ўсім Наваградзкім раёне. Памятаю, на адным са спартыўных мерапрыемстваў на наваградзкім стадыёне Барыс

Рагуля ўнёс прапанову: стаць са мной удвох на 100-мэтровую дарожку, паспаборнічаць у бегу. Сталі на стартавую лінію, я басанож у даматканых штанішках, а ў чым быў апрануты Рагуля, ужо ня памятаю. Я хваляваўся, як у танцы з Анюткай. Стрэл — і мы рванулі… Беглі з усяе сілы і ўсё поруч, як зьвязаныя. Фініш! Судзьдзя вынес рашэньне — прыбеглі адначасова, хаця мне, як заўзятаму бягуну, здавалася, што я на нейкую долю секунды быў першым. Бацька на мяне сварыўся за гэтыя "бегі", казаў, што я імі падарву сэрца.

**Двайная акупацыя**

А ў гэты час у беларускіх вёсках ішло сваё жыцьцё. У кожнай вёсцы сялянамі былі абраныя старасты, якія пазьней апынуліся ў сталінскім ГУЛАГу. Зьявіліся паліцыйныя пастарункі, а ў лясах — партызаны. Дзьвюхуладзьдзе: днём гаспадараць немцы, а ноччу — партызаны. Часта яны ходзяць у аднолькавым адзеньні. Зь нямецкага боку казакі (ўласаўцы) па-расейску размаўляюць, савецкія партызаны таксама гавораць па-расейску, арыэнтацыю даюць мясцовыя партызаны. Людзі ня ведаюць, каго баяцца, як з кім гаварыць. Людзі бязьвінна гінуць. Усе гады нямецкай акупацыі побач быў "другі" фронт.

Мой дзядзька Гальяш Аляшкевіч, вясковы інтэлігэнт, жыў у суседняй вёсцы Балотца. Быў ён знакамітым яшчэ з польскіх часоў фатографам. Адзін на ўсю вёску меў гадзіньнік, радыё (слухаўкі), быў параўнальна заможным селянінам. Падтрымліваў сувязь з партызанамі, якія прыходзілі да яго ўначы паслухаць радыё, пачуць навіны ад Гальяша ды сфатаграфавацца.

Па суседзку з Гальяшом жыў Цімох Катляр, які "ніколі ня еў хлеба зь бярозавым сокам". Як быў свой хлеб, то яшчэ не было бярозавага соку. Як вясною зьяўляўся бярозавы сок, то ў Цімоха ўжо не было свайго хлеба. Аднойчы прыходзіць да Гальяша Цімох і просіць: пазыч мне тры пуды жыта, я зьбяру свой ураджай, змалачу і аддам. Сабраў Цімох жыта, змалаціў, але не аддае. Гальяш ідзе да Цімоха і патрабуе, каб аддаў жыта. Добра, кажа Цімох, аддам. А сам ідзе да немцаў і заяўляе аб сувязях Гальяша з партызанамі. Прыяжджаюць да Гальяша немцы і пытаюцца: ты можаш уначы фатаграфаваць? "Магу", — кажа Гальяш. Ах так — ідзі сюды. Арыштоўваюць немцы Гальяша і ягоную жонку, маю цётку па бацьку Аляксандру Андрэеўну, ды садзяць у навагрудзкую турму. Дзяцей у іх не было. Хату і ўсю маёмасьць перавезьлі ў вёску Шчорсы. Гальяша немцы расстралялі ў навагрудзкай турме.

Цётку вывезьлі ў Польшчу, у нямецкі лягер каля Ломжы. І Цімоху не было каму аддаваць тыя тры пуды жыта…

Перад арыштам Гальяш закапаў у хляве майго бацькі назапашанае за ўсё сваё жыцьцё золата. Выпадкова падслухаў я такую размову. Бацька кажа маме: “Гальяша няма ўжывых, Шуры таксама, давай мы забярэм закопанае ў хляве золата”. А мама адказала: не тваё і не чапай!

Цётка Шура з-пад калючага дроту нямецкага лягеру ўцякла і прыйшла да сваёй роднай сястры Анастасіі Андрэеўны Самусік, мужа якой, Мікалая, немцы таксама расстралялі. Сама гадавала двух сыноў, Юру і Рому, дала ім вышэйшую адукацыю. Жывуць яны цяпер у Беластоку. Юра — доктар мэдыцынскіх навук, Рома — інжынэр радыё-тэлебачаньня. Цётка Шура хавалася ад немцаў у цёткі Насьці да прыходу савецкіх войскаў у Польшчу. Пасьля гэтага прыехала ў сваю вёску Балотца, а там няма хаты, ніводнай забудовы на пляцы не захавалася, нават самога пляцу няма... Ён быў на добрай гліне пры дарозе. Гліну сяляне вывезьлі на розныя гаспадарчыя патрэбы. Цётка Шура жыла ў маіх бацькоў у Лозках. Адкапала сваё золата ў нашым хляве. Ох, як ёй тады спатрэбілася гэтае золата!

Мой дзядзька па маме Васіль Кошар у вёсцы Краскоўскія Горы (каля Шчорсаў) быў абраны вяскоўцамі старастам. Яго самую малодшую сястру Лізу немцы вывезьлі ў Нямеччыну на прымусовыя працы. Там яна захварэла на сухоты. Пасьля перамогі над немцамі вярнулася дамоў і неўзабаве памерла ад гэтай хваробы, яшчэ вельмі маладая дзяўчына… Дзядзька Васіль загінуў у сталінскіх лягерах. Невядома, дзе гэта здарылася, дзе ён пахаваны і ў якіх лягерах адбываў пакараньне. Зьвестак ад яго ніякіх не было. Ягоная жонка, 90-гадовая Ганна, сагнутая ў кручок ад старасьці, і цяпер пры сустрэчы пытае: “Косьця, можа ты дзе ў лягерах бачыў майго Васіля?..” Ён быў прыгожым, здаровым, дужым, старанным працаўніком на вёсцы, вядомым на ўсю акругу сталяром.

З нашай вёскі Лозкі пайшоў у партызаны Барыс Ляпешка. Пасьля гэтага прыехалі немцы, забілі бацьку Барыса, маці, малагадовую сястру, спалілі хату і ўсю забудову. Старэйшая сястра Маня не была дома, яна і цяпер жыве, у Лозках. А Барыса, пасьля партызанкі, узялі ў Чырвоную Армію і ён загінуў на фронце.

У вёсцы Балотца жыў мой сябра, трохі старэйшы за мяне — Лёня Ляпешка. Аднойчы ноччу прыйшлі партызаны з прапановай забраць яго ў лес, але ён адмовіўся. За гэта Ляпешку вывелі з хаты на двор і застрэлілі. Застрэлілі і ягонага бацьку. Малагадовая

дзяўчынка, сястра Лёні, кінулася бараніць бацьку, абхапіўшы яго ручкамі. Прастрэлілі ёй ручку, але не забілі... Старэйшая сястра Люба ў гэты час была ў Наваградку, вучылася ў прагімназіі. Не было ў хаце і маці.

Найбліжэйшым нашым суседам у Лозках быў вельмі бедны Петрык Жарыч. Ён меў шмат дзяцей, але яшчэ больш блашчыцаў у хаце. Круглымі сіротамі пакінуў сваіх дзяцей яшчэ да 1939 году. Самай старэйшай дачкой была ягоная Нюша (калека), за ёй — Каця (прыгажуня), Алёша, Гена (мой равесьнік) і самая маладзейшая малая Лёля, таксама прыгожая дзяўчынка. Аднойчы Нюша зь вядзёркам пайшла ў калодзеж-“журавель” набраць вадзічкі. Калодзеж быў насупраць нашай хаты. Узялася Нюша за драўлянае вядро, якое вісела на драўлянай жэрдцы “жураўля”, хацела апусьціць вядро ў калодзеж, але раптоўна наляцеў вецер і супрацьвага “жураўля” падняла Нюшу ўверх. Яна спалохалася, адпусьціла вядро і паляцела ў калодзеж глыбінёю каля 12 мэтраў. Бацька мой праз вакно бачыў гэтае здарэньне, выбег з хаты, нарабіў ляманту, зьбегліся людзі, дасталі Нюшу са сьцюдзёнае вады, як мокрую курыцу, непашкоджаную, толькі перапалоханую…

Закахаўся ў Кацю сын баптысцкага сьвятара Пецця Тур. Пецця часта на ровары з суседняй вёскі Роскаш езьдзіў да Каці. Я праз вакно выпрошваў у Пецці ровар і, такім чынам ненаўмысна падглядаў, як яны цалуюцца — занавесак на вокнах не было. Каб я ім не перашкаджаў, Пецця даваў мне пакарыстацца роварам. Ён хацеў узяць шлюб з Кацяй, але не дазволіў яго бацька. Як гэта так, каб сын сьвятара ажаніўся на беднай дзяўчыне ды яшчэ не на баптыстцы!

Тады Пецця перайшоў жыць да Каці. У беднай сям’і Жарычаў (у іх не было ні каня, ні воза, ні каровы) зьявіўся гаспадар, шосты член сям’і. Я часта заходзіў да іх. Любіў назіраць, як спрытна Пецця забіваў драўляныя цьвічкі ў скураную падэшву бота. Ён быў выдатным шаўцом. І мяне навучыў забіваць драўляныя цьвікі ў падэшву, чым я ганарыўся. Памятаю, як смачна яны елі бульбу ў мундзірах, высыпаную з гаршка на голы стол...

Нарадзілася ў Каці першая дачка Ніна. Сям’я павялічылася — ужо 7 душ стала ў хаце. Пецця ж стаў паліцыянтам. Ня ведаю, ці яго мабілізавалі ў паліцыю, ці ён дабраахвотна туды пайшоў, можа галеча прымусіла? Тым часам у Каці нарадзілася другое дзіця. Сям’я яшчэ павялічылася. У маленькай аднапакаёвай хаціне ўжо стала 8 душ.

Лёша вырашыў ажаніцца і ўзяў за жонку таксама бедную

дзяўчыну з суседняй вёскі Балотца. Вясельле адбылося ў Болотцы. Ноччу прыйшлі партызаны і на вясельлі застрэлілі Пецю. Атрымалася і вясельле, і паніхіда адначасова. Неўзабаве і Лёша пайшоў у паліцыю (пазьней ён загінуў у сталінскіх лягерах, пакінуўшы ўдавой маладую жонку і сіратой малога сына).

Каці далі кватэрку ў мястэчку Нягневічы (5 кілямэтраў ад Лозак). Аднойчы ноччу прыяжджаюць у Нягневічы партызаны, забіваюць калеку Нюшу, малагодку Лёлю. Па-зьверску забіваюць Каціна немаўля (за ножкі галоўкай аб вугал хаты). Дачка Каці, Ніна, была ў гэты час у дзеда ў вёсцы Роскаш. Вучылася у Нягневіцкай школе, пасьля стала камсамолкай. Гена ў гэты час быў у Лозках, застаўся жывым і цяпер там жыве.

Я часьцяком пешшу прыходзіў дадому з Наваградка (25 кілямэтраў). Дома, у Лозках, праводзіў і зімовыя вакацыі. Па чарзе ў лепшых хатах дзяўчаты вечарамі зьбіраліся прасьці кудзелю, сьпявалі песьні, а мы, хлапчукі, зьмяталі кастрыцу з падолаў дзяўчатаў, падносілі ім прасьніцы дадому. У сьвяточныя вечары зьбіраліся бяз прасьніцаў. Ладзілі розныя гульні і нават танцы. Нямецкая ўлада такіх сходаў у вёсках не дазваляла. Аднойчы на такое гуляньне ў хату Андрэя Ляпешкі зьявілася паліцыя. Пачулася каманда: “Бягом па сваіх хатах!” Адзін паліцыянт стаяў пры выхадзе з хаты і кожнаму “сьвістаў” плёткаю па сьпіне (у паліцыі гумовых дубінак я тады ня бачыў). Дасталося і мне плёткаю па гарбу… Бег, як ашпараны. А тут яшчэ стрэл уверх паддаў страху і імпэту ў бегу — я стараўся ўцячы ад кулі. Добрая атрымалася трэніроўка па бегу.

У наступную ноч у нашую хату прыйшлі партызаны. Яны хацелі забраць кабылу, а ў яе адна задняя нага была значна таўсьцейшая за другую. Бацька паказаў ім яе і кажа: “Апухла нага, кульгае”. Насамрэч яна не кульгала. Я на ёй вярхом, вядома ж без сядла, сваіх сябрукоў абганяў… Кабылы партызаны не ўзялі. Пазьней у калгас і такую забралі. Бацька вельмі шкадаваў яе, прыносіў ёй ласункі.

Тата мне, як “гарадзкому хлопцу”, аддаў свае боты. Ён гэтыя боты, мабыць, гадоў дзесяць насіў на плячах у шчорсаўскую царкву. Ідзе басанож, перад уваходам абувае боты, здымае шапку, пастаіць у царкве падчас службы ў ботах, потым басанож нясе іх дадому. Штодзённым ягоным абуткам, як і ў мяне, былі лапці. Праўда, скураныя лапці, зухаватыя, са скуранымі валокамі, абутыя на белыя даматканыя анучы. Боты я хаваў ад партызанаў у саламяным падстрэшшы невялічкага хлеўчука. Я ўдзячны аднавяскоўцам, што не падказалі партызанам пра мае боты, а то пад

пагрозай расстрэлу забралі б.

Партызаны ведалі, што я вучуся ў Наваградку, але, чамусьці, мяне не чапалі. Аднойчы, падчас чарговага начнога візыту, знаёмы партызан, старэйшы за мяне на некалькі гадоў, жыхар вёскі Балотца, вывеў мяне з хаты паразмаўляць. Дай, кажа, прыкурыць. Я дастаў з кішэні запальнічку, даў яму. Ён чыркнуў, прыкурыў, паглядзеў, добрая, кажа, і паклаў у сваю кішэню. І цяпер памятаю, як мне было яе шкада. Гэта быў падарунак застрэленага немцамі майго дзядзькі Гальяша. Ноччу савецкія партызаны ў беларускіх сялянаў забіралі прадукты харчаваньня, сала, хлеб, кароў, коняў, адзеньне (боты, валенкі, кажухі, коўдры). Уначы беларускіх сялянаў рабавалі партызаны, а днём — немцы. Ноччу была савецкая акупацыя, а днём — нямецкая. Так і жылі беларусы ўсю вайну пад двайной акупацыяй…

**Вайсковыя курсы Барыса Рагулі**

А жыцьцё, нягледзячы ні на што, ішло сваім шляхам. З дазволу немцаў працавала Беларуская Народная Самапомач, у 1942 годзе стварылася Беларуская Самаахова — беларускае войска. У яе былі мабілізаваныя маладыя хлопцы, якія нідзе не вучыліся. Напрыклад, з маёй вёскі Лозкі мабілізавалі Колю Ляцко, Колю Сымоніка, Колю Камара, Мішу Жарыча і другіх. Яны служылі ў Наваградку. На фронт немцы Самаахову не пасылалі.

З чэрвеня 1943 году нямецкая акупацыйная ўлада выдала дэклярацыю пра перадачу зямлі беларускім сялянам у прыватную ўласнасьць. У нашай акрузе зямлю графа Храптовіча раздавалі малазямельным сялянам з бліжэйшых вёсак. Зямлю раздавалі абраныя сялянамі старасты вёсак. У нашай вёсцы старастам быў абраны Пятрусь Марушка. Ён пасьля пераважыў пакуты сталінскіх лягераў, вярнуўся ў Лозкі, працаваў у калгасе на палявых работах.

У 1943 годзе я закончыў I курс настаўніцкай сэмінарыі. Падчас летніх вакацыяў 1943 г. Барыс Рагуля арганізаваў са студэнтаў-добраахвотнікаў (толькі юнакоў) летні лягер і быў ягоным кіраўніком. Мы пашылі зь белага даматканага палатна аднолькавую для ўсіх прыгожую форму: на левым рукаве бел-чырвона-белая павязка, на галаўным уборы — “Пагоня”, гальштук быў зь беларускага даматканага поясу, чаравікі на драўлянай падэшве, якія падчас маршу па наваградзкім бруку рабілі шмат грукату. Лягер разьмяшчаўся блізенька ад усходняга падножжа Замкавай гары ў аднапавярховым прыгожым драўляным будынку. У лягеры была ўсталяваная вайсковая дысцыпліна.

Рабочы дзень пачынаўся з гучнага воклічу а 6-й гадзіне раніцы: “Пад’ём!”. Бег да Замкавай гары, мыцьцё у сьцюдзёнай крынічнай вадзе, якая выцякала з падножжа гары ды прыдавала нам бадзёрасьці на ўвесь дзень. Гэтая крынічная вадзічка была нашым эліксірам здароўя. Пасьля быў бег у кашару. Запраўка двухпавярховых ложкаў. Убраньне ва ўніформу. Пастраеньне на пляцы перад кашарай. Падняцьцё бел-чырвона-белага сьцягу на мачце пры паставе “зважай” ды пад сьпеў гімну “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Адзін з трох штандаровых у тым часе рэцытаваў голасна лёзунг, сымбалізуючы паводзіны юнака: “Ты ня жыў зусім, калі жыў для сябе, ты не загінуў, калі памёр за Бацькаўшчыну”. І другія, кожны дзень іншыя. Нам надавалі натхненьня на абарону, адраджэньне сучаснай Беларусі аповяды пра мужнасьць слаўных ваяроў, рыцараў, абаронцаў старажытнага замку ад нашэсьця татараў у 1240 годзе.



Потым мы сьнедалі (харч прывозілі для агульнай кухні бацькі зь вёсак) і маршам з патрыятычнымі беларускімі песьнямі ішлі ў лес на нарыхтоўку дроваў для настаўніцкай сэмінарыі, на будаўніцтва спартыўнай пляцоўкі. Адвозілі грунт ваганэткамі па рэйках вузкакалейкі, штурхаючы іх уручную — тэхнікі ніякай не было. Адпускалі нас на пабыўку дахаты.

Шмат часу выдзялялася для вайсковай падрыхтоўкі (а я любіў вайсковыя муштры). Вайсковыя заняткі часта праводзіліся ў

парку з паўднёвага боку Замкавай гары. У той час парк быў зусім маладзенькі і наскрозь праглядаўся з Замкавай гары, аж да вёскі Брацянка. Штурмам бралі Замкавую гару. Натхняла нас старажытная слава Наваградка.

**Саюз беларускай моладзі**

22 чэрвеня 1943 году быў створаны Саюз Беларускай Моладзі (СБМ). На яго чале стаў Міхась Ганько,* вясковы хлапец, ураджэнец ваколіцаў Маладэчна, патрыёт Беларусі. М. Ганько быў шэфам штабу СБМ, а кіраўнічкай юначак — Надзея Абрамава.** Пасаду яе намесьніцы займала Вера Катковіч.***

**Ганько Міхась (1918 — 2002), беларускі палітычны дзяяч. Напярэдадні Другой сусьветнай вайны вучыўся на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. У 1943-1944 гг. кіраваў Саюзам беларускай моладзі. Вясной 1945-га быў афіцэрам-прапагандыстам у беларускім спэцыяльным батальёне "Дальвіц". Удзельнік беларускага пасьляваеннага антысавецкага Супраціву. З 1947 г. жыў у Польшчы пад іншым прозьвішчам.*

***Абрамава Надзея (1907 — 1979), беларуская палітычная дзеячка. У 1943-1944 гг. — адна з кіраўнічак Саюзу беларускай моладзі. З лета 1944-га — на эміграцыі. Жыла ў Заходняй Нямеччыне пад прозьвішчам "Тэадаровіч", працавала ў Мюнхэнскім інстытуце вывучэньня СССР.*

****Катковіч Вера (Вераніка), адна з кіраўнічак Саюзу беларускай моладзі. У пасьляваенны час была рэпрэсаваная савецкімі ўладамі, у зьняволеньні памёр яе маленькі сын. Пасьля вызваленьня жыла ў Польшчы. Аўтарка ўспамінаў (Катковіч А., Катковіч-Клентак В. Успаміны. — Беласток: Беларускае гістарычнае таварыства, 1999).*

Акруговым кіраўніком у Наваградак кіраўнічы штаб СБМ прызначыў, надаўшы яму ступень праваднbackіка, Янку Жамойціна* (пасьля сыходу летам 1943-га ў лес да савецкіх партызанаў былога кіраўніка Мікіты Каляды — "БР"), які перад гэтым скончыў у Менску спэцыяльныя курсы СБМ. Людміла Гутар** скончыла курсы і была прызначаная кіраўнічкай дзяўчат на Наваградзкую акругу. Праваднічка Л. Гутар, вельмі прыгожая дзяўчына (пазьней яна стала жонкай Барыса Рагулі), пасьпяхова кіравала юначкамі, умела зразумець іншых і спагадаць ім. Намесьнікам Жамойціна быў Міця Горбач — старэйшы зьвязовы. Некалькі дзяўчатаў скончылі курсы малодшых кіраўнічак у Драздох каля Менску і Флярыянаве каля

Баранавічаў, а хлопцы — у Альбярціне, каля Слоніма. Кіраўнічы калектыў зарганізаванага ўжо ў Наваградку СБМ папоўніўся вартаснымі юначкамі і юнакамі. Арганізацыя атрымала сваю ўніформу: фрэнч і штаны шэра-зялёна-крапіўнага колеру для хлапцоў і фрэнч са спаднічкамі цёмна-сіняга колеру з дробненькімі белымі кропелькамі для дзяўчат. Юнакі надзелі круглыя шапкі з казырком, а юначкі — пілоткі. Абутак быў на драўлянай падэшве. На бел-чырвона-белых павязках была эмблема СБМ — Ярылаў крыж у бел-чырвона-белым ромбе, перакрыжаваны мячом і рыдлёўкай (як сымбалямі змаганьня і працы), а пасярэдзіне — літары "СБМ". На шапцы быў значок — таксама бел-чырвона-белы ромб з Ярылавым крыжом уздоўж чырвонай паласы ромбу.

**Жамойцін Янка (1922 — 2003), беларускі грамадзкі дзяяч, пісьменьнік, публіцыст. Ураджэнец в. Клімавічы на Лідчыне. Быў адным з кіраўнікоў СБМ на Наваградчыне, сябра Беларускай незалежніцкай партыі. У паваенны час жыў у Польшчы, быў арыштаваны і дэпартаваны ў СССР, знаходзіўся ў канцлягерах. У Польшчу вярнуўся ў 1957 г. Аўтар успамінаў "З перажытага" (надрукаваныя ў зборніку "Лёс аднаго пакалення", Беласток, 1996).*

***Гутар Людміла — кіраўніца юначак у Наваградзкай акрузе з 1943-1944 гг. Нарадзілася ў 1925 г. у Наваградку. З лета 1944 г. — на эміграцыі. Жонка Барыса Рагулі. З пачатку 1950-х — у Канадзе.*

Арганізацыйны падзел СБМ быў наступны: малодшае юнацтва — ад 14 да 18 гадоў (да яго належыў і я, мела сінюю акантоўку пагонаў) і старэйшае юнацтва — ад 18 да 20 гадоў (мелі чырвоную акантоўку пагонаў). Дванаццаць-дваццаць асобаў стваралі дружыны, 3 — 5 дружынаў групаваліся ў грамаду (у юначак — гурток). Дзьве-тры альбо чатыры грамады стваралі зьвяз (у юначак — круг). Вышэйшая арганізацыйная адзінка СБМ — сэкцыя (тры зьвязы і тры кругі).

Кіраўнічкі і кіраўнікі адзінак СБМ мелі на пагонах свае знакі адрозьненьня. Назвы кіраўнікоў былі наступныя: малодшыя — перадавік, дружыновы, грамадовы, старэйшы грамадовы; сярэднія — зьвязовы, старэйшы зьвязовы, сэкцыйны; старэйшыя — падправаднік, праваднік і старэйшы праваднік.

Кожны кіраўнік клапаціўся аб выглядзе і паводзінах сваіх падначаленых. Грамадовыя са сваімі грамадамі стараліся паказацца якнайспраўнейшымі ў маршы з песьняю. Уся моладзь у гэтым была

зацікаўленая і ахвотна спаборнічала між сабою. Зьмест песьняў быў выключна патрыятычны. Песьня, перадусім маршавая, была важным выхаваўчым элемэнтам.

Прыгадваю некаторыя з тых песьняў, якія мы тады сьпявалі: “Пагоня”, “Мы — бойкая моладзь”, “Бывай, мой родны кут”, “У гушчарах затканых імглою”, “Як шырока і далёка беларуская зямля”





(словы Міхася Ганько), “Ідуць жаўнеры-беларусы” (вайсковая песьня), “Зорка Вэнэра”, “Дні надходзяць, дні праходзяць, дні лятуць” (пазьней гэтая песьня прыдавала нам моцы выжыць у сталінскіх турмах і лягерах). Фактар маршу і песьні меў вялікае значэньне і для падтрымкі дысцыпліны ў СБМ.

Істотным выхаваўчым момантам у арганізацыі была калектыўная праца. Кожныя заняткі ў групе, калі зьбіралася больш, чым адна дружына, пачыналіся песьняй “Беларусь — наша Маці-Краіна”. Важнейшыя заняткі, спартыўныя спаборніцтвы, асабліва ўрачыстыя мерапрыемствы нацыянальнага характару, пачыналіся падняцьцём бел-чырвона-белага сьцягу на мачту і гімнам “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Сьцяг падымалі трое штандаровых — два юнакі і юначка, пры паставе ўсіх прысутных на “зважай!”. Калі палотнішча сьцягу павольна падымалася ўверх, штандаровыя гучна дэклямавалі кожны па адным з дваццаці юнацкіх правілаў. Вось некалькі зь іх: “Ты ня жыў, калі жыў для сябе, ты не загінуў, калі памёр за Бацькаўшчыну”, “Кожны твой крок і кожны твой чын

павінны прыносіць гонар народу", "Лепш памерці стоячы, чым жыць на каленях", "Гісторыя твайго народу павінна быць тваёй Бібліяй", "Я адзін — нішто, але мой народ — усё, я сьмяротны, але мой народ павінен жыць вечна", "Найвялікшы дар — жыцьцё, дадзенае нам не дзеля таго, каб мы марнавалі яго ў бязьдзейнасьці, але каб сваёй працай стваралі добрае, вялікае і прыгожае", "Юнацкае слова — прысяга, юнацкае забавязаньне — наш сьвяты закон", "Толькі той несьмяротны, хто жыў для народу, толькі тое вечнае, што застаецца ў народзе", "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!" (Францішак Багушэвіч), "Мова наша, беларуская, дадзеная нам Богам". Усе гэтыя сказы выказвалі волю працы для Бацькаўшчыны і змаганьня за яе незалежнасьць. Перад апушчэньнем штандару, на заканчэньні ўрачыстасьці, сьпявалі, пераважна, "Пагоню". Прывітаньнем юнацтва былі словы: "Жыве Беларусь!", адказам: "Жыве!". Рэакцыяй на пахвалу быў адказ: "Служу Бацькаўшчыне!".

У верасьні 1943 году я стаў сябрам Саюзу Беларускай Моладзі. Гэта была адна з важнейшых падзеяў у маім жыцьці. У СБМ прымаў мяне сам Барыс Рагуля, чым я вельмі ганарыўся.

СБМ была нацыянальнай беларускай патрыятычнай арганізацыяй моладзі. Аб яе папулярнасьці гаворыць той факт, што толькі за адзін год, з 1943-га па 1944-ты, у СБМ улілося (выключна добраахвотна) некалькі дзясяткаў тысячаў юнакоў і дзяўчат. Арганізацыя ў той час ахоплівала, у асноўным, вучнёўскую моладзь ва ўзросце 15-17 гадоў, і якая займалася пераважна культурна-асьветніцкай дзейнасьцю.

Галоўнай прычынай бурнага росту СБМ была ідэя нацыянальнага адраджэньня і незалежнасьці Беларусі. Такая арганізацыя не магла б існаваць ні пры панаваньні Польшчы ў Заходняй Беларусі, ні тым больш пры Саветах. Нават нямецкая адміністрацыя насьцярожана сачыла за СБМ, пабачыўшы, зь якім энтузіязмам праводзіліся нашыя мерапрыемствы.

Статут СБМ сьцьвярджаў, што мэтай арганізацыі ёсьць выхаваньне патрыятычных будаўнікоў Новай Беларусі, якія б вырасьлі ў актыўных народных дзеячоў. Вядучым накірункам выхаваўчай працы арганізацыі было вызваленьне беларускай моладзі ад варожых і шкодных уплываў, ейнае духоўнае адраджэньне.

Уся праца акцэнтавалася на патрыятычным выхаваньні моладзі, што павінна было прывесьці да выхаваньня пачуцьця грамадзянскага абавязку, працавітасьці, шчырасьці, сьціпласьці, павагі да старэйшых. Такі выхаваўчы накірунак нацэлены быў на тое, каб

моладзь адчула сваю адказнасьць за лёс і дабрабыт Бацькаўшчыны, і заўжды была гатовая служыць і працаваць на карысьць свайго народу.

Сёньня дакладна высьветлена, што СБМ не ўдзельнічаў ні ў вайсковых акцыях, ні ў карных, ні ў якіх злачынствах, як гэта прыпісваюць яму гісторыкі зь вядомай палітычнай афарбоўкай. Калі, напрыклад, паспрабаваць параўнаць СБМ з камсамолам (ВЛКСМ), то да апошняга павінна быць значна больш прэтэнзіяў. Мяркуйце самі. На рахунку ВЛКСМ (ня ў прыклад СБМ) мноства ўчынкаў, якія нанесьлі велізарную шкоду нацыянальным інтарэсам нашага народу. Гэта і ўдзел у так званай клясавай барацьбе ў гады калектывізацыі, і дэпартацыя беларускіх сем'яў у Сыбір і Казахстан, і змаганьне з рэлігіяй, у выніку чаго загінула вялікая колькасьць помнікаў культуры і архітэктуры, былі забітыя тысячы сьвятароў. Гэта яшчэ і спрыяньне русыфікацыі нашай моладзі, і зусім яшчэ нядаўнія выступленьні камсамолу супраць дэмакратычных зьменаў. Успомнім і тое, што камсамольцамі папаўняліся спэцыяльныя аддзелы карных органаў НКВД, на рахунку якіх безьліч злачынстваў і парушэньняў законаў. Гэта з камсамольскімі білетамі у кішэнях расстрэльвалі невінаватых людзей у Курапатах і турэмных засьценках верныя сталінскія služкі. Нягледзячы на ўсё гэта, камсамол працягваў дзейнічаць легальна і за мінулае яго пакуль ніхто не зьбіраецца прыцягваць да адказнасьці. Чаму ж да Саюзу Беларускай Моладзі, віна якога перад Бацькаўшчынай і беларускім народам нікім не даказаная, стаўленьне ранейшае — бальшавіцкае?! Дзе ж праўда?

У 1993 годзе споўнілася 50 гадоў заснаваньня СБМ. З гэтай нагоды 26 чэрвеня меўся адбыцца ў Менску Зьезд былых сябраў СБМ з усіх куткоў сьвету, дажыўшых да гэтай гадавіны, прайшоўшых праз сіта ГУЛАГу. Рыхтаваўся паехаць на гэтую сустрэчу і я. Купіў квіток на цягнік Берасьце — Менск. А 23 гадзіне 25 чэрвеня 1993 году перад выхадам з хаты на цягнік выпадкова пачуў па беларускім радыё інфармацыю пра забарону Зьезду. Прэм'ер ураду Беларусі В. Кебіч адмовіў у дазволе на правядзеньне Зьезду СБМ. Пачуўшы пра гэта, я ў Менск не паехаў (а іншыя людзі з блізкага і далёкага замежжа ўжо былі ў дарозе). Такіх абвінавачваньняў у адрас СБМ, якія агучвала беларускае радыё тым вечарам, я ня чуў нават знаходзячыся ў кіпцюрах НКВД. Гэта была нахабная хлусьня! Нават Кебіч паверыў і адмовіў Зьезду. Паспрабуй цяпер змыць гэты бруд, выліты на нас! А арганізавалі гэтую правакацыю тыя нелюдзі (або іхныя нашчадкі), якія больш за 70 гадоў катавалі беларускі народ,

катавалі нас, на той час яшчэ юнакоў. Яны і сёньня бачаць у нас, 70-гадовых, сваіх ворагаў, цкуюць нас, абліваюць брудам, каб абяліць сябе, змыць свае крывавыя злачынствы, змыць ад крыві рукі, каб выглядаць заслужанымі вэтэранамі і атрымліваць прывілеі.

Хацелася б, каб сучасная моладзь зразумела моладзь майго пакаленьня, каб яна далей панесла сьветлыя і добрыя ідэалы, за якія змагаўся СБМ, а тая праца, якую зрабілі мы, натхняла на ўчынкі ў імя шчасьця нашай Радзімы. У Саюзе Беларускай Моладзі я на ўсё жыцьцё загартаваўся ў сапраўднага патрыёта Беларусі.

**Наша войска**

Другая сусьветная вайна засьпела беларускі народ без аніякіх вайсковых кадраў.

Гэтая вайна паставіла яго ў выключна трагічны стан. Акружэнцы Чырвонай Арміі, бальшавіцкая партызаншчына запоўнілі лясы Беларусі. Яны налічвалі дзясяткі тысячаў чалавек, жывіліся і апраналася за кошт беларускага насельніцтва. Пры гэтым мэтады дачыненьняў да насельніцтва былі чыста бальшавіцкія — рабунак, паленьне вёсак, расстрэлы нявінных людзей.

Змагацца з гэтым добра арганізаваным і велізарным бандытызмам беларускі народ ня меў ніякай магчымасьці. Не маглі даць рады з партызаншчынай і нямецкія акупацыйныя ўлады. Яны былі вымушаныя зьвярнуцца да беларускага насельніцтва з прапановай, якая была хутчэй загадам — дапамагчы ім у змаганьні з бальшавіцкім бандытызмам.

Адносіны немцаў да беларусаў мала адрозьніваліся ад бальшавіцкіх. Была хіба розьніца ў тым, што пры немцах амаль усе экзэкуцыі праводзіліся масава. Часта гэтыя рэпрэсіі былі больш чым жорсткія. Выражаліся яны ў масавай прымусовай высылцы людзей у Нямеччыну на нявольніцкую працу, вельмі частым спальваньні цэлых вёсак разам з насельніцтвам. Прыкладам такога зьверства можа служыць вёска Доры на Валожыншчыне, дзе насельніцтва было сагнанае ў царкву і спаленае, альбо ўсім вядомая Хатынь ды сотні другіх вёсак.

Аднак, каб пазбавіцца штодзённае помсты бальшавіцкіх партызанаў, нягледзячы на ўсе зьверствы немцаў, беларусы вырашылі прыняць ад акупантаў прапанову супольнага змаганьня. Яна давала нацыянальнадумаючым беларусам надзею на стварэньне вайсковых кадраў, на магчымасьць узяць у рукі зброю і арганізаваць свае вайсковыя адзінкі. З такой нагоды беларусы не маглі не скарыстаць, тым больш, што ніякае іншае дапамогі, апекі беларускі

народ ніадкуль ня меў, у адрозьненьне, прыкладам, ад палякаў. Абмеркаваўшы ўсё гэта, было вырашана пайсьці на арганізацыю паліцыйных батальёнаў, пазьней — Самааховы, а пасьля яе — Беларускай Краёвай Абароны. Гэта была вымушаная неабходнасьць, нагода да стварэньня пачаткаў сваёй вайсковасьці. Галоўнае было — атрымаць у рукі зброю, якая накіруецца туды, дзе будуць вымагаць гэтага інтарэсы беларускага народу. Так і сталася. Выступленьні беларускіх вайсковых адзінак супраць немцаў былі нярэдкія. Напрыклад, сыход у лес роты 13-га паліцыйнага батальёну пад Аўгустовам у жніўні 1944 году альбо прарыў нямецкага фронту беларускім аддзелам пад Цьвізалем 30 красавіка 1945 году.

Беларуская вайсковая акцыя пад нямецкай акупацыяй мела ня толькі вайсковае значэньне, але і агульнанацыянальнае. Стагодзьдзямі не было на Беларусі такога нацыянальнага ўздыму, як у часе мабілізацыі ў БКА.

У войнах Беларусь страціла:

– у вайне 1654 — 1667 гадоў з Маскоўскай дзяржавай кожнага другога беларуса,

– у вайне 1700 — 1721 гадоў Пятра I са швэдамі — кожнага трэцяга,

– у вайне 1812 году Расеі з Напалеонам — кожнага чацьвертага,

– у вайне 1939 — 1945 гадоў з Нямеччынай — кожнага чацьвертага (па іншых зьвестках — кожнага трэцяга),

– у першую сусьветную і грамадзянскую вайну Беларусь страціла 1,5 мільёны жыхароў,

– сталінскі гэнацыд у 1930-40-х гадах каштаваў беларускаму народу 2 мільёны жыцьцяў.

Беларусы гінуць, а Беларусь жыве, змагаецца і будзе жыць!

У 1941 годзе нямецкая армія захапіла амаль усю Эўропу, заняла ўвесь абшар Беларусі, дайшла да Масквы. Немцы не маглі ахапіць усіх занятых імі тэрыторыяў, спатрэбілася дапамога мясцовага насельніцтва. Яны пачалі арганізоўваць так званую дапаможную паліцыю. Нацыянальныя рухі, якія мелі досьвед канспірацыйнай працы, хутка зразумелі, што пад дапаможнай паліцыяй можна закансьпіраваць свае вайсковыя кадры. Беларускія шырокія масы гэтага, на жаль, не разумелі. Маючы на працягу стагодзьдзяў непрыхільнае стаўленьне да любой паліцыі, беларусы ў дапаможную паліцыю ішлі вельмі мала і неахвотна. Таму ў Заходняй Беларусі

паліцыя была апанаваная пераважна палякамі, а ва ўсходняй Беларусі ў паліцыю пайшлі служыць найгоршыя адзінкі, нярэдка з мэтаю нажывы.

Дзеячы беларускага нацыянальнага руху імкнуліся выправіць сытуацыю. Дзеля гэтага спачатку трэба было падрыхтаваць кіраўнічыя кадры беларускай паліцыі, а для гэтага — адчыніць школу падафіцэраў паліцыі. 1 снежня 1941 году адкрыліся паліцэйскія курсы, на якіх мелі быць перашколеныя ўсе паліцыянты. Адначасова ішла “чыстка” шэрагаў паліцыі, чым займалася спэцыяльная камісія. Была зьвернутая вялікая ўвага на прапаганду. У паліцыю пачалі прыбываць новыя людзі зь вёсак і ўжо да вясны 1942 г. у паліцыі паўстала ядро маладых, здаровых фізычна і маральна, сьведамых нацыянальна беларусаў. У пачатку траўня 1942 году ў Менску паўстаў інструктарскі курс паліцыі, а фактычна замаскаваная беларуская падафіцэрская школа.

Найвялікшы недахоп беларускай паліцыі, што яна амаль зусім ня мела свае беларускае інтэлігэнцыі. Калі польская інтэлігэнцыя ішла ў шэрагі паліцыі, каб там рабіць сваю нацыянальную справу (працу), дык нашая інтэлігэнцыя гэтага не разумела. У выніку беларускія паліцыянты заўсёды знаходзіліся пад чужым уплывам. Гэтыя чужыя ўплывы альбо перавабілівалі нашых паліцыянтаў на свой бок, альбо правакавалі на розныя дрэнныя ўчынкі, каб такім чынам кампрамэтаваць імя беларускага паліцыянта.

У чэрвені 1942 г. вышэйшыя нямецкія ўлады пастанавілі дазволіць беларусам арганізаваць корпус самаахоВы для змаганьня з партызаншчынай. Вестка пра арганізацыю Самааховы (БСА) выклікала ў народзе незвычайны энтузіязм. Людзі, найперш беларуская інтэлігэнцыя, паверылі, што сапраўды паўстане сваё беларускае войска. Запачаткоўваліся беларускія вайсковыя традыцыі. Беларусы пачалі верыць у сваю ўласную збройную сілу, якую маглі тварыць сваімі собскімі сіламі і пры дапамозе якой яны маглі вызваліцца ад акупантаў, якога колеру яны не былі. Аднак немцы не далі разгарнуцца беларускай вайсковай сіле, не дазволілі яе цэнтралізацыі пад беларускім кіраўніцтвам, не давалі патрэбнай колькасьці зброі, амуніцыі. А вясной 1943 году БСА была распушчаная, захаваліся толькі асобныя аддзелы ў некаторых акругах, дзе асабліва быў моцны партызанскі рух.

Беларуская Самаахова падрыхтавала глебу для паўстаньня вясной 1944-га Беларускай Краёвай Абароны (БКА). Загад аб яе арганізацыі выйшаў 23 лютага 1944 году. З гэтай нагоды, пэрсанальна для мяне, дата 23 лютага зьяўляецца сьвятам.

У Наваградку арганізаваць Беларускую Краёвую Абарону было даручана Барысу Рагулю. На той час ён ужо камандаваў створаным у канцы 1943 г. беларускім швадронам. Тады Б. Рагуля паставіў немцам умовы: ягоная фармацыя будзе добраахвотніцкая, ім самім арганізаваная, незалежная ад нямецкай жандармэрыі, упаўнаважаная ўтрымаць лад на акрэсьленым абшары, на якім выключаюцца пацыфікацыі і, навогул, умяшаньне нямецкіх паліцыйных уладаў. Немцы пагадзіліся, і на такіх умовах быў хутка створаны кавалерыйскі эскадрон (швадрон). Яго касьцяком сталі хлопцы-добраахвотнікі з ІІІ-га курсу Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі, матуральнага курсу і выпускнікі гэтай навучальнай установы. Афіцэрамі былі выключна сьведамыя беларусы. Негалоснай мэтай гэтай вайсковай адзінкі была абарона Беларусі і беларускага насельніцтва як ад немцаў, так і ад камуністаў, партызанаў, стварэньне беларускай незалежнай дзяржавы. Эскадрон хутка здабыў сымпатыю сярод жыхароў Наваградка і Наваградчыны. Насельніцтва з павагай называла вайскоўцаў швадрону "рагуляўцамі". Посьпехі швадрону ў забесьпячэньні спакою і ладу на абшары дзеяньня заставаліся таямніцай Барыса Рагулі і ягоных найбліжэйшых падначаленых.

Істотна, што было дасягнута паразуменьне паміж важакамі розных бакоў аб падзеле тэрыторыі і ўзаемнай талеранцыі. Тым больш, што з усіх бакоў былі "свае хлопцы", якія не хацелі адзін аднаго забіваць. Мабыць і мясцовыя немцы зьнюхалі гэтую асаблівасьць, але ня сунулі носу ў гэтую справу дзеля ўласнай выгоды. Такім чынам, "баявыя акцыі рагуляўцаў" праходзілі амаль бяз стратаў, а з наваградчан была зьнятая пагроза.

Першай, выпадковай і хіба апошняй ахвярай швадрону быў жаўнер Даніла Мамчыц, які загінуў у сутычцы з партызанамі 24 сакавіка 1944 году каля вёскі Забалоцьце. Пахаваньне яго ў Наваградку мела характар жалобнага мітынгу, у якім я ўдзельнічаў, ішоў у ганаровай калёне юнакоў і юначак са штандарам СБМ.

"Рагуляўцы" сьпявалі тыя ж падбадзёрваючыя, патрыятычна-выхаваўчыя, маршавыя песьні, што і СБМаўцы. На вершы юнакоў ствараў музыку наваградзкі кампазытар Іваноў. Вось прыклад песьні на словы М. Ганька:

*Як шырока і далёка*
*Беларуская зямля,*
*Заклікае вёска, горад*
*Кліч магутны юнака:*

Прыпеў: *Гэй з намі, гэй з намі радамі*
*Юначка, юнак.*
*Бяры ты, бяры ты, насі ты*
*Сяброўскі наш сьцяг...*

Як прыклад адданасьці Беларусі і веры ў яе вызваленьне няхай паслужаць радкі верша маёй юнай настаўніцы, паэтэсы з Наваградчыны Галіны Бузук:

*Нас ня зломіць ніхто і ніколі!*
*Нас ніколі ніхто не сагне*
*І ня будзе таптаць ужо болей*
*Вораг роднай зямелькі Тваёй!..*
*Ты на бой павядзеш нас крывавы:*
*Для Цябе аддамо мы ўсё!*
*Ты — краіна сузорнае славы*
*Беларусь — наша шчасьце, жыцьцё!*

Вонкава швадрон выглядаў вельмі прыстойна, прыгожа, і я марыў стаць у ягоныя шэрагі, але быў яшчэ занадта малады. А вось кандыдатам у афіцэрскую школу я адпавядаў.

Галоўным заданьнем у падрыхтоўцы кадраў для БКА было якраз адчыненьне афіцэрскай школы для моладзі, якая яшчэ не была ў войску. Беларуская Цэнтральная Рада правяла адпаведную прапаганду па набору добраахвотнікаў. Але мне гэтая прапаганда была не патрэбная. Атрымаўшы пасьведчаньне аб заканчэньні II-га курсу настаўніцкай сэмінарыі, я адным з першых, з радасьцю, пайшоў на прыёмную камісію.

Памятаю, зь якім хваляваньнем я праходзіў камісію ў “адамавым адзеньні” пад кпіны маладых дактарак. Хоць выйшаў чырвоным, як звараны рак, але задаволены тым, што строгая камісія прапусьціла мяне ў афіцэры. А вось Міша Бурчык, мой сябра дзяцінства, камісію не прайшоў, з-за чаго вельмі сумаваў. З настаўніцкай сэмінарыі камісію прайшлі Віця Бузук (родны брат Галіны Бузук), Сяргей Казак, Валодзя Утко, Лях (імя ня памятаю, ён пасьля быў забіты снайпэрам у Альпах, за кулямётам). Праважалі мяне з Наваградка мама і дзяўчына-аднакурсьніца Таіса Кавэліч. “Кукушкай” (вузкакалейкай) я даехаў да Наваельні. Там упершыню ў жыцьці ўвайшоў у вагон сапраўднага цягніка і паехаў у далёкую дарогу аж да Менску. Настрой быў неверагодны, свае ўражаньні ад падарожжа занатоўваў, запісваў кожны прыпынак, кожную станцыю, кожны горад, праз якія праяжджаў. Зь Менску пры першай свабоднай хвіліне напісаў ліст маме і Таісе.

Пачаліся прыемныя для мяне штодзённыя вайсковыя заняткі.

Такіх, як я, у афіцэрскую школу зьехаліся 280 кандыдатаў. Былі гэта маладыя хлапцы, у большасьці са скончанай сярэдняй асьветай. Курс навукі прадугледжваўся шасьцімесячны, пасьля чаго маладым кандыдатам мела быць наданая першая афіцэрская ранга. Гоманам перапоўніліся будынкі Паўночных казармаў у Менску. Жыхары суседніх вуліцаў раніцою і папаўдні прыслухоўваліся да прыгожых мэлёдыяў беларускіх вайсковых песьняў у маршах на пляцы каля казармаў. На шапках мы з гордасьцю насілі “Пагоню”, каўняры мелі быць аздобленыя крыжамі Ярылы. Магла б некаму дзіўнай здацца гэткая, ледзь не дзіцячая любасьць і прывязанасьць да сваіх нацыянальных адзнакаў з боку маладых, недасьведчаных у вайсковых справах ды ў жыцьцёвай практыцы, зусім “зялёных” юнакоў. Але ж якім іншым спосабам мы маглі выказаць свой гарачы патрыятызм, любоў да народу, якая ўзрастала, мацнела і ўкаранялася ў нашых сэрцах?!

Пачалася муштра. Беларуская каманда гучала на вялікім пляцы перад казармамі. Хаця юнакі не былі звыкшымі да вайсковага жыцьця, амаль ніхто не наракаў. Ня меў праблемаў і я, бо быў падрыхтаваны ў летнім лягеры ў Наваградку Барысам Рагулям. Мы стараліся, бо ведалі, што ў будычыні здабытыя веды панясём у пададдзелы. Вечарам, пасьля заняткаў, падчас прыгожага вясеньняга надвор’я, выходзілі на пляц і тут, у жартах, весялосьці, з роднай песьняй, праводзілі вольныя хвіліны.

Працаю і жыцьцём школы кіраваў капітан Чабатарэвіч.* Аб падзеях за мурамі школы камандзіраў БКА мы нічога ня ведалі, бо выходзіць у горад не дазвалялася. Кожны быў больш зацікаўлены парадкам дня і новымі абставінамі, чым навінамі з прэсы. За грукатам і шумам вуліцы слаба было чуваць штораз бліжэйшае рэха гарматаў з усходу. Амаль кожную ноч, на агульную трывогу, выбягалі мы з казармаў у акопы. Памятаю, мне з акопаў цікава былоназіраць, як павешаныя на парашутах ліхтары асьвятлялі начны горад, як савецкія самалёты яго бамбілі, як разрываліся ў начным паветры снарады зенітак. І ніякага страху. У мяне нават думкі не было, што бомба можа трапіць у мой акоп, што я магу загінуць. Мы гэта лічылі за нармальнае ў ваенны час зьявішча. Часта даводзілася сядзець у акопах або бомбасховішчах больш за гадзіну. А па адкліканьні трывогі з уцехаю беглі ў казармы, дзе чакала адкрытая, хоць ужо і астылая пасьцель. А раніцой на кліч службовага — “уставай!”, ізноў як найхутчэй стаць на ногі, каб днём ці шмат мазоляў на нагах набіваць пры падрыхтоўцы да афіцыйнага маршавага параду пры адкрыцьці школы. Першай у

парадзе ішла школа камандзіраў Беларускай Краёвай Абароны, а за ёю — іншыя аддзелы БКА.

**Чабатарэвіч Віктар (1906 — 1963), беларускі вайсковы дзяяч. Ураджэнец Новага Сьвержня ў цяперашнім Стаўбцоўскім раёне. Выпускнік Нясьвіжскай настаўніцкай сэмінарыі. Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у ЗША.*

Выхаванцы школы, з “Пагоняй” на шапках, яўна адрозьніваліся ад усяго іншага беларускага войска. Хто прыглядаўся да гэтых дзьвюх сотняў васемнаццацігадовых юнакоў (мне было тады 17 гадоў), меў уражаньне, што нехта спэцыяльна навыбіраў іх з цэлай Беларусі, дапасоўваючы да нейкай агульнай, прынятай і вызначанай меркі — вясёлыя, здаровыя, упэўненыя — з бадзёрым роўным-роўным крокам і раўнамерным тактам, яны рабілі на гледачоў надзвычайнае ўражаньне і выклікалі доўгія воплескі. У афіцэрскай школе я прыняў прысягу на вернасьць Беларусі. Гэта была першая і апошняя прысяга ў маім жыцьці.

**Эвакуацыя**

27 чэрвеня 1944 году ў Менскім гарадзкім тэатры, пад аховай беларускай афіцэрскай школы, адбыўся ІІ Усебеларускі Кангрэс. У ім прымаў удзел і я, як курсант беларускай афіцэрскай школы, у якасьці ганаровага ахоўніка. Стаяў з карабінам, падцягнуўшыся на “зважай”, не маргнуўшы вокам, не варухнуўшыся адпаведны тэрмін ад зьмены да зьмены. Нас часта мянялі, бо ў такой паставе немагчыма доўга выстаяць. І цяпер памятаю, як было мне крыўдна стаяць з тыльнага боку тэатру, дзе я нікога ня бачыў і нічога ня чуў, але менавіта такі пост мне выпаў (будучы дэлегатам ІІІ Усебеларускага Зьезду за незалежнасьць Беларусі 29 ліпеня 2000 году, я ня мог не наведаць той пост, дзе я стаяў у 1944 годзе 17-гадовым юнаком).

У 11.00 прыехаў прэзыдэнт Беларускай Цэнтральнай Рады спадар Астроўскі* (асабіста я яго ня бачыў). Кангрэс адкрыўся. У ім прынялі ўдзел 1039 дэлегатаў ад 27 акругаў Беларусі і ад 7 гарадоў, дзе былі беларускія арганізацыі: Варшавы, Кракава, Лодзі, Кёнігзбэргу, Рыгі, Вены і Бэрліну. З Наваградку прыехалі каля 30-ці з лішкам дэлегатаў, у тым ліку Барыс Рагуля і Янка Жамойцін (Б. Рагуля не пасьпеў прыбыць на Кангрэс, бо разам са сваім батальёнам знаходзіўся на Віцебшчыне, адкуль адразу накіраваўся ў Наваградак — “БР”). Нямала было моладзі ў юнацкіх мундзірах з кіраўніцтва СБМ.

**Астроўскі Радаслаў (1887 — 1976), беларускі палітычны*

*дзяяч. Быў дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі. З 1943-га — прэзыдэнт Беларускай цэнтральнай рады. Зь лета 1944-га — на эміграцыі.*

Зразумела, акупанты ставілі пэўныя ўмовы, што да зьместу Ўсебеларускага Кангрэсу. Немцы пільна сачылі за кожным, хто выступаў з прамовай, і адно неасьцярожнае слова магло зьнішчыць чалавека. Адным з важнейшых рэфэратаў было выступленьне Аўгена Калубовіча. У той час ён ня мог адкрыта выказаць сваю думку аб перажываньнях і зьдзеках над беларускім насельніцтвам, бо ў лёжы тэатру, дзе праходзіў Кангрэс, сядзелі託 заваёўнікі нашага краю, якіх трэба было называць “вызваліцелямі”. Закончыў А. Калубовіч сваю выдатную прамову словамі: “Няхай жа памяць крывавага бальшавіцкага панаваньня ў нашым краю зарасьце чартапалохам і крапівою!”. Справу слаўнага сына Беларусі Аўгена Калубовіча ў змаганьні за вольную Беларусь працягвае ягоны сын, слаўны патрыёт Беларусі, таксама Аўген Калубовіч, які жыве і працуе на славу нашай Бацькаўшчыны ў Менску. Ён быў дэлегатам Трэцяга Ўсебеларускага Зьезду за незалежнасьць Беларусі ў 2000 годзе.

Дэлегаты зацьвердзілі пастанову, паводле якой Кангрэс зьяўляўся паўнапраўным і найвышэйшым прадстаўніцтвам беларускага народу, а Беларуская Цэнтральная Рада — законным прадстаўніком Беларусі. Рэзалюцыя была прынята, ніхто ёй не супрацівіўся.

Кангрэс прыняў фармулёўку дэклярацыі — працяг незалежнасьці Беларусі, аб’яўленай 25 сакавіка 1918 году.

Вечарам 28 чэрвеня, як і кожны вечар, была скліканая зборка курсантаў афіцэрскай школы на малітву перад сном. Як ніколі раней, абедзьве роты стаялі на першым паверсе. Пасьля малітвы нам было загадана: “Заўтра раніцою а сёмай гадзіне ўсе ўдзельнікі школы маршыруюць зь Менску праз Маладэчна ў Вільню. На вазы заладаваць найбольш неабходныя рэчы — харчы, зброю і амуніцыю. Кожны забярэ сваю стрэльбу. Атрымаеце амуніцыю. Рэчы браць толькі найбольш неабходныя і тыя, што па дарозе ня будуць залішне абцяжарваць. Няхай ніхто ня сьмее спаць”.

Вестка атрымалася такой нечаканай і ашаламляльнай для нас, што спаньнё нікому не было ў галаве. Падрыхтоўка да адыходу скончылася блізка раніцы. А пятай гадзіне загадалі выходзіць на пляц да апошняга перагляду. Каля складоў стаялі запрэжаныя каламажкі, а конюхі канчалі ладаваць харчы, зброю і амуніцыю. Сфармаваліся два асобныя доўгія трохшэрагі і пачаўся апошні перагляд. Дружыновыя і зьвязовыя абыходзілі навокал

сваіх кадэтаў, даючы кароткія заўвагі. Патрабаваўся пільны нагляд з боку старэйшых і спрактыкаваных. Капітан Мікула* наглядаў за агульным парадкам і даваў апошнія, зьвязаныя з падарожжам, загады.

**Мікула Віталь (1913 — 1944/1945) — беларускі вайсковы дзяяч. Ураджэнец Нясьвіжчыны. Афіцэр Беларускай краёвай абароны, намесьнік камандзіра афіцэрскай школы. Аўтар "Страявога вайсковага статута" (1943). Зь лета 1944-га — на эміграцыі. Загінуў у нямецкім канцлягеры.*

Калі ўсё было гатовае, капітан Мікула, седзячы на кані, зьвярнуўся да юнакоў з такімі словамі: "Хлопцы! Хачу перад адмаршам сказаць вам колькі слоў. Шкада, што за кароткі час мы яшчэ добра не пазналіся. Але спадзяюся, будучы разам, зжывёмся. Ведаю, што ўсе вы надзвычай добрыя і сумленныя беларусы, вялікія патрыёты, але ўсе вы яшчэ "зялёныя". Перад намі стаіць вялікая дарога, якая няведама дзе і чым скончыцца. Не хачу вас дарэмна цешыць, а кажу так, як ёсьць. Перад намі цяжкасьці і небясьпекі. Лічыце мяне ня толькі камандзірам, але і старэйшым сябрам. Я вас не пакіну і заўсёды буду з вамі. Хачу верыць, што вы ўсе мае блізкія сябры, што на вас магу пакласьціся, што не падвядзеце... А цяпер — шчасьлівае дарогі!"

Адчыніліся вароты Паўночных казармаў. Выходзіла першая рота, другая рота, за ёю абоз. Выцягнулася доўгая калёна. Калі раней кадэты за муры школы выходзілі з песьнямі "Першы зьвяз" або "Мы бойкая моладзь", дык 29 чэрвеня 1944 году мы йшлі моўчкі, толькі гулкі крок ды раўнамернае ляскатаньне колаў каламажак замянілі рэха колішняй вясёлай і паўнагучнай песьні. Цішыня панавала ў шэрагах. Узьняўшы хмару густога і едкага пылу, павярнулі на пясчаную, пратаптаную сярод папялішчаў і руінаў дарогу, якая вяла на Галоўную вуліцу, якая грукацела цяжкімі вайсковымі машынамі, коламі вялізных гарматаў, гусеніцамі танкаў. Ехалі яны шэрагамі адзін побач другога. Усе кіравалася на Радашковічы і Маладэчна. Туды ж павярнула і нашая школа, паволі пасоўваючыся левым бокам дарогі. Высока ўжо паднялося сьпякотнае сонца. Дзесьці на небакраі быў відаць сінявы шнур лясоў.

Першы адпачынак (прывал) на палянцы прыдарожнага лесу. Разлягліся на пяшчотнай траўцы, вызваліўшы ад абутку мазалі на нагах. Абоз наш з харчам дзесьці адстаў, можа дзе стаіць, прыціснуты тэхнікай на ўскрайку дарогі. А есьці і піць хочацца, смага торніць. На ўскрайку лесу кілямэтры тры ад нас — вёска. Я ўнёс прапанову накіраваць у вёску некалькі жаўнераў, каб папрасіць у сялянаў

харчу. Ніхто не згадзіўся ісьці. Я ўнёс прапанову, я і пайшоў адзін, захапіўшы неразлучную стрэльбу. Сялянкі вельмі ветліва сустрэлі мяне, прыгаворваючы: "Ах, які ж салдацік маладзенькі, а хто ж цябе такога маладзенькага ў войска забраў?!" Напаілі мяне малачком, накармілі, яшчэ і з сабой для маіх сяброў далі, што маглі.

Трошкі адпачылі. І зноў паволі пасоўваецца нашая доўгая калёна, выбіраючы пабочныя прыдарожныя сьцежкі. А дарога грукаціць сотнямі колаў цяжкіх жаўнерскіх грузавікоў зь нямецкімі жаўнерамі ў кузавах. Немцы едуць, а мы ідзем. Злосьць мяне ахапіла неверагодная. Ухапіўшыся за борт грузавой машыны, біткм запоўненай узброенымі нямецкімі жаўнерамі, я імгненна апынуўся ў кузаве сярод іх, балазе з асабістых рэчаў у мяне была толькі стрэльба. Нямецкія жаўнеры ня выкінулі мяне, няпрошанага госьця, з кузава машыны, або, яшчэ горш, не застрэлілі. У той жа дзень, 29 чэрвеня 1944 году, я ўжо быў у Вільні, у дамоўленым месцы збору на таварнай чыгуначнай станцыі. Першую ноч свайго падарожжа я правёў пад адкрытым небам на чыгуначнай плятформе ў тупіку станцыі. Першая ноч падарожжа астатніх курсантаў мінула спакойна. Абедзьве роты затрымаліся ў прыдарожнай вёсцы, разьмясьціўшыся на начлег па сялянскіх пунях, на падгнілай леташняй саломе. Ня звыклыя да маршу, змучаныя рэкруты заснулі вельмі хутка. Яшчэ добра не разьвіднелася, як начлежнікі былі на нагах і пакінулі вёску. Усю шырыню дарогі займалі вайсковыя мэханічныя эшалёны. Маршыраваць было дазволена калёнаю па аднаму бочнай сьцежкай. Марш быў вольны. Калёна хутка расьцягнулася на добрую пару кілямэтраў. Каля кожнае з каламажак, што былі наладаваныя харчамі, амуніцыяй, зброяй, асабістымі рэчамі, ішло па некалькі курсантаў. Там, дзе дарога спускалася ў даліну, яны з задавальненьнем пад'яжджалі, усьміхаючыся і махаючы рукамі абмінаным сябрам. Дзень, як і ўчора, быў вельмі гарачы, на небе не было ніводнае хмаркі, а смага і дарожны пыл сушылі горла. (Я ў гэты час, лежачы на драўлянай падлозе чыгуначнай плятформы, чакаў іх у Вільні). Каля 11-ай гадзіны 30 чэрвеня 1944 году загад коратка гаварыў: затрымацца! Хтосьці зьняў чаравікі ды аглядаў папрэлыя ад маршу ногі, мала хто ўзяўся за кавалак хлеба, смага больш дакучала, чым голад, а вады навокал не было відаць.

Пачуўся зычны голас капітана Мікулы: "Слухайце, хлопцы, уважліва! З прычыны таго, што дарога перад намі далёкая і нялёгкая, раю вам асабіста, каму толькі ўдасца, садзіцца на спадарожныя нямецкія машыны, бо пехатой, хто ведае, ці дойдзеце. Хто можа — няхай ад Маладэчна едзе цягніком. У Вільні, на станцыі,

і ў горадзе будуць некаторыя з нашых, ад якіх даведаецеся аб зборным пункце. Стрэльбы прапаную браць з сабою для ўласнае бясьпекі. Шчасьлівай дарогі".

Некаторым з юнакоў хутка пашанцавала ўскочыць на нямецкія аўтамашыны (як і мне) і групкі пры дарозе пачалі радзець. Гэта было 30 чэрвеня 1944 году. Да вечара на станцыі зьявіліся першыя нашыя хлопцы і мне стала весялей. Дапоўз з Маладэчна да Вільні доўгі таварны цягнік з living рознымі ўцекачамі. Давялося яму шмат пачакаць, пакуль уціснуўся на таварную станцыю. Літаральна ўціснуўся. Па баках не было ніводнага вольнага чыгуначнага шляху. Некалькі квадратных кілямэтраў таварнае станцыі былі запруджаныя ваеннымі эшалёнамі. Тут мы жылі, начавалі ў таварных вагонах, чакаючы збору да трэцяга ліпеня. Некаторыя знайшлі месца прыпынку ў былым віленскім гета. Чакалі мы на пагрузку школы афіцэраў БКА ў вагоны. Камандзіраў нашых з намі не было, загадаў ніякіх ня чулі. Пра астатніх курсантаў афіцэрскай школы нічога ня ведалі. Нейкая няведамая сіла штурхала мяне адсюль. Нейкі нячутны голас клікаў мяне, і клікаў у Наваградак.

**Насустрач сьмерці**

Каля 10-й гадзіны раніцы 3 ліпеня я і некалькі хлапцоў з Наваградчыны, а сярод іх Віця Бузук і Сяргей Казак, выйшлі зь віленскай таварнай станцыі і пешшу накіраваліся на поўдзень. Хто ведае, ці ацалеў бы пад бамбёжкай у наступную ноч той вагон, у якім я колькі начэй спаў? Ведама толькі, што з Божай дапамогай я застаўся жывы, ня бачыў і ня ведаў пра гібель сяброў.

*Пра тое, што адбылося з астатнімі курсантамі, я даведаўся праз гады з кнігі "Змагарныя дарогі" Кастуся Акулы. 3 ліпеня 1944 году папаўдні школа камандзіраў атрымала загад маршыраваць на віленскую таварную станцыю і ладавацца на цягнік, каб ехаць на захад. Высьветлілася, што каля пятае часткі кадэтаў дзесьці згубіліся, а магчыма сьведама засталіся, і гэтаму ніхто асабліва не зьдзівіўся. Ад'езд павінен быў адбыцца каля поўначы з трэцяга на чацьвертае ліпеня 1944 году. Але якраз перад гэтым на станцыю наляцелі савецкія бамбавікі. У вогненным пекле загінулі шэсьць курсантаў школы камандзіраў БКА і пятнаццаць былі параненыя...*

У хуткім часе мы далучыліся да "рагуляўцаў", якія вярталіся зь нейкай акцыі на Глыбоччыне. Швадрон на той час ужо разросься,

галоўным чынам за кошт добраахвотнікаў-сэмінарыстаў, і пераўтварыўся ў дывізіён Беларускай Краёвай Абароны. Зьявіліся на дарозе першыя эмігранты з Наваградчыны, якія рухаліся насустрач нам: хто пешшу, хто на ровары, некаторыя ехалі на фурманках, наладаваных хатнім майном. На адной з фурманак Віця Бузук заўважыў сваіх бацькоў. Я разьвітаўся са сваім лепшым сябрам — ён паехаў з сям'ёю на захад. Далейшы лёс Віці Бузука мне невядомы.

Наваградчане, асабліва сем'і жаўнераў, чакалі вяртаньня "рагуляўцаў". Наваградак вітаў сваіх жаўнераў 4 ліпеня 1944 году. Рагуля абвесьціў збор на Замкавай гары на 6 ліпеня.

Я накіраваўся на кватэру да старэнькай татаркі, дзе жыў падчас навучаньня ў настаўніцкай сэмінарыі. Тут затрымаўся на некалькі дзён. Тым часам з усходняй Наваградчыны цягнуўся абоз фурманак з уцекачамі на захад. Стаў варушыцца і Наваградак. 6 ліпеня ў прызначаны час на Замкавай гары адбыўся збор "рагуляўцаў", на якім прысутнічаў і я.

З кароткай прамовай да жаўнераў зьвярнуўся Барыс Рагуля. Добра памятаю ягоныя словы: "...Я забраў вас з Наваградка, я і прывёў у Наваградак. А цяпер, хто хоча са мною — пойдзем на захад, а хто хоча — заставайцеся ў Наваградку, разыходзьцеся па дамах. Невядома, што нас чакае, калі пойдзем на захад. Але вядома, што будзе, калі застанёмся тут" (я застаўся, бо не ўяўляў сабе жыцьця без Беларусі). Барыс Рагуля выказаў перакананьне, што прыйдзе час адраджэньня краіны, у тым ліку і руху моладзі, а яго мэтай будзе несумненна вольная Беларусь. Прасьпявалі песьню "Беларусь — наша Маці-Краіна".

На разьвітальны кліч Б. Рагулі: "Жыве Беларусь!", з грудзей прысутных вырваўся неймаверна пераканаўчаю сілаю адказ: "Жыве!" Перакананы, што ўражаньне ад гэтага апошняга разьвітаньня пакінула адбітак ня толькі ў маёй душы. Яно сталася стымулам думак і пачуцьцяў у розных жыцьцёвых сытуацыях.

Тых, хто вырашыў застацца, Рагуля звольніў ад абавязку далейшай службы ў войску. Веснавыя навабранцы, наймалодшыя хлопцы, падаліся дамоў. У казармах застаўся касьцяк дывізіёну. Большасьць зь іх вырашылі эвакуіравацца. Назаўтра Барыс Рагуля, Люда Гутар (пазьней — жонка Рагулі), Міхась Рагуля* "татраю" выехалі з Наваградка. На досьвітку 7 ліпеня 1944 году наваградзкія казармы былі быццам вымецены — там не было ніводнай жывой душы. Казакі (уласаўцы), якія стаялі ў Наваградку, зарыентаваўшыся ў сытуацыі беларускага швадрону, зрабавалі

большасьць табару і верхавых коней.

**Рагуля Міхась (1914 — 2002) — беларускі палітычны дзяяч. Сын сэнатара Васіля Рагулі. Выпускнік Наваградзкай беларускай гімназіі. Інжынер. Падчас Другой сусьветнай вайны — сябра ЦК Беларускай незалежніцкай партыі, псэўданім "Чорны". Зь лета 1944 г. — на эміграцыі. Жыў у ЗША.*

Якімі сродкамі транспарту падаліся хлопцы на захад — цяжка сказаць. Пакінутыя на волю лёсу маладыя недасьведчаныя хлопцы, якія па іхняму ўласнаму выбару мелі быць элітай беларускага войска, заканчвалі драматычна. Многія зь іх адцярпелі пакуты ГУЛАГу, іншыя паплаціліся жыцьцём, як браты Кавэлічы.

Спусьцелы Наваградак у ліпеньскую раніцу прыйшлося назаўсёды пакінуць і майму кіраўніку па СБМ Янку Жамойціну. Ён выехаў на самакаце, прыхапіўшы з сабой штандар СБМ і ягоны архіў. Заехаў дамоў, на Лідчыну, разьвітаўся з бацькамі, блаславіла на дарогу ягоная маці, і "папэдаляваў" далей. Начаваў у хмызьняку, прывязаўшы ровар да нагі (пазьней Янка памяняў ровар на харчы ў паляка).

На чыгуначным пераезьдзе, каля вёскі Сямашкі, што на Лідчыне, Янка нечакана спаткаў Захара Кавэліча і ягонага брата ў вайсковай вопратцы "рагуляўскага" дывізіёну. Ня маючы коняў, яны адбіліся ад сваіх. Праўдападобна, набліжалася прыфрантавая паласа. Не маглі вырашыць, куды падацца. Хлопцы, пераапрануўшыся ў сялянскую вопратку, узялі курс на Наваградак. У лесе за Нёманам Кавэлічы напароліся на савецкую партызанскую часьць, якая расстраляла іх на падставе таго, што яны былі ў бялізьне з вайсковымі прызнакамі.

Раніцай 7 ліпеня да мяне на кватэру прыйшоў Сяргей Казак. "Мы зьбіраем зброю, — кажа ён. — Дай мне сваю стрэльбу". Хто мы — не паведаміў. Узяў я вінтоўку, выйшаў на двор і стрэліў уверх, першы і апошні раз пасьля вучэбных стрэльбаў на палігоне ў Менску. Выстраліў і ён раз уверх. Добра-такі пасварылася на нас гаспадыня кватэры за страляніну на падворку, за наш дзіцячы ўчынак. Не разумелі, якую бяду маглі наклікаць гэтымі стрэламі. Аддаў я Сяргею вінтоўку, набоі, якія ў мяне былі, і больш я яго шмат гадоў ня бачыў. Дзе ён яе падзеў — ня ведаю.

Апоўдні, пераапрануўшыся ў сваю цывільную вопратку, якая ў мяне захоўвалася на кватэры, я адзін пешшу выйшаў з Наваградка на ўсход, у накірунку на Нягневічы. Пайшоў у сваю родную вёску

Лозкі, да якой было 25 кілямэтраў. Прайшоў кілямэтраў дзесяць і ўбачыў удалечыні на дарозе хмару пылу, пачуў гул матораў. Гэта былі вайсковыя часьці немцаў, казакоў (уласаўцаў), паліцаяў, нямецкіх жандараў, якія рухаліся на захад. Я падумаў, што яны вяртаюцца зь нейкай антыпартызанскай акцыі з Налібоцкай пушчы. Ехалі на машынах, на танкетках, на фурманках, ішлі пешшу. Сярод вайскоўцаў былі і цывільныя-уцекачы ад бальшавікоў.

Ніхто на мяне не зьвярнуў ніякай увагі, ніхто не затрымаў і не запытаўся, чаму я іду на ўсход, а не на захад, як усе. Толькі ў Старых Нягневічах мяне затрымаў нямецкі афіцэр. Пасьля допыту, абшукаў. Зьняўшы пінжак, убачыў вайсковы рэмень на штанах. Заўважыў на мне вайсковую бялізну. Раз'юшаны, загадаў маладому нямецкаму жаўнеру: “Erschissen!” (“расстраляць!”), а сам сеў у машыну і паехаў. Я добра зразумеў, што азначае гэтае жудаснае нямецкае слова. Жаўнер зьняў зь мяне маё адзеньне, забраў рэмень, прымусіў зьняць вайсковую бялізну, даў мне замурзаныя гноем даматканыя сялянскія штаны і такую ж сарочку. Нацягнуў я на голае цела, бяз бялізны, гэтае адзеньне. Жаўнер наставіў на мяне дула свайго карабіну са штыком і павёў праз увесь агарод за гумно — на расстрэл. Памятаю, што я думаў, пакуль ён вёў мяне растрэльваць: “...ня можа быць, каб гэты маладзенькі, амаль такога ўзросту, як і я, нямецкі салдацік, мяне застрэліў, як гэта так — вось я жыву і пасьля стрэлу імгненна мяне ўжо няма...” Завёў ён мяне за гумно, павярнуў тварам да сябе, глянуў мне ласкава ў вочы, ляпнуў лагодна далоньню па левай маёй шчацэ і загадаў уцякаць хутчэй дадому. Нават не зрабіў стрэлу для імітацыі расстрэлу. Ня памятаю, ці сказаў я яму слова падзякі за дараванае мне жыцьцё. Мабыць — не. Вядома ж, больш я яго ніколі ня бачыў і, мабыць, ужо ніколі ня ўбачу. Ня ведаю, ці зьбярог яму Бог жыцьцё ў той жудаснай вайне?.. Ці жывы ён яшчэ?.. Да скону свайго я буду памятаць і маліцца за яго. Вось табе і немец, вось табе і фашыст! Аказваецца, ня ўсе немцы былі фашыстамі. Братоў Кавэлічаў застрэлілі “свае”, а немец не забіў чужога, не падпарадкаваўся загаду свайго афіцэра.

Далей я ўжо ня йшоў па дарозе — збочыў на мяжу між высокім маладым жытам і пайшоў наўпрасткі ў напрамку сваёй вёскі. Тады і ня думаў, што, каб мяне ўбачылі з дарогі немцы, дык маглі прыстрэліць. Але зноў пашанцавала...

Раптам пачалася страляніна. Засьвісталі па жыце кулі, быццам сьсякаючы калосьсе. Я прылёг на зямлю. Бачыў, як загарэлася, мабыць ад кулі, драўляная царква ў Старых Нягневічах, куды я

калісьці хадзіў з Лозак на кірмаш у час прыстольнага свята (дарэчы, царкву так і не адбудавалі).

Сьцямнела. З усходу на захад наўпрасткі па полі пайшлі танкі. Наляцелі самалёты і пачалася бамбёжка. Самалёты навешалі над полем "ліхтароў", стала так бачна, што, здавалася, лётчык бачыў мяне ў жыце... Адна бомба разарвалася недалёка ад мяне, толькі аскепкі зашалясьцелі над галавой. Мяне абсыпала зямлёю, але ніводзін аскепак мяне не крануў.

Танкі пляжылі жыта, мабыць спачатку нямецкія, а потым удагонку за імі — савецкія, чорт іх там разбярэ ў такім пекле, чые яны. Думаю, раздавяць яны мяне, як гусяня гусеніцамі. Выбраў высокую мяжу, лёг пад мяжою так, што танк, каб і наехаў, то не раздавіў бы мяне. Непрытульна ляжаць пад мяжой на голай сырой зямлі, ды і сам амаль голы. Бачу, што непадалёк ад мяне асветленая ліхтарамі сухая канюшына ў копах. Выбраў я момант, юркнуў да копаў, прынёс пару ахапкаў канюшыны пад мяжу і зрабіў сабе пасцель. Лёг, і пад грукат гармат, разрыў бомбаў, гул самалётаў, лязгат гусеніцаў танкаў, заснуў пад мяжой моцным юнацкім сном, прыгрэўшы сваім целам канюшыну. Пяхоты на полі ня бачыў: ні нямецкай, ні савецкай. Можа яна і праходзіла, але ў той час, калі я спаў.

**Саветы прыйшлі**

Прачнуўся раніцай 8 ліпеня ад цішыні і сонечнай цеплыні. Вярнуўся, знайшоў прымятае жыта, логава, дзе я ляжаў, і непадалёк убачыў варонку ад разарванай бомбы. Падумалася, ці лётчык убачыў мяне і скінуў персанальна на мяне бомбу, ці выпадкова бомба так блізка ўпала ля мяне?

Падаўся наўпрост на так званае "далёкае поле", надзел лозкаўскіх сялянаў (калгасаў яшчэ не было). На гэтым полі я ўбачыў лозкаўцаў. Зьдзівіліся яны майму адзеньню, бо ніколі ня бачылі мяне ў такой вопратцы. Пытаюся: "Што там, у Лозках, ці там немцы, ці партызаны?.." "Якія табе немцы, — кажуць, — ужо Саветы прыйшлі".

Такім чынам, сам таго ня ведаючы, я перайшоў фронт, ці можа фронт цераз мяне перайшоў? Галоўнае Бог і тут мне дапамог застацца жывым і не пашкоджаным.

Бацькі таксама зьдзівіліся, убачыўшы мяне ў такой вопратцы, але не паспачувалі, бо я бяз іхняга дазволу і благаслаўленьня ў ваенны неспакойны час пайшоў добраахвотнікам у афіцэрскую школу. Мой сусед, Міша Жарыч, які разам са мною быў у афіцэр-

скай школе, ужо быў дома. Ён быў гадоў на дзесяць старэйшы за мяне, і да 1939 году пасьпеў паслужыць у польскім войску.

Неўзабаве ўсіх лозкаўскіх мужчынаў, годных служыць у войску, забралі на фронт. Амаль усе яны, неабучаныя, загінулі пад Варшавай у першым баі. З сям'і Трафімчыкаў два маладыя мужчыны Петрык і Ладзік, абодва жанатыя, не вярнуліся з вайны. Петрык пакінуў малых сыноў Вацю і Ваню. Жонка Петрыка, Жэня, выгадавала іх сама і абодвум дала вышэйшую адукацыю. Яна другі раз замуж ня выйшла, удавой памерла ў Пінску, дзе і пахаваная. Яе малодшы сын, Іван Пятровіч Трафімчык, свайго бацькі ня памятае, жыве і працуе ў Пінску, галоўным урачом Пінскага раёну — паважаны чалавек у горадзе. Жонка Ладзіка, Ніна, дзяцей ня мела, выйшла другі раз замуж.

Вярнуўся ў Лозкі з фронту толькі адзін малады хлопец, на год старэйшы за мяне — Андрэй Мазало, але ўжо інвалідам — бязь левай кісьці рукі. Працаваў ён у калгасе і нават прылаўчыўся касіць.

Хлопцаў 1927 году нараджэньня прызвалі на дапрызыўную службу. Забралі і мяне. Дапрызыўную службу я праходзіў у Любчы (14 кілямэтраў ад Лозак). У той час гэта быў раённы гарадок Баранавіцкай вобласьці. Пасялілі нас у нейкім гумне, дзе спалі на зямлі пакрытай саломай, у якой кішэлі “ўшывыя” блохі.

Адразу, чамусьці, мяне прызначылі камандзірам адзьдзяленьня. Камандзірам узводу быў невысокага росту маленькі яўрэйчык. Прыгледзеўшыся да дапрызыўнікоў, начальства Любчанскага ваенкамату прызначыла мяне камандзірам узводу замест яўрэйчыка. Ва ўзводзе былі чатыры адзьдзяленьні. Усе мы насілі цывільную вопратку — былі апранутыя, хто ў чым. У падначаленым мне ўзводзе быў мясцовы любчанскі хлапец Міша Ясінскі. Аднойчы ён мне і кажа: “Косьця! Навошта ты корміш гэтых блохаў у саломе? Пойдзем да мяне начаваць”. Ад гэтага часу я спаў на духмяным сене ў гумне Мішынага бацькі.

У Мішы былі дзьве родныя сястры, побач жыла яшчэ і стрыечная сястра. Вось мы ўсе разам покатам і спалі на гэтым торпе сена. Да позьняй ночы сядзелі на лавачцы каля хаты, размаўлялі, жартавалі, сьпявалі песьні. Старэйшая сястра Мішы працавала настаўніцай. Памятаю, як аднойчы на гэтай лавачцы, застаўшыся зь ёю адзін на адзін, яна вучыла мяне цалавацца (я быў зусім неадукаваны ў гэтай справе).

Вайсковыя заняткі мы праводзілі за Нёманам на скошаным лузе, куды хадзілі маршам цераз плывучы мост. Аднойчы, памя-

таю, вяду я свой узвод па Любчы, за Нёман. Бадзёрым голасам камандую: “Раз, два, левай, раз, два, левай!”. Бачу, ідзе дзяўчына, Люба Ляпешка, якая мне вельмі падабалася. Жыла яна ў вёсцы Балотца, што каля Лозак. Мне стала вельмі прыемна ад таго, што яна бачыць, які я камандзір, ганаруся перад ёю бязьмерна, бязьмерна хвалююся і яшчэ гучней камандую: “Раз, два, левай, раз, два, левай!”. А сьмеласьці не хапае, каб падыйсьці да яе, ды хоць прывітацца. Толькі, мабыць, пачырванеў ад хваляваньня, хоць ніхто майго пачуцьця не заўважыў, мабыць нават і яна сама... Вось так мне падабалася вайсковая служба ў юнацкія гады.

За Нёманам на лузе сям-там ляжалі разбухшыя трупы нямецкіх жаўнераў. Ніхто іх чамусьці не хаваў. Па Нёмане таксама плылі трупы немцаў. Дзе-нідзе яны чапляліся за прыбярэжную лазу, затрымліваліся, нібы адпачывалі...

Сьпякота. Спацелыя дапрызыўнікі пасьля вайсковых цьвічэньняў хочуць піць — смага. Адыдзем крокаў дзесяць уверх па цячэньні ад “адпачываючага” разбухшага немца, кладземся на чэрава і п’ем з асалодай нёманскую ваду, ня думаючы пра тое, што вышэй па цячэньню можа яшчэ немец разбухлы “адпачывае”...

Амаль пад кожным кустом ляжала зброя, амаль пад кожным кустом — патроны, бяры, колькі хочаш. На выходны нас са зброяй адпускалі па дамах за харчам. Зброю нам давалі таму, каб па шляху дадому ў выпадку сустрэчы з адстаўшымі немцамі мы маглі іх затрымаць і здаць у ваенкамат. Але ніхто з дапрызыўнікоў не затрымаў і ня здаў ні аднаго немца. І ніхто з беларусаў, каб і хацеў, ня мог бы схаваць немца ў сваёй хаце ў якасьці сваяка, працаўніка ці мужа, як гэта рабілі нашыя сяляне з салдатамі Чырвонай Арміі ў 1941 годзе — мова не дазваляла. Нямецкія жаўнеры, што ня здолелі своечасова ўцячы, альбо гінулі, альбо здаваліся ў палон.

Прыйшоўшы дахаты, я ў сваім агародзе страляў па мішэні. За мішэнь было курынае яйка, пакладзенае ў разьвілку галінаў грушы ў нашым садзе. Балазе патроны былі не падсправаздачныя: страляй, колькі хочаш. Мой тата сварыўся на мяне, як на дзіця, за гэтую страляніну, баючыся, каб я выпадкова каго не застрэліў у вёсцы Балотца на адлегласьці аднаго кілямэтру ад маёй мішэні. Балазе адбылося без ахвяраў, нікога я не застрэліў.

Захварэў я дызэнтэрыяй. Ня ведаю, ці ад нёманскай вады, ці ад нямытых грушаў, ці яблык, паднятых з зямлі ў садзе. Паклалі мяне ў “шпіталь” у вёсцы Шчорсы (тры кілямэтры ад Лозак). Шпіталь — гэта пакой, адведзены для гэтай мэты ў сельсавеце. Я ляжаў на падлозе, бяз ложку. Саламяны сяньнік і пасьцель прынесла

мне здому мама. Яна ж прыносіла і харчаваньне. Ачуняў я хутка. Малады арганізм перамог хваробу. Вельмі хацелася вучыцца, а ў Наваградку адчынілася пэдагагічная вучэльня. Я панёс туды свае дакумэнты. Па даведцы аб заканчэньні II курсу Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі мяне прынялі на III курс пэдвучэльні без іспытаў.

Першага верасьня 1944 году я стаў вучнем Наваградзкай пэдвучэльні. Як студэнту III курсу пэдвучэльні, мне далі “бронь” ад службы ў войску. Пачаліся заняткі і стала відавочна, што ўсё беларускае ў пэдвучэльні “як карова языком зьлізала”. Зьніклі ўсе беларускія настаўнікі, якія нас вучылі ў настаўніцкай сэмінарыі, застаўся толькі выкладчык сьпеваў Дыдышка. Кіраўніцтва, настаўнікі, нават многія студэнты былі прысланыя з усходу. Усе прадметы пачалі выкладацца па-расейску. У вучэльні арганізавалі камсамол, у які я не пайшоў, ды мяне туды ніхто і не запрашаў. Мабыць, ведалі, каго туды прымаць. Нягледзячы ні на што, у мяне застаўся толькі беларускі дух.

Пачалося новае студэнцкае жыцьцё. У адным памяшканьні мы і вучыліся, і жылі. Хлопцы жылі на верхнім паверсе, а дзяўчаты — ў падвальным паверсе. Я жыў у вялікім пакоі са шкляной сьцяной ад калідору. Чамусьці гэты пакой называлі афіцэрскай палатай. Мабыць таму, што пры нямецкай акупацыі ў памяшканьні пэдвучэльні быў шпіталь, у якім мая мама і брат вылечыліся ад тыфу. Хлопцы ў нашым пакоі, былі нібыта адмыслова падабраныя: высокія, фізычна здаровыя, дружныя, вясёлыя, амаль заўжды з песьнямі, нават у сталоўку ў падвальнае памяшканьне ішлі з песьнямі, як бы маршам. У сталоўку, па сэмінарскай звычцы, харчы прывозілі бацькі навучэнцаў. Калі-нікалі ў вучэльні ладзіліся танцы, на якія прыходзілі савецкія афіцэры.

Фарсіў я тады ў бацькавых хромавых ботах, якія ён колькі гадоў насіў на плячах у царкву, і якія добра прыстуквалі на танцах скураною падэшвай. Зь нямецкага блакітнага шыняля мама мне пашыла цёплую куртку на кудзелі, адпароўшы ад свайго паліто чорны футраны каўнер і прышыўшы да маёй курткі. Памятаю, як я быў задаволены гэтай курткай, ніхто больш такой ня меў.

На II-ім курсе вучылася дзяўчына Анютка, якая мне вельмі падабалася. На яе я ў настаўніцкай сэмінарыі цэлы год толькі здалёк паглядаў. Ад хваляваньня не адважваўся падыйсьці да яе і тым больш запрасіць у танец. Яна для мяне была найпрыгажэйшай у сьвеце. Каля яе заўсёды круціліся старэйшыя хлопцы, а я лічыў Анютку недаступнай для сябе. Сустрэўшы ж яе ў пэдвучэльні, я

трошкі пасьмялеў. Спачатку з хлопцамі, а потым і сам пачаў заходзіць у пакой, дзе яна жыла. Але ня толькі прызнацца ў каханьні, але нават пагутарыць зь ёю як сьлед ня мог...

Аднойчы асьмеліўся запрасіць яе ў кіно. Яна згадзілася. Вось цяпер, думаю, я адкрыю перад ёю свае сардэчныя пачуцьці. Ідзем у кіно па Наваградку, больш маўчым. Аб маім каханьні да яе слова вымавіць не хапае духу. Думаю, што ў кіназалі прызнаюся. У залі кіно ня бачу і ня чую, адна думка: як прызнацца? Кіно скончылася — прызнацца ня змог. Але яшчэ ж засталася дарога назад. На вуліцы ўжо цёмна. Можна і пасьмялець. Але, ідучы назад, таксама аб галоўным ні слова ня вымавіў. Амаль моўчкі прайшлі. Падыходзім да пэдвучэльні. Вось, думаю, будзем спускацца ў падвальнае памяшканьне, там лямпачкі няма, цёмна. Вось тут я ўсё і скажу. Я затрымаў яе і змог вымавіць толькі адно слова: “Анютка!” Яна спытала: “Што?” Больш я ні слова ня змог сказаць. Ад хвалявaньня, камок нейкі перахапіў горла — маўчу. Так і не прызнаўся ў каханьні. Разьвітаўся зь ёю і пайшоў у свой пакой, раз’юшаны сам на сябе, да раніцы думаў пра гэтую няўдачу.

Аднойчы мы з Анюткай ад гімна да гімна цалаваліся. У савецкія часы гімн іграў у 12 гадзінаў ночы і ў 6 гадзінаў раніцы. Гэты прамежак часу і называлі “ад гімна да гімна”. Гадзіньнікаў у нас не было. І нават тады, пры смачных пацалунках, я ня здолеў Анютцы прызнацца ў каханьні. Вось такое яно было ў мяне, першае каханьне. Неўзабаве суровы жыцьцёвы лёс назаўсёды разлучыць нас.

**Калі не ўзыходзіць сонца**

У ноч з 13 на 14 сьнежня 1944 году мяне арыштавалі. Разам са мною ў гэтую ноч арыштавалі Кастуся Краскоўскага (ужо памёр), Сашу Шабана (таксама памёр), Міколу Савасьцюка (жыў у Менску, цяпер зьвестак ня маю), Міхася Сазановіча (зьвестак пра яго лёс ня маю). Зьбіралі нас у сталовай падвальнага памяшканьня пэдвучэльні. Пратрымалі тут да 6-ай гадзіны раніцы, пакуль гімн не зайграў. Нават дазволілі паесьці, апошні раз пакармілі тут.

У турму пад канвоем усіх разам павялі пешшу. Турма знаходзілася недалёка ад вучэльні. Памятаю скрып зачыненых за намі цяжкіх жалезных, іржавых турэмных дзьвярэй. Пасьля першага “шмону”, падчас якога забралі папругі і шнуркі з чаравікаў, нас усіх разьмясьцілі ў адну вялікую камэру з цэмэнтнай падлогай, бяз нараў і, вядома ж, без пасьцелі. Пасьцельлю кожнаму служыла свая вопратка. Камэра была настолькі перапоўненая, што спаць на падлогу клаліся на бок, як селядцы, а на другі бок паварочваліся па

камандзе. У гэтай камэры разам з намі сядзеў дырэктар Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі Пётр Ануфрыевіч Скрабец*. Гэта быў рухавы старычок, які заўжды стараўся без чаргі падхапіць парашу, каб вынясьці яе з камэры ў агульную туалетную, куды нас выводзілі адзін раз у суткі. Але мы, маладыя, былыя ягоныя студэнты, не дазвалялі яму гэта выканаць. Адзін раз у суткі выводзілі нас хвілін на дзесяць на прагулку на спэцыяльна адведзеную пляцоўку на турэмным двары. У камэры было шмат сталых людзей, пераважна сялянаў. Самымі маладымі былі мы. Кармілі нас пасечанай старой крапівой з бадыльлем. У камэры мы, былыя сэмінарысты, паціху сьпявалі беларускія патрыятычныя песьні, падбадзёрвалі самі сябе як маглі.

**Пётр Скрабец (1882 — 1963) — беларускі педагог. Пасьля 8 гадоў зьняволеньня вярнуўся ў Беларусь, жыў у Наваградку.*

Вельмі перажываў за свой лёс маленькі ростам Міхась Сазановіч. Ён часта плакаў у камэры, як малое дзіця. Праз некалькі дзён высьветлілася, што схапілі ў турму не таго Міхася Сазановіча — меліся схапіць не маленькага, а вялікага ростам Міхася Сазановіча. Неўзабаве маленькага Міхася выпусьцілі з турмы, а вялікі Міхась за гэты час дзесьці зьнік. Далейшага ягонага лёсу я ня ведаю. У турме я прасіў, каб мяне забралі на фронт у штрафную роту. Але мне адказалі: “*Нам контрреволюционеры не нужны*”.

Арыштаваны я быў за прыналежнасьць да СБМ і за навучаньне ў Беларускай афіцэрскай школе. Месяц трымалі ў наваградзкай турме, а допытаў ніякіх не было. У канцы студзеня 1945 году, пад укрыцьцём начной цемры і пад строгім канвоем, павялі нас, арыштантаў, з турмы на вакзал. У той час яшчэ працавала вузкакалейная чыгунка ад Любчы цераз Наваградак да Наваельні. У народзе яе празвалі “*кукушкай*”, мабыць таму, што гудок у яе быў падобны на голас *кукушкі* (зязюлі). У таварных вагонах “*кукушкі*” (“цялятніках”) давезьлі нас да Наваельні, дзе перагрузілі ў “цялятнікі” шырокай каляі. У вагонах нараў не было, усе сядзелі і спалі на падлозе. Замест парашы ў падлозе была зробленая дзірка — нашая прыбіральня. У столі была яшчэ адна дзірка — для выхаду дыму з жалезнай печкі-“буржуйкі”.

Вагон быў перапоўнены так, як і камэра турмы. У малым вагоне было каля 45 чалавек, у вялікім (пульмане) — каля 100 чалавек. Спаць кладіся на голай падлозе покатам, як і ў турме — бокам, адзін да аднаго. Сьцены вагонаў абледзянелі, мэталічныя яго

часткі пакрыліся інеем. Маленькія ваконцы былі закрытыя кратамі. У час сну галава прымярзала да сьцяны... Кожны дзень, пры зьмене канвою, праводзілася праверка са “шмонам”. Адкрываліся насьцеж дзьверы “цялятніка”, у вагон залазіў канваір і пералічваў вязьняў. Ня дай Бог, каб хто ўцёк! Правяралі, ці не нарабілі мы ў вагоне дзірак для ўцёкаў.

Канваір кідаў нам мёрзлыя булкі хлеба, якія мы павінны былі дзяліць на роўныя кавалачкі на ўсіх, на роўныя пайкі, памер якіх быў амаль роўны памеру пудэлку ад запалак. Потым канваіры адкрывалі насьцеж дзьверы вагону, урываліся і рабілі “шмон”, шукалі, чым мы рэзалі мёрзлыя булкі хлеба...

Калі-нікалі давалі вельмі салёную рыбу. А пасьля яе не давалі вады. Неверагодная смага. Вязьні лізалі абледзянелыя балты і іншыя жалезныя рэчы вагонаў. Даставалі дымаходную трубу з “буржуйкі”, я станавіўся на “буржуйку” і рукою, колькі мог, зграбаў з даху вагона сьнег. На стаянках, на крыкі вязьняў “вады, вады!”, бывала, канваіры адчынялі дзьверы. Я, як самы малады, саскокваў з вагона, вязьні кідалі мне свае шапкі, якія я напаўняў сьнегам і падаваў у вагон. Сьнег пераўтваралі ў ваду і пілі. Бывала, што ваду падавалі ў вагон вёдрамі. Вязьні хапалі яе кубкамі, хто колькі мог. Я пасьпяваў і напіцца, і яшчэ ў запас кубак вады прыхапіць. Потым гэтую ваду абменьваў на сухары, якія вясковыя дзядзькі везьлі мяхамі. Як яны хацелі піць, я заўсёды хацеў есьці, але салёнай рыбы стараўся ня есьці, мяняў яе на сухар.

Дровы для “буржуек” вязьні нарыхтоўвалі на стаянках. Пілавалі папярэчнымі піламі бярвеньні і калолі. На гэтую працу я заўсёды дабраахвотна згаджаўся — добрая разьмінка і прагулка, ды і магчымасьць папіць і ўзяць з сабой вады, хоць і сьнегавай.

У такіх умовах, у “турме на калёсах”, знаходзіліся мы 47 сутак. Працягнуць перагон, прыпыняць на станцыі, загоняць у тупік, стаім дзень, стаім два, стаім тры... На захад прапускаюць цягнікі, а наш “груз” на ўсход, на поўнач — стаіць. Яшчэ прапаўзем перагон — ізноў стаім. Са стаянкамі на шматлікіх станцыях, нарэшце, дацягнулі нас да станцыі Чум, што каля Варкуты ў Комі АССР. Выкінулі нас у тундры, за палярным кругам. Ноч, хоць і сьветлая, навокал толькі белы сьнег, сьнег, сьнег... Няма на чым воку затрымацца: ні дзераўца, ні кусточка, ні хаткі.

Пералік вязьняў адзін раз, другі, трэці, пакуль не пераканаліся, што на месца прывезьлі ўсіх. Пакуль рабілі падлік, усіх пасадзілі ў сьнег. Нарэшце паднялі, пастроілі ў калёну па пяць вязьняў. Павялі пад канвоем сьпераду, з бакоў, ззаду, з сабакамі, па цаліку па пояс

у сьнезе. Пабачыў “*северное сияние*” — прыгажосьць. Ніякай роспачы асабіста ў мяне тады не было. Усё выглядала, як бясплатны турыстычны паход. Дзе б я ўбачыў такое, каб не арышт? — так разважаў сам з сабою, брыдучы па глыбокім сьнезе.

Дайшлі да лягеру. Здалёк я пабачыў вышкі, на якіх стаялі канвайры ў тулупах са стрэльбамі, аўтаматамі і кулямётамі. Упершыню пабачыў лягер, абнесены некалькімі шэрагамі калючага дроту. За дротам былі баракі, да стрэхаў задзьмутыя сьнегам. Так выглядаў пасёлак Чум зь некалькімі баракамі для канвайраў і вольнанаёмных рабочых, якія знаходзіліся за зонай.

Перад прахадной у зону зноў пасадзілі на сьнег. Паўторны пералік вязьняў, прыёмка вязьняў па картатэках новымі нашымі гаспадарамі. Пастраеньне ў зоне, развод па бараках. У бараку каля дзьвярэй стаяла вялікая бочка са сьнегам — гэта пітная вада, а пасярэдзіне бараку — вялікая бочка-“буржуйка”, для абагрэву памяшканьня распаленая да чырвані. Двухпавярховыя нары без пасьцелі былі разьлічаныя на 150 вязьняў у кожным бараку. Нас пасялілі ў лягер разам з крымінальнікамі, бытавікамі, блатнымі, бандытамі.

Такім чынам, без суда і допытаў, я стаў сапраўдным зэкам сталінскага ГУЛАГу. Пачалося лягернае жыцьцё ва ўмовах палярнай ночы. Сонца не ўзыходзіла. Ноч і ноч. Згубілі арыэнтыр у часе — ня ведалі, калі дзень, калі ноч. Ня ведалі, які быў дзень тыдня. Календара няма, гадзіньніка таксама ніхто ня мае. На прахадной каля вахты вісеў кавалак рэйкі, па якой дзяжурны канвайр біў малатком, утвараючы звон, які нам нагадваў пад’ём, развод на працу і адбой. Вось гэта быў наш адзіны арыэнтыр у часе. Выходных не было. Кожны дзень быў манатонна падобны адзін на другі, калі гэта можна было назваць днём, бо гэта ж была бязконцая ноч...

Абмундзіравалі нас ва ўсё белае (як быццам для маскіроўкі на сьнезе), пашытае зь белага грубага матэрыялу. Белыя ватныя штаны, белая ватная целагрэйка, такі ж ватны бушлат, ватныя буркі, на іх, праўда, чорныя гумовыя чуні, белая кашуля з такога ж грубага матэрыялу. Хутка ўсё гэтае адзеньне ад бруду стала чорным. Нават кашуля, ніколі ня мытая, стала чорнай. Не было ні мыла, ні вады. У лазьні на аднаго вязьня давалі адну шайку вады, а на галаву вылівалі адну лыжачку вадкага мыла.

Сталоўкі ў лягеры не было. За баландай хадзілі брыгадай да кармушкі, зробленай у сьцяне кухні. Брыгадзір назіраў, каб хто чужы ня ўклініўся ў чаргу перад кармушкай, бо тады свой застанецца без баланды. Посудам у нас былі іржавыя бляшанкі з-пад кансэрваў,

большая, з драцянай дужкай — пад суп (баланду), меншая — пад кашу (а каша вадкая, як суп). Перад кармушкай ніякага тамбуру не было. Падаеш у кармушку свае бляшанкі пад наглядам брыгадзіра, повар плюхне ў адну, у другую бляшанку, і ты пасунуўся ў барак есьці. Калі не павалішся дзе ў сьнезе, то данясеш. Гэтыя маршруты ад кармушкі да бараку адбываліся ў любое надвор’е: і ў лютыя маразы, і ў лютую завею, калі да кармушкі ад бараку па нацягнутай вяроўцы трэба было ісьці.

Хлеб, каб ніхто не адабраў, брыгадзір з ахоўнікамі прыносілі ў барак. Ён быў парэзаны на адпаведныя пайкі, дакладна ўзважаныя, некаторыя з даважкамі (прыколкамі), прыколатымі да асноўнай пайкі драўлянымі шпількамі, на спэцыяльных драўляных падносах. Ішла раздача хлеба. Гэта быў урачысты момант, што не хапае словаў, каб яго апісаць. З зацікаўленьнем сачылі прагнымі вачыма галодныя вязьні за раздачай паек. Кожны марыў атрымаць гарбушку, бо яна аб’ёмам была ледзь-ледзь большай за сярэдзінку. Я, атрымаўшы сваю пайку, заўсёды адразу зьядаў з асалодай, не запіваючы нават вадой, бо вада скрадала смак хлеба. Ніколі для мяне ня быў такі смачны хлеб, як тады. А некаторыя сваю пайку мянялі на тытунь і паміралі ад голаду. Баланду я выпіваў бяз хлеба, кашу таксама выпіваў бяз хлеба, пакідаў толькі хлебную корку, каб вычысьціць ёю бляшанку з-пад кашы. Баланда (суп) амаль заўсёды варылася з турнепсу (паўночны белы бурак). У баландзе ні скалачкі тлушчу, ні кавалка мяса, ні рыбы, добра, калі хоць кавалачак турнепсу трапіць.

Прадаў я вольнанаёмнаму за булку хлеба свае боты, тыя, бацькавыя. Гэтую булку хлеба за адзін раз зьеў, без вады.

Працавалі мы па 12 гадзінаў у суткі на будаўніцтве чыгункі, і гэта бяз уліку пераходу туды і назад. Увесь час былі пад канвоем. Мы выпрамлялі існуючую дарогу. Кіркай, ломам, клінам з кувалдай дзяўбалі вечную мерзлату і адвозілі тачкамі (машынай “асо” — дзве ручкі, адно кола) па насьцілу, шырынёй у адну дошку, у адвал. Кола саскочыць з дошкі і трэба тачку з зямлёй падымаць на яе, бо далей не паедзеш, а гэта аднаму не пад сілу. Дошка ж абледзянелая ды яшчэ і сьнегам прысыпаная. А мароз 30 градусаў і нават больш, зь ветрам, сьнежная завіруха, што сьвету ня бачна. Мы, сэмінарысты, дамовіліся назіраць адзін за другім, каб не абмарозіцца. Калі толькі нос ці шчака пабялее ад марозу, цёрлі белую пляму на твары, і такім чынам ні разу не абмарозіліся.

Норму вырабіць я ніколі ня мог. Кіркай ударыш у мерзлату — адколецца маленечкі кавалачак зямлі альбо і зусім нічога не

адколецца. Хіба ж можна такім чынам надзяўбці норму і вывезьці тачкай?! Дзяўблі ўзвышша, адвозілі тачкай у нізкае месца, засыпалі равок, такім чынам рабілі гарызантальную аснову пад шпалы чыгуначнага палатна. Пад кожнай шпалай — труп вязьня. Узгадаліся мне словы Някрасава: “*... и механически ржавой лопатою мерзлую землю долбал…*”.

Прыцягнуўшыся пад канвоем з працы ў барак, спалі на голых нарах. Замест дошак на нарах былі прыбітыя гарбылі, гарбылём уверх. На гарбылі я клаў целагрэйку. Ватнія штаны спускаў так, што можна было завязаць матузкі — каб не вылазілі босыя ногі са штаноў. Клаўся на целагрэйку, бушлатам накрываўся, як коўдрай, пад галаву клаў чуні. І так да сыгналу “пад’ём!” сваім целам сушыў сваё адзеньне.

Працавалі мы і на разгрузцы вагонаў з пяском, гравіем, які прывозілі для адсыпкі палатна дарогі. Горы яго зьбіралася каля дарогі. Потым мы яго рыдлёўкамі грузілі ў транспарт. Зьверху ён адразу замярзаў. Выбіралі талы пясок, атрымліваліся такія норы (пячоркі ў пяску), над якімі вісела корка замёрзшага пяска, “шкарлупа”. Памятаю, залезьлі мы з Косьцяю Краскоўскім у такую пячорку адпачыць, схавацца ад пранізьлівага ветру. Праз хвіліну-другую мне як бы штосьці падказвае: “Вылазь!”. І толькі я вылез, як засыпае Косьцю пяском. Не разгубіўшыся, я рукамі (рыдлёўку маю засыпала) разгроб пясок, паадкідваў замёрзлыя глыбы пяска і вызваліў свайго сябра. А каб сваечасова я ня вылез з гэтай нары, то абодва мы былі б жывымі там пахаваныя. Але Бог ня даў нам памерці.

Так як норму я выканаць ня мог, то амаль заўсёды атрымліваў штрафны паёк, самую маленькую пайку хлеба. Я заўжды хацеў есьці. Еў у сьне, а калі прачынаўся, то шкадаваў, што гэта была няпраўда... Ад голаду, холаду і непасільнай працы вязьні хутка даходзілі да дыстрафіі, пілагры, многія памiралі. Памерлым да пальца на назе прывязвалі бірку і на валакушы цягнулі за зону. На вахце вахцёр біў труп кувалдай па ілбу, каб не “прытвараўся”. За зонай выкідвалі проста ў сьнег, бо ў вечнай мерзлаце магілу цяжка капаць. А зьверы трупы расьцягвалі, што і костачкі ня знойдзеш...

Дахадзягаў-дыстрофікаў адпраўлялі ў ОП (“*оздоровительный пункт*”). Адбіралі туды так. Лекпом распранаў вязьня-дахадзягу дагала і, калі перад ім стаяў шкілет, абцягнуты скурай, браў пальцамі за гэтую скуру на ягадзіцах — калі там была толькі скура, прысохшая да касьцей — тады ў ОП. А там дахадзяга альбо паміраў, альбо “наядаў” мяса на ягадзіцах, пасьля чаго ізноў вяр-

таўся ў лягер. Для вязьня ОП быў своеасаблівым “курортам”, дзе не прымушалі працаваць.

За 1945 год я два разы паміраў (але вязьні не далі памерці), два разы быў у ОП. Гналі мяне туды пад канвоем пешшу па марозе, па сьнезе, апрануўшы ў рваньнё: на нагах былі рваныя ватнія чуні без галошаў (як толькі ногі не адмарозіў, і сёньня зьдзіўляюся). Лепшую вопратку адбіралі, пакідалі ў лягеры. За прахадной ОП адразу запускалі ў лазьню. Да сёньня не магу зразумець, чаму мы ў лазьні апынуліся разам з жанчынамі? І аніякага ў маладога хлопца пачуцьця да супрацьлеглага полу не ўзьнікла, ніякага сораму! Абыякава назіраў, як шкілет мужчыны змагаўся за пустую шайку са шкілетам жанчыны. Усякая чалавечая годнасьць была страчана, застаўся толькі нявыпраўлены інстынкт жывёлы. Вопратку забралі ў пражарку. Вады памыцца давалі толькі адну шайку, на галаву пляскалі лыжачку вадкага мыла. З лазьні, на голае мокрае цела накінуўшы байкавую коўдру, на босыя ногі — гумовыя галошы зь дзіркамі, па 40-градуснаму марозу зь ветрам павялі мяне ў барак. Адчынілі вонкавыя дзьверы бяз тамбура. Ад хлынуўшага ў барак марознага паветра ўтварыўся непраглядны туман (пара). Калі пара расьсеялася, паказалі на голую (без пасьцелі) верхнюю паліцу нараў ля сьцяны і сказалі: залазь і кладзіся. Лёг голы на голых дошках і прыкрыўся коўдрай. Вязень, што ляжаў на суседніх нарах на ніжняй паліцы, быў без абедзьвюх ступняў. Ён казаў мне: “А мне здаецца, я пальцамі варушу”. Адмарозіў іх — абрэзалі. Яшчэ некалькі разоў яму ўкарочвалі ногі, пакуль не атрымаў апошняе “лячэньне” кувалдай у лоб на вахце... Ня памятаю ні ягонага прозьвішча, ні імя, толькі запомнілася, што гэта быў чалавек з Малдавіі.

На гэтай голай паліцы я захварэў каростай (часоткай). Як вылячыўся ад яе, быў перасяленны ў агульны “лячэбны” барак. Тут ляжалі Косьця Краскоўскі і Саша Шабан. Мне стала весялей са сваімі сябрамі.

Надзвычай выразна запомніўся, хоць з таго моманту мінула ўжо больш за паўстагодзьдзя, працэс кармленьня вязьняў (кармленьне галодных “зьвяроў”) у бараку ОП. Адбывалася гэта так. У тарцы бараку адчыняюцца дзьверы. Баландзёры ўносяць баланду. Вязьні — голыя шкілеты (жывыя трупы) — садзяцца (у каго хапае сілаў сесьці) на краю нар-вагонак, бліжэй да праходу між нарамі. Мне з верхняй паліцы маёй вагонкі вельмі зручна было назіраць за гэтым урачыстым працэсам. Сотня прагных галодных вачэй зь нецярпеньнем сачыла за рухам чарпака ў баландзе: а што ж

мне трапіць ў чарпак, ці трапіць кавалачак турнепсу? Баланду падаюць кожнаму на нары. Яна імгненна выпівалася. Затым на нары падавалася каша, да якой лыжка была не патрэбная, яна таксама імгненна выпівалася. Калі-нікалі падаваліся нейкія крупяныя запяканкі. Калі гэтыя запяканкі чымсьці адрозьніваліся адна ад другой, то мы ўтрох (два Косьці і Саша) дзялілі іх на тры роўныя часткі і частавалі адзін другога, каб пакаштаваць і тое, і другое. Памятаю, як вязьні зьдзіўляліся з таго, што мы здольныя так дзяліцца гэтымі крохамі.

Я трошкі паправіўся. Нават аднойчы дабраахвотна згадзіўся пад канвоем пайсьці на выгрузку вагонаў. Давялося разгружаць салёную рыбу. Першым чынам разьбілі скрыню рыбы і накінуліся яе есьці. Ад галавы да хваста зьядалі ўсё разам з косткамі (костак для нас проста не існавала), канвой толькі назіраў за гэтым зьдзіўлена, і не забараняў. Да разгрузкі прыступілі пасьля таго, як наеліся. Я яшчэ і ў барак прынёс рыбы, каб пачаставаць Сашу і Косьцю.

Пасьля таго, як на ягадзіцах нарастала мяса, адпраўлялі ў лягер, на катаржную працу. Выходных не давалі. Першы і апошні выхадны быў 9 траўня 1945 году. Заўсёды будзіў вязьняў нарадчык крыкам: “Пад’ём!”, а 9 траўня разбудзіў крыкам: “*Победа! На работу не пойдем*”. Узрадаваліся вязьні не перамогай, а тым, што на працу ня пойдзем, сваім першым выходным.

У траўні месяцы за палярным колам тундры пачынаў раставаць сьнег. Запомнілася, як гналі нас па разводзіцы, па тундры на працу. Спачатку стараешся наступаць на вяршыну купіны (а тундра ўся ў купінах), але як не старайся, а ўсё ж спаўзеш з купіны па калена ў сьняжніцу (ледзяную ваду са сьнегам). Далей ідзеш ўжо без разбору па сьняжніцы. Увесь дзень прыходзіцца працаваць у мокрых ватніх бурках. Пасьля працы прыходзіш у барак у абледзянелым абутку.

У 1945 годзе ў нашым лягеры адбылося надзвычайнае здарэньне. Уцёк зь лягеру электрык, малады, прыгожы, здаровы асілак, чырвонашчокі Барыс Сарока, які адным этапам з намі быў прывезены з Наваградка. Ён і ў лягеры працаваў электрыкам, на агульныя работы не хадзіў. Усіх, хто працаваў у зоне, пачынаючы ад дапаможніка па працы, нарадчыка, і сканчаючы днявальным па бараку, называлі “лягернымі прыдуркамі”. Прыдуркі дахадзягамі не былі, паміраць у ОП не траплялі. Барыс з намі сябраваў, дапамагаў, чым мог, называў нас дзецьмі, хоць сам быў не нашмат старэйшы за нас. За што яго прывезьлі разам з намі за палярнае кола, ён нам не гаварыў, як і пра свой намер да ўцёкаў. Ды і што

нам, дахадзягам, якія ледзь перасоўвалі ногі, гаварыць пра ўцёкі?! Уцякаў ён у адзіночку. Хутка яго злавілі ў нейкім цягніку. Для ўцекача толькі адзін шлях, адзінай чыгункай, той, якой нас сюды прывезьлі. Пешшу па тундры пустыннай, бязьлюднай далёка не ўцячэш. Аленяводы комі, якія качуюць з аленямі толькі па засьнежанай тундры, у сваё стада ня возьмуць і не дапамогуць. Прывезьлі яго назад у наш лягер, каб мы пабачылі, што адсюль уцячы немагчыма. Далейшы лёс Сарокі мне невядомы.

У тым жа годзе мяне яшчэ раз (ужо другі) накіравалі паміраць у ОП. Ад непасільнай рабскай, паднявольнай працы на ўсіх вятрах голай тундры, у любое надвор’е, ад лягернага штрафнога харчу пачала разьвівацца дыстрафія, пілагра, зьнікла мякаць на задзе, ізноў стаў дахадзягай, ізноў пад канвоем з сабакай пешшу павялі ў ОП. Тут мяне, паміраючага юнака, заўважыў глыбока веруючы ў Бога вязень Кабанаў. Ён працаваў у хлебарэзцы і ня даў мне памерці. Аднойчы ён мне кажа: “Косьця, я цябе забяру ў хлебарэзку начамі хлеб рэзаць”. Дык у мяне ж сілы няма булку хлеба разрэзаць, адказваю я. “А ты, — кажа ён, — рэзаць ня будзеш, а будзеш усю ноч толькі сядзець і хлеб есьці”.

Хлебарэзка знаходзілася пры харчовым складзе. Калі-нікалі я меў магчымасьць у складзе ў бочцы аддзяўбці кавалак нейкага мёрзлага тлушчу, які адразу ж з воўчай прагай з хлебам зьядаў. Бывала, кавалак мёрзлай цюленіны аддзяўбеш. Хутка я мог ужо і хлеб рэзаць. Я стаў кругленькім, румяным, як пампушка. На ягадзіцах зноў нарасло мяса. Мэдыцынская камісія з аднаго лекпома этапіруе мяне ізноў у лягпункт дзяўбці кіркай вечную мерзлату. На гэтым лягпункце працаваў нарміроўшчыкам Мікола Новікаў, родам зь беларускай вёскі, недалёка ад Любані, што на Меншчыне. Гэта быў малады, таксама глыбока веруючы ў Бога, чалавек. Кабанаў змог перадаць Новікаву: “У ваш лягпункт этапіруецца пацан, Косьця Рамановіч — падтрымлівай яго”. Падобным, мабыць, чынам, па няпісаным лягерным блатным законам, па этапах за тысячы кілямэтраў перадавалі блатныя зьвесткі пра прысуджаных на сьмерць вязьняў (сукаў, сэксотаў і іншых). Як толькі “прысуджаны” заходзіць у лягер, яго сустракаюць і забіваюць.

Сустрэў мяне Мікола, як роднага сына. Аддаваў мне свой паёк, прыносіў кашу і хлеб. Кухарам сказаў, каб давалі мне дадатак. У лягерах нарміроўшчык сярод лягерных “прыдуркаў” меў вялікі аўтарытэт. Лягерным блатным Мікола сказаў: “Косьцю ня крыўдзіць!” На рабоце мне больш ня трэба было браць у рукі кірку і рыдлёўку, я сядзеў разам з блатнымі каля вогнішча і ўвесь працоўны доўгача-

совы дзень грэўся. Стаў выконваць норму. Прыйшоўшы з работы, атрымліваў самую вялікую пайку. Блатныя ў лягеры не працавалі. Нават вогнішчы ім распальвалі “фраеры” (рабацягі).

Перапіска нам была не дазволена, пасылак ніхто не атрымліваў. Ад голаду, холаду, непасільнай працы, вязьні, нават з вышэйшай адукацыяй, былыя настаўнікі, прафэсары, страчвалі чалавечую годнасьць, апускаліся да нізоў, лазілі па памыйках у пошуках ежы, мянялі пайку на акурак і — паміралі. Памятаю, як такія вязьні, што страцілі чалавечую годнасьць, апускалі “ачмурэлыя“ галавы аж дна скрыняў са сьмецьцем, штосьці там выбіралі і елі — падчас гэтага з скрыняў былі відаць толькі іх задніцы і ногі...

Часта ўзгадваецца такі нязначны момант з майго лягернага жыцьця. 1945 год. Будоўля чыгункі праз тундру. На чыгуначным палатне стаяць, абапёршыся на рыдлёўкі, два вязьні: я і былы рускі пэдагог Пятроў. Вядзем ціхую размову. Пятроў — высокі, прыстойны, сьціплы чалавек — сіплым голасам кажа: “Косьця, зьвярні ўвагу на чыгуначную рэйку. На ёй цераз кожны мэтар выліта (напісана) “*Завод имени Сталина*”. Нават тут задумана ўвекавечыць памяць пра Сталіна. Запомні, ня будзе вечнай слаўнай памяці пра ката-Сталіна. Мне 40, я можа і не дажыву, а ты — маладзенькі, узгадаеш мае словы, калі і помнікі па ім зруйнуюць”. Прарочыя словы, прыгожага душой і целам Пятрова, збыліся. Ня ведаю, ці пабачыў гэта ён. Далейшы ягоны лёс для мяне невядомы.

Пачаўся 1946 год. Дзякуючы Новікаву, у ОП я больш не трапляў. Дзесьці ў лютым 1946 году мяне пад канвоем адвезьлі ў пасёлак Абезь у турму. Сядзеў у адзіночцы. Радаваўся, што на катаржную працу, самы горшы лягерны “прыдурак”-нарадчык не выганяў. Аднойчы заскоквае ў барак нарадчык-мардаварот, з вокрыкам: “На развод без апошняга!” Усе бягуць, як быдла, да дзьвярэй бараку. Нарадчык хапае драўляную шайку і б’е па гарбу апошняга, таму ніхто не хацеў быць апошнім.

У турме я адчуваў сябе, як на курорце, хоць было галадна, але ня холадна. Пачаліся першыя з часу арышту ў 1944 годзе допыты. Мяне абвінавачвалі ў прыналежнасьці да Саюзу Беларускай Моладзі, “антысавецкай арганізацыі”, як яны яе называлі. Другое абвінавачваньне — Беларуская афіцэрская школа. Так як у СБМ і ў афіцэрскай школе я быў шэраговым, то сьледчыя нічога карыснага для сябе зь мяне вытузаць не маглі, хаця на допыты вадзілі кожную ноч. Пасьля турэмных допытаў, этапіравалі мяне ў той жа лягпункт, зь якога забралі.

Сашу Шабана ўжо вызвалілі зь лягеру, але дадому не пусьцілі

і ён працаваў вольнанаёмным у Комі АССР. Я яго, апранутага ў тулуп, бачыў за працай кандуктара, у тамбуры апошняга вагону грузавога цягніка. Здаралася, ён кідаў нам булку хлеба з цягніка на хаду.

**Вярнуцца, каб змагацца**

У пачатку верасьня 1946 году мяне выклікалі ў пасёлак Абезь на вызваленьне. Мікола даў мне адрас сваёй мамы і папрасіў да яе заехаць. Яна нічога ня ведала пра лёс свайго сына, бо перапіска не дазвалялася. Вестка аб маім звальненьні хутка абляцела ўвесь лягпункт. Аб гэтым ведалі і блатныя, і фраеры, і лягерныя “прыдуркі”, і лягерная ахова. Такія падзеі былі вельмі рэдкімі. Хтосьці зайздросьціў майму шчасьцю, хтосьці радаваўся. Мне да апошняга моманту ня верылася ў вызваленьне. На дарогу атрымаў новае адзеньне. Да Абезі везьлі пад канвоем, а там мяне здалі ў турму.

Нарэшце запрасілі да адчыненай “кармушкі” ў дзьвярах. Жаночы голас пытаецца: — *Кем сужден*? — Никем не сужден, – адказваю. — *Как никем не сужден?! Вы осуждены 20 июня 1946 года по статье 58-1-а УК РСФСР в Москве “Особым Совещанием” лишением свободы сроком на три года. По Указу Президиума Верховного Совета СССР от 7 июля 1945 года, из ИТЛ МВД освобождены 7 сентября 1946 года.*

Так, пры вызваленьні, я даведаўся, што мяне судзілі завочна ў Маскве. Атрымаў даведку аб вызваленьні зь лягеру № 3694/40904, якая служыла і білетам на праезд, на ёй рабілі адзнакі аб кампасіроўцы на чыгуначных станцыях. Грошай на дарогу не далі ні капейкі, добра, што выдалі харчоў сухім пайком на 5 ці 6 сутак. Харчы я склаў у накамарнік, які вязьні насілі на галаве з мэтай абароны твару ад камароў і машкары ў летні час. Не даяжджаючы да Котласа, харчы ў мяне скралі разам з накамарнікам. У Котласе галодны выйшаў з цягніка і пайшоў на базар. За новую целагрэйку купіў булку чорнага хлеба. Вярнуўся на вакзал і паехаў далей ужо на іншым цягніку.

У вагоне мяне заўважыў паляк (прозьвішча ня памятаю), які вяртаўся зь лягеру ў Вільню. Пазнаёміліся. Да Масквы даехалі на ягоным сухім пайку. У Маскве ён прапанаваў зьвярнуцца ў польскую амбасаду па дапамогу прадуктамі харчаваньня. Я адмовіўся. Ты, кажу, паляк — зьвяртайся, а я — беларус, палякам прыкідвацца ня буду, мне няма да каго зьвяртацца. Дамовіліся так: ён мне аддаў сваю даведку аб вызваленьні зь лягеру, а сам пайшоў шукаць

амбасаду. Я застаўся на Беларускім вакзале Масквы кампасіраваць ягоную і сваю даведку на цягнік да Менску, і чакаць ягонага вяртаньня. Кампасіраваць давялося некалькі разоў на некалькі цягнікоў, бо майго паляка вельмі доўга не было з амбасады. Адзін раз закампасірую — цягнік адыходзіць, а паляка няма. Застаюся, кампасірую на наступны цягнік. І так некалькі разоў.

Без паляка я выехаць ня мог, бо ён застаўся б без даведкі аб вызваленьні зь лягеру. А чарга на ўсе цягнікі была вельмі вялікая. Я прылаўчыўся кампасіраваць без чаргі з дапамогай міліцыянта. А міліцыянту абы хутчэй сплавіць з Масквы лягерніка, якога здалёк бачна па вопратцы. Нарэшце, узрадаваны, убачыў я свайго высокага паляка з харчамі. На польскіх харчах мы даехалі да Менску. Тут разьвіталіся. Паляк падзяліў на дваіх рэшткі ежы і паехаў у Вільню. Ён быў гадоў на дзесяць за мяне старэйшы. Далейшага лёсу гэтага чалавека я ня ведаю.

Зь Менску я адразу дадому не паехаў. Бо ведаў, што ня так проста мне будзе пасьля выбрацца ў дарогу. Ведаў таксама, што бацькі ня маюць на гэта грошай, а я — тым больш. Карыстаючыся з дарэмнага праезду, я паехаў у Любаньскі раён, павёз ліст да маці Міколы. Дабіраўся рознымі транспартамі, ішоў пешшу. Нарэшце знайшоў вёску ды патрэбную хату. Ветліва, па-беларуску, прыняла яна мяне. Бязьмерна ўзрадавалася першай вестачцы за доўгія гады ад свайго сына. Пачаствала мяне малаком — піў яго ўпершыню пасьля арышту. У яе я пераначаваў, і на другі дзень, праз Менск, пачаў дабірацца да сваіх бацькоў, на Наваградчыну, у родную вёску Лозкі.

У Баранавічах была перасадка. Да мяне прыстала цыганка, хоць бачыла, што з лягерніка нічога ня ўзяць. Яна сказала, што буду жыць 72 гады. Тады мне было 19. Як шмат! — падумаў я. На сёньняшні дзень ужо перажыў гэтую мяжу. Вельмі мне запамяталася выпадковая сустрэча на чыгуначным вакзале ў Баранавічах з Міхасём Агейкам*. Я зь ім разам вучыўся ў Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі на адным курсе, а пазьней — у Наваградзкай пэдвучэльні на трэцім курсе, адкуль мяне арыштавалі. Пакуль я быў у лягерах, ён скончыў пэдвучэльню і навучаўся ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце. Памятаю размову зь ім. Я яму сказаў: “Ня думай, Міхась, што яны мяне запалохалі турмамі, лягерамі. Я вяртаюся са сталінскага лягеру на радзіму з мэтай вясьці барацьбу за вольную Беларусь”. Нічога ён мне на гэта не адказаў, хаця, забягаючы наперад, скажу, што ў той час ён ужо быў удзельнікам падпольнай патрыятычнай арганізацыі “Чайка”, якая змагалася

за вольную, незалежную Беларусь. Мабыць, з мэтай кансьпірацыі прамаўчаў, а можа пабаяўся правакацыі з майго боку.

**Міхась Агейка — сябра кансьпірацыйнай арганізацыі “Чайка” і Цэнтру Беларускага вызваленчага руху. Нарадзіўся ў 1928 годзе на Наваградчыне. Больш падрабязна пра яго гл. тут: Супрун В. Міхась Агейка // Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944-1956 / Даведнік. — Менск, 1999, б. 13-14.*

Апошнія дзесяць кілямэтраў ад “*кукушки*” да роднай хаты ішоў пешшу. Я быў усё яшчэ апрануты ў арыштанцкае адзеньне, зь якога найбольш запомніліся кароткія штанішкі нейкага бруднажоўтага колеру...

Зь вялікім хваляваньнем я пераступіў парог роднай хаты. Дома мяне ніхто не чакаў. Са сьлязьмі радасьці павісла на мне маці. Маленькі двухгадовы хлопчык, мой брацішак Андрэйка, якога я ўбачыў першы раз, на ўсялякі выпадак схаваўся пад ложак ад незнаёмага дзядзькі...

Я ўжо сядзеў за сталом, калі ў хату зайшоў бацька. Ён павітаўся і пайшоў у суседні пакой. Не пазнаў тата свайго “блуднага” сына. Мабыць, за два гады я моцна зьмяніўся, пасталеў. А можа ён думаў, што ўжо загінуў у турме, бо вестак ад мяне не было?..

Хацелася вучыцца. Са спазьненьнем, у кастрычніку 1946 году, па даведцы, што ў 1944 г. я вучыўся на трэцім курсе пэдагагічнай вучэльні, паступіў у Наваградку ў 10-ю клясу вячэрняй школы рабочай моладзі. Тут я сустрэў Гену Казака*, зь якім калісьці ня толькі вучыўся ў адной групе Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі, але і сябраваў. Ён жыў у вёсцы Брацянка (гэта кілямэтры тры ад Наваградка), а на вучобу ў горад хадзіў пешшу. Часта я разам зь ім хадзіў у Брацянку. Калі-нікалі і начаваў там, у ягонай хаце.

У 10-й клясе ўсе прадметы выкладалася па-расейску, што нам не падабалася. Амаль усе настаўнікі былі “ўсходнікамі”. Да нас з Генай далучыліся тры былыя франтавікі: Міхась Кожыч**, Саша Ўсюкевіч*** і Пятрусь Дземянчук****. Яны таксама вучыліся ў 10-й клясе, але былі трохі старэйшыя за нас. Хлопцы былі на фронце, ваявалі, пабачылі, як жывуць людзі на Захадзе. Пабачыў гэта і Гена Казак. Адзін я, самы малодшы зь іх, бачыў толькі сталінскі ГУЛАГ.

**Сябра Беларускай Незалежніцкай Партыі, беларускі вайсковец. Вярнуўся пасьля Другой сусьветнай вайны ў Беларусь, каб*

*змагацца супраць бальшавікоў за незалежнасьць Беларусі. Быў ініцыятарам стварэньня СВБ, меў псэўданім "Віктар". Загінуў у зьняволеньні ў Казахстане.*

***Міхась Кожыч (1924 — 2013) — апошні сябра СВБ, які памёр зусім нядаўна. Нэкралёг пра яго гл. тут: Сьветлай памяці Міхась Кожыч // Беларускі Рэзыстанс, 2014, № 1(15), б. 141-142.*

****Аляксандар (Алесь) Усюкевіч (1925 — 2004) — беларускі настаўнік, франтавік, меў узнагароды. Падчас допыту кідаўся з табурэтам у руках на кіраўніка МГБ БССР Л. Цанаву. Пасьля зьнявольня жыў у Казахстане, дзе і памёр. Нэкралёг гл. тут.: Сьв. пам. Алесь Усюкевіч // Беларускі Рэзыстанс, 2004, № 1, б. 99-100.*

*****Пятро (Пятрусь) Дземянчук (1924 — 1990-я) — франтавік. У СВБ кіраваў вайсковым аддзелам, псэўданім "Бедны". Пасьля вызваленьня са зьняволеньня жыў у Карэлічах.*

І мы, пяць юнакоў, стварылі арганізацыйны камітэт беларускай падпольнай патрыятычнай арганізацыі "Саюз Вызваленьня Беларусі" (СВБ). Дземянчук, Кожыч і Ўсюкевіч жылі разам на адной кватэры, якая стала нашым штабам, дзе праводзіліся амаль усе канспірацыйныя паседжаньні. На гэтай кватэры, на першым паседжаньні арганізацыйнага камітэту кіраўніком арганізацыі "Саюз Вызваленьня Беларусі" быў абраны Генадзь Казак. Усе прынятыя рашэньні фіксаваліся пратаколамі, якія зьберагаліся тут жа, у кватэры хлопцаў. Арганізацыйны камітэт распрацаваў статут і праграму СВБ. Уся дакумэнтацыя была рукапіснаю. Канчатковай мэтай праграмы было адзьдзяленьне (без тэрору) БССР ад СССР (што, дарэчы, не пярэчыла Канстытуцыі СССР) і стварэньне самастойнай Сувэрэннай Рэспублікі Беларусь (арыгіналы статута і праграмы СВБ знаходзяцца ў архіве УКДБ па Гарадзенскай вобласьці). Нашымі сымбалямі былі герб "Пагоня", бел-чырвона-белы сьцяг і гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". Гэтыя сымбалі мы прапанавалі будучай вольнай Рэспубліцы Беларусь.

Кожны сябра арганізацыйнага камітэту кіраваў якім-небудзь аддзелам. Мне быў даручаны фінансавы аддзел, які ня меў ні капейкі грошай, што, аднак, пазьней не замінала сьледчаму называць мяне "міністрам фінансаў". Усе атрымалі мянушкі. Так я стаў "Сокалам". Кожнаму было даручана вэрбаваць новых сябраў арганізацыі, захоўваючы ўстаноўленую канспірацыю. СВБ будавалася з "троек", таму кожны ўдзельнік арганізацыі не павінен быў ведаць больш двух сябраў. Нашая праца абмежавалася вярбоўкай новых людзей

і прапагандай беларускага патрыятызму.

Сябра СВБ Адам Чабоцька* зрабіў круглую пячатку арганізацыі з выявай “Пагоні”. Завэрбаваў яго ў арганізацыю журналіст навагрудзкай раёнкі Самсон Пярловіч. Гэта ён прыняў у арганізацыю свайго калегу, журналіста баранавіцкай абласной газэты Аляксандра Бажко.**

**Адам Чабоцька (1923 — 1950) — сябра СВБ, Паходзіў зь вёскі Католышы Навагрудзкага раёну. У 1947 г. асуджаны на 10 гадоў зьняволеньня і 5 гадоў пазбаўленьня ў правах. Загінуў у Казахстане.*

***Пра гэтага тайнага супрацоўніка савецкіх спэцслужбаў “БР” неаднаразова пісаў: Алесь Бажко ні жывы, ні мёртвы // Беларускі Рэзыстанс, 2011, № 1(11), б. 190; Алеся Бажко ўжо няма // Беларускі Рэзыстанс, 2013, № 1(14), б. 191-192.*

Нягледзечы на “канспірацыю”, па-юнацку недасьведчаную, на наш сьлед выйшла МГБ. Чэкістам нас здаў Аляксандар Бажко, які аказаўся правакатарам. Ноччу 30 траўня 1947 году, пасьля першага іспыту на атэстат сталасьці, мяне арыштавалі другі раз. У кайданках прывялі ў памяшканьне навагрудзкага МГБ. Там ужо сядзеў на падлозе Гена Казак. Неўзабаве прывялі сюды Дземянчука, Кожыча і Ўсюкевіча. Тут прасядзелі мы да раніцы. А тады ўжо нас загналі ў грузавую машыну, пасадзілі на падлогу ды павезьлі ў Баранавічы, вядома, пад канвоем і ў кайданках. Чакала нас “знакамітая” ў той час баранавіцкая сьледчая турма, так званае “Крывое кола”.

У баранавіцкай турме нас пасадзілі ў адзіночныя камэры. Неўзабаве пачаліся допыты, хаця нас можна было судзіць і бяз допытаў. Справа ў тым, што з кватэры, дзе жылі Дземянчук, Кожыч і Ўсюкевіч, чэкісты забралі ўсе пратаколы паседжаньняў арганізацыйнай групы, статут, праграму, пячатку з выявай “Пагоні” і бел-чырвона-белы сьцяг. Доказаў нашай “віны” было дастаткова. Вось такая была нашая юнацкая канспірацыя...

Мяне трымалі ў нейкім карцэры, фактычна, у каменным мяху, дзе магчыма было толькі сядзець. Тут не было вакна. Над галавою сьвяціла лямпачка, а выключальнік знаходзіўся ў калідоры ў надзіральніка. Амаль штохвілінна адчыняўся “глазок” і чуўся вокрык надзіральніка: “*Не спать!*” Зьдзекі гэтыя працягваліся даволі доўга. Днём у камэры спаць не давалі, а ўсю ноч трымалі ў сьледчага.

Пасьля таго, як адчыняліся дзьверы камэры, чулася каманда: “*Руки назад!*” На руках “чыркаюць” кайданкі. З турмы канваіры

вядуць у будынак сьледчага. Шлях ідзе па высокім, зьбітым з дошак і зачыненым зьверху калючым дротам, калідоры. На стале ў сьледчага, мабыць для запалохваньня, ляжыць іржавы нямецкі кінжал і пісталет. Садзяць мяне на самы вугалок табурэткі і пачынаецца допыт. А так як пытаць няма чаго, дык сьледчы чытае газэту, зачыніўшы твар, а я паціхеньку, паціхеньку падсоўваюся з ражка на сярэдзіну табурэткі. Сьледчы адклаў газэту і крычыць: “*Ты как сидишь?*” Я ізноў сеў на ражочак табурэткі. І так усю ноч. Аднойчы я заснуў на табурэтцы і ўпаў на падлогу, пры гэтым разьбіў лоб. У кабінэт тады заходзіў нейкі вышэйшы начальнік, спытаўся ў мяне: “*Что, тебя били?*” “Не, — кажу, — заснуў, упаў і разьбіў лоб”. Дарэчы, ня ведаю чаму, але мяне ніхто ніколі ня біў: ні сьледчыя, ні блатныя ў лягерах. Ніколі нікога не зачапіў і я, і ня толькі ў лягеры, але і на працягу ўсяго жыцьця.

29-30 жніўня 1947 году Вайсковы трыбунал войскаў МВД Баранавіцкай вобласьці асудзіў нас, 18 чалавек, па арт. 63-1 КК БССР на тэрміны ад 8 да 25 гадоў пазбаўленьня волі, з адбыцьцём пакараньня ў ППЛ (папраўча-працоўных лягерах). Дваццаць пяць гадоў далі кіраўніку СВБ Гене Казаку. Я быў асуджаны на 10 гадоў пазбаўленьня волі ды на 5 гадоў пазбаўленьня правоў з высылкай і з канфіскацыяй маёмасьці. Маёмасьці ў мяне ніякай не было, толькі падчас арышту забралі стары фотаапарат “Фотакор”, падарунак майго дзядзькі Гальяша Аляшкевіча, расстралянага немцамі за сувязь з савецкімі партызанамі.

Суд быў зачынены. На ім я ўпершыню пабачыў усіх арыштаваных сябраў СВБ (18 чалавек). Не было сярод іх на лаўцы падсудных толькі правакатара Аляксандра Бажко, які ў той час працаваў у рэдакцыі баранавіцкай газэты. Ад адваката на судзе мы адмовіліся.

Пасьля суду амаль усе мы сядзелі ў адной камэры агульнай турмы ў Баранавічах. Не сумавалі, нават было весела, бо сьпявалі беларускія патрыятычныя песьні, у тым ліку і гімн “Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Тады я даведаўся пра арышты другіх маладых патрыётаў Беларусі.

Больш месяца мне давялося сядзець у Баранавічах у гарачай (за сьцяной была кухня), душнай, цёмнай (не было вакна) камэры, але з мноствам, як у вульлі пчолаў, блашчыцаў. Разам са мною карміў блашчыцаў у гэтай камэры былы студэнт баранавіцкага пэдагагічнага інстытуту Вячаслаў Краскоўскі (пасьля вяртаньня зь лягероў жыў на Беларусі, памёр у Салігорску, пахаваны ў Наваградку). З Краскоўскім я быў знаёмы і раней, бо два гады мы вучыліся

разам у адной групе Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі. Ён быў асуджаны за ўдзел у падпольнай беларускай патрыятычнай арганізацыі “Чайка”, у яе суполцы, арганізаванай ў Баранавіцкім пэдінстытуце (кіраўнік — Аляксандар Барэйка). Канчатковай мэтай “Чайкі” таксама была незалежная і дэмакратычная Беларусь.

Блашчыцы не давалі нам спаць, вельмі ж яны былі ненажэрныя, моцна кусаліся. Іх шмат, а ахвяры толькі дзьве... Мы пабудавалі супраць блашчыцаў сапраўдную абарону: паставілі нашыя ложкі ножкамі ў бляшанкі з вадой. Дык яны ў ваду не палезьлі, а папаўзьлі па сьцяне на столь, адкуль трапна сыпаліся на нашыя целы. Злосныя, як сабакі, кусалі нас яшчэ мацней, сквапна смакталі кроў. Мы жартавалі, што такім чынам камуністы блашчыцамі высмоктвалі з нас беларускі патрыятызм... Так як у камэры нам з Вечыкам Краскоўскім блашчыцы не давалі спаць, дык мы зь ім бавілі час за гульнёй у даміно.

Больш за месяц мне давялося сядзець у адзіночнай камэры “знакамітай” менскай турмы “амэрыканка”. Прывезьлі адмыслова на вочную стаўку з Валяй Рубан, сяброўкай СБМ. Яна паходзіла зь вёскі Шчорсы Наваградзкага раёну. Рубан падчас нямецкай акупацыі вучылася ў Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі. Цяпер яна жыве ў Малдове.

У “амэрыканцы” запомнілася круглая, вінтавая, як глыбокі калодзеж, лесьвічная клетка, кожны паверх якой быў перакрыты нацягнутай мэталічнай сеткай. Гэтая сетка, мабыць, мусіла быць перашкодай супраць самазабойстваў палітычных вязьняў.

Амаль усіх сябраў СВБ пазвозілі ў перасыльную турму ў Воршу. Толькі Генадзя Казака на перасылцы не было. Наогул, пасьля суду я яго ўжо больш ня бачыў. Казалі, што пасьля катаваньняў ён загінуў на этапах. Быў Казак 1926 году нараджэньня.

У Воршы нас разьмясьцілі разам з блатнымі-крымінальнікамі ў вялікі турэмны барак.

Мы занялі нары ў тарцы бараку, дзе было ўзвышша над падлогай, падобнае да сцэны. Блатныя разьмясьціліся ў другім тарцы бараку на падлозе. Усе астатнія вязьні таксама ляжалі на падлозе. І тут блатныя яшчэ і нашыя нары захацелі заняць ды забраць лепшае адзеньне і харчы. У іх руках заблішчэлі нажы і кінжалы, а ў нас зброі ніякай... Давялося ламаць нары. Зброяй нашай сталі дошкі і брускі з нараў.

Завязалася бойка з блатнымі. Да нас далучыліся былыя франтавікі (ваеннапалонныя-чырвонаармейцы), некаторыя яшчэ ў вайсковай форме. Мы перамаглі. Усё скончылася без ахвяраў.

Пасьля гэтага бандыты, злодзеі ў законе нас больш не турбавалі. Такія бойкі турэмная і лягерная ахова ўчыняла адмыслова з мэтай хутчэйшага фізычнага зьнішчэньня палітычных зьняволеных.

**Па другім коле**

З Воршы павезьлі па этапах. Пагрузілі нас у таварныя вагоны (цялятнікі), на гэты раз з двухяруснымі нарамі. Дарога была мне ўжо знаёмая — везьлі на поўнач у напрамку Варкуты. Усё ішло па знаёмым мне з першага арышту коле. Толькі на гэты раз да Варкуты, да тундры не давезьлі — выгрузілі нас у тайзе Пячорлагу, недалёка ад гораду Пячора. На адзін лягпункт са мной трапілі сябры — Пятро Дземянчук і Міхась Кожыч.

У гэтым лягеры разам з намі былі і бытавікі, і блатныя. На лесапавале працавалі зьвеньнямі. Самым галоўным у зьвяне быў той, хто лучковай пілою пілаваў дрэва (пераважна хваіна). Гэта быў здаровы, дужы чалавек (у нас — звычайна літовец), які атрымліваў пасылкі, а, значыць, добра харчаваўся і мог выканаць норму. Каб сьпілаваць зімою дрэва, трэба яго ў першую чаргу адкапаць ад сьнегу, каб пянёк быў нізенькі. Пілуючага лесаруба з глыбокай сьнежнай ямы і відаць не было. Сьпілаванае дрэва трэба было пакласьці ў адпаведным накірунку. Калі яно было падрыхтаванае да павалу, лесаруб падымаўся, упіраўся сякерай у дрэва і з крыкам “*бойся*!!!” (каб каго не прыбіць) валіў дрэва. Другім у зьвяне быў крыжоўшчык, які крыжаваў (пілаваў) дрэва на патрэбныя па даўжыні кавалкі. Трэцім — сучкаруб, які абсякаў сякерай з дрэва гальлё. І апошнім у зьвяне быў той, хто гэтае гальлё спальваў на вогнішчы. Вышэй за сучкаруба ў герархіі я не ўзьняўся. Самай лягчэйшай лічылася праца па спальваньні сучкоў. Але для мяне яна здавалася самай цяжкай, непрыемнай. Па пояс у сьнезе цягаў гальлё соснаў да агню. Ад агня сьнег на вопратцы раставаў і яна станавілася мокрай, да яе яшчэ больш прыліпаў сьнег. Прыцягнеш да вогнішча гальлё — сьнег ізноў растае. І так бясконца. За працоўны дзень быў мокры да ніткі, хоць выкручвай адзеньне. З працы ў зону канвой прыганяў у абледзянелым панцыры, з ног да галавы я быў суцэльнай лядзяшкай. Пасьля некалькіх пералікаў на марозе, трапляеш у доўгачаканы барак. У бараку 120-150 вязьняў. Па сярэдзіне бараку ляжыць жалезная бочка, раскаленая да чырвані — гэта печка, адна на ўсіх. Усім трэба абсушыцца. Што не дасохла каля бочкі, дасыхае на голых нарах пад сабой і на сабе. Пад сябе расьцілаў целагрэйку. Ватнія штаны сьцягваў і завязваў зьнізу, каб не вылазілі голыя ступні, пад галаву клаў чуні, на галаву

апранаў шапку і завязваў вушы — так мягчэйшыя “падушкі”, бушлатам накрываўся. І так соладка спаў і сушыў сабой адзеньне да пад’ёму. Раніцай а шостай гадзіне вокрык: “Пад’ём!” Памыў сьнегам твар, працёр вочы (вады няма, замест вады — бочка са сьнегам у бараку). Раздалі па кавалку хлеба. Ішлі пабрыгадна да ваконца кухні з іржавымі кансэрвавымі бляшанкамі па баланду.

Развод. За вахтай нас здаюць канвою. Ізноў, вечна галодны, ідзеш на лесапавал. Ізноў прамакаеш да ніткі, і так паўтаралася зноў і зноў...

Некаторыя вязьні самі сабе адсякалі пальцы на руках (іх называлі “самарубы”), каб хоць на некаторы час пазьбегнуць катаржнай працы. А калекай-інвалідам заставаліся на ўсё жыцьцё. Гэтая апэрацыя рабілася так: левую руку кладуць на пянёк, у правую бярэ сякеру — “гак!” па пальцам, пальцы падскокваюць па сьнезе, фарбуючы яго крывёй. Глянуў — мала адсёк. Кладзе яшчэ раз на пянёк — “гак!”, адсёк больш. Заварачвае пальцы ў паперку і нясе ў зону. На, кажа, начальнічак, занясі жонцы, хай суп зварыць.

Пасьля загойваньня раны, “самаруб” станавіўся лягерным “прыдуркам”, мог, напрыклад, быць днявальным па бараку. Коштам пальцаў або кісьці выратоўваў сабе жыцьцё. Пазьней іх пачалі судзіць, каб спыніць самарубства.

У маёй галаве мроіліся такія думкі: вось абсякаю гальлё з сасны, секануць па калену, быццам не наўмысна, сякера саскаўзнула ад сучка і ўдарыла па калену — і я лягерны кульгавы “прыдурак”. Але пасьля доўгіх роздумаў сам сябе калекай вырашыў не рабіць. А вось ашпарыць нагу кіпнем паспрабаваў. Паставіў на бочку кіпяціць ваду ў кансэрвавай бляшанцы. Вада кіпіць-бурліць у бляшанцы. Я выліў кіпень на левую голую ступню — не ашпарыў, толькі пачырванела нага. І мароз не абмаражвае і кіпень не бярэ. Але ж у лягерны лекпункт пайшоў. Лекпом вызваленьня ад працы ня даў. Раніцай пагналі на лесапавал. А настрой адпачыць хоць трошкі ад катаржнай працы не пакідае. Не працую. Канвой гэта заўважыў. “*Почему не работаешь?*” — пытае. “Нага баліць”, — адказваю. “*Увольнение врачебное от работы имеешь*?” — “Нет”, — кажу. За тое, што не працую, канвой паставіў мяне на пянёк сьпілаванай сасны, абкопаны ад сьнегу, сантымэтраў 30 вышыні і сантымэтраў 30 у дыямэтры, папярэдзіўшы: “*Шаг вправо, шаг влево с пенька считаю побегом, стреляю без предупреждения!*” і наставіў на мяне вінтоўку са штыком. А мароз быў каля 30 С.

Стаю я гадзіну, другую, трэцюю... Балазе, што я сухі, да працы не прыступаў. І думаю: не прыступлю да працы, хай хоць упаду з

пянька, хай хоць застрэліць мяне, упаўшага, канвой, але працаваць ня буду! Але дзесьці каля паловы дня начальнік канвою зьлітаваўся і адправіў мяне пад аховай у зону. Адразу павялі да лекпома. Лекпом таксама зьлітаваўся і даў мне некалькі дзён вызваленьня ад працы, хаця мог і ня даць. Тады я апынуўся б у карцары. Лекпому, мабыць, спадабаўся мой учынак у тайзе (ён таксама быў вязьнем, трохі старэйшым за мяне), бо нават узяў мяне на працу ў лекпункт санітарам. Так я часова стаў лягерным “прыдуркам”. Жыцьцё маё палепшала. Стаў папраўляцца, набірацца сілаў. А як набярэшся сілаў, ізноў пашлюць на лесапавал. Але мяне на лесапавал не паслалі, а накіравалі ў лагпункце пісаць лёзунгі. Такім чынам я стаў мастаком, хаця ў мастацтве нічога не разумеў. Лёзунгі пісаў зубным парашком. Літары маляваў такім шрыфтам, якім друкаваліся кніжкі, звычайна вялікімі літарамі. У мяне гэта атрымлівалася. Нават далі мне асобную каморку ў бараку, асобны маленькі пакойчык з асобным уваходам. Я быў вельмі задаволены гэтай каморкай, уяўляў сябе ў асобнай кватэры і мроіў, калі я на волі буду мець хаця б такую кватэру. Размаляваў я лёзунгамі ўсю зону. Але ж і такім “прыдуркам”, калі ты не блатны альбо не інвалід, доўга ў зоне не ўсядзіш.

Спатрэбілася будаўніцтва новага лагпункта. Шукалі цесьляроў. Старэйшыя за мяне сябры Пятро Дземянчук і Міхась Кожыч падбухторвалі запісацца цесьляром. Яны раней трымалі сякеру ў руках, а я сякеру ў руках трымаў толькі на лесапавале. Вядома ж, што праца цесьляром лягчэйшая, чым праца на лесапавале. Яны пераконвалі мяне, што я спраўлюся зь ёю. І я справіўся. Запісаўся ў брыгаду будаўнікоў. Яны мне дапамаглі, за што я ім і сёньня ўдзячны.

Да таго пункту, дзе павінна была пачацца будоўля, праз некранутую тайгу прабіраліся тры дні, робячы просеку, хаця ён быў недалёка. Наперадзе конь цягнуў на лыжах канваіра. За ім гуськом ішлі вязьні. Крок зробіш — правалішся ў сьнег па пояс. За першым — наступны ў той жа сьлед ступае і так да апошняга. Першага па чарзе мянялі, бо яму было найцяжэй — прабіваў сьцяжыну ў тайзе, высякаючы сякерай хмыз.

Я будаваў баракі будучага лагпункту з тут жа паваленых соснаў. Цясьляр зь мяне атрымаўся. І нават, як кажуць спэцыялісты, “сядзеў на вуглу”, гэта значыць — рабіў вуглавы замок у бярвеньнях, чым вельмі ганарыўся, бо гэтая апэрацыя давяралася больш дасьведчанаму цесьляру. Жыць і працаваць стала лягчэй, чым на лесапавале, ды і вынік сваёй працы бачыў.

Аднойчы стаў відавочцам пажару ў тайзе. Агонь перакідала ветрам па верхавінах дрэваў і ён нават мог перакінуцца празь невялікую рэчку. Аднойчы прыводзяць нас з працы, а лягеру няма — агонь перакінула і на наш лягер. Лагпункт згарэў датла. Нам хоць бы што: “Жабрак, гарыць вёска!”. — “Ну і хай гарыць — у другую пайду”. Павялі нас у другі лагпункт, а іх там было, як грыбоў. У каго была пасылка ў капцёрцы, той шкадаваў пасылку, а мне асабіста не было чаго шкадаваць, пасылак я не атрымліваў. Мой тата казаў: “Я яго туды не пасылаў і пасылак пасылаць ня буду”. Пажарнікаў пры лагпункце не было, не было каму тушыць.

З Пячорлагу па этапе мяне перавезьлі ў Казахстан, у Карлаг — перасыльны лягер у Карагандзе. Там я сустрэўся з сябрамі СВБ Самсонам Пярловічам і Адамам Чабоцькам. Мы працавалі на будоўлі абагашчальнай фабрыкі шахты імя Кастэнкі ў Карагандзе. Я працаваў мантажнікам-высотнікам. На вышыні адчуваў сябе больш бясьпечна, чым унізе. Залезу на вышыню на верхні пояс мэталічнай фэрмы і сяджу, адпачываю, пакуль мне пададуць лябёдкай канструкцыю. Я гэтую канструкцыю прыхватваю балтом і зноў сяджу — чакаю другую канструкцыю. Лёгкая праца. І нічога мне на галаву не ўпадзе, бо вышэй мяне нічога няма — толькі неба. Небясьпечным было хіба тое, што па вузенькай фэрме трэба было, як цыркачу, ні за што не трымаючыся, пераходзіць, як над безданьню, вышынёй мэтраў трыццаць. А зьнізу на будоўлі баяўся хадзіць, бо каску для аховы галавы нам не давалі.

Памятаю, як мне даводзілася з цаглянай сьцяны дабрацца на верхні пояс мэталічнай фэрмы шырынёй сантымэтраў дваццаць. Іду ў валенках, па пакрытай сьнегам сьцяне, шырынёй сантымэтраў сорак, у руках нясу дошку. Дошку адным канцом кладу на сьцяну, другім — на верхні пояс фэрмы. Спрабую левай нагой, як ляжыць дошка — трошкі шатаецца. Станаўлюся левай нагой на дошку, хуценька стаўлю на яе правую нагу і трэці крок левай нагой — я ўжо на фэрме, тут ужо ня так небясьпечна, бо яна не хістаецца. Іду па фэрме да патрэбнага месца, а там — саджуся. Пры такім пераходзе галоўнае не баяцца і не глядзець уніз, а глядзець толькі на дошку, а потым толькі на верхні пояс фэрмы, інакш — паляціш у бездань.

Праводзім мантаж тэхналягічнага абсталяваньня на верхнім паверсе фабрыкі. Работы выконваем ручнымі лябёдкамі. Абсталяваньне цягалі лябёдкамі з надворку па зямлі пад мантажны люк унутры фабрыкі. Праз мантажны люк падымалі абсталяваньне на верхні паверх, а там па бэтонным перакрыцьці цягалі на мес-

ца мантажу. Каб лягчэй было круціць лябёдку, пад канструкцыі падкладвалі круглыя бярвеньні. На першым паверсе, пад люкам, два вязьні замацавалі канструкцыі стальным тросам, каб падняць іх наверх. З верхняга паверху, праз мантажны люк, бервяно ўпала на галаву сябра СВБ Адама Чабоцькі, ударыла па ключыцы брыгадзіра Васіля Марчэнку (украінец). Я бачыў, як іх павезьлі ў бальніцу хуткай дапамогай. Марчэнка вярнуўся ў лягер інвалідам з перабітай ключыцай, у яго не працавала рука. А Чабоцька памёр. Так на маіх вачах загінуў адзін з сябраў СВБ. Я нават ня ведаю, дзе ягоная магіла, дзе ён быў пахаваны...

**Самсон Пярловіч**

У гэтым лягеры быў і сябра СВБ паэт Самсон Пярловіч. Ён зь дзяцінства сябраваў з Адамам Чабоцькам. Разам яны гаравалі і ў нямецкім лягеры. З Самсонам мы жылі ў адным бараку. С. Пярловіч складаў вершы. Пісаць нам не дазвалялі, трымаць паперу ці аловак таксама было забаронена. Але Самсон ствараў вершы без алоўка і паперы — выношваў іх у галаве. Мне ўдалося раздабыць агрызак алоўка. Цяпер мы працавалі разам: Самсон ствараў вершы, я ж алоўкам запісваў іх на драўлянай дошчачцы. Верш вучылі напамяць і трымалі яго ў галаве. Пасьля чаго я шкельцам саскрабаў з дошчачкі напісанае і запісвалі на ёй наступны верш. Аловак, шкельца і дошчачку старанна хавалі ў розных месцах ад частых шмонаў назіральнікаў.

Некалькі вершаў Самсон прысьвяціў мне, вось адзін я іх:

**Каля гары Міндоўга**

*Кастусю Рамановічу прысьвячаецца*

*Каля гары славутага Міндоўга*
*Ёсьць у Наваградку блакітны дом.*
*Надоўга ён разлучаны, надоўга*
*Са сваім сябрам Косьцяй-юнаком.*
*Сяброўства тое ў даўні час калішні*
*Яшчэ дасюль рупліва сьцерагуць*
*Пасаджаныя тут малыя вішні,*
*Што аніяк чамусьці не растуць.*
*Зьдзіўляецца клапотны люд прахожы,*
*Чаму ня могуць дрэўцы падрасьці?!*
*Але ніхто таго ўгадаць ня можа, –*
*Што ад журбы па Косьціным жыцьці.*

*Яму ў няволі на турэмнай пайцы*
*Цьвет маладосьці так увесь завяў,*
*Што ўжо зусім забыўся ён сьмяяцца*
*Пра радасьць нават марыць перастаў.*
*На тыя вішні прыгажуня гляне —*
*Журбою сэрца мучыцца пачне*
*Па нерасьцьвіўшай завязі каханьня,*
*Па маладой загубленай вясьне.*
*Мілая Міля, разгані свой смутак! –*
*Ёй шэпчуць вішні ў блакітны дом –*
*Разлукі цяжкай горкую атруту*
*Надзеяй сьветлай мы перажывём.*

Самсон Пярловіч
Караганда, 1952 г.

У драўляным доміку, пафарбаваным у блакітны колер, да другога арышту 30 траўня 1947 году я жыў на кватэры. Зь яго я быў забраны. Домік разьмяшчаўся на Менскай вуліцы: з аднаго боку быў курган Міндоўга, з другога — базар. Вясною 1947 г. у агародзе каля плоту я насадзіў шмат маладзенькіх вішанькаў. Плот быў уздоўж Менскай вуліцы, з другога боку агароду знаходзіўся капец Міндоўга. Уладальнік блакітнага дому Юльян Урбановіч, стары шматдзетны чалавек, жыў у вёсцы недалёка ад Навагрcraft. Гэта быў працавіты чалавек, меў сваіх пчолаў і мяне калі-нікалі частаваў мёдам. Гаспадарку абрабляў сваёй сям’ёй, без наёмнай сілы. Блакітны дом купіў у Навагрcraft. Міля — адна зь ягоных дочак, мая аднагодка, прыгожая дзяўчына, вучылася ў навагрadзкім гандлёвым тэхнікуме і, вядома ж, жыла ў бацькавай хаце. Я, малады хлопец, іншы раз заігрываў зь ёю. Падхаплю яе на рукі ды за печку, на ложак, а яна пішчыць, крычыць, лупцуе мяне па шчоках, а я яе цалую. Аб гэтым я распавёў Самсону, а ён напісаў верш.

Яшчэ ў гэтым доме кватэраваў нейкі савецкі афіцэр з жонкай. У хуткім часе пасьля майго арышту быў арыштаваны і раскулачаны Юльян Урбановіч. Блакітны дом у яго быў канфіскаваны. Жонка Юльяна разам зь дзецьмі была выгнаная з хаты. У блакітным доме мясцовыя ўлады стварылі краму, плот людзі разабралі на дровы. Агарод затаптаў натоўп, які валам валіў на калгасны базар, паламалі, затапталі і мае вішанькі... Сам Юльян Урбановіч, стары чалавек, ня вытрымаў зьдзекаў і памёр у адной з савецкіх турмаў на Беларусі. А Міля выйшла замуж, купіла сабе хату па вуліцы Гарадзенскай у Навагрadку. Такая вось гісторыя.

С. Пярловіч прысьвяціў мне яшчэ адзін верш:

**Аддаў табе я маладосьць**
*Кастусю Рамановічу прысьвячаю*

*Край беларускі — родны мой —*
*Раса лясоў і ніў.*
*Скаваны жудаснай турмой*
*Цябе я толькі сьніў.*
*Жыцьця свайго не шкадаваў*
*У муках сох і гніў,*
*Каб Ты, як ветразь красаваў,*
*Каб Ты свабодным быў.*
*Жыцьцё маё апалена*
*Цуд толькі ўратаваў,*
*Бо Гітлера і Сталіна*
*Я катамі назваў.*
*Аддаў Табе я маладосьць,*
*Аддаў самога сам*
*І сілу, колькі яшчэ ёсьць,*
*Да кроплі ўсю аддам.*
Самсон Пярловіч
Наваградак

На мае 71-ыя ўгодкі з дня нараджэньня С. Пярловіч напісаў яшчэ адзін верш, у якім, між іншым, згадвае і карагандзінскую дашчульку:
*О, Рамановіч — наш Кастусь!*
*Душу Тваю вярэдзяць раны —*
*За родны край, за Беларусь*
*Ты быў аж двойчы пакараны.*
*Ужо зь юнацкіх раньніх год*
*Пайшоўшы з роднай вёскі — Лозкі,*
*Ты стаў змагацца за Народ,*
*Як і бясьсмертны Каліноўскі.*
*Скарыцца сталінскай чуме*
*Цябе ня змог ні боль, ні голад,*
*Прымусіць нават у турме,*
*Ні лягерны бясконцы холад.*
*Ад мук жахлівых ня стаў нем,*
*Бо не раскайваешся ў скрусе,*

*Што сябрам быў у СБМ,*
*Ды ў “Вызваленьні Беларусі”.*
*І ў семдзесят Твой першы год*
*Няхай Бог дарыць Цябе сілай!*
*Каб Ты, наш Слаўны Патрыёт,*
*Служыў шчэ Бацькаўшчыне мілай!*
*Ня вырве з памяці пурга*
*Ані буран, хоць і найзьлейшы,*
*Як Ты на нарах мне стругаў*
*Дашчульку пад чарговыя вершы.**

Самсон Пярловіч
Наваградак

**У крыху зьмененым выглядзе верш друкаваўся ў газэце “Наша ніва” 12 студзеня 1998 г. — “БР”.*

С. Пярловіч пасьля лягероў жыў у Наваградку. У 1994 годзе выйшаў з друку зборнік ягоных вершаў — “Бяссмертнік” (Менск, “Мастацкая літаратура”). У гэтым зборніку зьмешчаны ягоны верш “Паднімецца крыўда”, які Самсон, 24-гадовы юнак, напісаў у 1947 годзе, у час росквіту панаваньня Сталіна. Аўтара гэтага вершу Самсона Пярловіча пажадаў пабачыць самы галоўны тады ў Беларусі берыявец — Цанава, які загадаў прывесьці яго да сябе з камэры “амэрыканкі”. Цанава проста ня мог паверыць, што ў Беларусі змог аб’явіцца нейкі юнак, што напісаў верш супраць самога Сталіна, асьмельваецца бунтаваць супраць падхалімаў, якія “скуляць пра росквіт жыцьця, пра свабоду”, не заўважаючы ахвяраў беспрычынных расправаў, гвалту над народам, нечуванай крыўды. Не поўнасьцю будзе зразумела сказанае, не прачытаўшы гэты верш, таму зьмяшчаю яго тут:

**Паднімецца крыўда**

*І ноччу і днём падхалімы скуляць*
*Пра росквіт жыцьця, пра свабоду.*
*Ад гэтай “свабоды” аж стогне зямля*
*У “росквіце” тым – сьмерць народу.*
*Бо Сталін – тыран і старых і малых –*
*Запрогшы ў прыгонныя ёрмы,*
*Нявіннай крывёй суцяшае іклы,*
*Каму колькі жыць ставіць нормы.*
*Людзей, каб прымусіць пакорна маўчаць*
*Пад страхам, як вязьняў бяспраўных,*

*Са зграяй сваёю пачаў вынішчаць*
*Народа сыноў самых слаўных.*
*А каб заслужыць і праклёны і боль,*
*Кляймом страшным – “вораг народа”*
*Кляймяць чалавека, ды ўсё штораз больш*
*Зьнішчаюць людзей з кожным годам.*
*Калі б удалося ўсе косьці сабраць*
*Усюды, дзе палі ахвяры,*
*З касьцей тых, напэўна, узьнялася б гара,*
*Што рвала б вяршыняю хмары.*
*А сьлёзы і кроў, што замучаны люд*
*У горы бязьлітасным выліў,*
*Каб не пранікалі ў матулю-зямлю,*
*І сонца, мабыць, патушылі б.*
*Ці ж выцерпіць крыўда? Мільёнам галоў*
*Яна яшчэ грозна паўстане!*
*Хіба хто апошнім сумленьнем аглох,*
*Той толькі мо сьцерпіць маўчаньне.*

Самсон Пярловіч
Наваградак, 1947 г.

Пра свой візыт пад канвоем да Цанавы распавядаў мне Самсон на лягерных нарах у Карагандзе ў 1952 годзе. “Раз’юшаны Цанава, “ашчэрыўшы іклы”, “грабе капытамі дываны”, з вачэй пускае на мяне маланкі, брызгае ядавітай сьлюной: “*Как ты смел такое про Сталина написать!!!*” — успамінаў Пярловіч. — Ну, думаю, хана мне тут. Але літасьці не прашу, нягледзечы на страшэнныя пагрозы. Не расстралялі, а мог бы гэты верш стаць маім апошнім. Рукапіс вершу захоўваецца ў архіве КГБ у Горадні”.

У 1994 годзе ў Наваградку выйшаў з друку зборнік вершаў Самсона Пярловіча пад назвай “Заяц на бярозе” (гумар, лірыка, сатыра). Праз тры гады выйшла з друку зноў у Наваградку кніга Пярловіча пад назвай “Чарадзейны агонь” — паэзія і мастацкая проза. У гэтай кнізе на старонцы 70 зьмешчаны верш “Каля гары Міндоўга”, прысьвечаны мне. Адзін асобнік гэтай кнігі Самсон выслаў мне з такім аўтографам:

“Слаўнаму Непахіснаму Патрыёту нашай Роднай шматпакутнай Беларусі Кастусю Рамановічу з найлепшымі пажаданнямі, як вернаму сябру цяжкай нашай долі ў самаахвярным змаганні за лепшы лёс нашай Бацькаўшчыны.

16 лістапада 1997 г. Наваградак. Самсон Пярловіч”.

**Зноў на волю**

У карагандзінскім лягеры ў 1952 годзе я атрымаў вестку аб тым, што на 50-м годзе жыцьця памёр мой тата Яўхім Рамановіч. Вядома ж, на яго пахаваньне зь лягеру мяне не адпусьцілі (дый як было пасьпець?!). Пахаваны тата быў на могілках у вёсцы Шчорсы. Калі я вярнуўся на Радзіму, магілу бацькі не знайшоў. Помнік не паставілі, бо на яго не было грошай. Сказалі, што пахавалі яго недалёка ад магілы маёй бабулі, але і яе я не адшукаў. Можа хтосьці другі быў ужо пахаваны на тым самым месцы?..

З Караганды ў 1952 годзе мяне этапіравалі ў Тэмір-Таў у лягер для катаржанаў, хаця на катаргу я ня быў асуджаны. У гэтым лягеры ўтрымліваліся толькі палітычныя вязьні. "Бытавікі" і "блатныя" такой "пашаны" не заслугоўвалі. Мы працавалі ў каменным кар'еры. Падрыўныя работы выконвалі вольнанаёмныя рабочыя, а каменныя завалы катаржане разьбіралі ўручную.

У катаржанскім лягеры баракі на ноч замыкаліся ахоўнікамі на замок. Перад тым, як зачыніць барак, усіх шыхтавалі на пералік. Здаралася, што лічылі па два, па тры разы, дзесьці памыляцца — ізноў пачынаюць лічыць, пакуль не пераканаюцца, што ўсе вязьні на месцы. Раніцай, пасьля пад'ёму — ізноў пералік. У бараку зьмяшчаліся 150-200 зьняволеных. Кожнаму вязьню быў прысвоены асабісты нумар. На чорнай вопратцы нумар выпальваўся хлоркай, лічбы атрымліваліся белымі. На белай вопратцы нумар пісаўся чорнай фарбай. Лічбы стаялі на ўсіх вопратках вязьняў — на грудзях, на сьпіне, на штанах, на шапцы. Канвой, пры вывадзе на працу, выклікаў вязьня па нумары. Вязень павінен быў назваць сваё прозьвішча, імя, імя па бацьку, і толькі пасьля гэтага праходзіў праз "шмон". Ахоўнік старанна абшукваў, ці няма на чалавеку лішняй вопраткі, вопраткі бяз нумару альбо лішніх рэчаў. Усё лішняе забіралася і канфіскоўвалася. Пасьля гэтага, па аднаму, паміж двух ахоўнікаў, вязьняў выпускалі за прахадную, дзе ўжо стаяў напагатове са зброяй і сабакамі канвой. Ставілі па пяць чалавек у шэраг, некалькі разоў пералічвалі: "*первая пятерка, вторая, третья...*" і гэтак далей. Калі памыляліся, ізноў пералічвалі. Нарэшце лічбы сыйшліся. Лягерная ахова перадала вязьняў начальніку канвоя. Прадстаўнік лягеру дакладваў начальніку канвою аб тым, што вязьні накормленыя па норме, апранутыя і абутыя па сэзону. Перадача адбылася. Начальнік канвою голасна, каб усе чулі, папярэджваў: "*в пути следования не растягиваться, не отставать, не разговаривать, руки за спину, шаг вправо, шаг влево,*

*считаем побегом, — стреляем без предупреждения!*". Пасьля гэтай штодзённай "малітвы" — "*шагом марш на работу*".

Уперадзе калёны ішоў канваір са зброяй, з аднаго і другога боку — па некалькі канваіраў са зброяй і сабакамі, ззаду — канваір са зброяй і сабакай пакрыквае: "*подтянуться, не отставать*!" Канваіры — салдаты чырвонапагоньнікі, з чырвонымі зоркамі "на ілбе", там, дзе ў нас былі нумары. І цяпер, як убачу чырвоную зорку на шапцы жаўнера, дык жудасна робіцца...

Прыгнаўшы да месца працы, канваіры зноў пачынаюць пералік вязьняў. Чакаем, пакуль разьвядуць "попкаў" (канваіраў) па вышках зоны. Мы працавалі па 12 гадзінаў у суткі, ня ўлічваючы пераход. У рабочай зоне падчас абеду таксама адбываўся пералік вязьняў, праверка: усіх зьбіралі, шыхтавалі, лічылі. Каля прахадной дзяжурыў канваір з пікай, абавязкам якога было праколваць ёю сыпучы матар'ял (пясок, зямлю і іншае) пры вывазе яго за зону, на той выпадак, калі пад пяском схаваўся вязень.

Па рабочай зоне хадзіў надзіральнік у вайсковай форме бяз зброі, сачыў за парадкам. Каля прахадной вісеў кавалак стальной рэйкі. Ад удару па гэтаму кавалку рэйкі малатком альбо якім-небудзь іншым кавалкам жалеза, атрымліваўся магутны звон. Звон гэтай рэйкі быў сыгналам "пад'ём", "развод" на працу, "адбой" у жылой зоне, "канец працы" ў рабочай зоне. Пасьля гэтага сыгналу ўсе зьняволеныя цягнуліся да выхаду з рабочай зоны. Ізноў ішоў пералік вязьняў, і не адзін раз, бо часта памыляліся. А калі нехта зь вязьняў дзе-небудзь заснуў у цёплым кутку? Тады ўсіх садзілі на сьнег, а канвой шукаў заснуўшага. Канвой здымалі з вышкаў толькі тады, калі пераконваліся, што ўсіх з рабочай зоны вывелі.

Ізноў "малітва" начальніка канвою. А як цяпер не расьцягвацца калёне, калі некаторых з катаржнай працы даводзілася цягнуць пад рукі. Пры запуску ў жылую зону лягеру зноў адбываўся пералік вязьняў, перадача канвоем іх лягернай ахове. Ізноў "шмон". Каля прахадной вязьняў сустракалі пяць надзіральнікаў. Як у калёне йшлі па пяць у шэрагу, так і па пяць, на хадзе расшпіліўшы ўсе адзежкі, падходзяць у "абдымкі" да "свайго" надзіральніка, які старанна абшчупвае рэбры вязьня, нават абутак на марозе здымаюць, каб не пранёс чаго недазволенага ў зону. І ня дай Бог, калі ў каго знойдуць штосьці падобнае на нож, фінку ці піку, то ён ужо пад замок свайго закратаванага жылога бараку ня трапіць, а трапіць у ізалятар ці БУР (*барак усиленного режима*), гэта значыць — трапіць у турму ў турме, дзе і мне давялося быць за сувязь з вольнымі людзьмі.

У гэтым лягеры з сяброў СВБ быў толькі я. Асноўны кантынгэнт катаржанаў складалі ўкраінцы, пераважна маладыя змагары за вольную Ўкраіну. Яны са мною сябравалі, ніколі ня крыўдзілі — дапамагалі. Былі тут маладыя літоўцы, латышы, эстонцы. Дапамагаў мне літовец Ёзас Старукас, называў мяне “пацаном”. Дапамагаў мне выжыць у лягеры і малады вязень, беларус зь Вільні, прозьвішча якога ўжо сьцёрлася з памяці.

5 сакавіка 1953 году памёр люцыпар і кат Сталін. Якая гэта была радасьць для нас, вязьняў! І скакалі, і сьпявалі, з захапленьнем віншавалі адзін аднаго з гэтай радаснай падзеяй. Зьявілася моцная надзея на тое, што выжывем. Паступова стаў паляпшацца лягерны рэжым для палітычных зьняволеных. У лягеры для катаржанаў былі толькі ахвяры пілітычных рэпрэсіяў. Зьнялі з нас асабістыя



***Кастусь Рамановіч (у цэнтры, шосты справа) з іншымі палітвязьнямі, 1955 г.***

нумары. Ніколі не забуду свой катаржанскі нумар з трох лічбаў. Як яго не круці ці ўверх нагамі, ці ўніз нагамі, усёроўна атрымлівалася адна і тая ж лічба – 689. Уперадзе нумару стаяла сэрыя (літара) “Г”. Атрымліваўся нумар Г-689. На шапцы я яго насіў там, дзе ў чырвонапагоньнікаў была чырвоная зорка.

Зьнялі краты з вокнаў баракаў, зьнялі замкі з дзьвярэй баракаў, выкінулі з баракаў парашы, дазволілі пасылкі і пісаньне лістоў, дазволілі чытаць кніжкі, пачалі плаціць трошкі грошай за працу, дазволілі атрымліваць грашовыя пераводы, адкрылі невялічкія крамы ў зоне, дазволілі насіць цывільнае адзеньне, адрасьціць валасы на галаве, зрабіць прычоскі, дазволілі фатаграфавацца.

Паступова на працу з зоны некаторых вязьняў пачалі выпускаць без канвою. Мяне без канвою пачалі выпускаць на працу ў 1955 годзе. Пасьля працы ў жылую зону лягеру павінен быў вяртацца сам. Выдалі спэцыяльны пропуск, на вахце адзначалі час выхаду з зоны і час прыбыцьця ў зону.

А неўзабаве і зусім звольнілі зь лягеру. Выдалі даведку 6-І-АА № 0037159: *“Отбывал наказание в местах заключения с 30 мая 1947 года по 9 ноября 1955 года и по отбытию срока наказания с применением зачета рабочих дней (за хорошую работу) освобожден 9 ноября 1955 года и следует в ссылку на поселение в МВД по Карагандинской области”*.

У высылцы я павінен быў адзін раз у месяц зьяўляцца ў МВД. Без дазволу ня меў права тэрмінова выехаць з месца высылкі. Па дамове ўладкаваўся працаваць на будаўніцтве КарГРЭС у горадзе Тэмір-Таў Карагандзінскай вобласьці Казахстану. Працаваў сьлесарам АГМ (аддзел галоўнага мэханіка), мантажнікам-высотнікам, машыністам вежавага крану.

Аднойчы мне прапанавалі працу майстра на будаўніцтве аўтамабільных дарогаў. Але я адмовіўся, мяркуючы, што, працуючы майстрам, буду мець мала часу, каб вечарамі вучыцца (таму і пайшоў у рабочыя). Пасьля прапанавалі дапамагчы паступіць у вячэрні будаўнічы тэхнікум. Але я зноў адмовіўся, бо хацеў закончыць спачатку дзесяць клясаў, атрымаць атэстат сталасьці, і толькі тады паступаць у вячэрні інстытут. Уладкаваўся ў 10 клясу вячэрняй школы рабочай моладзі. Але ж гэта было ўжо ў палове лістападу, трэці месяц ішла вучоба. У першы дзень майго прыходу ў школу па матэматыцы пісалі кантрольную работу, а я, пасьля многіх пакутных гадоў сталінскай “акадэміі”, нічога ня змог напісаць, хаця раней па матэматыцы меў “пяцёркі”. Сорамна мне стала, балюча, і я больш у школу не пайшоў, забраў дакумэнты. Зноў на шмат гадоў перарвалася мая вучоба. Атэстат сталасьці я атрымаў у 1958 годзе, тэхнікум закончыў у 1963 годзе, а інстытут — у 1970 годзе (вучыўся вечарамі).

І цяпер шкадую, што адмовіўся працаваць майстрам на будоўлі аўтамабільных дарогаў і не паступаў у тэхнікум. Не было каму

пераканаць мяне добрай парадай. Упэўнены, што маё жыцьцё магло скласьціся зусім інакш.

Добра запомнілася мне праца сьлесарам у аддзеле голоўнага мэханіка КарГРЭСу ў Тэмір-Таў. Дакладней, некалькі момантаў з гэтай працы. Мне было даручана выраўняць стык рэльса на падкранавай балцы, па якім хадзіў пад'ёмны кран. Адзін рэльс на стыку быў мілімэтраў на 10 вышэй другога (перапад — 10 мм). Трэба было зрабіць плаўны пераход з аднаго рэльса на другі, каб не было скачка кола крану. Мэханік загадаў мне выканаць гэтую работу пры дапамозе зубіла і малатка. Цярпеньня і нэрваў хапіла ў мяне, каб за некалькі дзён, зьмяніўшы некалькі зубілаў, выканаць гэтую работу. Кран пайшоў па стыку рэльсаў бяз стуку, без скачка.

І яшчэ. Стоячы на той жа падкранавай балцы, пры дапамозе талі, мне давялося падымаць розныя цяжкія мэталічныя канструкцыі. Падымаў пры дапамозе мэталічнага ланцуга, які пэрыядычна з талі звальваўся. А ніжэй рэльса, з боку падкранавай балкі, былі прымацаваныя медныя рэйкі пад высокай напругай току, які даваў энэргію для працы маставога крану. Адчуваю — зрываецца ланцуг з талі. Імгненна спрацавала ў галаве — “адпускай ланцуг!” Пусьціў… І ў гэты момант — вогненная ўспышка! Ланцугом замкнула трохфазныя шыны. Ланцуг прыварыўся да рэяк (да шынаў) і на іх боўтаецца. Бог у чарговы раз абараніў мяне ад сьмерці. Не разжаў бы я імгненна пальцы рук на ланцугу — быў бы зь мяне чорны вугалёк...

На высылцы я закончыў курсы шафёра-аматара і атрымаў вадзіцельскія правы. У вольны ад працы час я займаўся фатаграфаваньнем — меў самы танны фотаапарат — “Смена”. Купіў усё неабходнае для вырабу фотаздымкаў. З гэтага меў нейкі матэрыяльны прыбытак. Кожны месяц хоць трошкі дапамагаў сваёй маці, якая жыла ў беларускай вёсцы.

На выгнаньні я стаў ня толькі фатографам-аматарам. Неяк купіў гармонік. Самастойна, ня ведаючы нотаў, на слых, навучыўся на ім іграць. Іграў на розных вечарынах, на провадах у войска, на вясельлях і нават на сваім вясельлі, ужо ў Беларусі.

Прыгадваю былых вязьняў ГУЛАГу, зь якімі я кантактаваў на выгнаньні ў Тэмір-Таў. Найперш доктар-тэрапэўт, беларус Міхаіл Новікаў, да якога зь Віцебску прыехалі жонка Вера і дачка Люда. Я да іх часта заходзіў. Беларус Фёдар Лукашэвіч і яго прыгожая жонка Ванда, зь якой ён ажаніўся на высылцы. Украінец, мастак Міша Крыль, падарунак якога (карціну) я і цяпер маю. Ён таксама

ажаніўся на высылцы. На яго кватэры я рабіў (праяўляў) фотаздымкі. Украінец Стах Рубель, які жыў разам з Крылём. Ён пазнаёміўся зь дзяўчынай Марусяй і пазьней зь ёй зьехаў на Ўкраіну. Літовец Ёзас Старукас, які ажаніўся ў Тэмір-Таў. Я бываў у ягонай кватэры. Цяпер, пераглядаючы фотаздымкі 1956 году, якія сам калісьці рабіў, разумею, што гады ўжо сьцёрлі з памяці імёны і прозьвішчы некаторых маіх колішніх знаёмых...

Горад Тэмір-Таў быў перапоўнены былымі зэкамі, высланымі чачэнцамі, якія адкрыта хадзілі і днём, і ноччу з кінжаламі на баку. Я любіў танцы. Часта хадзіў у парк на танцавальную пляцоўку. На танцы запрашаў то адну, то другую дзяўчыну, якія мне падабаліся. Ні адной зь іх з танцаў дадому не праважаў. Уначы заўсёды ішоў адзін і без кінжала, і ніхто ніколі мяне не затрымаў. Ажаніцца вырашыў толькі па вяртаньні на Беларусь і толькі на беларускай дзяўчыне, хаця яшчэ ня ведаў, ці калі я вярнуся на Бацькаўшчыну.

У 1956 годзе пачалося звальненьне з высылкі былых вязьняў ГУЛАГу. Многія засталіся назаўжды на месцы высылкі. 17 красавіка 1956 году атрымаў звальненьне з выгнаньня і я. Выдалі мне на рукі даведку № 15630 упраўленьня МУС па Карагандзінскай вобласьці, у якой было напісана: *“Романович Константин Ефимович освобожден от дальнейшего нахождения в ссылке 17 апреля 1956 года на основании приказа Генерального прокурора СССР, МВД СССР и КГБ при СМ СССР от 19 марта 1956 года”*.

5 траўня 1956 году мне выдалі пашпарт з пазнакай “Положение о паспортах”. Гэта азначае, што я пазбаўлены грамадзянскіх правоў тэрмінам на 5 гадоў (ня маю права голасу, не маю права быць абраным, ня маю права паступіць у сярэднія і вышэйшыя спэцыяльныя навучальныя ўстановы, ня маю права займаць кіруючыя пасады, маю права толькі на фізычную працу). Нагадваю, у прыгаворы Ваеннага трыбуналу мне было напісана: “поражение в правах на срок 5 лет” пасьля заканчэньня тэрміну пакараньня. А вось высылка (выгнаньне) у прыгаворы запісаная не была, на высылку я асуджаны ня быў.

**Бацькаўшчына свая і чужая**

Пасьля заканчэньня тэрміну працоўнай дамовы з КарГРЭСам 25 лістапада 1956 году я звольніўся з працы. Зьбіраюся да ад’езду на Радзіму — вясёлы “этап”. Зборы былі нядоўгія, бо мае рэчы — гэта фотаапарат і гармонік. Прыехаў у любімы Наваградак да свайго роднага брата Вячаслава Рамановіча. Дачакаўся мяне з выгнаньня двухгадовы (нарадзіўся 20 сьнежня 1954 г.) пляменьнік

Раман Рамановіч, каб я яго за ручку адвёў у навааградзкую царкву ахрысьціць. Усе чакалі майго прыезду, каб я стаў яго хросным бацькам. Праз гады я быў на яго вясельлі сватам і віншаваў яго словамі Самсона Пярловіча:

*“Сто год вам, пара маладая,*
*Ад сэрца, ад душы жадаю.*
*Няхай вас шчасьце прывітае*
*І век квітнее цёплым маем!*

*Хай вашы ўсе шляхі-дарогі*
*Усьмешкай сонечнай спаўюцца,*
*А нежаданыя трывогі*
*Далёка дзесьці застануцца.*

*Цераз дажджы, цераз нягоды*
*Вам лёс сямейны, лёс жыцьцёвы*
*Хай асьвятляе бляскам гордым*
*Салодкі месяц ваш мядовы.*

Навагрaдак,
жнівень 1976 году

На жаль, мае вясельныя пажаданьні ня зьдзейсьніліся. Пасьля інстытуту Раман быў накіраваны на працу ў Мазыр. 5 чэрвеня 2001 году на 47-м годзе жыцьця правёў я яго ў апошні шлях. Забраў яго Чарнобыль...

У Навагрaдку я не ўладкаваўся на працу. Мабыць таму, што ў пашпарце была пазнака “*Положение о паспортах*”. У братавай хаце мяне не прыпісалі. Там жа, у Навагрaдку, я сустрэўся зь беларускай дзяўчынай родам зь вёскі Барышына Дзятлаўскага раёну Гарадзенскай вобласьці — Валянцінай Сапега. У лютым 1957 году яна стала маёй жонкай.

З маладой жонкай я паехаў да сваёй мамы ў вёску Лозкі. У вёсцы мяне прыпісалі. Працаваў у калгасе на розных палявых работах. Самастойна рыхтаваўся да здачы іспытаў на шафёра. Каб набыць навыкі кіраваньня машынай, пайшоў грузіць каменьне, што зьбіралі на палях. Там шафёры дазвалялі мне пакіраваць машынай.

Іспыт на шафёра я здаў у Карэлічах і атрымаў правы. Старшыня калгасу, нягледзячы на маё лягернае мінулае, даў мне новую грузавую машыну — самазвал. Стаў я працаваць шафёрам у калгасе. Жыць стала весялей. Неяк запрашалі мяне на галасаваньне, ня ведаючы, што я пазбаўлены права голасу. Але я галасаваць не хадзіў, паведаміўшы аб прычыне незьяўленьня на выбарчы ўчастак. А каб сам не паведаміў, то мог бы прагаласаваць “вораг

народу”...

Вельмі хацелася вучыцца. У 1957 годзе (у каторы ўжо раз) я паступіў у дзесятую клясу, у вячэрнюю сярэднюю школу рабочай моладзі ў мястэчку Нягневічы, у адлегласьці 5 кілямэтраў ад вёскі Лозкі. Падручнікі вазіў з сабой у машыне. Падчас загрузкі машыны ў кабіне вучыў урокі, выконваў пісьмовыя заданьні. Пасьля працы ставіў машыну ў гараж і пешшу ішоў у школу на заняткі. Пасьля заняткаў ноччу 5 кілямэтраў ішоў пешшу дадому, зімою крочыў па сьнежнаму цаліку напрамкі праз поле. Аднойчы, памятаю, падчас завірухі, заблукаў. Прайшоўшы вёску Падкасоўе, да Лозак заставаўся нейкі кілямэтар. Блукаючы па засьнежаным полі (агеньчыкаў у вёсках не было), я зайшоў зноў у Падкасоўе. Дадому дабраўся амаль пад раніцу.

Недасыпаў. Аднойчы, вяртаючыся позна вечарам з рэйсу, заснуў за рулём. Прачнуўся ў канаве зь левага боку дарогі. Машына “лягла” на левы бок. Вылазіў я з машыны праз правую дзьверку, як праз люк танку... Выцяк бэнзін, масла, памялася левае крыло машыны, а ў мяне ні драпінкі! У чарговы раз Бог дапамог. Каб трошкі далей праехаў, то ўпаў бы з мосьціка ў рачулку, і ўсё было б больш трагічна. Здарылася гэтая аварыя каля вёскі Старыя Нягневічы.

Спыніліся шафёры, што ехалі за мной. Дапамаглі паставіць машыну на колы, выцягнулі на дарогу і зацягнулі ў гараж у вёску Харосіца (цэнтральная сядзіба калгасу; кілямэтраў тры ад месца здарэньня). Дадому я не пайшоў. Да раніцы сам адрамантаваў машыну. Заправіў яе бэнзінам, заліў масла, пад’ехаў да калгаснай канторы, узяў пуцёўку і паехаў у рэйс. Працаваў дзень і спаць не хацеў. А дома перапалох: Косьця не начаваў дома. Пайшла Валя (жонка) шукаць мяне, вядома ж, у калгасную кантору. А там кажуць: узяў пуцёўку і паехаў у рэйс. Каб Валя не прыйшла шукаць мяне, то ніхто і не ведаў бы пра маё здарэньне ў дарозе.

Дырэктарам Нягневіцкай вячэрняй школы ў той час працаваў Сяргей Марушка. Ён разам са мной вучыўся ў 10-й клясе Наваградзкай вячэрняй школы, адкуль мяне ў 1947 годзе арыштавалі. Яго жонка Ліза з першай клясы вучылася разам са мной у Лозкаўскай школе, а ў той час працавала зубным доктарам у Нягневічах. Жылі яны ў вёсцы Роскаш (кілямэтар ад Нягневічаў). Я зь імі сябраваў, бываў у іхняй хаце — не цураліся мяне як “ворага народу”.

Матэматыку ў 10-й клясе Нягневіцкай вячэрняй школы выкладаў Юра Самайловіч, родам з Лозак, зь якім мы таксама разам вучыліся ў пачатковай школе. Ён прыймаў у мяне іспыт на атэстат сталасьці па матэматыцы. Ня гледзячы на тое, што я на білет

адказаў, ён задаў мне яшчэ дадатковае пытаньне і дадатковую складаную задачу. Паставіў “5”. У Нягневіцкай сярэдняй школе працавала і жонка Самайловіча — Анютка Васілеўская. Пазьней яны пераехалі ў Наваградак. Расказвалі, што Юра памёр у школ падчас уроку...

24 чэрвеня 1958 году, маючы ўжо 31 год, нарэшце, я атрымаў атэстат сталасьці. Зьдзейсьніліся мае мары, хаця і не зусім, бо ўсё тармазіла “Положение о паспортах”. Але ж нейкая надзея на далейшую вучобу была. Мэханік наваградзкай аўтабазы Міхаіл Залеўскі падбухторваў мяне паступаць у Саратаўскі аўтамабільна-дарожны інстытут. Паслалі туды дакумэнты. Здаваць іспыты вырашылі пры Мінскім лесатэхнічным інстытуце — бліжэй ехаць, чым у Саратаў. Чакаем вызаву на іспыты, а яго ўсё няма і няма. Нарэшце атрымалі вызаў, паехалі. А там пытаюцца: “Чаму так позна прыехалі? Ужо іспыты поўным ходам ідуць”. “Позна запрашэньне прыйшло”, — адказваем. “Ну то шукайце самі, дзе, у якой аўдыторыі здаюць, заходзьце і здавайце”. Здавалі кожны дзень без перапынкаў на падрыхтоўку і нават па два прадметы за дзень: з адной аўдыторыі выходзім — у другую заходзім. Пасялілі нас у інтэрнаце лесатэхнічнага інстытуту. Спалі на ложках без пасьцелі, бо для нас не хапіла. З намі паехаў у Менск, у якасьці кансультанта, моцны матэматык, пэдагог гандлёвай наваградзкай вучэльні Раман Мадэставіч Норык, наш добры знаёмы.

Іспыты мы паздавалі. Вынікі іспытаў паслалі ў Саратаўскі аўтамабільна-дарожны інстытут. Цяпер ужо чакаем, калі выклічуць на вучобу, але зноў вызаву няма. Ужо вучоба пачалася, а нам ніхто ня піша. Нарэшце, атрымалі мы паведамленьне: “Не прайшлі па конкурсе”. Залеўскі і кажа: “Ня можа быць. У мяне ільготы. Я працую па спэцыяльнасьці. Да таго ж я — партыйны, удзельнік вугорскіх падзеяў. Быў кантужаны ў Вугоршчыне. Я павінен прайсьці па-за конкурсам. Там проста не разглядалі нашых дакумэнтаў. Лягчэй адказаць па пошце, чым адказаць тым, хто там парогі абівае. Трэба ехаць”. “Добра табе казаць “трэба ехаць”, у цябе ільготы”, — думаю я. — “А ў мяне якія ільготы? Хіба “*Положение о паспортах*”? Ды і грошай на дарогу ў мяне няма”. Я не паехаў. А яго ў інстытут залічылі і ён яго закончыў.

16 ліпеня 1958 году ў вёсцы Лозкі нарадзіўся мой першы сын — Кастусь.

КДБ пачаў вэрбаваць мяне на супрацоўніцтва: “Мясцовая інтэлігэнцыя горнецца да цябе. Паведамляй нам, аб чым яны гавораць. Нам ня трэба ведаць, што там калгасьнік скраў, а вось пра настрой

вясковай інтэлігэнцыі паведамляй”.

Цяжка жылося нам у той час у вёсцы. Калгасьнікі зь вёскі маёй жонкі — Бырышына — зараблялі па 5 капеек за працадзень, атрымлівалі гэтыя грошы напрыканцы году, і то не заўсёды. А хлеб у той час каштаваў 22 капейкі. У нашых Лозках жылося трошкі лепей, чым ў Барышына, бо я змог накапіць у калгасе на ашчаднай кніжцы аж 50 рублёў, хаця крупнік мы елі бяз скваркі.

Каб пазьбегнуць калгаснага прымусу і вярбоўкі ў супрацоўнікі КДБ, я пастанавіў зьехаць з Радзімы. Рашэньне гэтае было для мяне вельмі цяжкім, балючым. Пастанавіў зьехаць туды, дзе я мог бы днём працаваць, а вечарамі вучыцца. Выбраў Данбас. Там у горадзе Макееўка жыў мой аднавясковец Іван Макарэвіч. Мы зь ім разам хадзілі ў школу і разам вучыліся ў Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі. Яго летам 1944 году забралі ў савецкае войска (ён быў гадоў на чатыры старэйшы за мяне). З войска Макарэвіча арыштавалі, судзілі за ўдзел у СБМ. Пакараньне ён адбываў у сталінскіх лягерах на Калыме. Пасьля звальненьня з лягеру Іван з жонкай Насьцяй з Калымы пераехалі ў Макееўку да яе сваякоў. Там атрымалі кватэру. Іван забраў да сябе сваю старэйшую незамужнюю бязьдзетную сястру Маню. А вось цяпер яны запрасілі да сябе мяне. Я скарыстаўся з гэтай нагоды, было дзе для пачатку прытуліцца.

Пайшоў я ў калгасную кантору здымаць грошы з ашчаднай кніжкі. А ў мяне, чумусьці, пытаюцца: “А навошта табе грошы?” “Як навошта? Сына хрысьціць трэба”, — адказваю. “А колькі ты хочаш зьняць?” “Усе!” — упэўнена сказаў я. “Ну дык 5 рублёў пакінь, каб кніжка захавалася, а 45 рублёў забірай”, — радзяць мне.

Я нікому не казаў пра сваю задуму, акрамя жонкі і мамы. Куды я паехаў, ніхто ня ведаў.

### Макееўскае выгнаньне

Узяў я свой лягерны, самаробны фанерны чамадан і паехаў. Сына хрысьцілі без мяне. У Данецку мяне сустрэў Іван Макарэвіч. Пачалося маё жыцьцё ў Макееўцы. Жыў я на кватэры ў Макарэвіча, грошаў зь мяне ён ня браў. Харчаваўся я зь яго сям’ёй за адным сталом. У яго ў той час было ўжо двое малых дзяцей: дачка Надзя і сын Раман. Пазьней нарадзілася яшчэ адна дачка — Ліля, якую я хрысьціў у царкве.

15 лістапада 1958 году пачаў я працаваць машыністам вежавага крану 7 разраду ў будаўнічай арганізацыі № 8 (БУ № 8) трэсту “Макееўшахтабуд”. На працу дабірацца было далёка. Часта езь-

дзіў на папутках. 17 сакавіка 1959-га я атрымаў ордэр на пакой памерам 13 м2 у трохпакаёвай кватэры, два пакоі займалі дзьве сям'і шахцёраў. Цяпер мне было лепш дабірацца да працы. Неўзабаве да мяне прыехала мая жонка Валя са старэйшым сынам Косьцікам. 3 лютага 1960 году нарадзіўся ў Макееўцы мой другі сын — Мікола.

З Макарэвічамі мы сустракаліся часта: то ў мяне ў кватэры, то ў яго. Сьпявалі беларускія песьні. Памятаю песьню "Льецца Нёман паміж гораў, сьветлы чысты як з расы, накапаў ён ям і нораў, гоніць воды праз лясы", — сьпяваючы якую не маглі стрымаць сьлёзаў ад успамінаў пра дзяцінства і юнацтва, праведзеныя над Нёманам, ад журбы па родным куточку...

У Макееўцы ў той час жылі былыя палітычныя вязьні Іван (рускі) і Караліна (украінка) Сысоевы (муж і жонка), якія адбывалі тэрмін пакараньня разам з Макарэвічам на Калыме. Макарэвіч, Сысоевы і Рамановічы сябравалі сем'ямі, разам адзначалі ўсе сьвяты.

У пачатку 1960 году мяне запрасілі ў КДБ і зьнялі з пашпарту прыпіску, што абмяжоўвала мяне ў грамадзянскіх правах. Выдалі чысты пашпарт, пасьля чаго я атрымаў права вучыцца далей. У тым жа годзе я паступіў на першы курс Макееўскага будаўнічага тэхнікума Міністэрства будаўніцтва УССР, на вячэрняе аддзяленьне. Днём працаваў, а вечарамі вучыўся. 7 кастрычніка 1961 году пераводам мяне прынялі тэхнікам-канструктарам на Макееўскі завод мэталаканструкцыяў у канструктарскі аддзел, хаця ў мяне яшчэ дыплёму тэхніка не было. 22 кастрычніка 1963 году закончыў тэхнікум па спэцыяльнасьці "Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва", атрымаў чырвоны дыплём з адзнакай сэрыі Ж № 447966 з прысваеньнем кваліфікацыі тэхніка-будаўніка.

У канцы 1963 году цяжка захварэў Іван Макарэвіч. Я яго часта наведваў у шпіталі, падбадзёрваў як мог. У адчаі ён хацеў выкінуцца з вакна. Пасьля гэтага Макарэвіча прывязалі да шпітальнага ложку. Я яму казаў: "Ачуняеш і яшчэ мы з табой будзем сьпяваць песьні, плывучы на лодцы па Нёмане ў вольнай Беларусі". Але 25 лютага 1964 году рак забраў яго ад нас навечна. Пахаваны ў горадзе Макееўка. Памёр ён на 42 годзе жыцьця...

Прыгадваю, як у той час, калі я працаваў рабочым (машыністам вежавага крану), настойліва мяне агітавалі ўступіць у камуністычную партыю. Асабліва праходу мне не даваў партарг будаўнічага ўпраўленьня Генадзь Цыплянкоў. Я, як мог, аднекваўся, у асноўным матывуючы сваю адмову тым, што "я не дарос да партыі". А Цыплянкоў сказаў, што сярод рабочых ён бачыць ва мне самага

прыстойнага кандыдата ў партыю. Сказаў, што ён сам дасьць мне рэкамэндацыю аб прыёме ў партыю. Тады я вырашыў пагутарыць зь ім сур’ёзна. Падабраў момант, калі ён быў адзін у сваім кабінэце, зайшоў. “Вы, — кажу, — зьбіраецеся даць мне рэкамэндацыю ў партыю, але мяне ня ведаеце. У такім разе, як Вы можаце даць мне рэкамэндацыю?”. “Як ня ведаю? Я ведаю Вас, як самага прыстойнага сярод рабочых кандыдата ў партыю”, — адказвае ён. І тады я пачаў яму расказваць пра сталінскія лягеры, якія я прайшоў. Ён сядзіць, слухае і толькі галавой качае, прыгаворваючы: “А я-яй, а я-яй!” “Каб Вы мне далі рэкамэндацыю ў партыю, то на гэтым Ваша кар’ера і закончылася б. І Вы былі б там, дзе я быў”, — сказаў я яму на разьвітаньне. На гэтым ягоная агітацыя закончылася, больш да мяне ён не прыставаў. Неўзабаве Цяплянкоў стаў начальнікам міліцыі Макеўкі. Пры сустрэчы падаваў мне руку, запрашаў да сябе ў госьці, але я ў яго ў гасьцях так ні разу і ня быў. Адчувалася, што “ворагам народу” ён мяне не лічыў.



Каб я тады даў яму згоду, то быў бы партыйным. Пазьней, калі я ўжо быў інжынэрна-тэхнічным работнікам, запрашэньняў на ўступленьне ў партыю не атрымліваў, бо, каб узяць у партыю аднаго інжынэра, трэба было прыняць у яе шэрагі двух рабочых. А рабочыя ў партыю не хацелі ўступаць.

У 1964 годзе я паступіў у Данецкі політэхнічны інстытут на вячэрняе аддзяленьне. Нягледзячы на тое, што ў мяне быў дыплём з адзнакай, давялося здаваць усе ўступныя іспыты і нават на адзін іспыт больш, чым было ў 1963 годзе. Ужо праз год ільготы пры паступленьні ў інстытут былі адмененыя.

У ліпені 1966 г. мяне перавялі ў Макееўскае спэцупраўленьне “Стальканструкцыя” № 114 трэсту “Данбасстальканструкцыя” на пасаду майстра, а са сьнежня я працаваў прарабам. У 1970 годзе я выдатна закончыў Данецкі політэхнічны інстытут па спэцыяльнасьці “Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва”, з прысваеньнем кваліфікацыі інжынэра-будаўніка. Стаў працаваць начальнікам

вытворча-тэхнічнага аддзела будаўнічага спэцупраўленьня. Завод мэталаканструкцыяў выдзеліў мне ў 1962 годзе двухпакаёвую кватэру ў прэстыжным раёне "Черемушки". Але нішто не трымала мяне ў дымнай Макееўцы. Цягнула ў родную сінявокую Беларусь, дзе я кожны год праводзіў адпачынак, ня гледзячы на тое, што пад бокам было цёплае мора.

**У Пінску**

Ужо на пад'езьдзе да Менску радасна мне было ад пачутай у вагоне цягніка роднай беларускай гаворкі, а беларускія краявіды за вакном захаплялі дух, водар беларускага паветра прыемнай асалодай напаўняў маю істоту. Той гэтага не зразумее, хто зь Беларусі нікуды не зьяжджаў...

Памятаю, аднойчы я адмыслова пайшоў пешшу з малымі сваімі сынамі з Наваградку ў вёску Барышына, да бацькоў маёй жонкі, каб палюбавацца беларускай прыродай. Адлегласьць прыблізна 10 кілямэтраў. Якая была асалода ад гэтай вандроўкі і дзецям, і мне! Збочыўшы з дарогі наўпраcткі да вёскі напаткалі невялікую лугавіну, пакрытую чыстай, мяккай, зялёненькай травічкай. Амаль пасярэдзіне ляжаў вялікі валун. Наваградзкая зямля ўпрост усыпаная каменьнем. Не ўстрымаўся я ад спакусы прылегчы ў белай кашулі на жывы прыродны дыван, нічога не падаслаўшы на траўку, і белай кашулі не запэцкаў. А малыя на валуне разьмясьціліся. Пасьля прыемнага адпачынку пайшлі далей, у вёску.

Кожны год я езьдзіў у адпачынак з Данецку ў Менск цягніком, а зь Менску ў Наваградак аўтобусам. У Менску спыняўся, начаваў у свайго сябра па СБМ, зь якім мы разам вучыліся ў Наваградзкай настаўніцкай сэмінарыі, былога вязьня ГУЛАГу, цяпер ужо нябожчыка Алеся Раковіча. Вось што пісала аб ім газэта "Наша слова" ад 2 траўня 2001 году: "Год таму пайшоў у вечнасьць наш верны сябар, актыўнейшы адраджэнец, намесьнік старшыні Акадэмічнай рады Таварыства беларускай мовы, вучань славутага Барыса Кіта — арганізатара амэрыканскай астранаўтыкі, — таленавіты навуковец, загадчык лябараторыі Інстытута тэхнічнай кібэрнэтыкі НАН Беларусі, доктар тэхнічных навук Алесь Раковіч". Часам начаваў у Мішы Бурчыка, сябра дзяцінства ў вёсцы Лозкі. Ён працаваў у Менску ў Міністэрстве фінансаў.

Працу на Беларусі я пачынаў шукаць зь Менску. У 1972 годзе зайшоў у менскі будаўніча-мантажны трэст № 26 "Жалезабетонмантаж". Прыняў мяне ўпраўляючы трэстам Раўкоў. Пагаварыў са мной, азнаёміўся з маімі дакумэнтамі ды ўносіць прапанову:

— *В Витебское строительное управление главным инженером пойдешь?*

— Пайду, — кажу.

І апошняе пытаньне задае: — *Партийный?*

— Не, — гавару, — безпартыйны.

— *Извините, не могу.*

На гэтым размова зь ім скончылася. У гэты час у яго быў начальнік Берасьцейскага будаўнічага ўпраўленьня № 159 Яўген Чудук, які прапанаваў мне працу ў Пінску старэйшым прарабам ўчастку. Мяне напужала само слова "Пінск", і ня так Пінск, як пінскія балоты. Згоды я ня даў, але абмяняліся адрасамі. Год мы перапісваліся. Год ён угаворваў мяне прыехаць, хоць паглядзець усё на месцы. Да гэтай агітацыі далучыўся мой брат Вячаслаў: "Я Пінск ведаю, харошы горад, давай згоду!".

У красавіку 1972 году мне трэба было ехаць у Трускавец Львоўскай вобласьці на лячэньне. Вырашыў я заехаць у Берасьце, і Чудук мяне ўгаварыў. Пакінуў я яму заяву на згоду працаваць у Пінску старэйшым прарабам. Ён напісаў ліст майму начальніку ў Макееўку, у якім прасіў адпусьціць мяне пераводам у Берасьце. Заехаў я ў Пінск паглядзець на горад. І ён мне не спадабаўся. Засмучаны, сеў я ў цягнік і паехаў у Трускавец. Але ж слова даў, і не ў маіх правілах яго забіраць назад. З Трускаўца я паслаў у Макееўку неабходныя паперы і напісаў ліст з прозьбай, каб мне далі перавод на радзіму, у Беларусь.

Вярнуўшыся з Трускаўца, здаў справы, атрымаў патрэбныя паперы на перавод у Берасьцейскае БУ № 159, і самалётам паляцеў у Берасьце. Там, 29 траўня 1972 году, мяне прынялі на працу старшым прарабам. У той жа дзень самалётам прывезьлі ў Пінск і адразу даставілі на аб'ект, прадставілі майстрам і рабочым, з начальствам. Так зноў я пачаў працаваць у Беларусі. Жыў у гатэлі, пасьля ў інтэрнаце. У кастрычніку да мяне прыехала з Макееўкі сям'я. Недзе празь месяц, яшчэ да таго, як прыйшоў кантэйнер з нашым майном, я атрымаў ордэр на трохпакаёвую кватэру па вуліцы Цэнтральнай у Пінску. У пачатку 1973 году пераехала з Наваградчыны да нас мая мама Анастасія Рамановіч. У кастрычніку таго ж году яна памерла і пахаваная ў Пінску на старых могілках па вуліцы Спакойнай.

11 траўня 1975 г. пераводам я быў прыняты ў апарат Галоўпалесьсевадбуду старэйшым інжынэрам упраўленьня капітальнага будаўніцтва. Са сьнежня наступнага году пераведзены ў трэст "Пінсксаўгасбуд" кіраўніком яго аддзелу. Будавалі саўгасы і пасёлкі

на асушаных балотах Беларускага Палесься. Узьняцца на больш высокія пасады не дазваляла мая безпартыйнасьць. Праз 10 гадоў, 31 сьнежня 1986 году, я выйшаў на пэнсію па ўзросьце.

Са студзеня 1987 г. я працую старшынёй гаражнага каапэратыву № 4 ў Пінску (пасада выбарная). З 1992 году — сябра Таварыства беларускай мовы. У наступным годзе ўступіў у Беларускую сацыял-дэмакратычную партыю (Народная Грамада). Зьяўляюся сябрам грамадзкага аб’яднаньня “Беларуская асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсіяў”, браў удзел у стварэньні дэмакратычнай вэтэранскай арганізацыі ў Пінску. 29 ліпеня 2000 году — дэлегат Усебеларускага зьезду “За незалежнасьць Беларусі”. 5-6 ліпеня 2001 году быў дэлегатам III Зьезду беларусаў сьвету, на які запрасіла мяне Міжнароднае грамадзкае аб’яднаньне “Згуртаваньне беларусаў сьвету “Бацькаўшчына”.

У 1976 годзе на паўднёвым беразе Прыпяці, у адлегласьці 15 кілямэтраў ад пінскай кватэры, на пяці сотках зямлі сам, адзін, сваімі рукамі пабудаваў прыгожы драўляны летні домік, памерам 4 на 5 мэтраў. Пасадзіў дрэўца, кустарнік, чым, мабыць, і прырос да Пінску. Зямля — няўдобіца, пясчаная. Я каляскай уручную навазіў з балота чарназёму і зямля стала радзіць. Жонка насадзіла кветак.

23 верасьня 1994 году я захварэў. Мяне паклалі ў больніцу, дзе лячыўся аж да лістапада. Казалі, што такія хворыя, як я, не выжываюць. А я выжыў. 49 дзён і начэй змагаўся за жыцьцё. Кожны дзень прыходзіла да мяне мая нявестачка Сьвета. З сяброў найчасьцей наведвала Аліна Калесьнік, падбадзёрвала мяне. Тры разы ў дзень рабілі мне ўколы, часта тры ўколы за адзін раз. Прыняў безьліч таблетак. Паламаў касу сьмерці, выбраўся з магілы, але “пасадзіў” лекамі сэрца. У выніку, у студзені 1995-га атрымаў III групу інваліднасьці пажыцьцёва.

З таго часу я стаў частым наведвальнікам лякарняў — лячыў сваё сэрца. 12 студзеня 2003 году а трэцяй гадзіне раніцы яшчэ раз прыходзіла па мяне сьмерць. На гэты раз брыгада “хуткай дапамогі” пад кіраўніцтвам выдатнага спэцыяліста доктара Аляксандра Пятровіча Альхімовіча хутка і прафэсійна аказала дапамогу. І толькі пераканаўшыся, што вырвалі хворага з кіпцюроў сьмерці, лекары паехалі дапамагаць іншым. Шчырая падзяка ім і Богу. У 8 гадзінаў я ўжо быў на працы. 19 лютага 2003 г. на чарговым справаздачнавыбарным сходзе членаў гаражнага каапэратыву (а іх усяго 1808 чалавек) я быў аднагалосна пераабраны яго старшынёй тэрмінам на 4 гады.

**Эпілёг**

Пакуль пісаліся гэтыя ўспаміны, паміралі мае сябры. 25 сьнежня 2001 году, на каталіцкія Каляды, маю пісаніну перарвала тэлефанаваньне з паведамленьнем пра сьмерць сябра Саюза Вызваленьня Беларусі, паэта Самсона Пярловіча. Памёр ён у Наваградку, там жа і пахаваны. Вечная яму памяць, вечны пакой! Няхай яму дарагая для яго беларуская, наваградзкая зямелька будзе пухам. Памёр Пярловіч 14 сьнежня 2001-га на 79-ым годзе жыцьця. У смутку засталіся яго жонка Валянціна Іванаўна, дачка Наташа, унук Саша, зяць Анатоль. Жонка жыве ў Наваградку, дачка з сям'ёй — у Літве. Выказваю ім свае глыбокія спачуваньні.

Сьмерць Самсона смуткам авеяла маю душу. Не таму, што паміраюць апошнія сябры СВБ, змагары за вольную дэмакратычную Беларусь (у такім узросьце гэта ня дзіва), але таму, што, пасьля доўгіх гадоў пакутаў, паміраюць, так і не дачакаўшыся зьдзяйсьненьня нашых мараў — сапраўды вольнай, вызваленай Беларусі. Так і памром з надзеяй на тое, што маладыя патрыёты Беларусі прадоўжаць нашу справу і ўбачаць Бацькаўшчыну незалежнай, пад яе гістарычнай сымболікай — бел-чырвона-белым сьцягам і гербам Пагоня. Калі над усёй нашай краінай загучыць наш гімн, калі па ўсёй Беларусі загучыць мілагучная, пяшчотная, ласкавая, цудоўная Мова Беларуская, Богам нам дадзеная.

Вясной 2003 году ня стала майго сябры Янкі Жамойціна. Апошнюю ягоную паштоўку з Варшавы, напісаную 17 красавіка 2003 году, я атрымаў 26 красавіка. Вось яе зьмест: *"Дарагі Кастусь! Віншую Цябе з сям'ёю з надыходзячым сьвятам Пасхі — клічам Хрыстос уваскрос! Жадаю памыснасьці, а перш за ўсё добрага здароўя... 17.04.03. Абдымаю Цябе шчыра. Твой Янка Жамойцін"*.

А пятай гадзіне раніцы 27 красавіка я патэлефанаваў у Варшаву, каб павіншаваць Янку з Вялікаднём, каб сказаць яму: "Хрыстос уваскрос!" Слухаўку падняла ягоная жонка Галіна. Я быў ашаломлены, пачуўшы: "Janki niema…" "Jak niema?" — гавару я (з Галінай размаўляю па-польску). Яна паведаміла, што Янка памёр 25 красавіка 2003 году ў машыне па дарозе ў Беларусь, на польскім баку. Ён ехаў у горад Ліда да свайго брата, каб адсьвяткаваць разам Вялікдзень. Думаю, што і да мяне ў Пінск заехаў бы. Моцна ўразіла тое, што калі 26 красавіка 2003 году я чытаў паштоўку Янкі, яго ўжо не было ўжывых. Янка памёр на 82 годзе свайго нялёгкага творчага жыцьця, жыцьця для Беларусі. Вельмі шкада, што Янкі ня стала. Не хапае ў мяне словаў, каб выказаць сваё спачуваньне і боль. Сьмерць Янкі для мяне — гэта цяжкая траўма...

На 40 дзён пасьля сьмерці Янкі Жымойціна, 3 чэрвеня 2003 году, некалькі чалавек выказалі свае спачуваньні праз радыё "Свабода".

Сказаў колькі словаў і я. У газэце "Наша слова" 21 траўня 2003 году, якая друкуецца на радзіме Янкі ў Лідзе, быў зьмешчаны такі артыкул:

**"Памяці Янкі Жамойціна**

Янка Жамойцін нарадзіўся 28 студзеня 1922 году ў вёсцы Клімавічы Лідзкага раёну. Празаік, літаратурны крытык, публіцыст, грамадзкі дзеяч. У 1929 — 1936 гадах вучыўся ў польскай школе ў Скрыбаве і Шчучыне, у 1939 — 1941 гадах — у савецкай дзесяцігодцы ў Лідзе. Закончыў у Жэшуве прафэсіянальны інстытут права і адміністрацыі (1949) і атрымаў дыплём магістра адміністрацыі Варшаўскага ўнівэрсытэту (1970). Жыў і працаваў у Варшаве.

У 1943 годзе кіраўніцтвам Беларускай незалежніцкай партыі быў накіраваны ў Саюз Беларускай Моладзі дзеля пашырэньня ідэі незалежнасьці сярод моладзі. У лістападзе 1945 году арыштаваны ў Польшчы ворганамі МДБ. Вызвалены палякамі. У сьнежні 1949 арыштаваны паўторна і асуджаны ў Менску на 25 гадоў. Вызвалены з ГУЛАГу ў 1956 годзе. У Варшаву вярнуўся ў 1957 годзе.

Дэбютаваў на старонках "Нівы" як літаратурны крытык у 1965 годзе. Апублікаваў у мэмуарным зборніку "Лёс аднаго пакаленьня" (Беласток, 1996) біяграфічную аповесьць "З перажытага".

25 красавіка 2003 году памёр на мяжы Польшчы і Беларусі ў самаходзе, едучы ў Ліду".

Хай яму варшаўская зямля заменіць родную беларускую. Вечная яму памяць!

На гэтым я і заканчваю свае ўспаміны. Сьмерць Янкі Жамойціна прысьпешыла працу над імі. Пісаў найперш для сваёй сям'і, для сваіх нашчадкаў. Але, спадзяюся, яны будуць цікавыя і для шырэйшага кола чытачоў. Тых, для каго словы "воля", "незалежнасьць", "беларускі патрыятызм" — не пусты гук, а сьвятыя словы, якія запальваюць сэрцы змагарным агнём.

2001—2003

ДАДАТАК

**Удзельнікі падпольнай арганізацыі "Саюз Вызваленьня Беларусі" 1946-1947 гг.**

**КАЗАК Генадзь** ("Віктар"), кіраўнік аргкамітэту і аддзела прапаганды СВБ

**ДЗЕМЯНЧУК Пятро** ("Бедны"), кіраўнік вайсковага аддзела СВБ

**КОЖЫЧ Міхась** ("Дубовы"), кіраўнік арганізацыйнага аддзела СВБ

**РАМАНОВІЧ Кастусь** (“Сокал”), скарбнік СВБ
**УСЮКЕВІЧ Аўген** (“Аршын”), кіраўнік сакратарыяту СВБ
**ПЯРЛОВІЧ Самсон**, упаўнаважаны СВБ у Наваградзкім раёне
**ГУБАРЭВІЧ Віталь**, упаўнаважаны СВБ у Дзятлаўскім раёне
**КАПЦІЛОВІЧ Міхась**, упаўнаважаны СВБ у Любчанскім раёне
**ГОРБАЧ**
**ЛАЖКО Я.**
**ЛІШКО Яўген**
**ЛЯПЕШКА Аляксандар**
**МАЗАН Міхась**
**МАКАР Іван**
**РАДЗЕВІЧ Анатоль (альбо Анань)**
**СТОМА Майсей**
**СТОМА Сафрон**
**ЧАБОЦЬКА Адам**

Сьпіс сябраў СВБ складзены М. Кожычам у верасьні 2003 г. Псэўданімы і функцыі кіраўнікоў арганізацыі пададзеныя паводле кнігі Ігара Валахановіча *“Антисоветское подполье на территории Беларуси в 1944 — 1953 гг.”* (Менск, 2002). І. Валахановіч называе таксама сябрам СВБ і яго ўпаўнаважаным прадстаўніком у Баранавічах **Ф. Даўгача**, пра якога ня згадвае М. Кожыч. — “БР”.

*Вячаслаў Сьцяпура*

# ПАДПОЛЬНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ АНТЫСТАЛІНСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ Ў СЛОНІМЕ

З слонімцам Вячаславам Сьцяпурам я пазнаёміўся ў другой палове 1990-х. Ён тады актыўна друкаваў у мясцовых газэтах артыкулы па гісторыі гораду і пра незаслужана забытых землякоў, унікальныя фотаздымкі. Падоўгу размаўлялі. А летам 1998-га ён распавёў мне сваю гісторыю, пра падзеі першых паваенных гадоў у Слоніме. Сьцяпура з групай такіх жа юнакоў стварыў падпольную групу, якая выражляла і распаўсюджвала ў горадзе антысавецкія ўлёткі. Іх шукалі два гады і знайшлі. Ня верылі, што дзеці (ім было па 12 гадоў) дзейнічалі самастойна, правяралі версію пра сувязь з беларускай падпольнай арганізацыяй “Чайка”, разгромленай у 1947-м.



**Вячаслаў Сьцяпура**

Згадваючы пра некалькі месяцаў зьняволеньня, Вячаслаў Фёдаравіч ня мог стрымаць сьлёзаў. Пра тыя пакуты ён напісаў польскамоўныя ўспаміны, якія паказваў (верагодна, яны так і не былі апублікаваныя). У мяне ж захаваўся дыктафонны запіс гутаркі са Сьцяпурам (ад 7 чэрвеня 1998-га), паводле якога і друкуюцца ягоныя ўспаміны.

Тады, у канцы 1990-х, я пісаў пра Вячаслава Сьцяпуру ў “Газеце Слонімскай”.[1] Пра паваенную кансьпірацыю ня згадваў — Вячаслаў Фёдаравіч не хацеў, гаворка ў публікацыі ішла пра яго кар’еру спартсмена і медыка. Адзінае, на што ўдалося атрымаць згоду — зьмясьціць артыкулы пра ўдзельнікаў групы ў даведнік “Антысавецкія рухі ў Беларусі”.[2]

Вячаслаў Сьцяпура памёр 13 студзеня 2012 году на 77-м годзе жыцьця.

Сяргей Ёрш

Я нарадзіўся 29 сакавіка 1935 году ў вёсцы Шылавічы на Слонімшчыне. Бацька мой, Фёдар Сьцяпура, 1900-га года нараджэ-

ньня, паходзіў з Серабрышча пад Моўчадзьдзю.[3] Пры польскай уладзе ён скончыў настаўніцкую сэмінарыю ў Слоніме і працаваў настаўнікам у вёсках Шылавічы, Глоўсевічы. Бацька быў беларус, а маці мая — полька. Яна скончыла курсы пры кляштары ў Слоніме, на якіх рыхтавалі да настаўніцкай працы. Яе бацька, а мой дзед Эдмунд Брэнэк скончыў сельскагаспадарчую акадэмію ў Варшаве, працаваў у каралеўскім замку, пакуль яго не забраў граф Пуслоўскі ў Альбярцін.[4] Дзед займаўся аранжарэяй, паркавай зонай, а бабуля вучыла графскіх дзяцей.




***Вучні першай клясы беларускай школы ў Слоніме са сваім настаўнікам, 1943 г.***

Бацькі ўзялі шлюб у 1935-м. Спачатку жылі ў вёсцы, а ў канцы 1930-х пераехалі ў Слонім. У першую клясу я пайшоў у беларускую школу пры немцах, у 1943 годзе. Тады ўсе школы ў Слоніме былі на беларускай мове. Вучылі нас на беларускай лацінцы. А ў 1944-м, пры савецкай уладзе, фактычна зноў з алфавіта давялося пачынаць, ужо на кірыліцы, зноў у першую клясу пайшоў.

Ініцыятарам стварэньня падпольнай групы быў Януш Дэбкоўскі, паляк. Яго бацька быў капітанам польскага войска, верагодна, загінуў у Катыні. У 1944-м Янушу было 14 гадоў. А мы былі малодшымі. За што зьбіраліся змагацца? І за Беларусь, і за Польшчу. Савецкі рэжым нам не падабаўся. Дэбкоўскі нічога не казаў, ці ёсць старэйшыя, якія таксама змагаюцца... У хляве я хаваў пісталет (парабэлум). А перад арыштам, са страху, выкінуў яго ў канал Агінскага з моста каля лазьні. І добра, што так зрабіў. Бо каб знайшлі, бацьку далі б 5 гадоў турмы.

Мы дзейнічалі з 1946 году: я, Юра Татарэўскі і Зютэк Жамойда (яны былі 1934 году нараджэньня). Распаўсюджвалі ў Слоніме лістоўкі. Пісалі ад рукі на рускай мове. Вечарам зьбярэмся, па-

напісваем: ”*Смерть большевикам! Свободу народу!*”. Рабілі па 5-10 лістовак і пасьля па горадзе іх хлебам наклейвалі. Сьвятла ў горадзе не было, гэта нам спрыяла. Раніцай ужо па горадзе гэтыя лістоўкі зрывалі... Памятаю, што ў адной лістоўцы мы пісалі: “*Убили Анну Король — поубивают всех*”.[5] У нас пасьля яе забойства гэтая тэма “выскачыла”. Адзін раз мы пячатку зрабілі — на паперкі ставілі. Там былі толькі дзве літаркі: “ПК” г. зн. “Падпольны камітэт”. Матэрыялы гэтыя дзесьці ў КДБ ляжаць.[6]

Мы ў той час адчувалі, што рабілася: мужыкі стагналі, плакалі. Тады калектывізацыя прайшла. Хадзілі чуткі пра антысавецкіх партызанаў, пра “чорную кошку”, пра “балахоўцаў”, але сувязі мы ня мелі. Прыгадваю, што дзесьці ў 1946 годзе быў замах, як казалі “чорнай кошкі”, на начальніка слонімскага *гэбэ*. Жыў ён на Студэнцкай вуліцы. Раніцай пабеглі туды. Каля дома начальніка на зямлі ляжалі двое забітых мужчын ў целагрэйках.

Знайшлі нас па почырку. Бацька ня ведаў, чым мы займаемся, але аднойчы знайшоў лістоўкі. Прыйшоў і на мяне накрычаў. І дзесьці ў лютым 1948-га мы з гэтай справай “завязалі”. Бацька ведаў, што з пачатку 1948 году кагосьці шукаюць, у школе правяраюць почыркі дзяцей ад 5-й да 10-й клясы. А я тады быў у чацьвёртай клясе. Прыехаў эксперт. Яны разумелі, што гэта вучні лістоўкі пішуць. І знайшлі па почырку Татарэўскага, які вучыўся ў пятай клясе.



***Вячаслаў Сьцяпура (справа), 1948 год***

Першым узялі Юру Татарэўскага. Раніцай 23 красавіка 1948 году каля яго хаты спынілася машына. Вадзіцель у ёй корпаўся, нібыта, яна зламалася. А Юра якраз ішоў у школу. “*Мальчик, помоги подтолкнуть. А ты куда, в школу? Ну иди, подвезём!*” — сказаў вадзіцель. І адразу павезьлі ў МГБ. А ў абед узялі мяне. Хутка Юра “раскалоўся”... Яны прыйшлі за мной падчас уроку. Я ў дзьверы кінуўся, а там стаяў адзін, ён мяне схапіў.

Прывезьлі ў МГБ. У іх былі мае лістоўкі і лістоўкі, якія пісаў Юра. Ён здаўся адразу, а я кажу: “Я ня ведаю нічога, адчапіцеся”. А яны з сумкі сшыткі ўзялі, зьверылі почырк. “Ну, я...”, — кажу. “*А кто вас*

*учил?”*, — пытаюцца.

Там ставілася пытаньне: або я, або ён. Асноўным я быў, Юрка мяне выдаў. Януша Дэбкоўскага ўжо не было, на той час ён ужо загінуў. Гэта трагічная гісторыя. Мяне тады Бог уратаваў. Гэта было ў пачатку жніўня 1944-га. Каля моста праз Шчару каля касьцёла сьв. Андрэя было пакінута шмат снарадаў. І мы з хлопцамі хадзілі з іх порах даставаць. Аднойчы я выпадкова не пайшоў. Прыгнаў карову з пашы ў 11 гадзінаў і хацеў бегчы да хлопцаў, а маці не пусьціла, сказала, каб накапаў бульбы. Пайшоў я на наша поле каля цяперашняга маслазаводу, раптам чую: выбух. Пасьля даведаўся, што з Дэбкоўскім былі яшчэ тры хлопцы. Усе яны падарваліся і загінулі...



***Афіцэр польскага войска Дэбкоўскі са сваім дзецьмі. Справа верагодна маленькі Януш. Фота 1930-х гадоў***

Зютэк, які з намі сябраваў, усё ведаў, у яго таксама наган быў. Але ён зьехаў са Слоніма, паехаў дзесьці ў Мінск, у нейкую вучэльню. І мы разыйшліся. Пасьля ён жыў дзесьці ў Расіі.

Калі б мне было 13 ці 14 гадоў, давялося б адказваць, была б “дзясятка”. А так я быў замалы. Тым больш, апошнія лістоўкі з’явіліся да 20 лютага 1948 году, калі мне было яшчэ 12 гадоў. І ўсё ж я прайшоў праз “савецкае гестапа”...

Яны мяне чатыры месяцы трымалі, патрабавалі, каб сказаў, хто навучыў (“*Кто учил? Кто учил?!*”). Паставяць на цэлую ноч стаяць — стаіш. Але ногі падкошваюцца... І білі, і плявалі, і маці прыводзілі...

Адчуваў — ня вытрымаць. Пачаў выдумляць легенды. Выдумаў іх аж тры. Легенду якую скажу, яны правяраюць, прыходзяць да высновы, што маню і зноў за мяне бяруцца. Спачатку я гаварыў, што мяне нейкі дзядзька з Сурынкі[7] вучыў. “*Знаеш его?*”, — пытаюцца. “*Знаю*”, — кажу. “*Поехали*!”. Прыехалі ў вёску, а дзе я яго там знайду, калі яго не было?!

Я гаварыў, што мы ў серады сустракаліся на дамбе канала Агінскага ў Слоніме. У бліжэйшую сераду яны наставілі міліцыянераў ад аднаго маста да другога. Я хаджу, чакаю, каго — ня ведаю. Ну

а што я мог прыдумаць?

Вось тады на дамбе я хацеў зьбегчы. Кінуўся ў ваду, на другі бераг пераплыў, а там мяне схапілі.

Мне хацелі прыпісаць удзел у арганізацыі "Чайка".[8] Думалі, што гэта цягнецца і сюды. Але ў нас асобна было. Пыталіся пра Салаўя[9], аднаго з кіраўнікоў. Яго мой бацька ў школе вучыў... Валодзю я ў вочы ня бачыў. Пасьля яны яго злавілі, дапытвалі і ён звар'яцеў. Гэта мне брат Салаўя пазьней расказваў... Мяне вазілі ў нейкую вёску, два дні там чакалі, паказвалі чалавека: "*Ты этого дядьку знаеш?*". Я кажу: "*Не знаю*".

На ксяндза Драгеля[10] прымушалі паказаць. Але як я мог на ксяндза паказаць?!

Быў у слонімскім МГБ такі падпалкоўнік Локцеў. Усё "псыхічныя атакі" праводзіў. Адзін раз фотаздымкі на стол кінуў, дзе мёртвыя людзі былі... Крычаў з нагайкай у руках: "*Я тебя замолочу!... У меня за три дня сознавались, а ты четыре месяца мозги компосируеш!*". Пляваў...

У чарговы раз Локцеў прыйшоў, правёў "псыхалягічную атаку". Пісталет перазаражае на маіх вачах. "*Ты пытался убегать! На х… расстреляю сейчас и всё! Падла ты!*", — крычаў ён. Я тады падняў лямант. Там насупраць татарын жыў. Дык я думаў, што хоць хто пачуе, што тут робіцца... Крычу... Гэта быў як рэфлекс самаабароны.

Мяне схапілі за рукі, за ногі, пацягнулі з будынка на падворак. Там, на першым паверсе былі два пакойчыкі. У адзін зь іх мяне кінулі. Гляджу, а там нябожчык ляжыць... І яны яшчэ сьвятло выключылі. Так я і сядзеў з нябожчыкам. Гэта доўжылася паўгадзіны, а можа і гадзінудзьве.

Вось такая псыхалягічная атака... Гэта быў фініш. Мяне яшчэ патрымалі ў МГБ і а 4-й гадзіне раніцы адпусьцілі дахаты. Маці сустрэла. "Сынок, — кажа, — у цябе ўсе валасы сівыя"...

Юру Татарэўскага хутчэй вызвалілі, бо ён мяне выдаў. Пасьля ён скончыў вайсковую вучэльню, служыў у савецкім



***Помнік Сталіну ў цэнтры Слоніма, 1953 г.***

войску, даслужыўся да капітана. Яго ўжо няма, памёр.

Пасьля мне яны спрабавалі сапсаваць жыцьцё, не давалі школу скончыць. Памятаю, як не напішу сачыненьне, усё дрэнна і дрэнна. Быў у школе выдатнік Дубаў, які вучыўся ў 10-й клясе (а я быў тады ў 9-й). Узяў я ў яго сачыненьне (ён яго год таму пісаў), перапісаў, без ніводнай памылкі. І яшчэ ў канцы на старонку напісаў рэзюмэ і там адну коску прапусьціў. Настаўніца рускай мовы Казлова піша: “*Тема совершенно не раскрыта*”. Адзнака — “два”!

Я быў хлопец спартыўны, камунікабельны, карыстаўся павагай у школе. Бяру гэтыя два сачыненьні (сваё і Дубава), перад усёй клясай паказваю настаўніцы: “Чаму тут “чатыры” пры адной граматычнай памылцы, а ў мяне “два”? Вось пачытайце, я ўсё перапісаў!”.

На наступны дзень былі дзьве гадзіны рускай мовы і літаратуры. Настаўніца Казлова не прыйшла. Прыходзіць сакратар камітэта камсамолу, кажа: “*Пока Степура не уйдет из класса, учительница в класс не придет*”. Тут мяне выклікаў дырэктар школы Букаты. Я кажу: “Што вы ад мяне хочаце? Вось два сачыненьні. На адным Казлова напісала “чатыры”, на другім — “два” (адна коска прапушчаная)! “Ну ты ведаеш, у мінулым годзе было адно патрабаваньне, у гэтым — другое”, — кажа Букаты. “Тады я гэтыя сачыненьні ў міністэрства адпраўлю!”, — прыгразіў я. На месца яго паставіў.

За мяне каралі бацьку і маці. Бацьку аднойчы нават затрымлівалі, дапытвалі. Ён працаваў настаўнікам у трэцяй школе, на Замосьці, каля касьцёла сьвятога Андрэя. Яго выгналі з працы, сказалі: “*Ты своих детей не воспитал, а наших хочешь!*”.

[1] Ёрш С. У спорце трэба быць вялікім педантам // Газета Слонімская, 1998, № 25(54), 19-25 чэрвеня.

[2] Антысавецкія рухі ў Беларусі: 1944-1956 / Даведнік. — Менск: Архіў найноўшай гісторыі, 1999, б. 40, 92, 93-94.

[3] Вёска ў цяперашнім Баранавіцкім раёне.

[4] Цяпер у межах г. Слоніма.

[5] Ганна Кароль (1902 — 1947) — дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, старшыня Шылавіцкага сельсавету. У сьнежні 1947-га была параненая стрэлам праз акно, памерла ў бальніцы.

[6] Вячаслаў Сьцяпура называў сваю групу і “Польскім падпольным камітэтам”, казаў, што ў той час адчуваў сябе польскім патрыётам.

[7] Вёска ў Слонімскім раёне.

[8] ”Чайка” — беларуская маладзёжная канспірацыйная арганізацыя з цэнтрам у Слоніме, існавала ў 1946-1947 гг. Большасьць яе ўдзельнікаў былі арыштаваныя летам 1947 году.

[9] Уладзімер Салавей (1925 — 1996) — удзельнік арганізацыі “Чайка”. З 1947-га

знаходзіўся на нелегальным становішчы. Быў арыштаваны ў пачатку 1950-х, у выніку жорсткіх катаваньняў звар'яцеў. Дзясяткі гадоў знаходзіўся ў вар'ятнях. У пачатку 1996 году яго перавялі з Гродна ў Казлоўшчынскую вар'ятню (Дзятлаўскі раён), дзе ён неўзабаве загінуў (у кастрычніку 2003-га там адбыўся пажар, згарэлі ўсе дакумэнты). Пахаваны на могілках у вёсцы Жыровічы Слонімскага раёну.

[10] Генрых Драгель (1889 — ?) — каталіцкі сьвятар, служыў у Слоніме. У 1949 г. быў асуджаны выязной сэсіяй Вярхоўнага суду БССР па арт. 65 і 72 Крымінальнага кодэксу БССР на 10 гадоў папраўча-працоўных лягероў і 5 гадоў паражэньня ў правах.

# ЗЬБЕГЛЫ З САЛАЎКОЎ СЬВЯТАР НА ЧАЛЕ ПАРТЫЗАНСКАГА АДДЗЕЛУ ПАШЫРАЕ ПАНІКУ СЯРОД БАЛЬШАВІЦКІХ КАТАЎ

З памежжа паведамляюць, што бальшавікі шчыльна закрылі мяжу на Маладэчанскім адрэзку, шукаючы чальцоў партызанскага аддзелу былога папа Вішына, які апошнім часам выканаў цэлы шэраг нападаў на савецкія ўстановы ў ваколіцах Заслаўя.





Вішын нядаўна зьбег з высланьня на Салаўках, сабраў каля сябе некалькіх “лішэнцаў” (пазбаўленых правоў — “БР”) ды пастанавіў выклікаць паўстаньне на Беларусі.

Партызаны замардавалі кіраўніка калектыву ў Заслаўі, а калі на месца забойства ехаў высланы спэцыяльна з ГПУ камісар Мальгаеў, Вішын напаў на яго аўтамабіль, забіў ахову, а Мальгаева завёў у лес і там жыўцом спаліў.

Працай партызанаў мусіць быць яшчэ цэлы шэраг іншых расправаў з кіраўнікамі навакольных камунаў, якія таямніча зьнікалі ў хвіліну, калі аддаляліся ад населенага пункта. Праз нейкі час іх зьнявечаныя да непазнавальнасьці целы знаходзілі.

Пошукам аддзела Вішына займаюцца 3 швадроны кавалерыі і савецкія памежнікі.

*Kurjer Nowogródzki (“Наваградзкі кур’ер”), 1931, 19 верасьня, № 2.*

# ДВАЦЦАЦЬ ПЯЦЬ

Два паліцая зацягнулі Антона ў камеру і кінулі на падлогу. Бразнула засаўка ў дзьвярах, зазьвінелі ключы ў замку, і крокі сталі аддаляцца. Ён ляжаў нерухома — балела зьбітае на допыце цела. Раптам справа ад сябе Антон пачуў нейкія гукі. Ён прыўзьняў галаву. У цемры можна было пабачыць постаць чалавека, які спрабаваў падняцца на ногі. Але няўдала. Нарэшце ён вырашыў паўзьці і за пару хвілінаў быў ужо каля Антона.

— Прывітаньне, я — Гальяш, — сказаў незнаёмец.

— Здароў. А я — Антон.

— Білі? — пацікавіўся сукамернік.

— Не, па галоўцы пагладзілі... — Антон паспрабаваў падняцца, але адчуў рэзкі боль і застагнаў.

— Не варушыся нейкі час, пасьля будзе лягчэй, — Гальяш нешта падсунуў яму пад галаву. Аказалася, гэта салома.

— Дзякую... А ты даўно ўжо тут? — пацікавіўся Антон у таварыша па няшчасьці.

— Ужо пяць дзён... Я — партызан, дамагаюцца зьвестак аб атрадзе...

— І я партызан. Паранілі на заданьні, спачатку падлячылі, цяпер вось сюды, у турму перавялі.

— А ты зь якога атраду? — пацікавіўся Гальяш.

Антон маўчаў, нібы не чуючы пытаньня.

— Я з беларускага нацыянальнага атрада імя Васіля Захаркі. Камандзір дружыны.

— Гэта тыя беларускія нацыяналісты, якія з-за чыгункі прыйшлі? — ажывіўся Антон. — Чуў пра вас. Але кажуць, што вы — ворагі савецкай улады, што зь немцамі вы зьнюхаліся.

— Хлусяць! Гэта ўсё прапаганда, каб затуманіць галовы людзям, настроіць супраць нас. А мы ж за Беларусь ваюем, за вольную беларускую дзяржаву.

— А можа такая быць?

— Ну вядома ж! Са сваім кіраўніцтвам, войскам. Ня трэба будзе выконваць загады Масквы ці Варшавы. Самі будзем гаспадарамі на сваёй зямлі. Як было даўней, вельмі даўно... А ты, відаць, з савецкіх партызанаў, але мясцовы, так?

— Мясцовы. Была карная акцыя, спалілі вёску, тыя, што ў лесе схаваліся і ацалелі, пайшлі шукаць партызанаў. Вось і ваяваў зь вясны. А тут папаўся. Ішлі з заданьня, трэба было чыгунку

перайсьці, але нас абстралялі. Параніла ў руку, у галаву, страціў прытомнасць. — Антон дакрануўся рукой да галавы, на якой была павязка. Пасьля допыту яна зноў стала ўся чырвоная ад крыві. — Таварышы, відаць, падумалі, што забіты, пакінулі мяне. А па сьледзе прыйшлі немцы з паліцаямі...

— У мяне была іншая сытуацыя. З двума хлопцамі паехаў сустрэць транспарт са зброяй і боепрыпасамі — нашыя таварышы-беларусы з аднаго гарнізона перадавалі нашаму атраду. Але, відаць, была здрада. На ўмоўленым месцы чакала засада. Міхася адразу застрэлілі. Я рэзануў з аўтамата, прыкрываў, пакуль ня скончыліся набоі, адыход Алеся. Спадзяюся, што ён выжыў і дабраўся да атрада, папярэдзіў...

Яны памаўчалі. Першым загаварыў Антон:

— Слухай, вось у нас сіла: атрады, брыгады, партызанскія зоны, “вялікая зямля” дапамагае. А з вамі хто?

— З намі, братка, увесь беларускі народ. Бо мы за яго шчасьце і волю змагаемся. Ды, на жаль, чужынцы адурманілі шмат людзей: хто немцам служыць, хто бальшавікам, хто польскім панам...

— Дык вы адным атрадам супраць усіх? — усьміхнуўся Антон.

— Цяпер у нас вораг адзін — нямецкія акупанты. А калі вернуцца саветы, будзем ваяваць супраць іх. Бо яны не дадуць незалежнасьці нашай Беларусі, мы самі мусім яе здабыць... І сілы ў нас ёсьць. Ты ня думай, што ў нас адзін атрад. Ёсьць і ў іншых раёнах. Але яшчэ больш людзей чакае сігналу, каб пайсьці ў лясы.

— А ваш гэты Захар...ка... камандзір, ці хто?

— Не. Ведаеш, 25 сакавіка 1918 году ў Менску была абвешчаная дзяржаўная незалежнасьць Беларусі. Быў беларускі ўрад, пачало стварацца беларускае войска. Але моцныя суседзі захапілі нашу Беларускую Народную Рэспубліку, падзялілі яе на



svaboda.org

часткі. Васіль Захарка — гэта апошні прэзыдэнт Беларусі, які гэтай вясной памёр у Чэхіі. Вось у яго памяць мы і назвалі наш атрад...

Бразнулі і адчыніліся дзьверы. У камеру зайшлі два паліцаі, якія ўзялі пад рукі Гальяша і пацягнулі ў калідор, відаць, на чарговы допыт. Антон ляжаў на падлозе і думаў пра тое, што яму расказаў сукамернік. 25 сакавіка... беларуская рэспубліка... прэзыдэнт Захарка... Камісар нічога такога не расказваў. Казаў проста: зьявіўся атрад беларускіх буржуазных нацыяналістаў, якія не падначальваюцца савецкаму кіраўніцтву, маюць сувязь зь немцамі. Ворагі, адным словам.

***

На гэты раз Гальяша ўжо ня білі. Сьледчы зачытаў паказаньні арыштаваных паліцыянтаў, якія трымалі сувязь і дапамагалі атраду імя Васіля Захаркі. Сказаў, што гэтага дастаткова, каб яго расстраляць. “Таму Пракапчук падумай у камеры. Калі захочаш дапамагчы, каб твая банда выйшла зь лесу і склала зброю, ты будзеш жыць. Калі не, твае дні палічаныя”, — лысы сьледчы махнуў рукой і паліцыянты павалаклі яго назад. У нейкі момант партызан пачуў шэпт: “Трымайся, Гальяш”. Галюцынацыі, ці што?

Яны з Антонам ужо адчувалі сябе лепш. Сядзелі на падлозе, размаўлялі. Гальяш расказваў пра адну аперацыю, якую яго атрад правёў вясной у суседнім раёне. Яго дружына пераапранулася ў нямецкую форму і выставіла “кантрольны пункт” на адной дарозе, правяралі дакумэнты. Адзін партызан выдатна гаварыў па-нямецку, дык у нямецкіх вайскоўцаў падазрэньняў не ўзьнікала. Нарэшце дачакаліся грузавіка, спадзяваліся, што там будзе нейкі цікавы для іх груз. А аказалася, што везьлі ў раён двух палонных савецкіх партызанаў. Немцаў-ахоўнікаў яны абяззброілі, на машыне ад’ехалі ў лес. Дык тыя партызаны, маладыя хлопцы, так і засталіся ў іх атрадзе. Сказалі, што спадабалася, што “з беларусамі лепш, чым з акружэнцамі-васточнікамі”.

Але Антон не здаваўся, адчуваў, што таварыш па няшчасьці яго спрабуе “распрапагандаваць”, перацягнуць на свой бок.

— А мы неяк гарнізон разграмілі ў мястэчку. Некалькі атрадаў з розных бакоў напалі, паўзрывалі гранатамі бліндажы, захапілі кашары, управу. Зброі столькі было, што ледзь вывезьлі. Я тады нямецкі аўтамат займеў...

— Пачакай, гэта ж у Сакалове было? Дык гэта вы павесілі настаўніка, расстралялі бацюшку з сям’ёй ды яшчэ з дзясятак

людзей? — ажывіўся Гальяш.

Антон памаўчаў, а пасьля выціснуў з сябе: — Камандзіры нашы загадалі... Сказалі, што здраднікі, ворагі, нямецкія паслугачы... Але я не страляў і ня вешаў...

— Бачыш, братка, не шкадуюць людзей твае камісары, камандзіры-васточнікі. А мы супраць праліцьця братняй крыві. Беларус не павінен страляць у беларуса, бо інакш гэта будзе грамадзянская вайна. А нам яна не патрэбная, нам трэба зямлю нашу ў чужынцаў адваяваць...

Раптам яны пачулі ціхія крокі. Нехта падыйшоў да дзьвярэй і стаў асьцярожна, каб не нарабіць лішняга шуму, іх адчыняць. У камеру зайшоў чалавек у форме паліцыянта. “Я за табой, Гальяш!”, — сказаў ён.

***

Незнаёмец патлумачыў, што зь ліку паліцыянтаў-падпольшчыкаў толькі ён застаўся на волі. Сябры яго ня выдалі. І іх ужо няма — павесілі немцы, шэсьць чалавек павесілі. Так што ён апошні. Сям’ю сваю гэты паліцыянт адаслаў у суседні раён, дык цяпер мае “вольную руку”. Прыйшоў, каб вызваліць Гальяша і разам зь ім ісьці ў лес, у атрад імя Васіля Захаркі.

— Як ты, ісьці зможаш? — спытаўся ён у Гальяша Пракапчука.

— Змагу, а калі трэба будзе і пабягу! — адказаў той. — Толькі я бяз гэтага сябра не пайду...

— Дык гэта ж бальшавік, на чорта ён табе!? — зьдзівіўся паліцыянт.

— Ён наш, беларус, і мы яго тут не пакінем! — упэўнена сказаў Гальяш.

— Ну што ж, справа твая. Трэба сьпяшацца. Толькі на выхадзе будзе варта, але толькі адзін жаўнер, саўладаем зь ім, як небудзь. Хадземце!

Яны ішлі за незнаёмцам па калідоры, пасьля падняліся па прыступках. Тут ён затрымаўся і даў знак ім, каб ня рухаліся. А сам пайшоў у бок выхаду. Праз колькі імгненняў яны пачулі глухі ўдар, ціхі стогн і гук падаючага на падлогу цела. Неўзабаве вярнуўся паліцыянт: Усё, дарога вольная! — сказаў ён, усьміхаючыся і выціраючы рукавом уніформы пот з твару.

Яны высьлізнулі з будынка і пайшлі кудысьці ў ноч. Хлопцы даверыліся паліцыянту-падпольшчыку. Ішлі за ім сьлед у сьлед. Тым часам трывога не пакідала аж пакуль ня выйшлі з мястэчка.

Далей ужо было спакайней. Прабіраліся нейкімі сьцежкамі, полем, пакуль не дайшлі да адзінокага хутара. Там спыніліся на кароткі час — іх выратавальнік раней пакідаў у знаёмага селяніна каня з возам, і цяпер яны працягвалі свой далейшы шлях “з камфортам”. Гэта было вельмі дарэчы, бо былыя вязьні ўжо змучыліся. Хлопцам далі чыстае адзеньне, каб старое, акрываўленае, не выдавала, хто яны насамрэч. А паліцыянт скінуў нарэшце ўніформу — у лясах можна атрымаць партызанскую кулю, бо ніхто ня будзе разьбірацца, хто ты ёсьць.

На золку яны скіраваліся ў бок Цёмнага лесу. Прахалода дапамагала змагацца са сном. Але ўсё ж хлопцы здаліся — пазасыналі.

***

Антон Пятрашка сьніў дзіўны сон. Ён вярнуўся ў родную вёску, ішоў па вуліцы. Вітаўся з людзьмі. А тыя адварочваліся ад яго, хавалі вочы. Што гэта зь імі? — дзівіўся хлопец. Пасьля ён зразумеў, што людзі ж усе незнаёмыя, чужыя. Чаму ж яны пазаймалі нашыя хаты?! — абураны Антон хацеў ужо схапіць нейкага мужчыну, каб “вытрасьці” зь яго адказ на пытаньне, як праз сон пачуў голас іх выратавальніка: Немцы!

Насустрач рухалася калона матацыклістаў. — Гэта ягдкаманда, няма нам сёньня шчасьця, — з адчаем у голасе сказаў ужо былы паліцыянт. Ён пагнаў каня ў другі бок, на палявую дарогу. Дзесьці ў далечыні чарнеў выратавальны лес. Але іх ужо заўважылі, засьвісталі кулі.

— Страляйце! — крыкнуў вазьніца. Гальяш схапіў яго стрэльбу. Пярэднія матацыклы ўжо зварочвалі на палявую дарогу. З каляскі немец паліваў з ручнога кулямёта. Стрэл, яшчэ стрэл. Кіроўца матацыкла раптам адкінуўся на сьпіну і зваліўся на зямлю.

— Ёсьць адзін! — радасна крыкнуў Антон і азірнуўся на былога паліцыянта. А той неяк заціх і паціху асоўваўся назад. З прабітай у двух месцах сьпіны цякла кроў. Ён ужо ня мог гаварыць, толькі хрыпеў.

— Сябра, ты што, не думай паміраць, мы імя нават твайго ня ведаем, — гэта Гальяш азірнуўся перад тым, каб зноў стрэліць у немцаў.

— Ва...сі...ль... — сабраў апошнія сілы і вымавіў сваё імя іх вазьніца. Ён памёр.

— Бывай! — Антон правёў рукой па яго твары — закрыў памерламу вочы. — Гальяш, трэба кідаць каня, бо прыкметная мішэнь.

Зьлева кусты, яны нас прыкрыюць, а там і да лесу дабяжым. Хутчэй!

Яны саскочылі з воза. Антон тузануў каня, каб ён бег далей, і сагнуты рвануў наперад, паказваючы Гальяшу дарогу.

— Я ведаю гэтыя мясьціны. У гэтым лесе некалі стаяў наш атрад, — цяжка дыхаючы сказаў Антон Пятрашка. Ззаду былі чутны стрэлы, равелі матора, вецер даносіў кароткія каманды. Але не было часу глядзець на манэўры нямецкіх жаўнераў. Лес, выратавальны лес быў ужо так блізка!

***

Яны ўпалі на зямлю за першымі ж соснамі. Цяпер можна было азірнуцца. Аказалася, што іх ніхто не перасьледаваў. Немцы толькі стралялі ў іх бок, але не рызыкнулі сунуцца ў лес. Відаць, сілы ў іх былі невялікія, а можа мелі нейкае заданьне ды не хацелі губляць час. Але трэба было бегчы далей, у лес. У спадзяваньні, што там яны натрапяць на партызанаў.

Яны выжылі, яны ўцяклі ад сьмерці. Думкі пра гэта кідалі ў эйфарыю. Яны дыхалі сьвежым паветрам, слухалі сьпевы птушак... Хлопцы дзівіліся, адкуль браліся сілы. Але спыняцца не хацелі, бо страшыла ягдкаманда, антыпартызанскае падразьдзяленьне, якое праліло столькі крыві ў гэтых лясах. А раптам усё ж ідуць па сьледзе?

— Стой, рукі ў гару! — пачуўся грозны голас справа. Гальяш інстынктыўна падымаў у той бок стрэльбу, але Антон пасьпеў перахапіць рулю: — Гэта ж нашы!

Сапраўды, у гушчары стаялі два байцы, на шапках якіх былі чырвоныя лапікі.

— Антон, ты *штолі*? — неяк недаверліва спытаў адзін з лясных байцоў. — А мы цябе ўжо пахавалі. А хто гэта з табой?

***

На наступны дзень адбыўся “суд”. У штабной зямлянцы за сталом сядзелі камандзір, камісар і асабіст. Спачатку яны дапыталі Антона. Зь недаверам выслухалі гісторыю ўцёкаў. Пасьля пачалі распытваць пра нацыяналіста.

— Гальяш ненавідзіць фрыцаў, ён сьмелы, добры партызан. Мог бы ваяваць у нашым атрадзе. А можна і адпусціць яго, да сваіх — гаварыў Антон.

— Гэта не атрымаецца. Яго банду беларускіх нацыяналістаў мы разграмілі, выжыўшых расстралялі. Ён — апошні, — працадзіў

скрозь зубы асабіст Рошчын.

— А ты яго называеш “добрым партызанам”. Глядзі, Антон, ты за савецкую ўладу ці не? — камісар Хлебасолаў стукнуў кулаком па стале.

— Вядома, я за савецкую ўладу змагаюся, таварышы, — зьбянтэжана сказаў Антон. Яму стала страшна. Ён зразумеў, што яго могуць проста зараз адвесьці ў гушчар і “шлёпнуць”.

— Ну вось што, — асабіст падняўся, выцягваючы з кішэні складзеную паперку. — Мы ўжо вынесьлі прысуд гэтаму здрадніку і нямецкаму шпіёну...

— Але ж ён не шпіён... — нясьмела паспрабаваў абараніць Пракапчука Антон.

— Грамадзянін Пятрашка! — гэта грозна рыкнуў камісар. І Антон замаўчаў, апусьціў вочы.

Асабіст, вытрымаўшы паўзу, працягваў: — Імем Саюзу савецкіх сацыялістычных рэспублік... Гальяш Пракапчук, як нямецкі шпіён і беларускі буржуазны нацыяналіст, прыгавораны да расстрэлу.

На некалькі імгненьняў запанавала цішыня, якую перарваў камандзір Іванашка, які дагэтуль сядзеў моўчкі: — Антон, мы ваюем разам другі год. Дакажы, што ты не зьмяніўся, што ты наш таварыш. Выканай прысуд!

Антону здавалася, што зямля захісталася пад нагамі. Ён хрыпла вымавіў “Ёсьць!” і пайшоў з зямлянкі. Зачыніўшы дзьверы, Антон прыхіліўся да іх сьпіною. Грудзі разрываліся ад нясьцерпнага болю. Хацелася завыць... Але ў гэты момант яго штурханулі. Гэта адчыніў дзьверы асабіст. Ён моўчкі падаў Антону вінтоўку і пайшоў да суседняй зямлянкі, у якой трымалі пад вартай Гальяша. Яго чакаў допыт і абвяшчэньне прысуду. А пасьля, пасьля будзе расстрэл.

***

Гальяш нясьпешна капаў сабе магілу. А калі закончыў, папрасіў закурыць, апошні раз... Яму далі. Ён зацягнуўся, глыбока ўдыхаючы дым, і глядзеў на хмарнае неба.

— Не перажывай, братка. Можа я і праўда ў чым вінаваты. Не люблю ж савецкую ўладу і гэтага крывасмока Сталіна, — гаварыў Антону Гальяш. Але заціх. Гэта яго ўдарыў нагой у жывот асабіст Рошчын. “Канчай яго!” — крыкнуў ён Пятрашку.

Антон моцна сьціснуў у руках стрэльбу. Але не страляў.

— Страляй..., — гэта ўжо прыхрыпеў Пракапчук. — Дваццаць пяць...

У гэтае імгненьне Рошчын падскочыў і спрытным рухам дапамог

Антону спусьціць курок. Куля патрапіла ў грудзі Гальяшу і адкінула яго назад. Ён згубіў раўнавагу і на нейкае імгненьне завіс паміж зямлёй і небам... А пасьля паляцеў уніз.

Асабіст падышоў да магілы і стрэліў у яе некалькі разоў з рэвальвэра. “Вось так, а ты баяўся. Ворага забіваць ня страшна!”, — сказаў ён і пайшоў у лягер. За ім пайшлі і яго памочнікі. Антон застаўся адзін. Ён апусьціўся на калені і заплакаў.

— Даруй, братка. Даруй!.. Гэта не мая рука адабрала тваё жыцьцё...

Тым часам хмары пачарнелі, зь неба паліў халодны, моцны дождж. Вада змыла з твару сьлёзы. У гэтую хвіліну Антон думаў адабраць сваё жыцьцё. Здавалася, што яно ўжо згубіла ўсялякі сэнс. Дык няхай і яго закапаюць пад гэтай сасной. Бо як перажыць згрызоты сумленьня?! Як жыць і памятаць пра забойства сябра?

“Дваццаць пяць”, — раптам успомніў Антон апошнія словы Гальяша. Прашаптаў іх, як запавет. Бо іх сэнс яму быў добра зразумелы. Значыць, трэба жыць. Трэба змагацца.

— Я не забуду твае словы, абяцаю!..

***

У жніўні 1944 году ў горадзе Н. адбылося надзвычайнае здарэньне. Група былых савецкіх партызанаў, якія лічыліся байцамі зьнішчальнага батальёну (“істрабкі”), і служылі ў міліцыі, раптоўна ўчыніла бунт. Яны раззброілі турэмную ахову, вызвалілі арыштаваных сялянаў і са зброяй сышлі ў лес. Камандаваў імі Антон Пятрашка.

На лясной паляне ён пашыхтаваў свой невялікі партызанскі атрад — разам зь ім 25 чалавек. Трэба было выступіць з прамовай. Ён глядзеў ім у вочы і гаварыў, гаварыў... Тое, што набалела за апошнія гады, цяпер вылівалася з яго сэрца.

— Мы змагаліся супраць акупанта, які паліў нашыя вёскі і забіваў людзей. Змагаліся за новае, свабоднае жыцьцё у нашай Беларусі. А атрымалі зьдзекі і арышты ад НКВД... Гэта не наша ўлада. Мы будзем змагацца за Беларусь, за Беларускую Народную Рэспубліку. За нашу, беларускую ўладу. Каб быць гаспадарамі на сваёй зямлі, а не цярпець панаваньне чужынцаў... У мяне быў сябар... Ён расказваў мяне, што аднойчы беларусы абʼявілі незалежнасьць, здарылася гэта 25 сакавіка 1918 году. Праўда, акупанты былі мацнейшыя і захапілі нашу Радзіму. Але ад таго часу гэты дзень стаў сьвятам для кожнага беларуса, сьвятым днём. Я хачу, каб і для нас, сябры мае, ён быў такім. Бо пакуль нашыя рукі тры-

маюць зброю, пакуль у грудзях б’юцца нашыя сэрцы, мы будзем змагацца за гэтыя ідэалы, за вольную Бацькаўшчыну.

Далей ён расказаў ім пра 25 сакавіка, пра Васіля Захарку, пра атрад, які загінуў у 1943 годзе, успомніў пра Гальяша Пракапчука.

...Атрад Антона Пятрашкі партызаніў супраць саветаў амаль тры гады. Было шмат баёў і дробных сутычак, у якіх палягло нямала людзей. Летам 1947-га чэкісты і вайскоўцы МВД акружылі апошнюю групу атрада на хутары. Яны адбіваліся некалькі гадзінаў, спадзяючыся дацягнуць да вечара, каб у цемры паспрабаваць вырвацца з аблогі. Але “бандаловы” падпалілі будынкі. Страляніна сьціхла. Чэкісты чакалі, што будуць рабіць акружаныя “лясныя браты”. Раптоўна над гумном зьявіўся бел-чырвона-белы сьцяг. Скрозь дым было відаць, што яго трымае ў руках малады мужчына. Ён пасьпеў крыкнуць: “Жыве Беларусь! Жыве 25...”, як чарга з ручнога кулямёта рэзанула па ім. Пятрашка ў свае апошнія імгненьні глядзеў у бок лесу. Дзесьці там ужо павінны быць хлопцы, якія высьлізнулі з двух колаў акружэньня праз падземны ход (а ён з двума сябрамі прыкрываў іх адыход). Значыць, атрад адродзіцца і будзе далей змагацца за Беларусь. Працягне тую справу, якую працягнуў ён, ахвяраваўшы сваім жыцьцём, спрабуючы знайсьці даравальне за той страх і стрэл, які абарваў жыцьцё сябра.

**Ігар Арыніч**

# ДЗІКІ МЁД

У вайну ў партызанскі год
пад крысом шыняля армейскага
бацька зь лесу прынёс дзікі мёд,
ледзь уцёк ад мядзьведзя расейскага.

З таго часу, як лесам іду,
дык пільнуюся вока зладзейскага,
скурай чую бяду, як ваду,
за сьпіною — мядзьведзя расейскага.

Дасюль пахне яму дзікі мёд.
Годзь гарэшнікі нашыя лушчыць!
Адкапаю пайду кулямёт,
Каб хадзіць сьмела ў бацькавай пушчы.

**Анатоль Сыс**

# ПЕСЬНІ БЕЛАРУСКІХ ПАРТЫЗАНАЎ

Змаганьне беларусаў за дзяржаўную незалежнасьць у XX стагодзьдзі пакінула шмат самых разнастайных памятак. Нямала іх дагэтуль схавана ў архіўных сховішчах (гэта сьцягі, эмблемы, уніформа, друкаваныя выданьні, аўдыёзапісы, кінахроніка). У дадзеным выпадку нас цікавіць літаратурная творчасьць, а менавіта — песьні Супраціўленьня. Ведаем іх нямала, былі нават спробы іх збору (і ня толькі намі), аднак праца гэтая не была скончаная.* Некаторыя з гэтых песень сапраўды нарадзіліся сярод удзельнікаў збройнага змаганьня, у беларускіх лясах і пушчах. Іншыя ёсьць творамі літаратараў і не заўсёды выкарыстоўваліся партызанамі. З гэтага нумару мы пачнем зьмяшчаць у “БР” песьні беларускіх партызанаў, якія зьбіраем па розных старых перыядычных выданьнях, кнігах, рукапісах.

**У “Беларускім Рэзыстансе” (2006, № 1(3), б. 101-102) друкаваўся “Партызанскі марш” (сяброў БНП)” з архіву Дзьмітрыя Касмовіча.*

С. К — а



**Песьня**

Гэй, уперад, Партызаны,
Шчыльнымі ладамі!
Дружна ў ногу на змаганьне
З польскімі панамі!
        Раз-два, уперад, Партызаны!
Серп і косу мы аберням
На заўзятых ляхаў:
Бэльвэдэр іх пераверням,
Скінем “ожэл-бляху”!
        Раз-два, уперад, Партызаны!
Пан Пілсудскі чэша вуха.
Корчыцца ад страху:
Мы падпусьцім яму “муху” —
З усяго размаху!
        Раз-два, уперад, Партызаны!
Рэфэрэнтаў трасца душыць,

І “канаркі” млеюць:
Партызан брывёй парушыць —
Ляхі ўсе шалеюць...
        Раз-два, уперад, Партызаны!
Гэть за Буг, паны-магнаты!
Гэть за Нарэў, чэрці!
Вынасі свае “пярнаты” —
Уцякай ад сьмерці!..
        Раз-два, уперад, Партызаны!
Сьмела ўперад, Партызаны,
Дружнай грамадою!
Мы адплацім за ўсе раны
Польскаю крывёю!!!
        Раз-два, уперад, Партызаны!

*Беларускі партызан, 1922, № 1. Жнівень.*

*Уладзімер Жылка*

**Гімн беларускіх паўстанцаў**

Час, беларусы, ужо час:
Маці краіна нас кліча.
Ўстанема дружна, ураз —
Сіл нашых вораг ня зьліча.
        Рушыма ў бой,
        Усей грамадой —
        За люд працоўны,
        За волю і роўнасьць!
Грозны надходзіць мамэнт,
Бой пачынаем рашучы:
Скрышым старое ў шчэнт
К волі змагарна ідучы.
        Рушыма ў бой...
У песьнях бязудзерж таім;
Вецяр шмандарамі вее.
Прысягу складаемо ім
Родных не здрадзіць надзеі.
        Рушыма ў бой!..
Бурны нас радуе дзень

Кліч агалошвае полі:
Сонца вітае прамень
Праўды мужыцкай і волі.
Рушыма ў бой!..
Дужая моц грамада
І перамозе зарука.
Больш нас ня чэпіць бяда,
Годзе напасьцяў, прынукаў!
Рушыма ў бой!..
Край абаронім грудзьмі
Ад панаваньня палацаў.
Вольнай, працоўнай сям'і
Ўспор красавіціме праца!
Рушыма ў бой,
    Усей грамадой —
    За люд працоўны,
    За волю і роўнасьць!

*Іскры Скарыны (Прага), 1935, № 5. Травень.*

# ЛЯВОН ВОЛЬСКІ: ДАВЯДЗЕЦЦА ПАРТЫЗАНІЦЬ З ІНШАЙ ТЭРЫТОРЫІ, ЯК ВІТУШКА

У кастрычніку 2015-га зьявіўся разьвітальны “партызанскі” альбом гурту “Крамбамбуля” пад назвай “Чырвоны штраль”. Еўрарадыё пацікавілася ў Лявона Вольскага, ці не зьбіраецца ён эміграваць?

“Хто што можа ведаць?! — пацiскае плячыма музыка. — У нас досыць непрадказальная тэрыторыя. Сёньня адно, заўтра — іншае. А раптам анэксія, хто тут будзе заставацца тады? Гэта ж невытрымаць будзе! Хаця, будзе шкада. Тады давядзецца партызаніць з іншай тэрыторыі, як **Вітушка** (сьмяецца). А тут пакінуць нейкія сутарэньні ды падземныя сховы”.

*Лявон Вольскі: Мы папартызанім, а потым выйдзем на плошчу Каліноўскага // Еўрарадыё, 2015, 28 верасьня; http://euroradio.fm/lyavon-volski-my-papartyzanim-potym-vyydzem-na-ploshchu-kalinouskaga-fota*



# БЕЛАРУСКІ ФУТБАЛІСТ: ГЭТА Ж МЫ ЛІТВІНЫ, А НЕ ЦЯПЕРАШНІЯ ЛІТОЎЦЫ

У лістападзе 2015 года футбаліст салігорскага “Шахцёра”, лепшы бамбардзір і нападаючы Беларусі сезону **Мікалай Януш** у інтэрв’ю газеце “*Прессбол*” расказаў, што цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны ды мае ўжо сфармаваны погляд на яе.


by.tribuna.com

“З апошняга [прачытанага] захапіла “Забытая Беларусь” Вадзіма Дзеружынскага... Яна зьмяняе сьвядомасьць. Атрымліваецца, калі капнуць глыбей, то беларусы, рускія і ўкраінцы — зусім не браты. Розныя мы... Ці як уключалі ўсіх у Савецкі Саюз гвалтоўна, нікога не пытаючыся. А пасьля аддавалі наш Беласток Польшчы, Смаленск — Расіі. А Вялікае княства Літоўскае? Гэта ж мы літвіны, а не цяперашнія літоўцы”.

# “ЛЮБІЎ ЗЯМЛЮ — БАЛЬШАВІКІ ЗАБРАЛІ”

Спосаб ушанаваньня продкаў нярэдка суправаджаецца сапраўдным крыкам душы ды праклёнам камуністычнай уладзе. На вясковых могілках у вёсцы Міхневічы на Смаргоншчыне ня так даўно зьявіўся надмагільны помнік-абвінавачаньне бальшавіцкаму рэжыму. Нашчадкі мясцовых жыхароў Паўла і Зінаіды Дудкаў выказалі ўласнае стаўленьне да таго, што давялося перажыць іх бацькам падчас калектывізацыі ды будаўніцтва “сьветлага будучага”.




У вершаваных радках — сутнасьць “народнай улады”: забраць і падзяліць. І засмучэньне ад таго, што дачакацца той самай “сьветлай будучыні” так і не ўдалося:

“...Любіў зямлю — бальшавікі забралі.
Прадбачыў іх канец — не дачакаўся”.

*Карней І. На Смаргоншчыне зьявіўся надмагільны помнік-абвінавачаньне бальшавіцкаму рэжыму // 01.11.2015; http://www.svaboda.org/content/article/27338470.html*

# 50 ГАДОЎ ТАМУ ТРАГІЧНА ЗАГІНУЎ АДАМ ТРЫПУС — БЕЛАРУСКІ АФІЦЭР І НАСТАЎНІК, ДЗЯЯЧ БНР

16 верасьня 1965 году ў Берасьці трагічна загінуў Адам Трыпус. Ён быў знойдзены ранкам з моцнымі крывападцёкамі на галаве на адной з вулачак мікрараёну Граеўка — быў зьбіты невядомымі пры нявысьветленых абставінах. Памёр ва ўзросьце 70 гадоў. Ніякага сьледзтва тады не праводзілася, а сваякоў, якія спрабавалі

дабіцца праўды, па-просту запужалі. У пасьведчаньні аб сьмерці яго “састарылі” на 9 гадоў і прычынай сьмерці пазначылі “гіпэртанічны крыз”... Пахаваны Адам Трыпус на Трышынскіх могілках у Берасьці.



У перыяд змаганьня за Беларусь і яе незалежнасьць Адам Трыпус — былы афіцэр царскай арміі, які некалькі разоў быў паранены на франтах вайны і ўзнагароджаны за мужнасьць, што працаваў настаўнікам у беларускай гімназіі і быў адным з кіраўнікоў беларускага дзіцячага прытулку, — стаў падпольным камандантам Гарадзенскага павету і сябрам Гарадзенскага акруговага штабу антыпольскага партызанскага руху, што быў арганізаваны ўрадам БНР Вацлава Ластоўскага ў Коўне.

Вядома, што 19 кастрычніка 1920 году да яго ў вёсцы Плюскалаўцы Гарадзенскага павету (сёньня — Бераставіцкі сельсавет) завітаў вярбоўшчык Беларускай вайсковай камісіі Плескачэўскі. У 1920-1921 гг. Адам Трыпус жыў у Вільні — быў настаўнікам Віленскага беларускага прытулку.

На пачатку 1921 году Адам Трыпус арыштоўваўся польскімі ўладамі.

Яго прозьвішча ёсьць сярод заснавальнікаў Гарадзенскага аддзяленьня Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны. З 1921 г. ён працаваў настаўнікам Гарадзенскай беларускай гімназіі, а таксама быў адным з кіраўнікоў беларускага прытулку для дзяцей у Горадні. Гісторык Андрэй Чарнякевіч выявіў, што ў 1922 годзе Адам Трыпус жыў у Горадні па адрасе: вул. Падольная, 52.

Адам Трыпус, мабыць, быў дастаткова актыўнай і вядомай асобай у беларускім руху, бо вылучаўся ад Блоку нацыянальных меншасьцяў № 16, у які ўваходзілі беларусы, на выбарах у польскі сойм па акрузе № 5 у Беластоку.

У траўні 1923 году Адам Трыпус (вядомы тады таксама пад прозьвішчам Трыпуза і псеўданімам Каласкоў) быў сярод абвінавачаных на “Працэсе 45-ці” у Беластоку, на якім польскія ўлады

судзілі беларускіх дзеячоў, якія змагаліся за права беларускага народу на ўласную дзяржаўнасьць... Прозьвішча Адама Трыпуса (Трыпуза) згадваецца ў інтэрпэляцыях беларускіх паслоў у польскі сойм сярод прозьвішчаў арыштаваных і зьмешчаных у беластоцкую турму актыўных мясцовых беларусаў. Усе яны абвінавачваліся ва "ўдзеле ў змове, якая мела на мэце адарваньне ад польскай дзяржавы населеных польска-беларускім жыхарствам земляў, з дапамогай узброенага паўстаньня і тэрору, які ажыцьцяўляўся шляхам нападаў, падпалаў, забойстваў, падрываў чыгуначных мастоў і адміністрацыйных будынкаў".

Уласна пасьля гэтага гучнага працэсу польскія ўлады выслалі яго з Горадні ў Берасьце, падалей ад цэнтраў беларускага руху, і далі негалоснае распараджэньне: ня браць на працу. Разам зь ім у Берасьце выслалі яшчэ аднаго гарадзенскага дзеяча БНР і гарадзенскага беларускага настаўніка — Лукаша Дзекуць-Малея, які пазьней (разам з жонкай Серафімай з Кішкаў, таксама гарадзенскай беларускай настаўніцай) спрычыніўся да зьяўленьня першага беларускага перакладу "Новага Запавету і Псальмаў".

З другой паловы 1920-х гг. жыў у Берасьці, працаваў настаўнікам у в. Ратайчыцы. Каб атрымаць працу настаўніка хоць бы і ў вёсцы, недалёка ад Берасьця, польскія ўлады паставілі Адаму Трыпусу ўмову — стаць лаяльным да польскай дзяржавы і прыняць каталіцтва, на што ён урэшце пагадзіўся, ахрысьціўшы дачок у касьцёле, пэўна, маючы ўніяцкія карані (яго жонка заставалася праваслаўнай). Аднак і ў гэтай вясковай школцы ў в. Ратайчыцы ён вучыў дзяцей беларускай і расейскай мовам.

Наогул, на імя Адама Трыпуса я натрапіў зусім выпадкова недзе ў сярэдзіне 1990-х падчас працы ў Дзяржаўным архіве Берасьцейскай вобласьці. Мне трапіўся дакумент ад 18.07.1922 — Raport narodowościowy w sprawie Bialoruskiej, падрыхтаваны для Міністэрства вайсковых спраў, 2-га аддзелу Генэральнага штабу ў Варшаве камандаваньнем акругі III-га корпусу, аддзелам II штабу ў Вільні. Дакумэнт меў шмат старонак і прысьвечаны інфармацыі што да палітычнай сытуацыі на Віленшчыне і аналізу дзейнасьці беларускіх паўстанцкіх арганізацыяў і яе лідараў (найперш — эсэраў-"ластоўшчыкаў", "зялёнадубцаў"), якія імкнуліся стварыць незалежную Беларусь.

Мяне гэты дакумэнт зацікавіў найперш тым, што дзейнасьць беларускіх паўстанцаў, як гэта вынікала з рапарту, распаўсюджвалася ня толькі на Гарадзеншчыну, Віленшчыну і Беласточчыну, але і на Кобрынскі ды Пружанскі павет. Таксама адна з падгрупаў

паўстанцаў ўраду БНР Ластоўскага ў Коўне мела сядзібу ў Берасьці, на чале яе быў "былы літоўскі афіцэр Шпілевіч" (дарэчы, можа хтосьці ведае пра яго?). Я б і не зьвярнуў сваёй увагі на нейкага гарадзенскага дзеяча, каб ня дзіўнае прозьвішча, якое проста засела ў галаве — Адам Трыпус...

Якім жа было маё зьдзіўленьне, калі літаральна праз колькі дзён пасьля знаёмства з гэтым дакумэнтам на пасяджэньні грамадзкага аб'яднаньня "Стары горад", дзе мы зьбіралі ў той час старажылаў Берасьця, яго прэзыдэнт Ірына Лаўроўская, сярод іншых старажылаў прадставіла спадарыню Ірыну Адамаўну Трыпус!.. У мяне, як кажуць, сківіца адвісла ад нечаканасьці.

Я спраўдзіў свае архіўныя запісы пра Адама Трыпуса. Паводле згаданага рапарту ў схеме паўстанцкай арганізацыі Ластоўскага з штабам у Коўна А. Трыпус стаяў на чале Гарадзенскага павету, у якасьці павятовага каманданта. Таксама ён належыў да складу Акруговага штабу ў Горадні. Разам з Трыпусам у складзе Гарадзенскага акруговага штабу пералічаны Павал Якубецкі, Козіч, Парук, Мікалай Матэйчук, яго брат Канстанцін Матэйчук, а таксама асоба з нечытэльным прозьвішчам, накшталт Гораш. Зацікавіла мяне тады і Вера Маслоўская-Матэйчук, дзейнасьць якой была зьвязаная з Белавежскай пушчай і Зах. Палесьсем, названая кіраўнічкай аддзелу прапаганды пры Гарадзенскім штабе. У рапарце сьцьвярджалася, што да арганізацыі ў Горадні належыць некалькі сотняў асобаў, а асобныя аддзелы паўстанцаў мелі ня менш за 50 чалавек. З дакумэнту ведаю, што Адам Трыпус браў удзел у тайнай нарадзе мясцовых кіраўнікоў беларускага руху ў Барыса-Глебскім манастыры ў Горадні 01.03.1922, на якой прысутнічаў вядомы беларускі дзеяч з Вільні Лявон Дубейкоўскі.

Ірына Адамаўна Трыпус была вельмі інтэлігентнай жанчынай, але асабісты лёс яе склаўся даволі трагічна, бо яна многія гады аж да сваёй сьмерці жыла самотна. Сваёй сям'і яна так і не стварыла і дзяцей ня мела, бо ўсе яе жаніхі, як яна казала, загінулі ў ГУЛАГу. Паводле яе словаў, у яе быў ужо нават нарачоны малады чалавек, якога яна вельмі кахала. Недзе ў 1950-ыя гады яго арыштавалі за антысавецкую дзейнасьць і расстралялі...

Сваё жыцьцё дачка кіраўніка беларускіх партызанскіх атрадаў на Гарадзеншчыне Адама Трыпуса пражыла ў Берасьці. Яна нарадзілася ўжо ў Берасьці недзе ў сярэдзіне 1920-х гадоў і, на жаль, нічога ня ведала пра дзейнасьць бацькі на пачатку 1920-х. Была выкладчыцай нямецкай, ангельскай і польскай моваў. Калі я пазнаёміўся зь ёй, яна, хоць і жыла даволі сьціпла, вылучалася

сярод берасьцейцаў і людзей свайго ўзросту выкшталцонымі манерамі, была нейкая ўся несавецкая. А яшчэ да таго ж яна нават кепска гаварыла па-расейску, з нейкім моцным акцэнтам, што для зрусіфікаванага Берасьця было ўжо зусім вялікае дзіва. Будучы ўжо даўно на пенсіі, яна вяла, здаецца ў вучэльні сувязі, нейкі факультатыўны курс польскай мовы. Дык хвалілася мне, што імкнулася праз польскую мову зацікавіць моладзь гісторыяй: распавядала на занятках пра Грунвальд, пра князя Вітаўта і Пагоню.

У сям'і Трыпусаў было яшчэ дзьве дачкі, але адна з іх памерла ў маладосьці, а другая дачка мела імя Ніна. Памерла яшчэ не старой і дзеці яе пасьля сьмерці Ірыны Адамаўны і ўспадкавалі дом Адама Трыпуса.



Жонка Адама Трыпуса таксама цікавая сваім лёсам, была хіба настаўніцай. Яна ёсьць на фота пачаіку 1920-х гг. з дзецьмі з беларускага прытулку ў Вільні побач з Адамам Трыпусам і маладым тады ксяндзом Адамам Станкевічам.

Як казала Ірына Трыпус, да рэвалюцыі яе маці была пэўным чынам зьвязаная з жыцьцём царскай сям'і недзе каля Белавежскай рэзідэнцыі цароў, атрымала дзякуючы царскай сям'і нейкае вельмі добрае выхаваньне (магчыма, як сірата) пры праваслаўным Красностоцкім манастыры. З словаў дачкі Ірыны Адамаўны Трыпус, маці была белашвейкай. Гэты манастыр з-пад Беластоку быў эвакуяваны з пачаткам Першай сусьветнай вайны ў Горадню. Падобна, яна была сярод выхаваўцелек, якія апекавалаіся дзяўчынкамі з прытулку пры манастыры, які пасьля эвакуацыі разьмясьціўся ў Барыса-Глебскім манастыры. Гарадзенскія гісторыкі адзначаюць, што, каб існаваць далей, ён патрабаваў сталай дапамогі, у выніку чаго ў Горадні ствараецца філіял Віленскага беларускага дабра-

чыннага таварыства “Золак”. Адначасова, у сярэдзіне 1916 году з дазволу нямецкіх уладаў у будынку Барыса-Глебскага манастыра была адчынена першая ў горадзе беларуская пачатковая школка, а восеньню 1918 году тут знайшла прытулак і першая ў Горадні легальная беларуская арганізацыя — Сувязь культурна-нацыянальнага адраджэньня Беларусі, якая пазьней зьмяніла назву на Гарадзенскі Беларускі нацыянальны камітэт.

Ірына Адамаўна, казала, што і бацька яе мог быць сіратой, бо меў падвойнае прозьвішча Трыпус-Траянаў (я, на жаль, падчас першых сустрэчаў усё, што гаварыла дачка, не запісваў, спадзяваўся на памяць і “на потым” ды на аднаго знаёмага журналіста-краязнаўцу Ю. Р. з дыктафонам, цяпер вось шкадую...). Дачка сьцьвярджала, што бацька быў афіцэрам у “белых”, ваяваў на франтах Першай сусьветнай (здаецца, на Румынскім фронце), меў узнагароды. І яшчэ адно Ірына Адамаўна ведала пэўна, што ў Берасьце, на Палесьсе, падалей ад цэнтраў беларускага руху, бацьку польскія ўлады за штосьці саслалі. За што — ня ведала. Паводле яе словаў, каб атрымаць тут працу, польскія ўлады, нібыта, вымагалі ад бацькі прыняцьця каталіцтва. Не магу сказаць сёньня, ці прыняў ён яго сам, але што дакладна — дачка яго Ірына была каталічкай.

Калі я распавёў ёй пра тое, што знайшоў у архіве зьвесткі пра яе бацьку — адкрылася, паказала мне шматлікія сямейныя фотаздымкі (пасьля яе сьмерці я думаў, што хутчэй за ўсё яны былі страчаны, але як быццам частку зь іх яна пасьпела перадаць у краязнаўчы музей). Затым дастала з свайго схованішча, як вялкую сямейную рэліквію, бацькаву кукарду з “Пагоняй”. Яе лёс цяпер ня ведаю (магчыма, у згаданага журналіста-краязнаўцы Ю. Р., хоць ён адмаўляе, а Ірына Адамаўна, якая ў апошнія гады ўжо блыталася, сьцявярджала, што аддала менавіта яму). Зь яе словаў я тады даведаўся, што Адам Трыпус з гонарам казаў дачцэ, што паходзіў “з радзімы Кастуся Каліноўскага”, але канкрэтнай мясцовасьці яна ня ведала. Сёньня ўдалося ўстанавіць, што паходзіў ён з Вялікай Бераставіцы. Дату нараджэньня Адама Трыпуса сёньня ведаем таксама прыблізна: толькі год — 1895 год, бо на старым крыжы, што стаяў на яго магіле, дачка Ірына напісала толькі тое, што памёр ён ва ўзросьце 70 гадоў (у 1965 годзе). Пра бацьку Ірына Адамаўна казала, што працаваў ён настаўнікам, а дзе дакладна — не магла пэўна сказаць, а што рабіў у Горадні — пра гэта зусім нічога ня ведала. У вайну ён нібы працаваў у школе пад Берасьцем у Ратайчыцах, дзе выкладаў расейскую і беларускую мову.

Пасьля вайны працаваў у Берасьцейскім раённым аддзеле адукацыі і ў педагагічным інстытуце. Калі быў на пенсіі, паводле словаў дачкі Ірыны, Адам Трыпус працаваў у аранжарэі пры педінстытуце, у якую уклаў шмат стараньняў.

Ад удавы пісьменьніка Ўладзіміра Калесьніка Зосі Міхайлаўны ведаю, што яна пра асобу Адама Трыпуса трохі чула, і сам Калесьнік, які выкладаў у педінстытуце, таксама зь ім кантактаваў, ды нават спрабаваў запісаць ад яго ўспаміны пра грамадзкую дзейнасьць на пачатку 1920-х. Але зь нейкіх прычынаў Адам Трыпус адмовіў Уладзіміру Калесьніку. Хіба не давяраў. Або адчуваў, што адліга ўжо скончылася і лепш не гаварыць лішняга.

Адам Трыпус вядомы быў у Горадні і Вільні таксама пад прозьвішчамі і псеўданімамі Трыпуза, Трыпус-Траянаў, Каласкоў. Таму, напэўна, яшчэ ня ўсе таямніцы жыцьця раскрыты. Застаецца загадкай і таямніца яго сьмерці.

Дачка Ірына сказала мне адразу, што бацька быў забіты ў сярэдзіне 1960-х. Дакладную дату і год сьмерці ўжо не змагла прыгадаць, і мне ўжо ўдалося яе спраўдзіць толькі праз знаёмых у архіве ЗАГСу. Спадзяваўся, што даведаюся там нешта яшчэ зь біяграфіі. Але больш інфармацыі ў архіве пра Адама Трыпуса не аказалася, бо ні дата, ні месца яго нараджэньня ў даведцы пра сьмерць не былі пазначаныя.

Адама Трыпуса забілі ноччу на адной з цёмных вулачак на Граеўцы, у прыватным сектары, дзе ён жыў. Галава яго была моцна пабітая, з крывападцёкамі. Паводле словаў дачкі, усе былі перакананыя, што штосьці з гэтым забойствам ня так проста. Яна сьцьвярджала, што пахаваць бацьку ім давялося вельмі хутка, без усялякіх сьледчых дзеяньняў, што абурыла блізкіх, якія спрабавалі шукаць праўды. Але ім жорстка загадалі ня лезьці не ў свае справы, маўчыце, і яны спужаліся. Магчыма, ніякага сьледзтва з прычыны гвалтоўнай сьмерці зусім не было, і таму напісалі ў пасьведчаньні аб сьмерці, што памёр ён “сваёй” сьмерцю, ад “гіпертанічнага крызу”... Што адбывалася ў сярэдзіне 1960-х — сёньня ведаем: шмат каго НКВД-КГБ зьнішчыла фізічна нават за межамі краіны... Калі мы гаварылі з Ірынай Адамаўнай у сярэдзіне 1990-х, яна была пэўная, што бяз “іх” там не абыйшлося...

Ня буду зараз распавядаць пра усе складанасьці далейшых асабістых кантактаў, адно скажу, што магілу бацькі дачка ані мне, ані маім сябрам паказаць так і ня здолела (галоўная прычына — стары ўзрост і яе немачнасьць ужо ў той час). Адно сказала, што бацька Адам Трыпус пахаваны на Трышынскіх могілках у Бе-

расьці і на яго магіле стаіць нейкі крыж (яна сьцьвярджала, што дубовы). Пасьля сьмерці дачкі да магілы А. Трыпуса мяне вывела яшчэ адна цікавая нітачка — праз спадара Георгія Грынкевіча, сваяка Ларысы Геніюш і Ўладзіміра Караткевіча... Выявілася, ён ведаў Трыпуса і маладым нават быў на яго пахаваньні, але могілкі за 40 гадоў моцна зьмяніліся і магілу ён адшукаць разам з намі адразу ня змог, бо мы, да таго ж, шукалі дубовы чатырохканцовы крыж... Яшчэ старая і нямоглая дачка сумнявалася, ці застаўся на ім які надпіс... Дарэчы, сп. Грынкевічу, калі той недзе ў 1950-я ішоў служыць у савецкае войска, Трыпус падараваў кнігу Янкі Купалы. Здаецца, гэта была “Спадчына”, сымбалічнае значэньне якой спадар Георгі, як мне казаў, зразумеў ужо значна пазьней, а тады толькі зьдзівіўся, што кніга-падарунак — па-беларуску.



Урэшце з спадаром Георгіем Грынкевічам зарослую самшытам магілу Адама Трыпуса адшукалі, але не з дубовым крыжам (думалі, што ён мог ужо ўпасьці ды згніць...), а зь невялікім металёвым крыжам... з касой (праваслаўнай) перакладзінай ды паржавелай, але яшчэ чытэльнай шыльдачкай (па-расейску): “Трипус Адам Викторович. Прожил 70 лет. Мир праху твоему”.

Калі ўстанаўлівалі новы помнік на магіле Адама Трыпуса, выявілася, што таксама яго ведала спадарыня Марыя Лукашук, маці дырэктара Беларускай службы Радыё Свабода Аляксандра Лукашука. Зь ім яна трохі перасякалася яшчэ ў часы працы маладой настаўніцай у Чарнаўчыцах, дзе муж быў дырэктарам школы. Паводле яе, Адам Трыпус быў чалавек справядлівы, дапамагаў і заступаўся за людзей. Яна адзначала таксама годнасьць і несавецкасьць дачкі Адама Трыпуса Ірыны, якія, пэўна, перадаліся ёй ад бацькі.

Незадоўга перад асьвячэньнем новага помніка прыадкрылася яшчэ адна невядомая старонка з жыцьця Адама Трыпуса. Я па-

казаў сп. Г. Грынкевічу архіўны фотаздымак, перададзены гарадзенскім гісторыкам А. Чарнякевічам, на якім дзеці з беларускага прытулка ў Вільні з выхавальнікамі. Без ваганьняў ён апазнаў на гэтым фота маладога А. Трыпуса, а ў жанчыне, што поруч, — яго жонку. Поруч яе — вядомы беларускі сьвятар — кс. Адам Станкевіч. Сёньня ведаем, што 1920-1921 гг. Адам Трыпус быў кіраўніком беларускага прытулка для дзяцей у Вільні. А ў сакавіку 1922 году ён быў сярод заснавальнікаў Гарадзенскага аддзяленьня Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны.

Новы помнік Адаму Трыпусу на Трышынскіх могілках у Берасьці быў усталяваны і ўрачыста асьвячаны грэка-каталіцкім сьвятаром у 2008 годзе. Усталяваньне помніка было прымеркаванае да 90-годзьдзя БНР.

Адам Трыпус час сваёй маладосьці аддаў змаганьню за Беларусь, прысьвяціў усё жыцьцё служэньню бліжнім, іх асьвеце, і найперш беспрытульным дзецям, што сталі ахвярамі вайны. Вось жа сёньня абавязак беларускага грамадзтва — клапаціцца, каб памяць пра такіх шчырых беларускіх працаўнікоў ня згінула.

Паводле **jacviah.livejournal.com**, 18 верасьня 2015 г.

# СЬВ. ПАМ. АЛЯКСАНДАР ДОЎБІК

30 сакавіка 2015 году на 95-м годзе жыцьця ў Карэліцкім раёне памёр **Аляксандар Доўбік**, ветэран беларускага вызвольнага руху, вязень савецкага ГУЛАГу. Ён нарадзіўся ў 1921 годзе ў Слуцім павеце. Ветэран Вялікай Айчыннай вайны. Пасля дэмабілізацыі працаваў настаўнікам, пазьней — завучам пачатковай школы ў вёсцы Радунь пад Карэлічамі, калі ў кастрычніку 1958-га быў арыштаваны. За тое, што пісаў ананімныя лісты на імя кіраўнікоў ЗША, Англіі і Індыі ў абароне правоў чалавека ў СССР, быў пакараны 10 гадамі папраўча-працоўнага лягеру. У Дубровенскім лягеры ў Мардовіі пазнаёміўся з беларускім партызанскім камандзірам Іванам Раманчуком. Падтрымліваў зь ім сувязь і пасьля вызваленьня. Пасьля вызваленьня ў 1963 годзе вярнуўся на радзіму, але настаўнікам працаваць яму доўга не далі — спецслужбы працягвалі на яго ціснуць. Доўбік працаваў у калгасе, на сваёй гаспадарцы. У канцы 1991 году, ужо ў незалежнай Беларусі, яго рэабілітавалі. У апошнія гады жыцьця жыў у Жухавіцкім доме-інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў. Напісаў успаміны.


nn.by

# НА МАГІЛЕ МІХАСЯ ЧАРНЯЎСКАГА АДКРЫЛІ ПОМНІК

У вёсцы Круці Мядзельскага раёну напярэдадні другой гадавіны сьмерці вялікага беларускага патрыёта, гісторыка, археолага, пісьменьніка і грамадзкага дзеяча Міхася Чарняўскага (1938 — 2013) быў урачыста адкрыты помнік (аўтар — скульптар Алесь Шатэрнік). На ім — барэльеф Чарняўскага і яго факсімільны надпіс “Беларусь перадусім”.



racyja.com

# ПАРТЫЗАНАЎ АТАМАНА БУЛЬБЫ-БАРАЎЦА ВА ЎКРАІНЕ ПРЫЗНАЛІ ЗМАГАРАМІ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

9 красавіка 2015 году Вярхоўная Рада Ўкраіны прыняла законы “Аб асуджэньні камуністычнага і нацыянал-сацыялістычнага (нацысцкага) таталітарных рэжымаў ва Украіне і забароне прапаганды іх сімволікі”, “Аб доступе да архіваў рэпрэсіўных ворганаў камуністычнага таталітарнага рэжыму 1917-1991 гадоў”, ”Аб увекавечаньні перамогі над нацызмам у Другой сусьветнай вайне 1939-1945 гадоў” і “Аб прававым статусе і памяці змагароў за незалежнасьць Украіны ў ХХ стагодзьдзі”. Яны набылі моц 21 траўня пасьля апублікаваньня.



istpravda.com.ua

Адзначым, што змагарамі за незалежнасьць Украіны прызнаныя ўдзельнікі ворганаў улады, вайсковых

і іншых ваенізаваных фармацыяў Украінскай народнай рэспублікі, Украінскай дзяржавы (Гетманату), Заходня-Ўкраінскай народнай рэспублікі, Усходня-Лемкаўскай і Гуцульскай рэспублік, Карпацкай Украіны, а таксама ўсе палітычныя партыі і грамадзкія арганізацыі, створаныя падчас іх існаваньня. У іх лік таксама патрапілі паўстанцкія і партызанскія атрады, якія змагаліся за незалежнасьць Украіны ў 1917-1930-х гадах, Украінская вайсковая арганізацыя, Народна-вызвольная рэвалюцыйная арганізацыя, Арганізацыя ўкраінскіх нацыяналістаў, Украінская паўстанцкая армія. Украінская народна-рэвалюцыйная армія (бульбаўцы), Украінская галоўная вызвольная рада, Антыбальшавіцкі блёк народаў, Украінская Хельсінская група.

Тыя, хто з гэтых змагароў яшчэ жыве, маюць права на сацыяльныя гарантыі, льготы і іншыя выплаты. Узнагароды, якія гэтыя асобы атрымалі ад арганізацый і фармацый, чальцамі якіх былі, прызнаюцца ўкраінскай дзяржавай. Зьняважлівыя адносіны да змагароў за незалежнасьць Украіны караюцца законам.

Украіна прыняла гэтыя законы толькі праз больш чым два дзесяцігодзьдзі пасьля аднаўленьня незалежнасьці. Для Беларусі гэта — далёкая пэрспэктыва.

# У БЯРОЗАЎСКІМ РАЁНЕ ЗЬНЕСЛІ ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ


racyja.com

У пачатку вясны 2015-га ў вёсцы Спорава Бярозаўскага раёна бізнэсовец з Баранавічаў зьнёс помнік, усталяваны ў гонар партызанскага руху часоў Другой сусьветнай вайны. У гэтых мясьцінах быў сапраўдны партызанскі край. Помнік усталявалі ў гонар савецкіх партызанаў, але і гэта не абараніла яго. Як паведамляе Радыё Рацыя, бізнэсовец узяў у арэнду Спораўскае возера і зьбіраўся будаваць чарговы аб’ект на месцы купленай сядзібы. Помнік яму, нібыта, замінаў.

# ЗАЯВА РАДЫ БНР: У ВЫНІКУ ВАЙНЫ БЕЛАРУСЬ НЕ АТРЫМАЛА СВАБОДЫ

З нагоды 70-х угодкаў заканчэньня Другой сусьветнай вайны Рада Беларускай Народнай Рэспублікі прыняла заяву, у якой нагадала пра страты нашай краіны: у вайну загінула “больш за чвэрць жыхароў Беларусі” (у тым ліку і беларускіх габрэяў). Адзначаецца, што “перамога над нацыянал-сацыялістычнай Нямеччынай, важны ўнёсак у якую зрабілі беларусы, выратавала мільёны людзей ад прамой пагрозы фізычнага вынішчэньня”. Аднак, “у выніку вайны Беларусь не атрымала свабоды, але на амаль 50 гадоў засталася пад савецкай акупацыяй, якая суправаджалася русыфікацыяй і рэпрэсіямі супраць іншадумцаў, у тым ліку супраць прыхільнікаў дзяржаўнага сувэрэнітэту Беларусі”, — гаворыцца ў заяве Рады БНР.

# МАЗЫРСКАЯ ПЕНСІЯНЕРКА ПРЫЙШЛА Ў МІЛІЦЫЮ З ТРАФЕЙНЫМ ПІСТАЛЕТАМ



uvd.gomel.by

У кастрычніку ў Мазырскі РАУС прыйшла 80-гадовая пенсіянерка, якая здала пісталет свайго памерлага мужа. Высьветлілася, што зброя рэдкая — маўзер 1934 году выпуску (калібар 7.65). Верагодна, ім валодаў нейкі нямецкі афіцэр. У 1944 годзе трафейнай зброяй быў узнагароджаны Пётр Лявіцкі (1906 — 1977), першы сакратар Палескага абкаму партыі. Часы тады былі неспакойныя, атрады “лясных братоў” самых розных афарбовак дзейнічалі і на Мазыршчыне, таму пісталет для партыйнага начальніка быў зусім нялішнім. Цяпер жа маўзер апынецца ў адным з музеяў.

# ГРОДЗЕНЦЫ НАВЕДАЛІ РОДНУЮ ВЁСКУ ГАЛОЎНАКАМАНДУЮЧАГА ВОЙСКАМІ БНР

Восеньню 2015 году група гродзенцаў наведала вёску Сухмяні, адкуль паходзіць беларускі дзяяч, галоўнакамандуючы войскамі БНР падчас Слуцкага Збройнага Чыну Андрэй Якубецкі. Сваякоў ягоных яны не знайшлі, не захавалася і хата. Аднак на могілках у суседняй Капцёўцы захаваліся магілы бацькі Якубецкага Паўла (таксама беларускага дзеяча, ён памёр у 1934-м ва ўзросьце 74 гадоў) і малодшага брата Міхала. Хлопцы навялі там парадак. А вось лёс Андрэя Якубецкага пасьля лета 1944 году працягвае заставацца невядомым. Найхутчэй ён стаў ахвярай савецкіх карных ворганаў.



Здымак з Facebook Алеся Кіркевіча.

# У СЕРБІІ РЭАБІЛІТАВАЛІ ГЕНЭРАЛА МІХАЙЛАВІЧА

У траўні 2015-га Вышэйшы суд Сербіі рэабілітаваў Драгалюба “Дража” Міхайлавіча (1893 — 1946), кіраўніка сербскіх партызанаў-манархістаў (рух чотнікаў) падчас Другой сусьветнай вайны і ў першы год пасьля яе заканчэньня. Ён быў арыштаваны ў 1946 г. і расстраляны камуністамі. Варта адзначыць, што менавіта партызаны Міхайлавіча першымі распачалі антынямецкі супраціў у 1941 годзе. Толькі пазьней за зброю ўзяліся і камуністы Ціта. Апошніх падтрымліваў СССР, на іх вырашылі зрабіць стаўку заходнія саюзьнікі. Пасля ўсталяваньня ў 1944-м камуністычнай



улады Міхайлавіч вырашыў заставацца на сваёй зямлі і працягваць супраціўленьне.

## ЗЬНІШЧАНЫЯ КРЫЖЫ Ў "ВІЦЕБСКІХ КУРАПАТАХ"

У верасьні зьніклі пяць крыжоў, усталяваных у 2014 годзе на ўзьлеску каля вёскі Хайсы Віцебскага раёну. Паводле сьведчаньняў мясцовых жыхароў, сталінскія каты там расстрэльвалі людзей. І цяпер у вялікіх ямінах відаць чалавечыя косткі. Як інфармуе Радыё Свабода, прадстаўнікі ўладаў заяўляюць, што эксперты знайшлі там "фрагмэнты нямецкага кіцяля". Крыжы прыбралі, нібыта, прадстаўнікі пашуковага батальёну.

На жаль, сытуацыя ў краіне ўжо больш за 20 гадоў не спрыяе выяўленьню пахаваньняў ахвяраў сталінскага генацыду. Больш за тое, існуе небясьпека фальсіфікацыяў, калі іх могуць выдаваць за пахаваньні ахвяраў нацыстаў.

## ВЫЙШЛА КНІГА ВЕРШАЎ ВІКТАРА СІКОРЫ




Глыбоцкія актывісты на 90-я ўгодкі з дня нараджэньня беларускага патрыёта Віктара Сікоры (1925 — 2008) выдалі кнігу яго вершаў.* У яе ўвайшлі творы розных гадоў, у тым ліку і адзін, напісаны ў бальшавіцкай турме. Адзначым, што Сікора з вясны 1944 году быў сябрам Беларускай незалежніцкай партыі. Вясной-летам 1945 г. у родных мясьцінах Шаркаўшчыне камандаваў беларускім антысавецкім партызанскім атрадам "каліноўшчыкаў". У 1945-1954 гг. быў у савецкім зьняволеньні.

*Сікора В. Шурпатая дарога. — Глыбокае, 2015. 52 б.*

# У ВІЛЬНІ АБНОВЯЦЬ ПОМНІК НА СІМВАЛІЧНАЙ МАГІЛЕ ФРАНЦІШКА АЛЯХНОВІЧА

На віленскіх могілках Росы абновяць помнік Францішку Аляхновічу (1883 — 1944), беларускаму драматургу, публіцысту, дзеячу нацыянальнага антынацысцкага Супраціву. Ён быў забіты тэрарыстам (існуе шмат версій, хто замовіў забойства) 3 сакавіка 1944-га ў сваёй віленскай кватэры. Аляхновіча пахавалі на кальвінісцкім могільніку, які ў савецкія часы зьнішчылі. У 1989-м на Росах адбылося сымбалічнае перапахаваньне. Аднак той помнік быў часовым і яго даўно ўжо трэба было замяніць. Справа зрушылася ў 2015 годзе, калі віленскімі беларусамі пачаўся збор грошай. Адгукнуліся і нашчадкі Францішка Аляхновіча, якія жывуць у Польшчы.

# АДНОЎЛЕНАЕ МАЗАІЧНАЕ ПАНО "ПАРТЫЗАНЫ"




minsknews.by

У Мінску каля станцыі метро "Партызанская" аднавілі манументальнае мазаічнае пано "Партызаны". Яго ўрачыстае адкрыцьцё адбылося ў пачатку кастрычніка 2015 года. Пано было створана ў пачатку 1970-х народным мастаком Беларусі Аляксандрам Кішчанкам. У пачатку 2000-х яно пачало разбурацца. Рэстаўрацыя пачалася толькі ў 2014-м, калі было страчана ўжо каля 50% мазаікі.

# У МАГІЛЁВЕ АДКРЫЛІ ЗНАК У ГОНАР ЗАГІНУЛЫХ СУПРАЦОЎНІКАЎ ДЗЯРЖБЯСЬПЕКІ

У сьнежні 2015 году каля будынка ўпраўленьня КДБ па Магілёўскай вобласьці быў урачыста адкрыты знак “у гонар чэкістаў, якія загінулі за Радзіму” (скульптар — Карней Аляксееў). На ім — барэльефы трох чэкістаў — у форме першых гадоў савецкай улады, часоў Другой сусьветнай вайны і цяперашняга часу. Адзначаецца, што гэта “сымбаль сувязі пакаленьняў”.



БЕЛТА

# МАГІЛА БЕЛАРУСКАГА ПАДПОЛЬШЧЫКА ВАСІЛЯ РАКАШЭВІЧА

У 1963-1964 гадах савецкая дзяржбясьпека разграміла на Берасьцейшчыне падпольную групу “Беларуская рэвалюцыйная партыя”. Яна была створаная каля 1960-га Аляксандрам Грыгор’евым. Ён быў арыштаваны ў верасьні 1963-га і асуджаны ў Берасьці на 7 гадоў зьняволеньня ў красавіку 1964 году. Тады ж на 4 гады зьняволеньня быў асуджаны Васіль Ракашэвіч. Пра яго ўдалося сабраць крыху інфармацыі. Ракашэвіч нарадзіўся 20 траўня 1923 г. у вёсцы Хацяж Ляхавіцкага раёну. Беларус, чалец камуністычнай партыі, рабочы калгасу. На момант арышту, які адбыўся 20 лютага 1964-га, Васіль Ракашэвіч жыў у в. Смалянікі Ляхавіцкага раёну. У групе Грыгор’ева ён быў з 1960 году, калі азнаёміўся са статутам і падпісаў прысягу. Чым займалася група, дакладна невядома. Ёсьць зьвесткі, што Васіль Ракашэвіч спрабаваў абрабаваць вясковую краму, каб здабыць грошы для “Беларускай рэвалюцыйнай партыі”. Ён перахоўваў стрэльбу. Аднак можна меркаваць, што ніякіх збройных акцый не праводзілася. Максімум — агітацыя і прапаганда, падбор у групу надзейных людзей.



Фота Руслана Равякі

Ракашэвіч адбываў тэрміў у Дуброўлагу (як і Грыгор’еў). Яны яшчэ мелі 2 і 3 гады высылкі, якія мусілі адбываць пасьля заканчэньня тэрміну зьняволеньня. Аднак у ліпені 1964 году пленум Вярхоўнага суду БССР перагледзеў прысуд Берасьцейскага абласнога суда, адмяніў высылку і скараціў тэрміны зьняволеньня: у Грыгор’ева засталіся 3 гады, у Ракашэвіча — 2.

Журналіст Руслан Равяка з Баранавічаў змог даведацца, што пасьля савецкага лягеру Васіль Ракашэвіч вярнуўся на радзіму. На могілках вёскі Хацяж ён знайшоў яго магілу. На помніку рускамоўны надпіс:

“Ракашэвіч Васіль Васільевіч
Ж[ыў] 61 г[од].

П[амёр] 28-I-1984 г.
П[амяць] дзяцей”.

Побач з магілай Ракашэвіча — магіла яго маці. Гэта адзіны помнік на могілках з надпісам па-беларуску:

“Рокашэвіч Хрыстіна
прожыла 63 года
умярла 22.10.1949 года
памяць ад сына”.

Равяка даведаўся, што дзяцей у Васіля Ракашэвіча не было. Ён ажаніўся з жанчынай, якая мела сына (цяпер ён жыве ў Баранавічах). Варта згадаць, што аднаваскоўцы Ракашэвіча распавядаюць пра яго арышт у 1964 годзе. Нібыта, чэкісты схапілі яго на могілках каля вёскі Мядзьведзічы “з рацыяй”. Да справы спрабавалі далучыць мясцовага ксяндза, але ня здолелі.




Фота Руслана Равякі

Версію пра “рацыю” трэба правяраць. Бо калі Ракашэвіч і Грыгор’еў былі зьвязаныя з заходнімі спецслужбамі, зьдзіўляюць малыя тэрміны, якія яны атрымалі. Ну і малы тэрмін сьледзтва па справе Ракашэвіча — толькі каля 2 месяцаў.

# У ЧАКАНЬНІ ЛЕПШЫХ ЧАСОЎ

Часопіс “Беларускі Рэзыстанс” быў заснаваны ў 2004 годзе. Меркавалася, што гэта будзе квартальнік. Шкада, але з фінансавых прычынаў у першыя гады ўдавалася выдаваць “БР” толькі як гадавік. У 2009-2012 гадах выходзілі па 2 нумары на год, але ўжо выключна ў электронным варыянце (усе нумары ёсьць на сайце беларускай інтэрнэт-бібліятэкі “Камунікат”). У апошнія гады наш



часопіс зноў пераўтварыўся ў гадавік. Але ён жыве.

Гэтая кніжка ўжо 16-я. “Беларускі Рэзыстанс” ня толькі зьмяшчае дасьледаваньні, паведамленьні, дакумэнты і ўспаміны, але і фіксуе падзеі, публікацыі, якія тым ці іншым чынам датычаць Беларускага Супраціву і яго дзеячоў. Мы зафіксавалі для нашчадкаў непрыгожыя справы з “пачышчаным” архівам Дзьмітрыя Касмовіча, з выданьнем “адцэнзураваных” яго ўспамінаў, са спробай зганьбіць імя сьв. пам. айца Вінцэнта Гадлеўскага на сайце “Нашай нівы” ды шмат іншага. І няхай ня думаюць некаторыя грамадзкія дзеячы ці дасьледчыкі, што іх учынкі забудуцца.

Мы ад самага пачатку трымаемся незалежніцкага накірунку. І нас зусім не зьдзіўляюць нападкі і зьлева, і справа. Тое самае спазналі і нашыя папярэднікі. Бо часы іншыя, а людзі не зьмяняюцца. Некаторыя персанажы на розных нацыянальных пляцоўках вельмі ж нагадваюць асобных дзеячоў з першай паловы

XX стагодзьдзя. Зялёныя паперкі для іх важней за патрыятызм, сумленнасьць, чалавечнасьць. Абылгаць, абліць брудам, стварыць перашкоды — гэта таксама іх мэтады.

Перажывем, вытрымаем, будзем рухацца далей разам з нашымі чытачамі (а іх маем ня толькі ў Беларусі, але і ў замежжы). Будзем працаваць дзеля нашай Бацькаўшчыны, на яе будучыню. У чаканьні лепшых часоў.

